# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

№ 8

1926

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

МЕНСК

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

## № 8

ЮБІЛЕЙНЫ

1922—1926





Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
МЕНСК — 1926





Члены рэдакцыі за ўвесь час існаваньня „Полымя“. Зьверху (зьлева направа) першы рад: **І. Шыпіла, У. Ігнатоўскі, З. Бядуля (Ясакар);** другі рад: **А. Сянькевіч, З. Жылуновіч (Ц. Гартны), Я. Ліманоўскі, М. Зарэцкі;** трэці рад: **В. Нодэль, Я. Марук, М. Чарот, І. Барашка.**

# НАШЫ УГОДКІ

*(Да 5-годзьдзя „Полымя“)*

1922—1926

Раз-у-раз мы адрываемся ад ускладзенае на нас працы і спрабуем праглядзець, што і як удалося нам справіцца з ёю на працягу данага часу. Праробленае намі ня можа нас ня цікавіць. Разам з тым яно дае нам магчымасьць праверыць нашае дасьведчаньне, падвясьці падрахункі.

У вагульнай гармоніі грамадзкай творчасьці кожны процэс працы, кожны выгляд гэтага процэсу адыгрывае ўдзеленае яму месца. Нельга сказаць, тым болей нельга заверыць, які з шэрагу рознастайных процэсаў аднаго комплексу значней другога. Ужо аднаго нараджэньня процэсу гэтага-ж комплексу і адбываньня данага выгляду працы досыць, каб апраўдаць яго патрэбу. Кожная патрэба акрасьляецца бягучаю рэчаіснасьцю, якая ўплывае на склад і творчую думку грамады.

У шэрагу высунутых Кастрычнікаваю Рэволюцыяй заданьняў у галіне беларускай культуры была патрэба стварыць і беларускую часопісь „Полымя“. Гэта заданьне, мажліва, не стаяла ў той час на ўзроўні з іншымі, больш важнымі, аднак вымаганьне яго вырашыць і правясьці ў жыцьцё адзначалася вельмі і вельмі востра.

Гэта адносіцца да восені 1922 году. Стан беларускае культурнае працы, як і наогул стан агульна-дзяржаўнае працы ў Беларускай, тады малюпаткай, Рэспубліцы, толькі што ўваходзіў у роўную каляіну. Вакола зіялі раны польскай навалы ды грамадзянскае вайны. Толькі-толькі выпарваўся парахавы дым. Але насілася здань голаду. Напружаная ўвага беларускіх працоўных гушчаў хадзіла вакол нязьмераных цяжкасьцяй наступнае працы. Ззаду заставалася, пакуль, адна заваёва, далёка яшчэ не падмацаваная грунтоўным дзяржаўна-экономічным і нацыянальна-культурным будаўніцтвам. Шматлікія дабрадзеі савецкае ўлады зласьліва выглядалі кожнае незапоўненае месца, кажучы: „Вось, пабачце працу бальшавікоў. Адна мана—ня болей“. Гутаркі аб чырвоным імпэрыялізьме і нацыянальным прыгнечаньні былі звычайным зьявішчам. З-за рубяжу, дзе неастыўшыя эмігранты песьцілі надзеі на блізкі канец савецкае ўлады, надыходзіла натхненьне да нацыянальнае інтэлігенцыі, неймавернае ў сіле і моцы выхаваўшага яе працаўніка. Яна блудзіла ўпоцемку самаасьляпленьня, мацаючы, аднак, тыя сьцежкі, якія адыходзілі ў бок ад саветаў.

У складзе беларускае інтэлігенцыі таго часу знаходзілася шмат людзей, якія ня мелі ў сябе абранага шляху і хісталіся ў два бакі. Тым часам іх праца на культурнай беларускай ніве была вельмі пажаданай. Момант вымагаў аформленьня савецкага сьветапагляду гэтай часткі інтэлігенцыі і яе арганізацыі вакол таго ці іншага савецкага асяродку. Гісторыя з часопісьсю „Адраджэньне“ падвастрыла настойнасьць для вырашэньня гэтага пытаньня.

І вось адказам на гэта зьявілася наша часопісь „Полымя“, першы № якое вышаў у сьнежні 1922 г. Вакол часопісі на першых часох гуртавалася невялікая колькасьць яе супрацоўнікаў. Таксама чытач яе быў не падлічаны. Было вядома, што шлях „Полымя“ пакуль вузкі і цяжкі. Тым больш упэўнена гэта прадбачылася, што на яго сьцягу стаялі лёзунгі „зьбіраньня і расколу“. Рэдакцыя агалашала ў першым нумары (Полымя № 1, 1922 г. сьнежань, ад рэдакцыі): „Наш журнал ёсьць часопісьсю зьбіраньня й часопісьсю расколу. Мы ворагі яднаньня ў імя яднаньня“. Іначай кажучы, „Полымя“ ўзяло на сябе мэту разьбіць адзіны нацыянальны фронт, лёзунгі якога і захапленьне імі мела ўплыў на частку працоўнае інтэлігенцыі. „Полымя“ мусіла таксама пралажыць мяжу між рознастайнымі катэгорыямі гэтае інтэлігенцыі. І далей „Полымя“ адчыняла змаганьне „супроць усіх незалежнікаў, супроць тых, дзеля каго пытаньне нацыянальнага адраджэньня ёсьць пытаньне дзяржаўнага абасобку, супроць таго, хто лічыць савецкую сыстэму часовым злом, якое трэба перажыць“.

Гэтак азначаліся прынцыпы і ідэёвыя падставы часопісі. Практычным бокам яе чыннасьці было—„аформленьне сьветапагляду беларускіх культурных працаўнікоў, прыцягненьне да беларускага культурнага будаўніцтва найболей сьвядомых і разьвітых элемэнтаў з радоў беларускага пролетарыяту і бяднейшага сялянства“, бо „Полымя“—гэта часопісь барацьбы, першая беларуская марксыцкая часопісь“.

Рэдакцыя, узяўшы на сябе гэткія адказныя абавязкі, яскрава адзначала ўсе труднасьці ў сваёй працы. Аднак гэта яе не палохала. „Мы ведаем,—заяўляла яна:—што мы ўстаімо на правільным шляху, што магчымем выпаўніць тую працу, за якую ўзяліся“.

Тагачасныя абставіны іменна дыктавалі першай рэдакцыі „Полымя“ прыведзеныя словы. Тагачасны стан палітычнага і культурнага жыцьця намагаў выстаўляць лёзунгі, якія зараз-жа выпраўляліся поступам разьвіцьця і ўзмацненьня рэволюцыі. Але былі-б паніклымі тыя, хто-б у сваёй нядбайнасьці пакладаўся на чужую сілу і стараньні. Гэтым шляхам першая рэдакцыя „Полымя“ісьці на магла, дый ня мела на гэта праў.

Адзначаны рэдакцыяй шлях—быў верным шляхам. Пацьвярджэньнем яму была тая популярнасьць „Полымя“, якая выбухнула ўжо з выйсьцем у сьвет першага яго нумару. Гэта выйсьце адзначылася дыскусый-

ным „вечарам „Полымя“, на які сышлося шмат партыйнае і непартыйнае інтэлігенцыі, пасьвяціўшы каля чатырох гадзін разбору новае часопісі.

Чарговыя нумары справодзіліся чарговымі дыскусыйнымі „вечарамі „Полымя“, шумнымі і багатымі па зьместу. Адначасова расла вядомасьць часопісі і вядомасьць яе вечароў. На „вечары „Полымя“ зьбіраліся соткамі інтэлігенцыя, настаўніцтва, вучнёўства, прымаючы ўдзел у абгаворах зьместу часопісі.

Рэцэнзіі аб вечарох разносіліся газэтамі па ўсёй Беларусі, популярызуючы „Полымя“ і заваблівалючы яму соткі падпішчыкаў. Першыя нумары хутка пайшлі ў распаўсюджаньне, пабіваючы лічбу тыражу ўсіх папярэдніх „Полымю“ беларускіх часопісяў.

Ды ня толькі лічбу тыражу,—„Полымя“ перамагала ўжо з першых сваіх нумароў і ўнутраным зьместам і надворным выглядам, усе ранейшыя беларускія часопісі. „Полымя“ з пачатку свайго выйсьця стала першым тоўстым беларускім журналам. Да яго нараджэньня беларускія часопісі мелі выгляд дробных, неўдасканаленых програмна і па зьместу худых часопісяў. Адна „Маладая Беларусь“ прадстаўляла сабою самавітыя кніжкі, але яна ня была часопісьсю, а альманахам.

„Полымя“ засьведчыла сабою момант угрунтаваньня разьвіцьця беларускага друку. Яно таксама сымболізавала ўзмацненьне ўсіх галін беларускага культурнага, політычнага і дзяржаўнага жыцьця. Яго зьявішча ў сьвет сьледавала ў парадку за першым—за зьявішчам у сьвет штодзеннае беларускае газэты „Савецкая Беларусь“. І ня дзіва, што гэта было сьвятам беларускае журналістыкі. І ня дзіва, што перад „Полымем“ адчыніўся шырокі шлях вялікае організацыйнае працы ў галінах беларускае культуры...

Але, калі спрыялі „Полымю“ ўдзячныя мажлівасьці з боку выхаваўчай працы, то з боку свайго ўсталяваньня яшчэ доўга сустракаліся цяжкія перашкоды. Папершае, умовы матэрыяльнага і тэхнічнага характару, падругое, неразгойданасьць літаратурнае чыннасьці рабілі перабоі ў рэгулярным выхадзе „Полымя“. Як-ні-як, а „Полымя“ вымагала і сродкаў, і навыку, і самадысцыпліны. Часопісь—не газэта. Для апошняе к 1922 г. мог сабрацца кадр супрацоўнікаў. Для „Полымя“ іх не хапала. Ды зразумела. Журналістыка—гэта асобная галіна літаратурнае працы, і яна вымагае сабе адпаведных людзей—журналістых. У беларускіх умовах—гэта справа маладая.

Аднак паступова, з часу-на-час, міналіся і гэтыя цяжкасьці. „Полымя“ рабілася багацейшым па зьместу, пэўнейшым у выхадзе. Нарэшце, з 1925 году была дасягнута поўная рэгулярнасьць з гэтага боку: „Полымя“ стала выходзіць васьмю кніжкамі ў год, таўчшынёю кожная, сярэднім, у 12 друкаваных аркушоў. Лік супрацоўнікаў узрос да ўзроўню таго, калі

забясьпечаньне часопісі рознастайным матэрыялам стала звычайным зьявішчам.

Само сабою зразумела, што, поруч з урэгуляваньнем сыстэматычнага выпуску, „Полымя“ стала набываць і свайго сталага чытача. Абвешчаная на 1925 год падпіска паступова і ўпэўнена павялічваецца з кожным месяцам. Расьце разыходжаньне „Полымя“ праз розьнічнае набываньне. Кожная новая кніжка часопісі жджэцца чытачамі з цікавасьцю.

Адначасна нарастаючы беларускі чытач імкнецца зазірнуць і ў ранейшыя нумары „Полымя“. Дзякуючы гэтаму, „Полымя“ ня спыняецца ў разыходзе, як-бы не падлягаючы ў гэтым сэнсе закону ўстарэньня. За 22, 23 і 24 гады часопісь разышлася амаль ня цалкам.

Ды таму ня дзіва. З жыцьцём „Полымя“ зьвязана багатая старонка разьвіцьця беларускае літаратуры, публіцыстыкі і грамадзкае думкі. Яму належыць у значнай меры справа афармленьня глыбокае марксыцкае плыні ў беларускай літаратуры. Вакола „Полымя“ згуртаваліся лепшыя сілы беларускіх літаратараў і публіцыстых. Болей таго, ня знойдзецца зараз ніводнага больш-менш вядомага беларускага пісьменьніка і публіцыстага, які-б не зьмяшчаў сваіх твораў у „Полымі“. Большая частка з іх і зараз ёсьць яго супрацоўнікамі. Нарэшце, „Полымя“ было на працягу мінулых пяці год свайго жыцьця выхавальнікам новых ядынак—працаўнікоў на літаратурнай глебе. На яго старонках вырасьлі гэткія здольныя пісьменьнікі, як Янка Нёманскі, Аркадзь Моркаўка і цэлы шэраг маладых савецкіх публіцыстых.

Удзельная вага „Полымя“ акрэсьліваецца тэю ўвагаю, якую яно набыло з боку шырокае беларускае савецкае грамадзкасьці. Адначасна ведамасьць аб ім дасягла далёка за межы Беларускае Савецкае Рэспублікі.

Усё гэта ня можа ня радаваць нас; усё гэта ня можа не прыдаваць хэнці і стараньняў у наступнай працы. Рэдакцыя цешыцца дасягнутымі посьпехамі свае працы, лічачы, аднак, што яе праца займае толькі адну часьцінку тых стараньняў і тае колектыўнае творчасьці, якую ўдзяліў для „Полымя“ ўвесь склад яго супрацоўнікаў.

Ці могуць здаволіць нас адзначаныя дасягненьні? Ці выпаўніла поўнасьцю „Полымя“ ўзложаныя на яго жыцьцём і росквітам беларускае культуры заданьні? Было-б гэта—было-б далёка ад здавальненьня. Ці-ж можа спыніцца жыцьцё ў сваім разьбегу? Таксама ня могуць вычарпацца заданьні, з якіх кожны дзень паўстае новае, усе больш складнейшае ад папярэдняга.

Наша жаданьне, каб „Полымя“ ў далейшым яшчэ з большаю поўнасьцю і яшчэ з паўнейшым вычарпаньнем адбівала цікавасьць і пераплёт бягучых падзей адпаведнае ўздымнае творчасьці беларускіх працоўных гушчаў. Наша імкненьне, каб „Полымя“ не пакідала ўкладаць сваю цагліну ў будаўніцтва новага жыцьця. Наша мэта, каб „Полымя“ будзіла і,

абудзіўшы, аформляла маладую чынную думку беларускага рабочага і селяніна, накіроўваючы яе на разьвіцьцё і замацаваньне вялікіх плёнаў Кастрычніка.

Пройдзены шлях не канчаецца сёньнешнім днём. Наперадзе заваблыя далі—панства комунізму. Тым, хто йдзе насустрач яму,—павінна асьвятляць дарогу наша „Полымя“.

З гэтым лёзунгам рэдакцыя і супрацоўнікі „Полымя“ ўступаюць у шосты год свае працы.

**Рэдакцыя**

# АДУКАЦЫЯ

## Тарас Гушча

### I

З аўтарамі поэм і раманаў часта здараецца такая рэч: падвядуць яны сваіх гэроінь і гэрояў да таго моманту іх каханьня, калі яны нарэшце абнімуцца, пацалуюцца, паклянуцца ў вечным каханьні, паклянуцца пры сьведках, а сьведкамі найчасьцей бываюць зоры, месяц, а часамі яшчэ і салавей падвернецца, і—роман канчаецца. Сапраўдны-ж роман з гэтага толькі і пачынаецца.

Насьця і Кузьма ўсё гэта прайшлі: сустрэліся, спадабаліся, прызналіся, падмацавалі прызнаньне адпаведнымі дзеямі і прышлі да заключэньня, што адно бяз другога жыць ня могуць. Асталася адно: замацаваць тым ці іншым парадкам сваё сумеснае жыцьцё. Вось толькі пытаньне, як замацаваць яго? Насьця—хутаранка, яе бацькі—людзі старога выхаваньня. Яны нічога ня маюць супроць таго, каб аддаць Насьцю за Кузьму. Кузьма—чалавек сталы, не ветрагон які, любіць навуку і шмат чаго цікавага з навукі расказаць умее. А самае важнае—ён на службе ў горадзе, бярэ шэсьцьдзесят рублёў на месяц, а з яго галавою можна далёка пайсьці. Але павянчацца ім трэба ў царкве, бо чалавек—не канцылярская паперка: № паставіў, падшыў, зарэгістраваў і ўсё тут. Не, аднае рэгістрацыі як-бы трохі малавата. Кузьма-ж вучыцца на рабфаку, і яго ў царкву і на вяроўцы не зацягнеш. Так ён і заявіў. Насьцю-ж ня так цікавіць сама царква, як тая цырымонія, і ёй страх як хацелася паказацца перад людзьмі ў шыкарным белым адзеньні і зазьзяць сваім харaством, бо Насьця была дзяўчына прыгожая. Ну, але яна гатова паступіцца для Кузьмы і цырымоніяй і белым адзеньнем, раз ён ня згодзен і ня можа, як ён кажа, „органічна пераварыць папа і Ісайю лікуй“. Якое дзела Ісайі да яго жаніцьбы? І чаму ён павінен тут лікаваць? І што такое Ісайя? Буржуазны прарок, прадстаўнік рэлігійнага дурману.

Андрэй, Насьцін бацька, ня прымаў пад увагу гэтых рэзонаў і стаяў на сваім.

— Я цябе паважаю, Кузьма, як чалавека вучонага, і люблю паслухаць тваю гутарку, хоць ты гаворыш так разумна, што я ня ўсё разумею. Але-ж і мая Насьця не мяшок продналогу—аддаў і клопат збыў. Тут трэба зрабіць палюдзку і пабожаму.

— Каб вы пазнаёміліся, ну, хоць-бы з самымі элемэнтарнымі асновамі палітграматы, вы зусім іначай глядзелі-б на папоў і на іх шкодную для прыгнечаных профэсію,—заўважыў Кузьма.

— Як-бы я тады глядзеў, каб я твае акуляры надзеў, я ня ведаю, але я не хачу гэтай вашай прысягі на сьвіной шкуры.

Чаму „на сьвіной шкуры", Андрэй не сказаў, як ні дапытваўся Кузьма. Адно толькі было ясна—бяз шлюбу ў цэркві Андрэй ня згодзен аддаць Насьці, і далейшая спрэчка ні да чога не прывядзе.

Разважаючы гэтую перашкоду, Кузьма сказаў Насьці:

— Астаецца адно: умыкнуць цябе.

— Убрыкнуць?—зьдзівілася Насьця.

Кузьма папрофэсарску, зблутана і няясна, растлумачыў ёй слова „умыкаць", а потым зьлёгка пажурыў яе за малую адукацыю.

— Да дзе-ж мне ўсё ведаць? Тры зімы толькі хадзіла ў школу, дый калі ўжо тое было!—І Насьця ўздыхнула.

— Ну, нічога, Насьценька: забяру цябе ў горад, вучыць буду, і ты станеш сьвядомаю і адукованаю маёю жонкаю.

А што гэта так, Кузьма прыгарнуў і пацалаваў яе.

— Дык ты хочаш выкрасьці мяне, як канакрад каня з хлява?

— Сілаю ўзяць,—паправіў яе Кузьма.

— Дык я-ж не праціўлюся.

— А бацькі ня згодны?

— Ну, то што? Пойдзем цішком і запішамся.

— Цішком, кажаш?

Кузьма задумаўся. Спачатку ён не знайшоў нават, што сказаць ёй на гэта. Яго вабіў вось які плян: сабраць шайку мяцежнікаў-таварышоў, зрабіць наезд на хутар і выхваціць Насьцю з-пад бацькавага носу, а яна б'е яго такою прозаю! Але Кузьма быў і чалавек практычны. Пачухаў патыліцу, памеркаваў.

— А бадай што гэтак і лепш будзе,—згадзіўся нарэшце ён:—нічога каштаваць ня будзе, а грошы лепш на кнігі патраціць.

Кузьма любіў кнігі і большую часьць сваіх заработкаў траціў на іх.

На другі дзень ранічкаю Насьця з клуначкам у руках тайком пакінула свой хутар. За горкаю на мосьціку яе чакаў Кузьма. У той-жа дзень яны і запісаліся.

З Загсу маладыя пайшлі на кватэру маладога. Кватэра яго была на краю горада каля могілак. Ідучы, Кузьма ціхенька высьвістваў штось на мотыў „Кірпічыкі" і жартаваў з Насьці і яе клунка.

— Ты, Насьця, пераносіш сваю рэзыдэнцыю з Стажкоў на Старажоўку.

Стажкамі называўся хутар, дзе жылі Насьціны бацькі.

— Вядзеш ты мяне нямаведама куды. А няхай ён згарыць гэты твой брук: ногі павыкручваеш тут,—злавалася, ідучы, маладая, скробаючы па камянёх ёмкімі абцасамі дзеравенскіх чаравік.

— Мілая Насьця, ты памыляешся: гэты брук ня мой, і калі на справу глядзець шырока, то ён скарэй інтэрнацыянальны і ёсьць дасягненьне колектыўнай волі. Словы „маё“, „тваё“—перажыткі буржуазнай, дробна-мяшчанскай ідэолёгіі. Гэта табе стане ўсё ясным, калі ты грунтоўна азнаёмішся з політраматаю.

— А божачкі, дзе ён сабе кватэру знайшоў: на краю сьвету, ды яшчэ на могілках! Як-жа тут жыць?—бедавала Насьця, падходзячы да кватэры.

— Сьвет ня мае канца-краю, Насьця, гэта адно; другое, кватэра мая не на могілках, а каля могілак; і трэцяе—баяцца жыць каля могілак, значыць насіць у сабе перажыткі *адміністратычнага**) сьветапагляду, і нарэшце, Настачка,—кватэрны крызіс. Цяпер знайсьці кватэру многа цяжэй, чым, скажам, знайсьці політычна сьвядомую жонку.

Насьця пакрыўдзілася.

— Не пайду я сюды,—сказала яна і спынілася.

— Ну, а дзе-ж ты дзенешся?

— Дамоў вярнуся, вот і ўсё.

Сказала гэта Насьця такім цьвёрдым голасам, што Кузьма спалохаўся. Паглядзеў на яе. Шчокі разрумяніліся, а цёмныя вочы трохі сярдзітыя,—слаўныя вочы, хоць і іскрачкі злосьці ў іх паблісквающь. „Прыгожая, шэльма!“—думае Кузьма і кажа лагодненька:

— Настачка, якая ты цяпер харошая! Адукавацъ цябе, што гэта будзе за жонка! А калі табе кватэра не падабаецца, пашукаем другую, а прыпыніцца дзе-небудзь да трэба. Не стаяць-жа тут на вуліцы. І што такое кватэра?—часовы прыпынак студэнта-пролетара: сёньня тут, а заўтра там.

— Дзякую табе за ласку! Я тут па гэтых ямах ногі паламлю, а ён яшчэ будзе вадзіць мяне з кватэры на кватэру.

Але яна адпускаецца і ўжо больш мякка дадае:

— Ну, пагляджу, якая твая кватэра.

Кузьма пацiху ў вус пасьмейваецца, сам сабе хітра падміргвае і думае: „паначуеш, дык і ахвота пройдзе дамоў варочацца“.

## II

Перабраліся маладыя на другую кватэру, больш прасторную і выгодную, і Насьця стала гаспадыняю. У справе кватэры прышлося ўступіць ёй. Пачалося новае жыцьцё жанатых людзей. Кузьма адразу заўважыў перамену ў сваім жыцьці, але спыніцца на ёй з належным аналізам ня было калі, бо трэба было зарабляць і навукаю займацца. Работы было многа, і Кузьма часамі забываў, што ён жанаты чалавек. Але калі ён варочаўся дамоў, то яму было прыятна, што ў яго на кватэры парадак, што яго сустрачала Насьця і карміла яго добрым абедам.

*) Замест анімістычнага.

Адно толькі карцела і дакучала яму: Насьця залішне блізка да сэрца прымала розную дробязь—і таго няма і гэтага бракуе. Кожны дзень выдумае што-небудзь новае: то ёй венік патрэбен, то качарга, то гаршчок, то міска, то люстэрка,—ну, адным словам, у ёй з моцнаю сілаю прабіваліся гэтыя ўласьніцкія інстынкты, гэтае абрастаньне буржуазнаю шэрсьцю. Проста слухаць было прыкра. І ў такіх разох Кузьма з болем адчуваў, як шчымела ў ім грамадзкае сумленьне: час праходзіў, а ён яшчэ не прыступіў да Насьцінай адукацыі. Праўда, об'ектыўныя ўмовы былі таму прычынаю, і ў гэтым было пэўнае апраўданьне. Так, трэба было з кватэраю ўпарадкавацца, сяк-так абсталяваць яе, ухіліць, як кажа Насьця, самыя пільныя патрэбы, а яе аргумэнтаў нічым не разаб'еш, хоць яны і нічога ня варты. Але гэтым патрэбам, як відаць, ніколі канца няма: збудзеш адзін клопат, другі набяжыць, праўдзівей—Насьця выдумае яго. Так вось і цяпер: дурыць яму галаву, каб купіў сабе паліто. Яму трэба набыць „Унівэрсытэт на даму", а яна з палітом лезе. Нашто яму паліто, калі яму і ў шынэлі добра? Шынэль, праўда, старая, выцертая і забруджаная. У гэтай шынэлі ён ваяваў тры гады, прайшоў у ёй Польшчу з канца ў канец, яна хавала яго ад дажджоў і сьнегу, ад жары і холаду, а цяпер ён ходзіць у ёй на службу і на рабфак, а ўночы пакрываецца ёю замест коўдры.

— Ну, паглядзі ты на сябе: на каго ты падобен у гэтым рызмане? Дзе-ж ёсьць другое такое пудала на сьвеце? Не чалавек, а чучала!

— Гм! як-жа ты за пудала, за чучала замуж пайшла?

— Я думала, з цябе чалавек будзе, а ты нямаведама хто.

— Не нямаведама хто, а Кузьма Лявуцкі, студэнт рабфаку,—з гонарам зазначыў Кузьма.—Ведаеш, Насьця, і ў мяне была і ёсьць такая-ж мысьль: зрабіць з цябе чалавека.

— А хто-ж я патвоему?

— Ты?—і Кузьма паглядзеў на Насьцю:—несьвядомы элемэнт!

— Які там яшчэ алімэнт?—затрывожылася Насьця.

— Вось бачыш, ты ня ведаеш розьніцы паміж словамі „элемэнт" і „алімэнт".

— Ведаю я, на што ты ківаеш,—закіпяцілася Насьця:—дзесяць дзён не пажылі, а ўжо аб алімэнтах загаварыў!

Насьця заплакала.

— Эх, дзеравеншчына ты! Ну, што мне з табою рабіць?

— Плаці алімэнты!—праз сьлёзы выкрыкнула Насьця.

— Насьця! ну, гэта-ж глупства, непаразуменьне. Я толькі хацеў сказаць, што ў цябе няма адукацыі, што палітычна ты несьвядома. Але-ж гэта яшчэ не такая вялікая загана, усё гэта можна паправіць, і я буду вучыць цябе, адукую цябе.

— Дык нашто-ж ты браў мяне, неадукаваную? Ці табе адукаваных стрыжак мала?

— Я цябе ўзяў, бо я цябе люблю, і яшчэ я цябе ўзяў і для сувязі з сялянствам і для адукацыі.

— І не разгарну я твае кнігі, покі ты ня купіш сабе паліта.

— А яна сваё! Шынэль, паліто,—усё гэта глупства. Ёсьць задачы, болей важныя. Мы жывём у буржуазным абкружэньні сярод усякіх Чэмбэрленаў і Балдуінаў. Нам трэба загартаваць сваю волю, выкаваць сапраўды пролетарскія мэтоды змаганьня і вясьці масы да ўсясьветнае рэволюцыі і перамогі. Няма калі займацца такімі пратухлымі пытаньнямі, як шынэль, паліто або іншыя мяшчанскія атрыбуты.

— А я не хачу, каб у нашай хаце бруд быў. На тваёй шынэлі вошай асьміна!

— Ну, гэта, паложым, гіпэрболя.

— І што ён гаворыць, ліха яго ведае. Пэрбаля ўжо нейкага выдумаў!

— Вось калі мы зоймемся навукаю, то ты будзеш ведаць, што такое гіпэрболя. Але я варочаюся да пытаньня аб вошах. І вош, калі цьвяроза паглядзець,—глупства. Праўда, вош для культурнага чалавека гучыць дысонансам, але і ў культурных людзей можа быць свая структура і свае балянсы.

— І нічагусенькі-ж я не разумею, хоць ты мяне рэж, Кузьма. Ці ты гаворыш, ці малатарня гудзе.

— А гэта ізноў-жа такі ёсьць яшчэ адзін аргумэнт за тое, што мы стаімо на розных пляцформах, больш таго—на розных полюсах у сэнсе культурнасьці. Старая буржуазная школа, куды ты хадзіла тры зімы, магла толькі навучыць цябе маліцца богу. Навукі яна не магла даць з-за сваіх імпэрыялістычных прынцыпаў, і нават самая элемэнтарная комплексная сыстэма выкладаньня там ня ўжывалася.

Насьця нічога не сказала і толькі ўздыхнула, а Кузьма разгарачыўся, падзадорыўшы сябе папярэдняю прамоваю аб старой школе і панёс, як малады неаб'езджаны конь.

— І вось я стаўлю прынцыпіяльна і рэальна, бяз усякіх компромісаў і буржуазнай этыкі пытаньне аб тваёй адукацыі, аб зьліквідаваньні твае заскарузлай сялянскай ідэолёгіі, каб замяніць яе дыялектычным матэрыялізмам. У цябе, як у сялянкі, каторыя фактычна ў сэнсе розуму драмалі, ёсьць потэнцыяльная энэргія, якую трэба перавесьці ў стан дынамічнасьці, каб ад гэтага карысьць была дзяржаве і працоўным масам. І калі я цябе браў, то я, карыстаючыся сваім аўторытэтам, паставіў сабе пэўную соцыяльную проблему—падняць цябе і праблізіць да сябе культурна і прогрэсыўна, каб гэтым самым даць карыснага члена грамадзкага колектыву. Лічачыся з об'ектыўнымі ўмовамі данага часу і месца, я гляджу на цябе, як на продукт твайго дробна-ўласьніцкага асяродзішча, і покі што не прыдаю вялікага значэньня тваім буржуазна-мяшчанскім тэндэнцыям, паколькі ты неадукована, паколькі ты не зачэрпала з крыніцы сапраўднага знаньня. Справа ня ў тым, у якой адзежы ты хо-

дзіш, а ў тым, што пад гэтаю адзежаю ты носіш. Пустую кулацкую і контр-рэволюцыйную галаву не аздобіш ніякімі ўкрасамі і нічым не заменіш яе драпежніцкай эксплёатацыі і інтэрвэнцыі.

Кузьма спыніўся і паглядзеў на Насьцю. Яна сядзела нярухліва. Наўперад слухала, пазірала Кузьме ў самы рот, адкуль, як гарох з мяшка, сыпаліся словы, а потым ёй стала нейк страшна. Ёй здалося, што ў яго ў горле ёсьць такая пячурка, дзе сядзяць гэтыя страшныя словы.

— Я мог-бы, Насьця, і больш сказаць табе, але бачу па табе, што і тое, што я сказаў, слаба месьціцца ў тваёй галаве.

— Я ўжо ня ведаю, якую трэба мець галаву, каб зьмясьціць гэта ўсё. Мабыць, і ў засеку ня зьмесьціш таго, што ты нагаварыў. Ці я ўжо такая дурная, ці ты такі разумны.

— Ты проста не падгатавана, каб слухаць прамовы на політычныя тэмы. А чаму? Таму, што ты думаеш толькі аб сваім бярлозе, аб рознай дрэбядзені. Ты пачала жучыць мяне, каб я купіў паліто, а я люблю кнігу і навуку. Не паліто мне трэба купіць, а „Унівэрсытэт на даму“. Вось я што хачу купіць.

— Яшчэ што выдумаў!—паківала Насьця галавою:—мала яму ў горадзе унівэрсытэтаў гэтых, дык ён яшчэ дома завесьці іх хоча! Тут і бяз іх няма дзе павярнуцца. Прахвэсар знайшоўся! Разьвядзецца скора гэтых прахвэсараў столькі, што і вучыць ня будзе каго, бо ўсе прахвэсарамі паробяцца.

Кузьма ў сваю чаргу пакрыўдзіўся за навуку.

— Многа яшчэ ёсьць такіх мастадонтаў, як ты, і профэсару надоўга работы хваціць. Ты нават ня ведаеш, аб якім „Унівэрсытэце“ я кажу: гэта кнігі такія ёсьць! Дома вучыцца па іх.

— Мала яму яшчэ кніг! І так усё завалена кнігамі: і стол, і скрыня, гэтая клетка... У печы імі паліць хіба!

— Эх, цемната, цемната!.. Ну, але я ня маю нават права сердаваць на цябе, бо ты бяз усякай адукацыі, Насьця, і мой абавязак—даць табе адукацыю. Да гэтае справы я і прыступаю, прыступаю цяпер-жа.

Насьця пакруціла галавою, а Кузьма пачаў капацца ў кнігах. Адабраў некалькі штук і пачаў нешта выпісваць.

III

Увесь вечар праседзеў Кузьма, каб скласьці заданьне. Для большай яснасьці і парадку ў заняцьцях наўперад намеціў програму работы. Тут вынікла такое пытаньне: якія аддзелы навукі павінны ўвайсьці ў плян? Пасьля некаторага разважаньня Кузьма запісаў: політграмата, політэкономія, матэматыка, прыродазнаўства, поэтыка. Падлічыў—пяць аддзелаў. Ня шкодзіла-б мець на кожны рабочы дзень па аднаму аддзелу з навукі. Кузьма падумаў і дапісаў: беларуская мова. Сам Кузьма пакульгваў у беларускай мове, як і ў другіх аддзелах навукі, але там гэта

ня так заўважалася, там ён лічыў сябе спэцам. Уводзячы ў плян беларускую мову, Кузьма ставіў дзьве мэты: праводзіць беларусізацыю і самому вывучыць беларускую мову. Зрабіўшы агульны расклад, ён стаў падзяляць некаторыя аддзелы навукі на пададдзелы, як матэматыку: арытмэтыка, геомэтрыя, альгебра... Але далейшы падзел выясьніцца тады, як павядзецца навучаньне, а цяпер ён зрабіў покі што расклад на кожны дзень, павесіў яго на сьцяне і прыступіў да самага заданьня. У першую галаву пойдзе політграмата. Кузьма перагарнуў старонак 15 з політграматы, перагарнуў паволі, сёе-тое прачытваючы, потым, узяўшы іх разам, памахаў імі, як-бы ўзважваючы, ці не замала будзе. На першае заданьне будзе досыць,—і стаў пісаць пытаньні. Напісаць іх было нятрудна: сёетое можна было знайсьці ў сваіх запісках, сёе-тое ўзяць з кнігі, і ад сябе дадаць адно-другое пытаньне таксама не вялікая мудрасьць. Першае заданьне вышла ў такім выглядзе:

1. Што такое політграмата і чаму трэба ведаць яе? 2. Ці можа політычна няграматны сьвядома вясьці змаганьне з эксплёататарамі? 3. Ці можна абмежаваць свае веды аднэю політграматаю? 4. Як мы павінны вучыцца? 5. Як глядзіць на гэта Ленін? 6. Якім парадкам можна зьвязаць тэорыю з практыкаю? 7. Якое значэньне мае чытаньне газэт? 8. Якая розьніца паміж газэтамі буржуазнымі і пролетарскімі? 9. У чым заслуга Леніна перад працоўнымі ўсяго сьвету? 10. Хто такі Ленін? 11. Што такое програма мінімум і програма максімум? 12. Ці можна быць партыйным і верыць у бога?

Кузьма пісаў, а Насьця некаторы час сядзела і пазірала на яго. Ёй хацелася пагаварыць з ім, але яму ня было часу, бо ён закапаўся ў сваёй рабоце. Насьця ўзяла кнігу, паглядзела на яе і, ціха паварушваючы губамі, павольна разьбірала: „Пионтковский, С. А. Хрестоматия по истории Октябрьской революции“. Перагарнула некалькі старонак. Усюды, куды ні глянеш, стаяць гэтыя гусьценькія, роўненьнія радкі, маркотныя, аднастайныя. Мільгнула толькі думка—колькі-ж гэта трэба часу, каб іх перачытаць? Насьця палажыла кнігу. І колькі тут гэтых кніг! За імі ён сьвету ня бачыць. Яны адгароджвалі яго ад яе, як нейкая варожая ёй сьцяна. „Напіўся-б ён хоць раз, няхай-бы прышоў дадому п'яны, няхай-бы пасварыўся са мною. Праспаўся-б, і быў-бы цьвярозы, а пасьля сваркі пагадзіліся-б. Проста хоць да знахара ідзі, каб адвярнула яго ад гэтых кніг“, думала Насьця і голасна пазяхнула.

— Ну, спаць пайду!

— А ўжо хіба позна?—азваўся Кузьма:—пастой, я зараз кончу і прачытаю табе заданьне.

— Вар'яцей тут адзін,—сярдзіта буркнула Насьця.

— Рэплікі ты ўмееш падаваць... Ну, нічога,—згадзіўся Кузьма:—на сьвежую галаву лепш будзе.

Насьця пайшла спаць, а Кузьма яшчэ сядзеў і меркаваў, якія лепш паказаць падручнікі і крыніцы для сталага распрацаваньня заданьня № 1. Ён захапіўся роляю настаўніка і знаходзіў вялікае здаваленьне ў тым, што ён адукуе Насьцю.

Назаўтра Кузьма і Насьця сядзелі за сталом, пілі чай. Кузьма быў сур'ёзны, відаць, заняты мысьлямі.

— Ну, вось, Насьця, з сёньнешняга дня прыступім мы да работы,— парушыў ён маўчанку:—трэба табе даць жывое, цікавае і карыснае дзела. Ты не забывай, што ты—жонка студэнта, каб можна было пагаварыць і аб палітыцы і аб навуцы, а то з табою, апроч гэтых тваіх трантаў, і гаварыць няма аб чым.

— Дзе-ж мне забыць гэта,—з крыўдаю ў голасе адгукнулася Насьця і адкусіла кусок абаранка.

— І ты, нарэшце, павінна ўзяцца за сваю адукацыю.

— Ізноў адукацыя! Агоркла ўжо яна мне.

— Ты пачакай! І ў буржуазныя часы казалі так і нават прыказку злажылі: корань навукі горкі, ды плады яго салодкі. Пытаньне цяпер у тым, як мы будзем вясьці нашы заняцьці. Ня трэба забываць, што навука цяпер строіцца па новаму прынцыпу. Ёсьць розныя спосабы. Я цікавіўся гэтым. Навуку можна пачаць, з чаго хочаш. Вось ты жуеш абаранак...

— Ты скора будзеш папікаць мяне абаранкам.

— Не, Насьценка: я-ж хачу дабра табе! Справа ня ў гэтым, к прыкладу кажу, ты мяне даслухай. І вось табе першае пытаньне: адкуль бярэцца абаранак?..

— Ну, вядома, хто іх пячэ,—перабіла Насьця.

— Ты мяне не перабівай.

— А нашто-ж пытаеш?

— Гэта я строю тэорыю, к прыкладу пытаю, ты маўчы і слухай. Дык вот. Адкуль бярэцца абаранак? Тут робім сувязь з мукою, ад мукі ідзем да пшаніцы: дзе расьце пшаніца, як яе абрабляюць і г. д., і г. д. А далей можна лёгка ўвязацца з культураю першабытнага чалавека, з ботанікаю, з астрономіяй, бо, каб пшаніца вырасла, трэба сонца, далей— з географіяй, з геолёгіяй, з грамадазнаўствам,—ну, з чым хочаш, нават з фізкультураю. Вось такая сыстэма,—ну, я табе буду казаць проста,— такі „стержень“ навукі называецца комплексам. Гэта раней навука была індывідуалісткаю, а цяпер і яна павінна аб'яднацца ў колектыў, ствараць, так сказаць, свой профсаюз. Цяпер ты разумееш?

— Як зразумець цябе, калі ты гаворыш нямаведама якія словы.

— Пакінем покі што дыскусію аб словах, аб іх я потым скажу. Мэтод комплекснасьці я адкідаю, у мяне ёсьць на гэта свае мотывы, а буду я цябе вучыць ляборaторным спосабам па Дальтпляну. Тут, уласьціва кажучы, ня я цябе буду вучыць, а сама ты будзеш вучыцца.

Мая-ж роля—роля кіраўніка. Ад цябе не адбіраецца права трэбаваць ад мяне тых ці іншых тлумачэньняў. Іх можна даць, можна і ня даць, глядзя па абставінах. Я буду назначаць табе заданьні, а ты будзеш распрацоўваць іх сама. Потым я загатую картачкі, таблічкі такія, для контролю: каб праверыць тваю работу... Стой, стой! ты ня бойся: ня так гэта страшна, як табе здаецца. Лябораторны плян тым і добры, што ўсім дае шырокі прастор для самадзеяльнасьці,—працуй і больш нічога.

Што-ж датыча гэтых самых слоў, незразумелых, якіх ты так баішся, то я табе скажу, прызнаючыся шчыра: і я іх ня ўсе разумею, але ўжываю іх і ўжываю да рэчы. У чым-жа тут сакрэт? У тым, што гэтыя словы я часта чую, прывыкаю да іх, прыслухваюся, дзе і ў якіх разох ужываюць іх компэтэнтныя людзі, а потым пачынаю сам гаварыць іх—раз, другі, і што раз, то сьмялей, а далей ідзе, як па маслу. Вось калі яго выкалупіць, узяць з гутаркі асобна, дык агонь яго ведае, што яно значыць. Дык так, Насьця, вось табе заданьне, я табе прачытаю.

Кузьма прачытаў заданьне, а Насьця праслухала яго, як нямецкае казаньне.

— Лепш будзе, калі ты запішаш яго ў сшытак, тады гэта гладчэй у галаве ўкладаецца. Вось табе кніга, адна і другая. Чытай адгэтуль і дагэтуль, і ты павінна даць адказы на ўсе пытаньні, зразумееш, у чым тут соль. Адно табе скажу: ня бойся. Сьмела бярыся за работу: не сьвятыя гаршкі лепяць—прыказка ідэолёгічна ня вытрыманая, але об'ектыўна перадае сутнасьць справы.

Насьця асьмелілася і ўзяла заданьне.

## IV

Кузьма пайшоў па сваіх справах, а Насьця засталася дома.

Павольна, не сьпяшаючыся, прыбірала яна кватэру і думала аб сваёй навуцы і аб тым, што казаў ёй Кузьма. Ну, што-ж? папрабаваць хіба? Можа яно і праўда ня так трудна, як ёй здаецца. Але не сьпяшалася прыступаць да навукі—проста было нейк нялоўка. І што сказалі-б ёй дома, каб гэта яна там разлажылася з кнігамі і села за навуку? На сьмех паднялі-б: ці-ж у яе гады вучыцца? Замуж вышла, маладзіцаю стала, куды ўжо тут навука?

Але-ж яна цяпер гарадзкая, муж яе студэнт. Дый сьвет цяпер не такі, як даўней. Вось хоць-бы яна: вышла замуж—і вясельля не спраўлялі, і да папа не хадзілі, і нічога—жывуць і добра жывуць. А каб ня гэты клопат з адукацыяй, то і зусім было-б добра, бо і з бацькамі пагадзіліся, і бацька нават і ня ўспомніў пра сьвіную шкуру. Значыцца, і ён прызнаў гэты новы сьвет. А раз так, то трэба вучыцца. Будзе вучыцца—будзе таксама гаварыць незразумелыя словы. І яна пастара-

лася прыпомніць такія словы і ўспомніла—сымпатыя. Што яно значыць? Ліха яго ведае. Гэта проста прыгожы чалавек, які табе падабаецца. А калі гэтае слова гаворыць хлопец, тады гэта—прыгожая дзяўчына... Не, Кузьма, аказваецца, праўду казаў: трэба ведаць, калі якое слова сказаць. Вось ёй трэба палітграмату вывучаць. І „палітграмата“ слова незразумелае. Яго трэба сказаць некалькі разоў, прывыкнуць да яго. Насьця пачала шаптаць „палітграмата, палітграмата“, прашаптала разоў пяць, а шосты раз уголас сказала, прыслухалася і—хіхікнула—сьмешна нейк выходзіць. А потым стала складаць такія сказы, дзе-б было слова „палітграмата“. Калі-б сказаць так: люблю цябе палітграматна?.. Але чаму тут „паліт“? Ці гэта ад слова „паліць“ ці ад „паліто“? Тут яна ўспомніла пра шынэль свайго мужа, пра „Унівэрсытэт на даму“. Не, трэба такі настаяць, каб купіў сабе паліто. Дый ёй-бы таксама ня шкодзіла справіць сёе-тое.

Навука і заданьне № 1 зусім выляцелі з Насьцінай галавы, а іх месца заняў капялюшык. Яшчэ да гутаркі з Кузьмою аб яго шынэлі прымярала Насьця капялюш свае суседкі па кватэры, Тані Загорскай. Як зірнула Таня на Насьцю ў капялюшыку, то аж ахнула, ахнула з найвышэйшай ноты, якая толькі можа выляцець з жаночага нутра.

— Ах, мілачка, як ён табе да твару!

Паглядзелася Насьця ў люстэрку, сама сябе не пазнала: ну, проста хоць портрэт пішы!

Усё гэта моцна аднавілася цяпер у Насьцінай памяці. Капялюшык апанаваў яе мысьлі. Ёй так захацелася ізноў прымерыць яго і паглядзець на сябе ў капялюшыку. Яе пацягнула да суседкі. Падышла да століка, дзе была люстэрачка, каб паглядзецца. Але тут было і заданьне № 1. Насьця ўздыхнула. Яе як-бы нешта ўкалола. Не, капялюшык прымерае потым, а цяпер трэба прыступіць да навукі, проста хоць пацікавіцца, бо гэтае заданьне і гэтая адукацыя, як мара, навісьлі над яе душою. А там, за вакном, плыло сваё жыцьцё. Па вуліцы ў гэты час праходзілі салдаты і сьпявалі песьню. Насьця адчыніла вакно. Рытмічнасьць салдацкіх крокаў зьлівалася з песьняю. Сьпявалі салдаты, сьпяваў брук пад іх нагамі, сьпявала вуліца, сьпявалі сьцены дамоў, адбіваючы гукі чырвонаармейскай песьні, бо ёй тут было цесна, яна вырывалася на прасторы палёў за горадам. І ўсё гэта, разам узятае, радзіла нейкае водгульле ў Насьцінай душы, і яна нейк адчула сваё адзіноцтва. Салдаты, праходзячы з песьняю, заглядаліся на Насьцю, бо яна была так молада і прыгожа, што нельга было не заглядзецца на яе, а адзін нейкі вухар ня вытрываў і хітра падмігнуў ёй. Салдаты прайшлі, і песьня раптам абарвалася дзесь на павароце, а можа яны проста перасталі сьпяваць. Насьця стаяла яшчэ ў вакне і пазірала на вуліцу. Яна прастойвала тут адна цэлымі гадзінамі, і за гэта ня раз ужо прабіраў яе Кузьма. А ёй проста было цікава глядзець на вуліцу, на людзей, на

хурманкі, на гэты нясупынны гарадзкі рух. Але на гэты раз яна не магла цалком аддацца агляду вуліцы—ёй карцела думка аб навуцы. Яна ізноў уздыхнула і адышлася ад вакна. Палажыла заданьне № 1 на стол, падышла да сьцяны, дзе быў вывешан расклад навукі на кожны дзень. Доўга сьлібізавала яна гэты расклад і чым больш думала над ім і разважала, тым больш узрастаў яе непакой і згрызоты. Колькі-ж на гэта патрэбуецца часу? Заняволіш сябе на ўсё жыцьцё!..

На стале ляжала разгорнутая палітграмата і, здаецца, з нецярплівасьцю чакала Насьцю, як-бы пытала: „А калі-ж ты за мяне возьмешся?“ Насьця перамагла сябе і ўзялася за палітграмату. Уся яе энэргія і ўсё намаганьне трацiліся на тое, каб прачытаць словы, бо чытала Насьця слаба. А гэтыя кніжныя словы не выклікалі ў яе галаве ніякага прадстаўленьня аб сваім значэньні. Чытала, але ня ведала, аб чым чытае, і толькі тады, як вычытала, што вучыцца трэбы заўсёды, усё жыцьцё, яе агарнуў страх, аж горача зрабілася Насьці, і яна пачула тое, што адчувае нявольнік, пасаджаны ў астрог на няпэўны час. Вычытанае якраз пацьвярджала тое, чаго яна спалохалася, знаёмячыся з раскладам, што вісеў на сьцяне—заняволеньня на ўсё жыцьцё навукаю. Аж за голаву ўзялася Насьця, і злосьць узяла яе на гэтую навуку і на Кузьму. І ніколі-ж не навучыцца яна гаварыць гэтымі незразумелымі словамі. А бадай-жа іх агнём высмаліла і дымам павыкочвала!

Насьця трохі паплакала. Ня будзе ёй долі з Кузьмою: яму трэба адукаваная, а яна... Скарэй можна навучыць цяля танцаваць польку, як ёй гэтую палітграмату адолець. Паплакаўшы і пасмуткаваўшы над сабою, узялася Насьця перацірадь падлогу, а потым пайшла гатаваць абед. Работа запакоіла яе і разагнала гэтыя невясёлыя думкі. Нават капялюш ізноў нейкім спосабам спакусна мільгнуў у яе мысьлях. Згатаваўшы абед, пайшла да суседкі, Тані Загорскай.

— Трэба будзе і мне такі капялюшык нажыць.

Сказала Насьця так весела, як-бы ў яе ніякіх згрызот ня было, а купіць капялюш зусім простая справа.

— А ты прыбярыся, надзень мой капялюшык, каб цябе пабачыў у ім Кузьма: сам табе купіць.

Якая дагадлівая гэтая Таня: такая думка якраз і ў Насьці была!

Насьця, што называецца, паднядзелілася, бровы падвяла, падпудрылася і ў завяршэньне ўсяго надзела капялюшык, разоў сорак крутнуўшыся перад люстэркаю, і стала чакаць Кузьму, паглядаючы то ў вакно, то ў люстэрку.

Насьця загадзя заняла ў кватэры такую пазыцыю, каб адразу кінуцца Кузьме ў вочы і зразіць яго сваім відам. Заўважыўшы яго здалёк, яна заняла сваю пазыцыю, прыняла адпаведную позу і мобілізавала ўсе чары свайго хараства.

Кузьма ішоў, зьлёгка панурыўшыся, у сваёй няэьменнай шынэлі, гледзячы сабе пад ногі. Ён думаў аб адукацыі свае жонкі, аб заданьні № 1 і аб заданьні № 2, якое трэба будзе напісаць. І толькі тады падняў вышай галаву, калі ступіў на двор свае кватэры. Насьця звычайна выходзіла на спатканьне яму, цяпер-жа яе тут ня відаць было... „Над заданьнем сядзіць“, зарадаваўся Кузьма: „разумная баба, толк з яе будзе“. Адчыніў дзьверы, ступіў крок і спыніўся, застыў, як слуп: стаіць Насьця ўбраная, падвітая, падпудраная, на галаве капялюш, а на губах пакалыхваецца найчараўнейшая ўсьмешка. Глядзіць на яе Кузьма, вочы яго халадзеюць, бровы ссоўваюцца, і ўсьміхаецца горкаю, абразьліваю і зьняважліваю ўсьмешкаю. Гэты злы і халодны погляд прыводзіць Насьцю ў поўнае замяшаньне. Ёй робіцца сорамна і страх, як нялоўка, а разам з гэтым адчувае і горкую крыўду.

— Тфу!—плюнуў Кузьма:—інтэлігентка чортава! Ці даўно ты бульбу ў лупінах ела?.. Капялюш начапіла.

Вочы яго ўпалі на палітграмату Станчынскага, разгорнутую на першай староньцы.

— Дзелам ня хоча займацца, з мяшчанствам сваім ня можа разлучыцца. У той час, калі жанчына выходзіць з векавой няволі капіталізму калі яна ідзе дарогаю будаўніцтва соцыялізму, ты займаешся глупствам, цешышся гэтаю эмблемаю мяшчанства. Чучала! У Стажкох стаяць табе на бацькавым агародзе, варон пужаць у гэтым капялюшы!

Кузьма так узлаваўся, што больш нічога ня мог сказаць, завярнуўся, бразнуў дзьвярыма і пайшоў з кватэры.

Насьця ніколі ня бачыла яго такім злым. Яна стаяла, як прыбітая громам, не знайшла чаго сказаць яму. За што-ж ён так злаяў яе, зьмяшаў з грэзёю? Яна памятае, як крычаў на яе часамі бацька, а як была меншая, то іншы раз і штурхача даваў, але ніколі ня была яна так пакрыўджана, як цяпер. Нават сьлёз не знаходзілася, каб выплакаць сваю крыўду.

— Чорт-жа цябе бяры, і цябе, і кнігі твае, і тваю адукацыю, і твае абаранкі!

Зьняла Насьця капялюш, памылася, каб змыць пудру, надзела сваё будзённае адзеньне, зьвязала ў клунак свае рэчы, з каторымі яшчэ нядаўна прышла сюды, замкнула кватэру, ключ аддала Тані Загорскай.

— Скажы яму, няхай шукае сабе жонку.

І пайшла. Таня пазірала ўсьлед Насьці і ў засмучэньні ківала галавою.



## V

„Вось, называецца, паказалася мужу ў капялюшыку!“ думала Таня: „ну-ж і бервяно, аеееей!.. І добра зрабіла. Даўно-б трэба было яго кінуць. Вучоны! Ці-ж можа ацаніць ён жанчыну ў капялюшы, калі ў яго мазгі высушаны кнігамі?“



У гэтай гісторыі да некаторай ступені была і Таніна віна, бо гэта-ж яна падала Насьці такую думку. І Таня таксама адчувала крыўду за сябе, за Насьцю і за свой капялюш. Наўперад яна хацела пайсьці куды-небудзь на ўвесь вечар, каб павадзіць яго за нос, бо ён таго варты, але ёй вельмі хацелася ведаць, як прыме Кузьма вестку аб тым, што Насьця яго кінула, і Таня засталася дома, села шыць—яна была швачка. У яе цяпер быў не адзін, а два ключы: адзін ад іх кватэры, а другі ад іх сямейнай драмы.

З гадзіну соваўся Кузьма па вуліцах, дзе сьвяціліся ўжо агні. Яму трэба было пабыць аднаму, каб нішто не замінала зрабіць об'ектыўную ацэнку гэтага факту мяшчанства і заняцца ўжо за адно строгім аналізам сямейнай „проблемы". Але як ні тужыўся Кузьма апусьціцца ў глыбіні такога разважаньня, у яго нічога ня выходзіла. Ён бачыў перад сабою Насьцю ў капялюшыку і павінен быў прызнацца, што яго Насьця вельмі прыгожая жанчына, але апошнімі часамі ён гэтага як-бы не заўважаў. І тут паўстала такое пытаньне: нашто яна ўбралася? што яна хацела гэтым сказаць? Напомніць яму, што яна прыгожа? І дзе яна ўзяла капялюш? Калі яго купіла? На якія грошы? Кузьма ўспомніў, што з таго часу, як яны пажаніліся, ён нічога, ні на адну капейку ня купіў спэцыяльна для яе. Об'ектыўна разважаючы, гэта ёсьць няўвага да яе. А яна нават не заікнулася яму аб гэтым ні словам, ні намёкам, аб ім-жа клапацілася, ня раз казала яму купіць паліто. А можа яна і заданьне № 1 зрабіла і пазволіла сабе такі, па праўдзе кажучы, нявінны маскарад.

Нічога гэтага ён ня ведае, не пацікавіўся даведацца, а наляцеў на яе, як каршун... А як зьмянілася яна ў твары, пабялела і хоць-бы словам азвалася на яго лаянку!

Кузьма злажыў губы ў трубку і ціхенька, каб толькі самому было чуваць, пачаў ні то сьвістаць, ні то проста так сабе хукаць. А можа несьвядома хацелася заглушыць гэтым голас протэсту, што прабіваўся з глыбінь яго душы супроць самога сябе, бо ў яго сэрцы ўзьнімалася жаласьць да Насьці. Праўда, гэта ўжо лірыка, трэба і політыку захаваць. І Кузьма стаў думаць, як узгодніць лірыку з політыкаю ў гэтым конфлікце з жонкаю. Лірыка цягнула яго дадому, політыка старалася даўжэй затрымаць на вуліцы. Лірыка казала яму—ты вінаваты, а політыка даводзіла адваротнае. Покі скончылася гэтая спрэчка лірыкі з політыкаю, прайшло яшчэ ня менш гадзіны часу. Насьця была ўжо ў Стажкох, а Кузьма толькі павярнуў у двор свае кватэры.

Кузьма досыць доўга стаяў на ганку і стукаў у дзьверы. Таня з заміраньнем сэрца стаілася за дзьвярыма і не адчыняла. Яна толькі сачыла, каб ён ізноў не пайшоў куды, каб адчыніць яму ў патрэбны момант. А Кузьма стукаў і ўжо некалькі разоў сказаў „гм!" Відаць, затрывожыўся. Кузьма пачаў стукаць часьцей, а потым забарабаніў кулаком.

— Што-ж гэта?—пытаў ён на ганку. Навокал было цёмна, бязьлюдна, і гэтая цемень нічога не адказвала яму. У кватэры Тані сьвяцілася акно, і Кузьма накіраваўся ўжо пайсьці пастукаць там і навясьці спраўкі. Зачуўшы гэта і ня ведаючы, куды пойдзе ён, Таня павярнула ключ у дзьвярах.

— Ах, гэта вы!—сказала яна.

— А дзе-ж Насьця?

— Зайдзеце да мяне, там вам Насьця ключ пакінула ад кватэры,—ухілілася Таня ад простага адказу.

„Што-ж гэта значыць?“ сказаў сам сабе ў трывозе Кузьма.

Пайшоў за Таняю і толькі ў кватэры заўважыў той самы капялюш. Таня сумысьля палажыла яго на відным месьце.

Дык гэта вось чый капялюш надзявала яна! І пачуў Кузьма тут нешта няладнае.

— Вось вам ключ.

— А дзе-ж Насьця?

— Насьця? Насьця пакінула мне ключ і прасіла сказаць вам, каб пашукалі сабе жонкі, яе ці другой,—ня ведаю.

— Што вы кажаце? кінула мяне?!

— Ня ведаю: можа вас, а можа вашу адукацыю.

— Што-ж мне рабіць?—за галаву ўхапіўся Кузьма.

— Садзецеся чытаць кнігі—іх у вас так многа.

— Ах, Таня!

Кінуўся ў кватэру: можа яна адкажа на яго пытаньне. Але ў кватэры былі адны толькі маўклівыя кнігі, жывога-ж чалавечага голасу ня чуваць было.

Адна лірыка дыктатарствавала цяпер у сэрцы Кузьмы. Што-ж яму рабіць? Куды пайшла Насьця? Дзе шукаць яе?..

У галаве яго закружыліся самыя недарэчныя мысьлі. Можа яна самагубствам кончыла? Праступленьне яго перад Насьцяю вырасла да непамернай велічы, і хлопец зусім страціў галаву. Памкнуўся бегчы шукаць яе, але куды бегчы?

У карыдоры зноў спаткаў Таню. Яе жаночае сэрца задаволілася ў поўнай меры, калі пабачыла, як блізка прыняў ён да сэрца гэтае непаразуменьне з жонкаю, і ёй нават шкода стала Кузьмы, але і яго павучыць ня шкодзіць.

— І няўжо яна не сказала вам, куды пайшла, чаму пайшла?

— Упрочкі пайшла,—здалася нарэшце Таня.

У Кузьмы адразу адлягло ад сэрца—значыцца, яна жывая.

— А чаму пайшла, дык гэта вы павінны ведаць.

І навалілася на Кузьму, як бязьлітасны пракурор.

— Вы-ж яе грызьлі на кожным кроку, што яна—дзеравеншчына неадукованая, што яна—буржуйка, мяшчанка, як-бы сам ужо нямаведама

хто! Засадзіў за гэтыя паршывыя кнігі, заняволіў дома, як астрожніцу, а ты нават і ў вакно ня сьмей зірнуць. Яна тут яго і поіць і корміць, абмывае і абшывае. У яе-ж і голачкі свае няма, у мяне пазычае, бо як купіш голку,—уласьнікам зробішся, буржуем. І так збэсьціў за тое толькі, што надзела чужы капялюш, бо муж і шпількі ёй купіць не дагадаўся, надзела, каб вам-жа спадабацца, бервяно вы, чурбан вучоны! А ці павялі вы яе хоць раз у кіно, у тэатр, на свой студэнцкі вечар? Ды куды там! Як-жа вывесьці ў людзі неадукованую? А можа гэта забараняецца вашаю навукаю, гэтаю самаю палітграматаю, паказацца з жонкаю ў клюбе ці адну пусьціць яе?

Кузьма пачуў, што ў гэтым пункце палітграматы ён сапраўды маху даў. Але ён маўчаў, слухаў праборку, а калі Таня адчытала яго, ён сказаў:

— Ну, нічога, Таня: я гэта ўсё папраўлю, зраблю належныя карэктывы.

Гэтая ноч цягнулася для Кузьмы вельмі доўга. Ён многа думаў, і думкі яму спаць не давалі. Хацелася, каб скарэй праходзіла ноч. Заснуў толькі пад раніцу. Паспаў гадзін пяць, устаў і пачаў зьбірацца, і хоць на двар было халаднавата, шынэлі ён не надзеў. Пайшоў уваднэй рубашцы, бо ў Кузьмы быў пэўны плян. Гэты плян завёў яго ў краму, дзе прадаецца гатовая адзежа, і там ён купіў сабе за дваццаць тры рублі бобрыкавае паліто, а потым пайшоў хадзіць па крамах, выглядаючы, што-б купіць і для Насьці. Але дагадзіць жанчыне пакупкаю надта цяжка. Гэта ведае той, хто сам рабіў такія пакупкі, хоць ён кіраваўся самымі лепшымі жаданьнямі. Кузьма доўга прыглядаўся і меркаваў, каб не зрабіць тут якога глупства, бо лёгка можна было ўпасьці ў тую ці іншую форму мяшчанства. Нарэшце Кузьма спыніўся на аднэй рэчы: ён купіў Насьці чырвоную вязаную кофтачку, пасьля чаго і рушыў у дарогу.

Убачыўшы Кузьму, Насьця затраслася ад радасьці, а як пабачыла падарунак, чырвоную вязанку, то і шчокі яе зачырванеліся, як і гэтая кофтачка. А калі яны ішлі назад са Стажкоў, то Кузьма казаў:

— Дзьве рэчы ты, Насьця, павінна прызнаць у мне: адно, гэта тое, што я люблю цябе, я нават і сам ня ведаў да гэтага часу, як я цябе люблю; і другое, калі я ўбачу свае памылкі, то я шчыра хачу іх паправіць. За тваю адукацыю, Насьцечка, я ўзяўся не з таго канца. Ну, але калі я люблю цябе, а ты мяне, то мы заўсёды знойдзем патрэбны компроміс, каб жыць у згодзе.

12-X-1926 г.



Бліжэйшыя супрацоўнікі часопісі „Полымя“—Зьверху (зьлева направа) першы рад: **В. Нодэль, Е. Барычэўскі,** проф. **У. Пічэта, Ал. Чарвякоў, Яз. Адамовіч,** проф. **І. Замоцін, С. Некрашэвіч;** другі рад: **І. Шыпіла,** проф. **П. Бузук, Я. Ліманоўскі, А. Бонч-Асмалоўскі, Хр. Херсонскі, Я. Нёманскі (Пятровіч), М. Чарот;** трэці рад: **Я. Івашын (Журба), А. Сянькевіч, Кузьма Чорны, Хв. Імшэньнік,** проф. **С. Кацэнбоген, А. Харэвіч, Вал. Маракоў;** чацьверты рад: **Ар. Моркаўка, Ізр. Плаўнік, Я. Кіпель, А. Зімёнка, П. Жарскі, Я. Падабед, М. Шчэкаціхін, М. Нікановіч, К. Гарабурда.**

# ТАНЗІЛІЯ

## З. Бядуля

Татарскі хутарок стаіць на паляне маленькай сямейкай з трох будынкаў: хаты, хлева і пуні. З абодвух бакоў, перарэзаны прасёлачнай дарогай, цягнецца цеснымі радамі і сьлепіць прастор густы лісьцяны лес. З дарогі здаецца, што ён атуляе сабою ўвесь сьвет і дзесьці хаваецца за канцом яго, ускочыўшы туды дзеля недахопу месца, бо ззаду напіраюць суседзі—ідзі ды ідзі!

Лёгкі летні ветрык вандруе па вяршалінах дрэў, нахіляе-гне цененькія пальчыкі-галінкі, шуршыць па зяляніве лісьцяў, лічыць іх, блытаецца, на хвіліну прыціхне, пасьля чаго пачынае свой лік спачатку.

Час-ад-часу даносіцца здалёку з глыбіні лесу гук пастырскай трубы. Прапушчаны праз сваё бярозавае гняздо, голас выплывае на волю з цеснай рулькі трохі вільготны і нягладкі; потым, стукаючыся водгаласкамі аб цьвёрдыя пні, ён ачышчаецца і пераліваецца ў цьвёрдыя медзяныя тоны.

Калі-ні-калі раздаецца жаласьлівы піск птушкі, пакрычыць яна і адрывіста змоўкне, нібы хто яе раптам прыдушыў.

Сонца апусьцілася ў лес. Пазалаціўшы на кароткі час яго зялёную кучму, яно ўтапілася ў ім, згарэла ў сваім уласным агні, сканала, пакінуўшы над сабою ў небе свой сьлед—адлівы малінавага соку.

На хутары ціха. На дварэ ні жывой душы. Але раптам адчыняюцца дзьверы хаты. Адтуль, як ашпараная варам, выскаквае маладая кабета. Вочы чорныя, аграмадныя, блыкаючыя, з страшным блескам у зрэнках, з пачырванеўшымі бялкамі, сыплюць іскры. Кабета кінулася наўцекі.

За ёю ўсьлед пераступіў парог высокі, чорны, худы чалавек, разгарачаны, з вяроўкай у руках. Жылы на яго ілбу набухлі, рухаліся, як чарвякі.

Чалавек крычаў зьвярыным, няпрытомным голасам:

— Танзілія! Танзілія!!

Кабета, якую звалі Танзіліяй, бегла наперад так хутка, з такой спрунжыністай лёгкасьцю ўсіх мускулаў, што чалавек і ня думаў пускацца за ёю ўдагонку. Ён стаяў на дзядзінцы і толькі голасна крычаў:

— Ну, ня буду біць! Танзілія, вярніся да хаты!

Кабета не зварочвала на яго ўвагі.

Чым далей яна адыходзіла ад хутару, тым спакайней рабіўся голас чалавека. Злосьць у яго зьмяншалася, пагасала, як патухаючае вогнішча.

— Танзілія! Танзілія...

Голас у яго мякчэў, мяняў тоны і, ад ранейшага пагражаючага, пераходзіў з кожным разам у болей лагодны.

Чалавек маліўся, прасіўся, кленчыў:

— Танзілія... Танз...

Танзілія, якая да яго ні разу не адвярнулася, увайшла ў лес. Яе болей ня відаць.

Чалавек застаўся з расчыненай губой, і недаконачанае слова, нібы кавалак яды, захрасла ў яго зубох. Вяроўка выпала з яго рукі задушаным зьмеем. Чалавек з адчаем прыцісnуў рукі да ілба, далонямі вочы пакрыў і пачаў горбіцца, як-бы нехта ціскаў яго да зямлі.

---

У лесе ўжо стаяла цемра.

Танзілія аглядалася па бакох. Небясьпека мінавала. Яна пачала прыходзіць у сябе. Пальцамі, нібы грэбнем, папраўіла чорныя з сінім адлівам валасы, якія выбіліся з-пад хусткі, і пусьцілася далей лясной дарогай.

Яна ішла ў сельсавет скардзіцца на свайго мужа Муньку, які з ёю кепска абыходзіцца.

Ледзь прасьвечвалася ў лесе шэраватым адсьветам дарога, выглядаючая доўгім-доўгім калідорам між дзьвюх сьцен.

Танзілія не баялася адзіноты ў цёмным лесе—з маленства прывыкла. Цяпер-жа цемра, якая з кожнай хвілінай гусьцела і пакрывалася новымі пластамі, давала магчымасьць адпачываць яе вачом, убіраўшым у сябе за дзень вялікую рознастайнасьць сьвятла і колераў. Цемра супакойвала яе ўстрывожанае сэрца. Затое яна цяпер успрымала мацней і глыбей лясныя галасы і пахі, якія лавіла вушамі і носам, нібы лясны зьвер.

У таемнай сымфоніі лясных галасоў яна орыентавалася, як-бы разблытваючы маток нітак: скрып дрэва аб дрэва, шуршаньне лісьцяў, рогат савы, хруст упаўшай галінкі і розныя іншыя гукі.

У зьліваньні ў адно лясных пахаў ветрык паднасіў іх да яе носу кавалачкамі: дурманячы пах сьвежай бярозкі, прэласьць падасінавікаў, саладкаватае гнільлё струхлеўшага карча, сьвежы пах дарожнага жвіру, зьмешаны з конскім гноем, хмельнасьць асінавага соку і агульную лясную пахучую вільгаць ад гніцьця розных траў, чароцін і аіру.

Жыўшы ў адзіноце, яна міжвольна прывыкла разьбірацца ва ўсім гэтым у некалькі стопняў болей за тых сялян, якія знаходзяцца ў вялікіх вёсках.

З мужам жыцьцё яе горшылася з кожным годам. І яна з кожным годам усё болей углыблялася сама ў сябе і жыла сваімі думкамі, ня гледзячы на тое, што ў хаце дзень-у-дзень мітусілася і варушылася ад людзей.

Яе муж Мунька вырабляў аўчыны і да гэтага яшчэ займаўся вырабам і продажам самагону. Абавязак яе, Танзіліі, быў—клапаціцца пры гасьцёх, якія ў іх-жа хаце і пілі. Яна павінна была падаваць к сталу гарэлку і закуску, а галоўным чынам, прываблівацьсваёй постацьцю і ласкавасьцю гасьцей—вясковых людзей.

Гэта была гандлёвая справа. Мунька меў грашавы прыбытак. Ні Алах ні Магамэт супроць гэтага нічога мець не маглі. Роля Танзіліі была, аднак, вельмі цяжкая: трэба было, паводле каманды Munькі, прываблівацьгасьцей сваім хараством, але не перахапляцьмеры. Недаскок ці пераскок у сваёй цяжкай ролі пагражалі Танзіліі быцьадлупцаванай вяроўкай з рук мужа.

Так цягнецца ўжо даўно. Кожны раз, як толькі заўважваецца, паводле пагляду мужа, нейкая няўдача ў выконваньні памянёнай ролі, пад вечар, калі госьці разыходзяцца, калі не заседжваюцца позна,—паўтараецца гісторыя з вяроўкай, вось такая сцэна, як сягоньня: Мунька бярэцца за вяроўку, а Танзілія ўцякае ад яго ў сельсавет. Ад пабояў яна заўсёды вывёртвалася, да сельсавету ніколі не дабіралася: па дарозе абдумвалася.

Не выпадае набожнай магамэтанцы скардзіцца на мужа.

Тое самае было і сягоньня. З поўдарогі яна з пакорлівым відам павярнула назад да хутара.

У небе рэіліся, мігацелі зоркі. Здавалася, яны гоняцца адна за аднэй, ссыпаюцца ў адну кучу, зноў рассыпаюцца, як залаты гарох, дрыжаць, пераліваюцца, расьсейваючы вакол тоненькія, як павуціну, пляцёнкі праменьняў—сіня-яскравых, зялёна-ружовых і іншых неўлавімых колераў.

Хутарок топіцца ў сінім змроку на паляне, расплываецца па баках, таецьяк цукер, абліты вадой, і зыбіцца ў ценях, як з лёгкага палатна сшыты.

Танзілія барабаніць пальцамі ў маленькую шыбу.

— Адчыні, Мунька...

Яна стаіць ля вакна, пакуль не пачуе крокаў мужа босымі нагамі па скрыпучай падлозе. Ён крэхча здаволена і адчыняе дзьверы.

Прымірэньне адбываецца моўчкі, бяз слоў. Хоць яны вельмі далёкі думкамі адзін ад аднаго, але ім здаецца, што яны блізкі, што разумеюцца, што зблізіліся.

---

Танзілія, апрача сваёй цяжкай ролі ў хаце, апрача свайго дзіўнага абавязку—залабуніваць гасьцей сваім хараством, носіць у сэрцы сваім, як яна сама ў гэтым упэўнена, вялікі затаёны грэх: зайздрасьць. І чым большы, паводле закону Магамэта, гэты грэх, тым смачней, тым болей песьціць яна гэтае захаванае пачуцьцё.

Яна зайздросьціць людзям, жывёлам, дрэвам, траўкам—усяму сьвету.

У чым вызначаецца гэта зайздрасьць?

У Танзіліі няма дзяцей. Ужо пяць год жыве з Мунькай, а ўсё застаецца бязьдзетнай. Была яна ў розных знахароў, шаптух—нічога не памагае, ніякія зёлкі, ніякія нашоптаныя воды.

— Вінават твой муж,—кажуць знаёмыя сялянкі,—вінават ён, безбароды і бязвусы галыш Мунька. Гэта ён бясплодны, як тая пустая салома.

— У яго піскліві голас, як у бабы ўсё роўна. Ён ня можа быць мужам.

— Гэта-ж ты не маладуха, а дзеўка яшчэ!—жартуюць знаёмыя сялянкі,—даліпан, дзеўка...

Пры гэтым яны кпліва аглядаюць яе з ног да галавы і няпрыстойна мерацъ яе вачыма...

Танзілія мела круглы ружовы твар. Вочы гарэлі чорным, чаруючым блескам. Над імі двума чорна-сінімі палумесяцамі віселі броўкі. На пукатых плячох зьмяілася цяжкая дзявочая каса, а пад мяккай кофткай вахталіся нечапаныя грудзі.

Сорамна было Танзіліі, што яна яшчэ дзяўчына. На мужа з кожным годам расла злосьць.

Навокал буяла зямля: пладзіліся і множыліся дрэвы, кветкі, збожжа, жывёлы і людзі.

І зайздрасьць на ўвесь сьвет расла ў Танзіліі—у кожным яе руху, у кожным поглядзе і ўздоху.

У адзіноце лясной, жывучы сама-сабою, узгадоўвала яна гэту зайздрасьць, як дзікую расьліну. Ухвацілася Танзілія за свой сум, палівала яго расою сваіх думак і хаплялася за яго, каб аблягчаць сябе гэтым пачуцьцём ад штодзеннай нуды, ад сваіх цяжкіх абавязкаў перад мужам і гасьцьмі.

Круглы год сьвет, акаляючы Танзілію, радаваўся, а яна сумавала.

На вясну зялёным пухам шуршавілася поле. Дрэвы ў лесе пукаліся, разьліваючы хмельны пах. Глеба стагнала ад стомнасьці апладненьня. Квохталі заклапочаныя мацярынскім чуцьцём нахохленыя куры. Соладка, з сьляпой палкасьцю, квакалі жабы. Цяліліся каровы.

Улетку маці-зямля гнулася ад багатай цяжарнасьці, бухалася, як жывая.

Увосені ўсё сьпела на полі. Жывёлы маладзенькія сталелі. У птушачак сёлетніх крыльлі павырасталі, каб у вырай з бацькамі паляцець.

А зімой таксама творчасьць жыцьця ня спынялася: то сялянка дзіця родзіць, то ў кагосьці кабыла ажарэбіцца.

Танзілія, жывучы так блізка з прыродай, так пільнаназіраючы за ўсімі праявінамі яе, не рабіла розьніцы вялікай паміж чалавекам, жывёлай

і расьлінай. Перад вачыма Танзіліі круглы год жыцьцё ладзіла багатае жніво, ажно замнога было для маткі-зямлі.

Толькі яна, Танзілія, аставалася адна, маладая, здаровая і бясплодная, як тлусты чарназём, забыты магутным сяйбітам.

Аднак не закопвацца Танзіліі ў сваім горы адна-аднэй. Хоць сялянкі з суседняй вёскі былі ёй чужымі па веры, але затое блізкімі, як кабеты. Толькі яны зразумеюць яе.

З сваімі равесьніцамі Танзілія часта сустракалася. Яна ім скардзілася на свой лёс. Яны пацяшалі яе:

— Кінь, дурненькая, наракаць! Паглядзі на нас, да чаго мы парабіліся: дзеці ў нас здароўе павымаюць-высмактваюць. А ты—як тая паненка. Ніводнай маршчынкі на твары. Кроў пераліваецца сьвяжуткая. Не татарачка—а лялька! А колькі дакукі ад гэтых дзяцей, каб ты ведала! Жыцьця ад іх няма! Бач, мы з табою адналеткі, а выглядаем, як твае цёткі. Ды табе-ж куды лягіей, чым нам!

Аднак, Танзілія хацела мець і клопаты і старэць ад гэтых дзяцей.

— Хоць-бы мне хлопчыка... аднаго...—жалілася яна.

Пры гэтым у вясковых кабет ранейшую спагаду замяняла зласьлівая кплівасьць:

— Хі-хі-хі! Твой Мунька, як хлопчык, галыш, піскліві і сьмешны. У магілу ён хлопчыкам ляжа, хі-хі-хі!

Танзілія касіла злосныя вочы і адыходзіла ад баб.

У каго знайсьці падтрыманьне?

Зайздросьціць яна нават жабрачцы Зосі, што ў вёсцы ў старой лазьні дзеўкай жыве:

Мужа ня мае, а штогод дзіцё родзіць...

Зося мае пяць штук дзяцей. Яны, праўда, „самасейкі“—бязбацькаўцы, але затое ёсьць сям'я. Хоць есьці няма чаго, а Зосіны дзеці здаравейшыя за ўсіх вясковых. Нібы мёд і малако з неба на іх капае.

---

Танзілія топіцца ў гэтым нездаволеным мацярынскім пачуцьці, якое сьцісквае яе сэрца, кружыць галаву і кладзе пастаянны цяжар на думкі. Думкі варожаць яе, даводзяць да хвараблівасьці, не даюць супакою.

Яна ходзіць у вёску спэцыяльна, каб глядзець на маленькіх дзяцей, каб гэтым яшчэ болей торгаць і тармашыць свае раны.

Маткі пужаюцца і хаваюць ад яе малых, баючыся „ўрокаў“.

— Утаропіць у дзіцянё чорныя вочы татарскія, ажно млосьць бярэ...

Думкі аб хлопчыку ня выходзяць з галавы Танзіліі.

І малюецца ёй у выабражэньні маленечкі хлопчык. Голенькі, ружовенькі, кругленькі. Валаскі на галоўцы чорненькія, гладзенькія. Носік цененькі. Вочкі—чорныя вугольчыкі. Ручкі і ножкі пухленькія, з ямачкамі на суставах. Аддае ад яго параным малаком. Таўчэцца каля грудзей,

як малое шчанятка. Цёплымі, кволымі губкамі сасе і сасе. Упіваецца так моцна, з такім імпэтам, ажно грэх адрываць яго ад сябе. Ды навошта яго адрываць, калі ў яе столькі соку жыцьця, што на некалькі дзяцей хопіць.

І туліць, і ціскае да свайго сэрца малюсенькую істотку—жэўжыка-татарчонка. А сэрца калоціцца-калоціцца, і ўся яна таець ад шчасьця, нібы васковая сьвечка ад агня. Паложыць на падушцы дзіцё, зблізку палюбуецца, адыйдзе, здалёку гляне. Дзіцё пачынае нешта шамкаць губкамі, як бяззубы дзядок. Вядзе на сваёй мове незразумелую гутарку-бяседу. Схваціць ножкі ручкамі, да губ прыцягне, каб пасмактаць, як медзьвянёнак лапу сваю. І жартаўліва, бяз сьлёз, плача-пішчыць, як ваўчанё. Яна ткне яму свой палец у ручку. Ён шчэміць палец, ажно павісьне дзіцё, як яна пацягне руку ўверх. Хлопчык прырастае да матчынага пальца, як п'явачка. Здаравёханькі!

І Танзілія гаворыць да яго на яго-ж дзіцячай мове картавыя дзіцячыя слоўцы:

— Мая зюзінька... Мая бульбатка... мой дзіньдзю... Латанькі... Латанькі... няў... няў...

Толькі ласкавыя словы мае Танзілія для свайго хлопчыка. Яна сыпіць іх направа і налева, як драбнюткія пэрлы. Увесь сьвет яна малюе дробненькі для дзеткі. Сам Алах даецца яму, як цацачка.

Вось падхопіць яна сынка, трымае высока над галавой і кажа:

— Вялікі... Вялікі...

І, здаецца, нічога няма ў гэтых ласкавых пакалечаных словах—ніякага сэнсу. Але ўсё ў іх ёсьць—увесь магутны інстынкт жыцьця. Яны для радзіцелькі саладзей за дзявочую песьню, за пястоту каханага. У іх захована адвечнасьць, як сонца ў саку сьпелай сунічкі; у іх—вялікая пяшчотнасьць жыцьця, як у маткі-авечкі, што ліжа сваіх малютак-ягнятак цёплым ружовым языком; як у гусі, што крыльлем цёплым затуляе сямейку сваю—купку кругленькіх, жаўтаватых пуховых клёцак.

---

Прачнецца Танзілія ад мар салодкіх—пуста вакол і нудна...

Часам Зося ей нешта вельмі цікавае і патаемнае на вуха шапаціць. Адскаквае Танзілія, палохаецца, чырванее і кажа:

— Гэта-ж грэх, вялікі грэх... Мунька ў магілу мяне ўвагоніць разам з дзіцёнкам маім.

— Ха-ха-ха!—сьмяецца галодная Зося сытым сьмехам,—ха-ха-ха!

Блішчаць яе гульлівыя вочы. Кусткі маршчынак вакол іх глыбеюць. Пажоўклым блескам мільгаюць яе рэдкія, даўгаватыя зубы.

— Ха-ха-ха! Хадзі яшчэ нешта на вуха шапну!

— Шу-шу-шу! Шу-шу-шу!—шэпча Зося і жмурыцца, як кот; хітравясёлыя вочы яе брызгаюць блакітнымі іскрамі. Танзілія палохаецца, адскаквае, але вуха само цягнецца да Зосіных губ...

Надта ўжо вабнае Зося гавора. Пячэцца твар Танзіліі ад гэтых слоў, соладзь праймае ўсё цела. Вуха гарыць, як-бы накальваецца на агні.

— Дурненькая! Твой Мунька і ведаць ня будзе. Падумае, што яго роднае дзіця.

— Ідзі да д'ябла!—злуецца Танзілія. Губы яе дрыжаць, як макавыя лісткі. Яна адскаквае ад Зосі.

---

Танзілія спалохалася Зосіных слоў не дзеля таго, што яны неспадзяваныя, новыя, але ў іх яна якраз пачула водгаласак сваіх уласных думак. У Зосіных словах яна якраз знайшла пацьвярджэньне і падтакваньне сваіх уласных захаваных лятуценьняў. Зося толькі як-бы выцягнула іх наверх з глыбокага дна Танзілінага сэрца; яна даўно ў сэрцы сваім парашыла так рабіць, толькі Зося сваім шушуканьнем на вуха ўскорыла гэта на некалькі тыдняў, а можа нават і месяцаў. Інстынкт маткі быў у Танзіліі мацней за прадстаўленьне аб граху, за небясьпеку з боку мужа.

Значыць, мары яе спраўдзяцца. Яна будзе мець дзіцё.

Гарачыя іскры пранікалі ўсё яе цела, апалілі яе кроў агнём, спапялілі яе сум і вечны адчай.

Танзілія як-бы нанова на сьвет нарадзілася. У вачох зьявілася пэўнасьць. Губы сьціснуліся ад нейкай цьвёрдай рашучасьці, яны прырасьлі да зубоў, і ад іх зьверху астаўся толькі цененькі чырвоны шнурок, бы разрэз вострым нажом. Пульхлыя пальцы яе болей упартымі зрабіліся. У паходцы і ў рухах зьявілася напорыстасьць, як-бы з кожным крокам сваім яна ўпіраецца ў нейкае нявідочнае палатно, якое прабівае грудзьмі, сабою.

Ад аднэй толькі рашучасьці і пэўнасьці, што ў яе будзе дзіцё, усё вакол Танзіліі прыняла іншы выгляд і воблік. І хату, і людзей, паляну і лес яна акрапіла колерамі сваіх захаваных думак і настрояў. Усё перад ёю выглядала пановаму, паінакшаму. Танзіліі здавалася, што раптам ні з таго, ні з сяго сьвет перад ёю зьмяніўся, бо яна пачала глядзець на яго іншымі вачыма.

Да мужа падыходзіла з надзвычайнай спакорлівасьцю, уважлівасьцю і чуласьцю. Гэта ня быў страх і затуманеньне вачэй перад будучым праступкам, але проста жаночыя хітрыкі, якія самі сабою выплылі цяпер наверх. Яна сама гэтага мо' не разумела.

Каб здавольваць Муньку, яна пачала болей пільна і старанна выконваць сваю ролю пры гасьцёх у сэнсе прываблiваньня сваёй асобай.

Мунька быў вельмі здаволены вялікай пераменай у сваёй жонкі. Кончыліся сваркі і страшункі, што пойдзе скардзіцца на яго ў сельсавет.

Танзіліі трэба было заслужыць у мужа даверра ў тым, што яна клапаціцца аб яго інтарэсах, што яна стараецца сваёй кемнасьцю і спрытам павялічыць іх багацьце. Ёй трэба было, каб муж, даўяраючы ёй, як

найменей за ёю сачыў. Яна выконвала ролю прыгожай гаспадыні перад гасьцьмі дасканала: ні замала, ні замнога. Усё было ў меру. Муж ня мог пакрыўдзіцца, што Танзілія захопліваецца шчыра кім-колечы з гасьцей, якіх яна, аднак, трымала ў вечным агні сваёй прыгожай постаці і твару. Госьці заказвалі бутэльку за бутэлькай. Гандаль ішоў добра. У хаце быў рай.

Так цягнулася некалькі дзён, аж пакуль Мунька зусім кінуў на яе ўсю справу ў хаце, а сам клапаціўся на дзядзінцы каля будынкаў, альбо ў лесе ў сакрэтным месцы самагонку гнаў.

---

Сам лёс падсунуў Танзіліі ролю прывабнай гаспадыні. Тут ёй якраз і месца падшукаць „яго“—ад каго яна павінна стаць маткай. Выбар вялікі. Розныя людзі бываюць штодня—і сяляне сярэдніх гадоў, і маладыя дзяцюкі, прыгожыя, брыдкія і так сабе мужчыны.

Якім павінен быць „той“, хто дасьць жыцьцё яе будучаму дзіцяці?

Гэтага запытаньня Танзілія сабе раней не задавала. Яно вылезла раптам, само сабою. Нібы кабета ступіла нагой у ваду, якая абрызгала ёй твар. Спачатку ёй здавалася, што „ім“ можа быць кожны, хто толькі да гэтага мае здольнасьць... кожны, хто ў гэтым выпадку зьяўляецца супрацівалегласьцю яе мужу. А гэтакім мог быць бадай любы з вясковых гасьцей. Аднак, ад гэткай думкі ёй неяк агідна зрабілася. Не! Так ня можа быць, ня можа быць!

Танзілія ўздрыганулася ўсім целам ад такой магчымасьці.

— Дык якім-жа павінен „ён“ быць?

Гэтае пытаньне не давала ей спаць па начох. За Муньку яна выйшла замуж не па свайму ўласнаму выбару, а па загаду бацькоў. Мунька ёй не падабаўся. Многа сьлёз яна пралівала, але нічога не памагала. Пасьля вясельля ўгаварвала сама сябе, што так павінна быць.

Прызвычаілася.

Але цяпер выбар належыць ад яе самой, ад уласнай волі. Тут на дапамогу вярнуліся, як мілыя госьці, мары яе дзявочых гадоў. Яны былі ўжо зацягнуліся туманам забыцьця, але Танзілія дзьмухнула гэтае забыцьцё, адкінула заслону,—і дзявочыя думкі-лятуценьні ўваскросьлі перад ёю, як-бы толькі нарадзіліся на сьвет.

Ды сапраўды, яна яшчэ дзяўчына...

Часта босымі нагамі яна душыла жорсткі жвір на дарозе, як хадзіла па справах у суседнюю вёску. Думала-думала:

„Якім павінен „ён“ быць?“

Каб выклікаць „яго“ постаць, яна засьпявала самую замілаваную дзявочую песьню, якую навучылася ад сялянскіх дзяўчат:

Ой пайду я лугам-лугам,
Дзе мой мілы арэ плугам...

Пошчакі яе голасу сыпаліся па лесе. Быў гарачы дзень, вялікая сьпякота. Сонца стаяла румяным блінам сярод неба. Пякло шыю, лоб, а ва ўсім целе расьцякалася салодкая млявасьць ад свайго ўласнага голасу, які зьвінеў вакол і насіў Танзілію на нейкіх нявідочных крыльлях увысь, у празрыстыя бязбрэжніцы-блакіты.

Жыцьцё ў лесе кіпела—ад маленькай кузуркі да вялікшага сталетняга дубу. І як шанавала Танзілія гэтае жыцьцё! Па дарозе старалася не стаптаць ніводнай былінкі, не наступаць на якую мурашку ці на закарузлы грыбок. А ў хвалях песьні не давала ёй супакою пытаньне:

— Якім павінен „ён“ быць?

У паветры мітусіліся рознакаляровыя матылькі, залацістыя мушкі. Пахі розных траў і кветак зьмяшаліся ў нейкае хмельнае пітво, якім было напоўнена ўсё паветра. Над Танзіліяй нізка над галавой кружыліся птушкі. У сьветла-сінім паветры іхнія скрыдлачкі так ярка вызначаліся, што можна было пералічаць кожную пярынку.

— Якім павінен „ён“ быць?

Раптам ад гэтага запытаньня Танзіліі зрабілася надзвычайна лёгка і сьветла на душы.

Усё лепшае, чыстае і прыгожае, якое яна магла падабраць пад свой густ,—яна падабрала: і голас, і рост, і валасы, і вочы. Як-бы ўгледзіла „яго“ жывым перад сабою.

„Ён“ павінен быць такім, аб якім песьні складаюць, які прыносіць сонца ў жыцьці, ад якога боль асалодай здаецца.

„Ён“ павінен быць...

Мары Танзіліі пачалі мітусіцца, як матылькі, як птушкі.

„Ён“ павінен быць...

Танзілія надзяліла свайго выбраньніка-гэроя ўсімі яскравымі колерамі сваіх імкненьняў, усім вясновым і прамяністым, што палыхае ў яе душы, у яе выабражэньні.

Яна вышла на пасеку, дзе залацілася жытняе поле, перасыпанае сінімі вочкамі васількоў. Гудзелі пчолкі. Адчыніўся перад вачыма вялікі простор, які, пасьля густога лесу, здаваўся яшчэ больш вялікім.

Дзе-ні-дзе водаль хадзілі па справах вяскоўцы. Пры людзях мары Танзіліны як-бы скомкаліся і патухлі.

Яна ўспомніла свайго мужа і вярнулася да звычайнага стану. Але якраз тут яна дала адказ на сваё запытаньне:

— Гэта будзе „той“, хто мне спадабаецца!

Такі просты адказ...

---

Так яно і сталася.

І дзіўна, што пасьля „гэтага“ „ён“ Танзілію нават болей ня цікавіў. Усе яе мары аб „ім“ зусім непатрэбны былі. Яе болей усяго цікавіла будучае дзіцё.

У „тыя“ дні яна была надзвычайна прыхільна да свайго мужа. Дарыла яму такія ласкі, якіх ён ад яе раней ніколі ня меў. Яна панекалькі разоў на дзень нашэптывала, што зацяжарыла. Адчувае ўжо напэўна, што будзе дзіцё.

Пад яе вачыма закрасавалі глыбокія сінія кругі—першыя за ўвесь час яе доўгага дзявоцтва. Першыя маршчынкі шчасьця пляліся ў вуглох яе вачэй цененькімі нітачкамі. Нейкая цьмянасьць зьявілася на твары. Зышла з яго чырвоная фарба. Зрэнкі срабрыстай расою завалакліся...

Зрабілася Танзілія пераборлівай у ядзе, капрызнай і задумёнай. Таемная здаволенасьць лунала над ёю ціхім кажанам.

Яна лічыла дні, тыдні, месяцы...

У „той“ дзень і карова іхняя палявала. Танзілія добра памятае. Каб быць яшчэ болей пэўнай, яна вугалем на сьцяне адзначала пасачкамі месяцы. З кожным пасачкам на сьцяне Танзілія адчувала, што ўнутры ў яе ўсё болей варухаецца, трапечыцца і таўчэцца жывая істота. Яе рухі парабіліся з кожным месяцам болей асьцярожнымі, болей паважнымі, як-бы яна насіла паўнюткі келіх шчасьця, які баялася праліваць.

Танзілія часта глядзела на сваю карову. Тая ўсё болей круглела. Тады кабета распорвала некалькі фальбонак сваёй спадніцы.

А суседкі з кожным месяцам на яе больш жартаўліва пазіралі, болей шчыра шапталіся і мацней галовамі ківалі. Кплівасьць да яе прапала ў іх. Давалі ёй розныя бабскія парады. Танзілія стала ім шмат бліжэйшай...

Бадай кожную ноч Танзілія сьніла, што трымае на руках дзіцё-хлопчыка. Ён на яе вачох расьце-расьце, нібы ў казцы, вырастае аж да самага неба.

Вялікі, вялікі...

Аднак, яна трымае яго ў руках і ня дзівіцца, што ён такі лёгкі, не паводле росту.

Удзень, у вольны час Танзілія рыхтавала пялёнкі, чэпчыкі, кашулькі. А яе муж Мунька калыску майстраваў для свайго насьледнічка. Ён быў пэўны, што гэта будзе сын. Мунька стараўся гаварыць басам, цёр сабе двума пальцамі пад носам, нібы вусы круціў. Вельмі паважна трымаўся—бацька!

---

У гэтых клопатах Танзілія не прыкмячала, як ішоў час. Месяц за месяцам імчаліся прытка, нібы разгарачаныя коні, плылі ў зажмураныя далі, каб не вяртацца ніколі адтуль.

З кожным месяцам сонца апускалася ніжэй з сярэдзіны неба, рабіла меншы круг над прасторай. Адзьвінелі сярпы на полі. Азімая рунь выглядала адцьвіўшым аксамітам, бяз сьвежасьці і паху. Над лесам вандравалі вятры, бурымі хвастамі сьцёбалі па галінах, гналі-гойдалі вя-

лізныя хмары—шэрыя, мутныя, бяльмістыя. Восень плакала, скавытала ў лесе—няпрытульным, парадзеўшым.

Не заўважыла Танзілія, як наступіла зіма—белавокая, грозная, якая ляскала зубамі марозу, грызла абледзянелыя пні, тулілася да сьнегу, качалася па ім няпрытомная. Мяцеліцы ёй косы сівыя расплялі і заплялі.

А месяц глядзеў у хату праз вакно, абкружаны пажоўклым калясом. У цёмным бяздоньні высі зоркі здаваліся буйнымі, агністымі бульбінамі, пераліваліся сінімі праменьнямі і кідалі-сявалі на скрыпучы прытульны сьнег залатых і сініх сьветлячкоў. Выцьцё ваўкоў плыло ў абветраныя далі капэляй голаду, ахоплівала жудою хутар, які загубіўся ў лесе, як сьляпы вандроўнік у вялізнай белай кучме на дарозе.

Танзілія была занята сабою. Пабрыдчэла. Вочы страцілі блеск. Твар пакрыўся жоўтымі плямамі. Губы паблеклі, пабляднелі, сьцёрся малінавы колер.

Да яе прыходзілі часта бабы з блізкай вёскі. Шапталіся, радзілі, як і што. Часта прыходзіла вядомая ў ваколіцы бабка-павітуха Тэкля,— старая бабуля з выглядам вядзьмаркі, якую малявалі ў ранейшыя часы ў дзіцячых казках.

Мунька звольніў жонку ад многіх гаспадарчых абавязкаў. Яна толькі ведала печ. Цікава, што Танзілія бадай ніколі не ўспамінала аб „ім“—сваім выбраньніку, які зьяўляўся прыемным вінавайцам усіх яе новых клопатаў і трывог.

Гэта быў сінявокі вясковы дзяцюк Васіль.

У лесе...

На пярыне пуховага моху... Папаратнік лез у вочы—шчыкатаў шыю...

У гарачы летні дзень, калі муж паехаў у млын.

Васіль быў ёй цяпер непатрэбен. Чужы. Ён мільгнуў перад яе вачыма адзін толькі раз, апёк яе сонцам і зьнік.

З Мунькай жарты малыя.

Мэты сваёй Танзілія дасягнула—дзіцё будзе. А „яго“ выкінула з сваёй памяці. Думаць аб „ім“ было жудасна.

Бо тады ўспаміналіся ёй „яго“ блакітныя вочы. Яны бяз гукаў кідалі ёй у твар звычны малады сьмех. Ёй жудасна было глядзець у яго вочы. Яна ў іх тапілася, як у блакітным багне.

Бо тады перад яе вачыма квітнеў, вырастаў „грэх“, які вякамі гадаваўся ў веры яе прадзедаў дзікай яблыняй на пажоўклай пустэчы старасьвецкага карану. Духоўнік-мулла часта паліваў гэту дзічку даждждом Магамэтавых казаньняў. Строгі законы Алаха: моцны, бы сьмерць, бы каханьне. Грэх караецца сьмерцю.

Беларуская зямля зьняла з татарак чадру. Малітвы, пераложаныя ўжо даўно з арабскай на беларускую мову, як-бы зьмякчалі строгасьць

кары, але ўяўленьне грэху, высасанае Танзіліяй малаком маткі, было ёй страшна.

У такія хвіліны яна баялася глядзець мужу ў вочы. Ёй здавалася, што па вачох даведаецца. Яна старалася думаць толькі аб сваім будучым хлопчыку (яна была пэўна, што будзе хлопчык) і выкідала з галавы агідную здань грэху. Таксама супакойвала сябе тым, што Мунька, калі і даведаецца, дык пабаіцца яе чапаць—сельсавет не дапусьціць.

---

Радзіла яна пад вясну.

Хлопчык.

Яна вельмі аслабела ад цяжкіх радоў, якія цягнуліся цэлыя суткі.

Бабка-павітуха паднесла хлопчыка „бацьку".

Мунька ў вялікай радасьці кінуўся да дзіцяці. Доўга ўзіраўся. Цень нездаволенасьці прабег па яго твары. Потым з-пад яго насупленых броваў сыпнуліся, зайгралі дзьве чорныя маланкі ў бок парадзіхі. Яна ляжала спацеўшая, змучаная, з упаўшымі зачыненымі вачыма. У канцы Мунька з пагрозай зморшчыў лоб. Адрывіста адскочыў да вакна.

Гнеў мужа на зямлі, як гнеў Алаха ў нябёсах.

У Манькі зьявілася падазронасьць: у дзіцяці белыя валасы і сьветлыя вочы. Востры, накалены на агні дрот пранізаў раптам яго сэрца. Ен пазіраў праз вакно на сварлівых вераб'ёў, якія падымалі садом у талым пажоўклым сьнезе, глядзеў—і ня бачыў іх. Думкі гарачымі вугольлямі перасыпаліся ў яго мазгох.

Ён пачаў у памяці перабіраць усіх сваякоў з свайго боку, з боку жонкі. Здаецца, ніводнага няма з сьветлымі вачыма і русымі валасамі.

Няўжо-ж Танзілія... Пяць год дзяцей ня было, а раптам...

Думкі пырскалі, як іскры, разрывалі лоб.

Мунька сьціснуў зубы так моцна, ажно яны заскрыпелі:

— Во, сьцерва... Ня можа быць. Хіба памыляюся. Можа пасьля ў дзіцяці пацямнеюць і валасы і вочы.

Ён успомніў, што жонка ўвесь час была такой ласкавай да яго, прыпомніў тую ноч улетку, калі...

Але чаму пяць год дзяцей ня было? Чаму на шосты? Ці я цяпер іншым стаў? Алах раптам зьлітаваўся?

Мунька выскачыў на двор, бо ў хаце яму душна зрабілася. Ён баяўся за сябе, каб, чаго добрага, з гарачкі жонку не забіў.

Трэба раней даведацца...

Ён не заўважыў, што ўвесь час дзьве пары вачэй пільна сачылі за ім: жонкі і бабкі. Першая глядзела з вялікай апаскай, бо сэрцам адчувала падазронасьць мужа, а бабка дагадвалася. Хітры аганёк мігацеў у яе старчых вачох.

Бабка палажыла дзіцё да маткі і са спрытам, не паводле яе ўзросту, падскочыла да вакна паглядзець, куды пайшоў ґаспадар.

Ён ішоў дарогай у бок лесу.

Танзілія нахілілася над дзіцём і пачала ў яго ўзірацца. Тут толькі яна здагадалася, чаму Мунька так выскачыў з хаты. Яна раней зусім не падумала аб тым, што дзіцё можа быць падобным да бацькі і гэта можа выдаць мужу затаёны сакрэт. Холад пранізаў яе косьці. Але страху яна як-бы і ня мела. Толькі ў грудзёх пуста зрабілася. Дух захоплівала.

Танзілія прытуліла дзіцё да сваіх грудзей, адчувала ўсімі нэрвамі яго цёплае маленькае цела, і ў яе пачалі расьці сілы... Во, мацнее з кожнай хвілінай. Яна ўпэўнілася, што па-за межамі ўчыненага ёю грэху знаходзіцца і яе правата.

Яна інačай зрабіць не магла.

Гэта правата была няяснай перад ёю самой. Танзілія словамі не магла-б сказаць аб гэтым, але адчувала ўсёй істотай, што ёй няма чаго сароміцца і баяцца. Яна адбароніць ад Munькі і сябе і дзіцё.

Ваўчыха таксама сьмела бароніць сваіх дзяцей ад ворагаў.

І гэта закон Алаха.

Пад словам „Алах“ Танзілія зразумела магутныя законы Прыроды.

Як бабка ні ўгаварвала яе, але Танзілія паднялася з ложка, апранулася, умылася. У яе вачох гарэў халодны агонь. Часта яна падыходзіла да дзіцяці, якое капашылася, затуленае ў падушцы, пасьля аглядала хату, нібы бачыць яе ўпяршыню, і прынялася парадкаваць. Сякеру яна вынесла ў сенцы, схавала пад кублам. Потым села на ложку і пачала прыслухоўвацца, мо‘ пачуе тупат ног свайго мужа.

Слых быў праз меру навостраны. Здаецца, ня толькі крокі чалавека, але і шастаньне-перазвоны галін у лесе даходзяць да яе вушэй.

Яна чакала прыходу мужа, і абразы адзін аднаго страшней маляваліся перад яе вачыма. Яна жыва прадстаўляла кожны рух Munькі, блеск яго вачэй; як кінецца шукаць сякеру, каб забіць дзіцё і яе...

Каб ужо толькі хутчэй прышоў.

Яшчэ пабачым—хто каго. Часта выходзіла на дзядзінец. Ад чаканьня дрыж прабягала па схудалых скіўцах. Ад прыслухоўваньня зьвінела ў вушох. Сьвежы пах лесу шчыкатаў ноздры.

Думала праз бабку дзіцё на вёску адаслаць. Але не—будзе вялікі сорам.

На дварэ было спакойна, як-бы нічога не зьмянілася. Ішла гадзіна за гадзінай. Плыла марудна, як трэска ў стаячай вадзе. Кожная гадзіна здавалася Танзіліі годам. Бабку яна адаслала да заўтра ў вёску, бо не хацела сьведак.

Каб ужо хутчэй...

Цені даўжэлі, выцягваліся на дарозе. Сонца савалася на лес. Пачаў крапчэць марозік. Ільдзяныя сасулькі павісьлі, сьлізгаліся ўніз з страхі,

нібы шкляныя кіёчкі. Ценкай плеўкай з срыбных валокнаў зацягнуліся лужыны на дарозе. Марозік атуліў іх дрымою. З усіх шчылін лесу—з яго адвечных патаемнікаў, з-пад заслонаў цемравых ценяў краўся да хаты ні то страх, ні то злачын, лез, як злодзей, і шчырыў свае вострыя клыкі. Выстаўляў тысячы ільдзяных лап.

Каб ужо хутчэй...

---

Мунька вярнуўся толькі вечарам.

Досыць было ім сустрэцца вачыма, каб ведаць зараз-жа думкі адзін аднаго, каб выявіць, што кожны хоча зрабіць. Словы былі непатрэбны.

Захапіла барацьба: хто каму падасца?

Так яно і сталася.

Мунька пачаў бяз слоў шукаць сякеру. Яна падскочыла да ложка, каб быць бліжэй да дзіцяці.

Як яны ўрэпіліся адзін у аднаго, як спляліся разам,—ніхто з іх ня ведае.

Іх сашчаміла сіла нянавісьці. Яны рычэлі, як зьвяры, кусаліся-грызьліся. Ніводны не падаваўся.

Абодва акрываўленыя ачнуліся толькі тады, калі пад імі нешта запішчэла і змоўкла...

— Дзіцё, дзіцё!—дзікім голасам крыкнула Танзілія.

Дзіцё скацілася з ложку на падлогу пасінеўшае, задушанае. У часе барацьбы навалiліся на ложка—на дзіцё.

Абодва ў адзін міг спынілі барацьбу. Дзікі крык страшнага адчаю вырваўся з грудзей кабеты. Яна падняла дзіцё.

У гэты самы час Мунька схваціў вяроўку і крыкнуў:

— Кінь, сьцерва, дзіцё, бо ўсё роўна сьвіньням аддам!

Пры гэтым ён вырваў з яе рук яшчэ цёплы трупік і храснуў ім аб дзьверы. На дзьвярох асталася чырвоная, мокрая пляма, а трупік шлёпнуўся на падлогу.

Танзілія зарагатала такім дзікім сьмехам, ад якога валасы дыбам падняліся ў Мунькі на галаве і мурашкі пабеглі па сьпіне. Ён цяжка сапеў, са страхам пазіраючы на жонку, якая марматала.

— Глядзі, ты майму сыночку носік расквасіў!

Пры гэтым Танзілія схваціла нож са стала і кінулася на мужа, але сілы яе ўжо аслаблі, і яму лёгка ўдалася зьвязаць яе вяроўкай і палажыць на ложка.

У хаце раптам зрабілася ціха.

З запэцканым у крыві тварам Мунька хадзіў па хаце і наводзіў парадкі. Трупік яшчэ ляжаў на падлозе. Мунька чамусьці накінуў на яго хустку жонкі і сеў пры стале.

Танзілія на ложку зьвязаная як-бы дрымала, ці мо' так вочы былі зажмураны.

Доўга думаў Мунька, ад каго-б магло быць дзіцё. Пералічаў усіх суседзяў. Нарэшце, адзервянеў седзячы, падлажыў кажух пад галаву і прылёг. А поўначы заснуў. Спаў моцна.

---

Прачнуўся Мунька ўжо пад дзень. Газьніца пагасла. Сіні водблеск раніцы ўліваўся ў хату дрыжачымі хвалямі. Учарашняе здавалася яму нейкім жудасным сном, а ня праўдай. Хацеў падняцца, але рукі і ногі як-бы акамянелі. Як пачаў варухацца, падышла да яго на цыпачках жонка, шэпчучы:

— Ціха ты, дзіцё разбудзіш...

„Як? Яна разьвязалася?!“ зьдзівіўся Мунька. Тут толькі ён агледзіўся, што ляжыць зьвязаны моцна вяроўкай па руках і нагах.

— Танзілія, разьвяжы!—крыкнуў ён не сваім голасам.

— Ой, ты, разбойнік, ня крычы...—у роспачы малілася Танзілія.

Мунька пачаў тузгацца на лаве з усіх сіл.

— Ня будзі сынка!—прасіла літасьці Танзілія.—А то пайду з ім да Васіля, да бацькі яго.

— Да Васіля!!—прахрыпеў, як зарэзаны, Мунька,—да Васіля!..

— Маўчы, маўчы, бо зараз малы плакаць пачне...—лемантавала грудным шэптам Танзілія.

Мунька змоўк. Ён раптам уцяміў сваё становішча. Мабыць, слаба зьвязаў яе. Яна разьвязалася і яго абкруціла гэтай самай вяроўкай. Ен сашчаміў зубы, каб ня ляскаць імі ад жудаснага страху. Кінуў вачыма па бакох. Нож ляжыць на стале... Што значыць ашалеўшай перарэзаць яму горла цяпер. Ён заплюснуў вочы, каб яна думала, што сьпіць, і ўкрадкам пазіраў, што яна будзе рабіць далей.

У хаце яшчэ болей разьвіднялася.

Танзілія абкруціла трупік хусткай, прытуліла да грудзей, шэпчучы пры гэтым такім нежна-кволым голасам, ад якога ў грудзёх у Муньκі нешта гарачым комам падлезла:

— Мой каток... Мая плотачка... Мая птушачка...

Потым падняла трупік уверх і пяшчотным голасам, ласкавай усьмешкай казала:

— Высока, высока расьці будзеш...

Адчыніла аднэй рукой дзьверы і вышла з хаты.

Мунька пачаў зноў тузгацца, тармашыцца. Вяроўка да крыві рэзала яму рукі, аднак яму ўдалося прыпадняцца да вакна.

Шэрань апрануў дрэвы ў белы лябяжы пух. Чорнымі плямінамі ў нябеснай сіняве вызначаліся вароны. Яны цэлымі плоймамі луналі над лесам, шырока растапырыўшы крыльлі.

Танзілія ішла дарогай, хістаючыся ад слабасьці, асьцярожна тулячы да грудзей сваё няжывое дзіцё, абкручанае хусткай.

Пад яе нагамі зьвінеў, як шкло, цененькі лядок.

7-8-XI—1926 г. Менск.

# ПЫТАНЬНІ

*(Апавяданьне)*

**Р. Мурашка**

Гудуць гудкі. Раніцаю мяккаю, спакойнаю, пахучаю дрымоты перасільвае рабочы—жвава бяжыць да гуты.

Вясна. Прырода вабіць. Лашчыць жыцьцё.

Таўшчэзныя сьцены гуты. Тут іншае жыцьцё. Таксама вабіць яно, таксама лашчыць.

Дый як-жа. Стаў дарагі тут кожны кут, варстат, малаток, шрубка, прывадны пас са сваім рытмічным шумам-музыкаю. І галасы—маладыя, дужыя. Дзе—сьпеву звон, дзе—прыказкі меткай жала гострае, але бясскрыўднае. Гойсае гоман, сьмех бурчыць, рытмікай шумаў спавіваецца. Уцягае ў сябе ўсё жывое.

Тут новае жыцьцё. Яно сваёй прыгожай магутнасьцю, блізкасьцю родную істоту чалавека прыцягло, пераплялo цесна сабою. Чалавек ахвотна, прыемна адчувае, што гэта неабходнасьцю ўжо стала для яго—іначай ён ня мог-бы жыць. Усяго істота пераплялася цесна з малатком і з шрубкаю.

Гэта далёка і дзіка для тых, каму незнаёма радасьць рабочага, для тых, хто пражыве і ні каплі не зразумее сьвету ўнутранога, што нарадзілі і ўзгадавалі варстаты, прывады, клапатлівасьць вакол, звон-шум-вясёласьць.

З раніцы і да вечара гудкі гудуць і з раніцы да вечара пярэсьціцца вуліца.

На вуліцы—павольныя рухі, прагны погляд, акругленасьць формаў і нудна-цягучыя словы чаканьня.

Экзамэн здаюць.

Старога ўмоўнасьці забыліся—зарасьлі быльлём. Успаміны з таго зьліліся з новым, адчулі пад нагамі глебу нейкую і зноў...

Вылазяць.

Нудна-цягучае.

Экзамэн здаюць.

З раніцы і да вечара, покуль панурнасьць ня ляжа вакол, покуль пад цень свой вабіць не пачне.

Спосаб даюць. Хітра-дыплёматычна, какетліва-ўтончана.

Гудкі зноў—сустракаюць вечар.

Дзелавым рабочым крокам урэзваецца ў вуліцу чорным і цьвёрдым, запэцканым і бадзёрым кучка за кучкай.

Вясёла, шумна пасвойму.

На момант губляецца вуліца тая, на нейкі час пужліва туліцца да сьцен.

Але часам...

Рабочы... Галава на грудзі хіліцца. Вочы быццам зямлю працінаюць.

Што з ім?

І з вясёласьцю побач прытуляецца часіна ліхая, з унутраным спакоем і моцаю колектыву побач жыць можа журба. Асабовая, свая...

...Паспрабуйце пранікнуць у нутро яго, і перад вамі разгорнецца аповесьць будзёншчыны цяжкай рабочага.

У кватэры яго куча дзяцей—драбней маку—гвалтуе, пішчыць.

Дзяціныя, дзяціныя часы!

Разам і радасьць, і гора, і сьмех. Ня кратае нават жоўты, паморшчаны матчын твар. Ляжыць на ложку, стогне-енчыць, ражок коўдры бярэ ў зубы, каб неасьцярожны енк ці ўздых не адгукнуўся часам у іх, у дзецях.

I

Прыходзіць муж.

Хатняе гора па пакойчыку параскідана. Сквяруцца галодныя дзеці, пабіўшыся за цацкі, на скаргу сыплюць к бацьку. Мяўкае кот. Няма навары. Стогне ціха жонка. Мае павялічыцца лік жыхароў кватэры і—паменшыцца яе плошча.

— Андрэй!—паклікала жонка.

А як падышоў да яе, сухое, палінялае,—загаманіла хуценька, нэрвова, нібы выкідаючы ўвесь боль, нібы яму паказваючы.

— Ня вытрываю... Гарыць у сярэдзіне...

— Вера, я адвязу цябе ў радзільны прытулак...

— Нашто?

— Трэба... Бясьпечней будзе, дый балець ня будзе так... Там-жа людзі спэцыяльна...

— Рабі, што хочаш...—стогнам працяглым, самлелым азвалася.

Колькі разоў даводзілася чуць яму гэтыя словы-стогны і, разам з тым, колькі разоў узрушаўся яго спакой і як балюча сьціскалася сэрца. І яшчэ больш яно балела тады, калі Андрэй бачыў, што гора й пакута не выклікалі злосьці ў сваёй ахвяры.

Ён не разумеў гэтага. Спрабаваў сабе часта растлумачыць гэткія паводзіны. Доўга і бяз жадных вынікаў крукам сядзеў над пытаньнем. Дарэмныя былі патугі—у кожным паасобным выпадку лішні раз ён пераконваўся ў чалавечай сваёй слабасьці.

І цёнгля так—хібы ў сваім і ў чужым жыцьці, часта нават дробныя, нязначныя, кранталі балючыя струны яго сэрца, давалі хваравіты настрой.

Сёньнешні дзень прыносіць новую спробу для яго цярплівасьці. Пасьля полудню на гуце грымотны звон прасекся на хвіліну немым крыкам болю. Малады стругальшчык-комсамолец неасьцярожна страціў упор і рухнуў галавой на пас. Са здаволеным гудам падхапіў пас сваю ахвяру і ў момант паднёс яе пад кола. Ня ссунуўся ўбок шырокі пас, не затрымалася сталёвае кола,—як арэх, трэснула галава, варстат запырскала крывёю і мазгамі.

...Андрэй быў сьведкам ціхага роспачнага гора старое маткі. Ні сьлёз, ні енкаў, нічога, што-б гукам выдала гэтае гора. Нікчэмную пакорлівасьць лёсу ўбачыў у ёй Андрэй.

Спакой адляцеў ад яго тады. Да самае кватэры праводзілі яго думкі...

Апошнія словы жонкі, абыякавасьць да свае хваробы больш ссунулі на вочы яго бровы, падлілі горкага масла ў бушуючы агонь думак.

Але, сьцяўшы сэрца, узяўся выпраўляць жонку. Каб дзеці адны не гвалтавалі, сунуў кожнаму па кавалку булкі.

На час нейкі мір і згода ў пакоі ўтварыліся. Прайшлі па калідоры на вуліцу енкі-стогны.

II

Даўно ўжо вярнуўся з радзільнага Андрэй. Калючы камяк стаяў у горле і падбухторваў усё на нешта.

Яму крыўдна было на сваё становішча, на самога сябе, на ўсіх людзей, на ўсё вакол. І ад гэтае крыўды калолася ў горле больш, і прагны погляд у цемрач узіраўся, нібы ў яе пытаўся якога адказу, рады.

Дзеці спалі. У пакоі было ціха. Сьціхала стукатня і шум на вуліцы.

А чым больш ціха рабілася на вуліцы і ў пакоі, тым большая бура ўздымалася ў сэрцы Андрэя.

Прыпёрся да вушака, і ў галаве думкі закруціліся, тыя думкі, якія прывялі яго дахаты з гуты. Часова і часткай яны перапыніліся былі выпраўляньнем жонкі. Цяпер, вызваліўшыся ад гэтага тормазу, яны адчулі сябе на волі. Напамянулася сёньнешняе здарэньне і ня так яно, як адносіны да яго маткі рабочага.

Здаецца, ні на нітачку яна яго не шкадавала. Толькі вочы глыбей захаваліся, ды старыя дзясны сьціснуліся, паклаўшы на шчокі глыбокія выразныя ямкі. Не, яна моцна шкадавала сына, так моцна, што яе сэрца закамянела з такога раптоўна-нечаканага гора. Таму ня было й сьлёз, бо хіба можа камень з сябе даць вільгаць. Поўнасьцю яна аддалася такому ціхаму і такому вялікаму гору. Бяз сьлёз, бяз скаргі на жыцьцё. Боязная падлегласьць лёсу.

Неабходным завяршэньнем думак устала перад ім слупам пытаньне: „Нашто? Нашто гэты боль? Нашто гэтае гора, нягоды?“

Ліхаманкава запрацавала думка.

„Узяць ранейшае... Гора ў сям'ю прыходзіла ад парадкаў. Хатняе гора зьяўлялася часткай таго ўціску... Малы заработак—голад у сям'і...

Хваробы... Часамі—сьмерць... Плач-сьлёзы. Цяпер у агуле няма таго, але паасобку... Чарната".

Думкі, як хлеб ацесьлівы, камячыліся, зьліпаліся, зьбіраліся ў кучу, а вывада, які-б асьвятліў цемру блытаньняў, ня было, бо ня было цэлага таго палатна думак, па якім-бы прышло вырашэньне.

І з таго, што вывад ня прышоў, што вырашэньня не знаходзілася, цяжка стала. У гэты момант яму здалося, што ён адчувае, як думкі працінаюць чэрап тоненькімі іглінкамі і адна за другою адплываюць у чорную пустату пакою.

Напружыў зрок і ўбачыў валасінкі ўва ўсіх бакох. Узіраўся пільней і бачыў, як яны падплывалі да сьцен, але...

„Што гэта?"

Нібы чуўся ціханькі звон. Валасінкі гінулі, а на месцы іх распаўзаліся і спаўзаліся туманныя плямы. Вось як-бы ледзь чутнае шорханьне ўлавіў слых, як-бы хто йшоў паўз сьцяну, баючыся прыкрануцца да яе, і нехаця ўсё-ж такі чапаў. Зрок кідаўся зноў к плямам, але замест іх страчаўся ўжо з людзьмі—з жывымі, з калекамі, з мерцьвякамі. Шолах і шорханьне напоўнілі пакой.

Гучная цішыня ў пакоі ўсталявалася.

Андрэю рабілася страшна. Здавалася ў пакоі было поўна лёгкіх, бы жывых, істот, якія перасоўваліся плынна з месца на месца. Цьмяныя рысы твараў іх сьвятлелі і вачавідка прымалі знаёмую яму выразнасьць. Дый самі яны былі даўно знаёмы Андрэю. Ён пачынаў дагадвацца, чаго яны тут. А тыя, як-бы згадаўшы яго думку, сталі набліжацца да яго, зыходзіцца ў ланцуг, шчыльнай грамадою наступаць.

Бяспомачнасьць ахапляла, а яны надбліжаліся, і шолах і шорханьне пераходзілі нібы ў звон зыкаў.

Вусны істотаў заварушыліся, і слых Андрэя выразна злавіў пагражаючае.

„Ну, вырашы! Ну, вырашы, калі ўзяўся разважаць".

Вырашыць ня было моцы і хацелася ўцячы куды-небудзь ад гэтых пытаньняў. Зірнуў на дзьверы і пахіснуўся.

Па калідоры на чатырох парах рук рухалася дамавіна. А ў ёй... Ды гэта-ж Іцка з фабрыкі, яго добры сябар, што памёр ад разрыву сэрца, калі яму адцяла машына абедзьве нагі. Але чаму ў яго застыгла на твары зьдзіўленьне палахлівае? Чаму яго жонка Соня, маладая, чарнавокая, прыгожая, з поўгадовым дзіцём на руках і з другім пухныром каля прыполу, ня плача? Куча суседзяў, блізкіх і знаёмых ідзе. Чаму яны ня плачуць? Мо' не шкадуюць, бо на твары лягла пакорлівасьць абыклая. Урэшце, і ён сам у форме нявыразнага пытальніка. Глядзіць на свае ногі, нібы крокі лічыць ці нібы думае—навошта чалавеку ногі.

„Чаму яны ня плачуць?" ледзь ня крыкнуў Андрэй і ў спалоху адступіў назад у глыб пакою.

Процэсія спынілася каля дзьвярэй. Няжывы Іцка глянуў, здалося, на яго адным вокам. А ў воку глыбіня цёмная, пустэча.

Жудаснасьць апанавала, і мароз прабег па сьпіне, калі дамавіна лёгка прасунулася ў дзьверы і паволі на яго накіравалася.

Кінуўся ўзад, падсьвядома напаткаў вакно і ўскочыў на ваконьнік.

А з усіх куткоў сьмела ўжо падступалі зноў ранейшыя пытаньні. Нахабна падступаючы, паказвалі пальцамі на Іцку і злосна-радасна казалі:

— Ну, вырашы!.. Ну, вырашы!..

Больш ня было магчымасьці трываць. Паветра не ставала для дыханьня, а на галаве ўставалі дыбам валасы.

Пхануў раму вакна і скочыў.

III

Андрэй ішоў; куды—ён не сказаў-бы гэтага.

Людзей на вуліцы было мала. Гэта заўважыў ён, калі паветра сьвежаватае яго галаву абвеяла. Можна было-б вярнуцца і дахаты. Думаць пачаў, якую недарэчнасьць ён спароў.

Але замест таго, каб завярнуцца і йсьці дахаты, ішоў уперад. У прагалках сьвятла ад вулічных ліхтароў ішоў бадзёра і бадзёра думаў, рашуча згаджаўся, якога дурня састроіў.

Бадзёрыя думкі былі датуль, пакуль сьвятло не пераходзіла ў цьмяную пляму цемры. Тады бадзёры крок зьмяняўся на самлелы, а месца рашучасьці заступала няўпэўненасьць, і ўспаміналўся чорны пакой. Жуда запаўзала ў нутро і рабілася нейк не па сабе.

Здавалася, што за ім ідзе нехта, ступае нячутна, украдкі, во зараз схопіць яго, і тады ён прапаў. Шпарка азіраўся ўзад. Нікога ня было. Але ня верыў самому сабе і дрыжачым поглядам абвадзіў плот, двары, уважліва на нейкую часіну спыняўся на брамах і пазіраў на цёмныя вокны. Знарок стараўся ісьці цьвёрда, моцна ставіў ногі і ўпэўніваў сябе, што ўсё гэта забабоны.

„Ну, хто тут нябачны можа ісьці за мною. Глупства“.

Наддаў больш груку чобатамі. А азірацца—быццам цягло што.

Адзін Андрэй нібы раздвоіўся, з аднаго два нібы зрабілася. Адзін грукацеў па тротуары чобатамі і азіраўся. А другі супакойваў сябе, упэўніваў, у забабоны ня верыў і ў той-жа час баяўся нечага, адчуваў ззаду сябе прысутнасьць некага, палохаўся варот і цёмных вакон. Адзін аднаму падначальваўся і адзін аднаму ня верыў.

Уперадзе, на працягу якіх крокаў сто, асьветлены яскрава кавалак вуліцы. Парашыў праверыць.

Увайшоўшы ў сьвятло, накіраваўся цераз вуліцу на другі бок. Наўскасякі праходзіў і глядзеў назад.

— Няма. Няма нікога, ніякага чорта.

І тут-жа сумненьне ахоплівала. Думалася, што той ці тыя добра бачаць, як ён азіраецца, і яны ўжо з другога боку. Азіраўся на той бок. І зноў сумненьне. Ён ня верыў, што так можна бачыць каго-небудзь. Азірнешся на адзін бок, а ён каля другога. Азірнуўся яшчэ ў левы бок, а рукою спрытна замахаў з правага. Нікога ня было, але сумненьні расьлі і павялічваліся і рабілася нейк ніякавата. Цяжкая пустата гнётам адчувалася ў сярэдзіне. Ня верылася ўжо і ў зрочнасьць воч.

Тады пусьціўся на апошнія хітрыкі. Пайшоў шыбка-шыбка. На сярэдзіне, ня спыняючыся, раптам перакруціўся на аднэй назе, выкінуўшы ў бакі рукі.

Наўкол нікога ня было. Безьлюдзьдзю чарнела вуліца. Маўчала. Адна—спагадлівая—была сьведкаю Андрэю. Глыбока захавала ў сабе ўсё, што бачыла і чула, захавае таксама і гэта—нікому ня скажа.

Ну, ня скажа, дык хай-бы хоць прагрукацела што-небудзь незразумелае, абы-якое, і разагнала паветраную зыбавіцу, ад якое затуманіла ў галаве Андрэя.

Маўчыць. Дый яе, вуліцы, гэта не датычыцца. Яе абавязак толькі ўспрыймаць, адгукацца гулкім рэхам, а не гаварыць свайго, не падзяляцца думкамі сваімі, сваім поглядам.

Нібы ўпэўніўся Андрэй, што нікога няма, але ўпэўненасьць была дрыгвотная, і нават той спакой, маленькі, слабацелы, ня мог утрымацца на ёй.

Крануўся зноў. Зноў галава, бы на спружынах, шпарка й рэгулярна абарачвалася. Уклінаваўся кропкай цьмянаю ў вадкую пляму цемры. Кволы спакой растаў, у цемры магутнай, жудаснай расплыўся.

Як праходзіў па сьветлай частцы вуліцы, дык думка прасьлізнула—зайсьці ў радзільны да жонкі, даведацца, як маецца. Але ўжо вышаўшы з сьвятла ён быў прымушаны адмовіцца і думаць пра гэта. Да прытулку вёў вузкі чорны пашчэрблены перавулак. Ад гэтага адмаўляючыся, ён не сказаў-бы нікому—куды ідзе, якая перад ім мэта.

Раптоўна здрыгануўся, як асіна, адскочыў на бок. Праразьлівы крык па вуліцы разьлёгся. Нібы хто ратунку крычаў, нібы горла рэзалі тупым цызорыкам каму, ён хацеў накрычацца перад сьмерцю.

Андрэй дрыжэў увесь, прытуліўшыся за рог дому, боязна вадзіў перад сабой вачмі. Чакаў на нешта страшнае.

Але праменьчык сьветленькі, прабіўшыся здалёку, супакойваць стаў, даводзіць нягрунтоўнасьць спалоху.

„Ці мала што, які крык быць можа позна ўвечары на вуліцы. Звычайна, мо' хто па мордзе каго пагладзіў".

Як-бы на зацьверджаньне гэтага, лаянка сакавітая і смачная пасыпалася. За лаянкаю—таўханіна, і ўсё скончылася шпаркім бежкам. Бег слаўся проста на Андрэя.

Ніяк нельга было заставацца ў часовым прытулку. Падумалася:

„Угледзяць... Падумаюць—злодзей. А хоць і не падумаюць—усё нeяк будзе сорамна“.

Бег мацнеў і перасыпаўся выбранымі компліментамі вулічна-вечаровага арго. Крыху сіпаваты з хрыпамі голас паказваў на мужчыну, але часам іншыя больш далікатныя ноткі, ды лёгкіх абсацаў стукат гаварылі на карысьць жанчыне.

## IV

Андрэй пасьпяшыўся выбрацца.

Узбадзёрыўся прысутнасьцю жывой душы, сьмялей крануўся, зашагаў падзелавому. Але ў самым нутры недзе варушылася і гаварыла злосьненька:

„Ашукваеш сам сябе. Ну, што табе людзі? Твае-ж ворагі не матэрыяльныя. Ня вер нікому і нават сабе“...

Падсьвядома, у прывычку ўжо, азірнуўся. Шпаркія крокі даганялі яго. Як-бы чакалі яго тут, бо зараз ліпучыя, як да мух папера, словы сьпеву агарнулі Андрэя.

— Пачакай—не сьпяшы... Мілы, я цябе люблю... Адну ночку мяне пакахай, мілы мой...

Голас можна-б назваць сымпатычным і нават пекным. Папсавала, відаць, рознае алькогольнае пітво і жыцьцёвыя драмы.

Самаробка-папуры сарвалася, і голас пяшчотна мяўкаў пакашэчу нешта з паўднёва-ўсходніх мотываў.

Андрэй быў надворна спакойны, жанчына-ж, відаць, наадварот, бо, дагнаўшы яго, не абмінула, а блізка-блізка пайшла ззаду.

У прывычку хацелася яму абярнуцца, але ўроджаная мяккасьць не дазволіла.

„Чаго яна йдзе, чорт яе ведае. Хай-бы правальвала“.

Але жанчына і ня думала „правальваць“. Мяўканьне нуднае зьмянілася на словы і мотыў нейкае незнаёмае Андрэю песьні. Словы апошняе былі яўрэйскія, і на іх асабліва ўвагі ён не зварочваў, але мотыў. Няпрыкметна для самога Андрэй пачаў сачыць за зьместам яго. Што за мотыў! Ціха-бурліва, як казка паўдзённага ветру, пачыналася песьня. Здаволенасьць дзіцячая іскрылася, згода і радасьць. І потым разам, быццам зламалася што, і казка сьветлая схавалася ў тумане гора, сьлёз, смутку, журбы. Бы прышоў нехта і злою моцаю магутнаю, бяз дай прычыны, разбурыў сонцаяснай радасьці куток.

Напеў такі быў блізкі Андрэю, што ён мімаволі ўслухоўваўся, і думка аб тым, што зразумела яго становішча іншым, што ён не адзін такі, прыносілі цішыню ў мазгі. Першы за сёньня раз цікавасьць высунулася і захацелася паглядзець узад, на яе.

І раптам, ніяк ня вяжучыся з шляхам мотыву, гульлівыя ноткі абрыдла зафальчывілі, і моташнасьць, і ранейшая боязнасьць цішыню спа-

койную Андрэю атруцілі. Дыханьне цёплае кальнула аганькамі ў карак. Нядаўнія перажываньні, роднасьць мотыву, малюнкі глыбока-блізкія заставіліся нездаволенасьцю і ранейшым настроем, а зьверху ўсяго прыгнётам чорным паўставала жуда.

Хацелася крыкнуць, каб кінула пець і адчапілася ад яго. І тут зноў суцэльны Андрэй раздвоіўся:

„О, не! Не, няхай лепш ідзе, чымсь быць у адзіноце“.

З нейкім прабачэньнем, бы яна ведала, што ён падумаў нядаўна, і з просьбаю, каб не пакідала,—хай пяе, што хоча,—азірнуўся на яе зблізку ўпяршыню. І стаў. Стала і жанчына, пакінула напяваць.

— Соня!

## V

Каго-каго чакаў сустрэць тут, толькі не яе.

Чарнавокая, нафарблена-прыгожая нязграбна перад ім стаяла жонка Іцкі.

— Я ня ведала... Прабач, Андрэй!..

Горкасьць крыўдная ў голасе пачулася. Якая горная яна была, якая жаласьлівая і як пад цяжарам унутраным схінулася.

Бяз слоў лішніх зразумеў усё Андрэй. І шкода зрабілася яму Соні, і крыўда вечаровая на людзей, на ўсё прачнулася, і сябе нязначным і маленькім убачыў у вялізарным вадаспадзе жыцьця.

„Мошка... Сьляпая мошка і я, і яна“.

Заўсёды людзей і ўсё жывое яднае аднакае становішча і аднакія інтарэсы.

Андрэй ухапіў руку яе, пацісну ў моцна-моцна.

Чатса—дзе мала слоў траскотнага спачуваньня, там—больш праўдзівасьці, там—больш пачуцьця, і сьмела можна пакладацца на спагадлівасьць тады.

Нехта ішоў ад цэнтру горада.

А яны маўчалі—кожнае з сваім перажываньнем, такім падобным адным да другога па зьместу, па прычынах і па выніках.

Ён заўважыў, як невядомы нехта ўпусьціў свой пільны погляд у Соню. Спыніўся і нахальна зазірнуў у твар ёй.

— Не старгаваліся? Хадзем, галубка, са мною ня будзеш таргавацца!

Узьняла галаву. Ні словам, ані бедным не адгукнулася—у ваччу ляжалі кроплі сьлёз.

З якой-бы радасьцю, з якой гатоўнасьцю Андрэй палушчыў-бы гэтаму абармоту зубы, адпомсьціў-бы і за яе, і за сваю крыўду.

Невядомы гуляка зразумеў, відаць, бо ўбачыў у яе вачох сьлёзы і рашучы, асяроджаны погляд Андрэя. З выразам няўдалага паляўніка, якому не павезла—сарвалася, адваліў з нездаволеным сьвістам.

— А можа ты... Мо' табе трэба?..—спытаўся Андрэй нечакана.

А думаў сказаць—хадзем пагаворым, бо мы так блізкі адно да другога ў сваёй крыўдзе. Як праходзіў той, дык яму хацелася ашчаперыць яе, прасіць-маліць, каб засталася з ім.

Яна падступілася блізка і горача, з палам просячы, загаманіла, быццам спавядалася яму ў сваіх учынках:

— Трымалася датуль, пакуль дзеці былі адзетыя, абутыя... пакуль мелася скарынка хлеба ў хаце... Дзе толькі магла—зарабляла, за поўцаны аддавала свае рабочыя рукі... Ня цікавіўся ніхто маім становішчам, куды ні зьвярталася... Абяцалі—і дасюль... Раз... Сэрца ня стрывала, гледзячы на дзетак... Ня было магчымасьці далей. Спакусілася... Як сорамна глядзець на людзей было, колькі выплакала сьлёз... Пасьля—трохі ўцяглася, звыклася, бо перада мною радасныя і здаволеныя твары дзяцей. Але за гэтую радасьць, за здаволенасьць колькі цярпець даводзіцца і мучыцца... Погляды прагныя... як на жывёліну... Абраза і словам, і... Валачэ, цягне, бо стала яго маемасьцю... Вось... Я—простытутка.

Сьлёз ня відаць. Толькі пахмурная пакорлівасьць гастрыню рысаў згладзіла, панурная лягла на твар.

„Чаму яна з націскам падчыркнула апошнія словы?“ падумаў Андрэй, калі Соня скончыла.

Часта яна ўспамінала ўсё да крыхі, і дзе-б ні была, што-б ні рабіла—перад ёю стаяла доўбняю больш чым значная назва „простытутка“! І цяпер, бачачы сябе заплёванаю і забруджанаю людзьмі, тымі-ж людзьмі, якія абяцалі і абяцаюць дасюль, вышукваць пачала свой шлях на будучае. Няўжо-ж да сьмерці, мо‘ нават у дыспансэры, яна будзе такою, як цяпер.

Андрэй-жа глыбока ў думках капашыўся, шныпарыў, шукаў нечага.

Апошняе самому сабе запытаньне разьвіло цэлы клубок думак, тых думак, у якіх ён ня здолеў сёньня ўвечары знайсьці канец.

Радаваўся і разам баяўся, што баковыя абставіны ўзьвялі на гэта. Ен ня пытаўся ўжо, чаму гэта Соня з націскам падчыркнула апошнія словы. Ён ведаў, але не хацеў скончаць тут свае разважаньні. У адзіноту прынадна пацягло сам-на-сам астацца з думкамі.

Парашыў—пойдзе.

Разьвітацца. На ўвесь узрост устала ў яго вачох Соня, як жанчына, як чалавек.

Вялікі чалавек!

З удзячнасьці ледзь не расьціснуў у сталёвых мускулах пальцаў яе рукі.

— Соня! Я вельмі дзякую табе. Прыходзь да нас—так, проста, пасядзець калі, пагаманіць.

— Калі трапіцца—прыду.

Яна зьдзіўлена пазірала на яго радаснае абурэньне, ня ведала, за што ён дзякуе ёй.

— Не калі трапіцца, а знарок, часьцей.

## VI

„Дадому! Дадому!“ крычаў, здаецца, усёй істотаю сваёй Андрэй.

Чобаты шпаркім грукам мерна выбівалі гэтае жаданьне. Салодач пырханьня ў нутрох, здаволенасьць, што знайшоў—чаго шукаў, напаўняла ўсяго.

„Не цяпер, не цяпер“.

Ідучы, ён гнаў ад сябе ўсякія думкі—зусім не хацелася разважаць. Знарок трымаў у цьмяным абрысе вырашэньне, каб больш салодкаю была нарэшце перамога.

„Дадому!.. Не асьмеляцца прыстаць да мяне, як з нажом да горла. Не асьмеляцца нахальна мучыць так, бо на іх адкажу. Цяпер адкажу!“

Прыемна ўдыхалася паветра. Пекная ноч заўважылася. Бы вата чорная, мяккая цемра разасьлалася. Дрэвы ўнізе захоўваюцца, а ўгары лісьце раскінулі лагодна, спрабуюць нібы пакрасьці любыя зоркі.

Далёка па бруку недзе загрукалі калёсы. І ўспамянулася вёска. Як там прыгожа цяпер, лёгка дыхаць, араць, баранаваць, працаваць у поце, купацца ў рэчцы.

Зьверху крапіла электрычнасьць вуліцу. Люба глядзець было так на ўсё.

Шырокая натура! Багатая ўражнасьць!

Ня ўбачыў, калі дайшоўся да кватэры. Ногі машынальна завярнулі ў двор, а рукі таксама адчынілі варотцы.

Зірнуў яшчэ вакол на ноч, захопам удыхнуў рэзкае паветра на поўныя грудзі і захляпнуў дзьверы.

Дзеці спакойна спалі. На хуткасьць машыны распрануўся і лёг. Вось калі ўзяць у голыя рукі вывад і, як адказ, кінуць на пытаньні. Магутным, як камень, як жалеза, адчуваў сябе.

„Адказ я знайшоў. А чаму-ж вы ня прыходзіце. Няма! Спалохаліся“.

„Боль, нягоды, гора, сьлёзы, плач, сьмерць, усё асабовае... Нашто? На тое, каб перамагчы сабою-ж гэта ўсё. Асабовая боль болем, гора горам і сьмерць сьмерцю пераможацца. Вось нашто яны“.

Радасная ў перамозе сваёй думка клалася адпачываць.

Слабы й магутны чалавек заснуў.

## VII

Ня вытрывала, як і казала, жонка Андрэя.

Яна яшчэ і раней, калі адчувала наступ хваробы, дык жадала хутчэй яе. Хвароба ахоплівала нябачнымі злосна-магутнымі кіпцюрамі не-

мачнае цела, выклікала недарэчны боль. Ачмурэласьць не выціскала ў яе ненавіднага енчаньня. Стогны яе былі незласьлівыя. У самым распалу хваробы, тады, калі боль робіцца амаль немагчымым надалей, яе ахапляла салодкае таменьне, жаданьне больш прадоўжыць адчуваньне, як пасьля цяжкае працы прыемную самлеласьць членаў. У такія часіны ёй жадалася хваробы, жадалася салодкасьці болю. І памёрла яна ня выразіўшы, з тым самым таменьнем, са стогнамі жаданьня вялікшых боляў.

. . . . . . . . . . . . . .

Хворае павінна аддаць у жыцьці сваё месца дужаму, старое маладому,—такі няўхільны закон прыроды.

Ідучы за дамавінаю, гледзячы, як яе спушчалі ў апошні прытулак—зямляную хату, Андрэй думаў тое-ж, што і ўчора.

„Сьмерць сьмерцю пераможацца, бо самы акт сьмерці ёсьць ужо стварэньне новага жыцьця. Нясупынна барацьба ў жыцьці і, калі пераступіцца ў ім вядомая мяжа, тады паўстане пытаньне аб няўмірушчасьці“.

„Боль болем пераможацца, гора—горам, сьмерць—сьмерцю. Апошняе ёсьць завяршэньне барацьбы“.

---

Соня таксама была тут. Прышла аддаць апошнюю павіннасьць нябожчыцы.

Яна ведала яе добра праз увесь час жыцьця. Цяпер шкадавала яе.

Чаму яна не пажыла. Дзеці пакінула. Ведаю, як сіратам жывецца добра. Пры тым—што бачыла, дзе была. „Няхай-бы ты пажыла, Вера“, зьвярталася ў думках да тае, якой ужо нічога ня трэба было, якая нічога ня чула, ад якой далёкія былі ўжо гора й радасьць жыцьця.

Пахавалі.

Назад пайшлі ўсе з могілак, хто куды. Знарок, ці несьвядома, Андрэю з Соняй трапіласяісьці.

Поўмаўчанка падарожнічала з імі да самай кватэры. Перакідаліся звычайна-нуднымі някажучымі нічога словамі.

Сталі ля варот.

І тут у вочы Соні кінулася ўчарашняе дзіўнае ў абыходжаньні да яе Андрэя.

— Соня! Зайдзі да нас... Да мяне з дзецьмі,—паправіўся ён.

Хацела адмовіцца. Сьмерць—і ў той-жа дзень жанчына чужая, маладая на кватэры. Насупрэч з думкамі пайшла. Азіраючы ззаду постаць Андрэя і ўспамінаючы ўсё аб ім, думала:

„Які слаўны чалавек“.

## VIII

Расказаў усё ёй, што і думаў зрабіць, нашто і запрасіў яе да сябе. Ён растлумачыў сваё дзіўнае ў звароце да яе ўчора і сягоньня. Проста, бяз усякага намёку, прызнаўся ёй, якою блізкаю яна для яго стала ўчора, якая дарагая ў яго вачох сягоньня.

Сьлёзы затуманілі перад ёю кватэру. Яна зразумела яго поўнасьцю, шчыра любы пацалунак падаравала.

Дзеці гулялі, не зважаючы нічога на незнаёмую жанчыну з бацькам.

---

Соня, так думае, знайшла свой шлях, пра які думала тады ўвечары. Яна расказала Андрэю пра свае бывалешнія думкі.

А ён—ён трымае цяпер моцна ў руках свой душэўны спакой.

Прамігаюцца дні, тыдні і месяцы.

Андрэй, лічачы сябе правым, нярэдка кажа:

— Я разам з дзецьмі шчасьлівы з табою, Соня.

Запытаньне—што яшчэ лічыць шчасьцем, калі адкінуць зьбітаўмоўнае паняцьце яго.

# СЬЦЕЖКІ ЖЫЦЬЦЯ

*(Успаміны)*

**А. Сяњкевіч**

## НАЗАД З АМЭРЫКІ

Вялікі акіянскі параход паважліва, але хутка шыбаваў да берагоў Японіі.

На сваім барту ён яшчэ ніколі не перавазіў такіх пасажыраў.

На палубе што ні дзень мітынгі, гарачыя спрэчкі. Гэта на рэвалюцыйную радзіму варочаюцца эміграњты-ўцекачы.

Дома яшчэ пануе ўрад Керанскага. І вось чаму эміграцыя падзялілася на два варожыя лягеры.

Бальшавікі разам з анархістымі выцягваюць з галавы цэлы арсэнал довадаў проці ўраду,—меншавікі і эс-эры ня выпаўнілі заданьняў рэвалюцыі, яны зраднікі, яны прыхвасьні буржуазіі, патрэбна новая рэволюцыя і г. д.

Невялічкая кучка меншавікоў і эс-эраў са ўсіх сіл старалася давесьці, што найлепшымі кіраўнікамі рэволюцыі зьяўляюцца яны.

Дарэмна. Яны заўсёды заставаліся бітымі. Ня гледзячы на красамоўства, сярод параходнае „масы“ яны не знаходзілі сабе прыхільнікаў.

Паміж пасажыраў былі і сапраўдныя амэрыканцы. Яны таксама ехалі ў рэволюцыйную Расію, але з другою мэтаю. Гэта была „Амэрыканская місія Чырвонага Крыжу“. Праўда, на сорак сяброў гэтай місіі дакторскага пэрсоналю было ня больш трох-чатырох асоб—рэшта зьяўлялася прадстаўнікамі розных трэстаў і корпорацый. Амэрыканскі капітан пад фірмаю „Чырвонага Крыжу“ пасылаў сваіх разьведчыкаў. Пазьней я дачуўся, што бальшавіцкаму ўраду прышлося прасіць дарагіх гасьцей „ехаць дахаты“.

Былі і яшчэ пасажыры. У самым труме набіта, як быдла, кітайскіх кулі, трымацеляў нэў-ёрскіх опіа-курылак, гаспадароў і рабочых з раскіданых па Амэрыцы кітайскіх пральняў і г. д. Там, на доле, сярод дыму і прапатнелай атмосфэры і дзень і ноч ішла зацятая гульня ў косьці.

Качкі ня было. Улетку ціхі акіян робіцца сапраўды ціхім.

Адно хараство—сядзець на палубе ў летні ціхі дзень або ўвечар.

Ідучы з Ванкувэру, параход зрабіў дугу, загнуўшы на поўнач.

Праходзім непаўздалёк ад Алеуцкіх астравоў. Тут, як відаць, найбольш любімае месца для валадароў акіяну—кітоў. На гарызонце сотні

фонтанаў, што б'юцца з магутных грудзей. На паверхні вадзяной плошчы чорныя вялізарныя масы. Вось яна ў адным месцы хаваецца пад вадою, каб пазьней вынырнуць у другім.

Але і кіт на гэтым нязьмераным прасторы вады нейк траціць сваю вялізарнасьць, магутнасьць.

За самым параходам, як тыя шакалы за падальлю, снуюць доўгамордыя акулы.

На небасхіле паказаліся чайкі. Гэта госьці з астравоў, што мы абмінаем. Падляцелі, трохі пападарожнічалі нам і назад к сваім сялібам.

Ужо дзесяты дзень, як мы пакінулі цьвёрды грунт. Нанач вокны шчыльна зачыняюцца—перасьцярога, можа і непатрэбная, ад немцаў.

За ўвесь час было толькі два здарэньні, якія парушылі ўжо наладжанае жыцьцё на параходзе.

Мы кожны дзень лічылі дні, бо кожны дзень набліжаў нас да доўгачаканае зямлі. Усе пільна сачылі за календаром. І вось дзіва: пераяжджаючы N мэрыдыян, мы згубілі адзін дзень. Бываюць-жа гэткія здарэньні ў жыцьці.

Другое. Параход, які ўвесь час ішоў роўна і ледзь-ледзь пакалыхваўся, раз зьнячэўку моцна пахіснуўся на бок і нібы застанавіўся.

Вось ліха—пэўна на міну наляцелі. Усе ўстрывожаны, бягуць на палубу. Кабеты ўжо пазалезьлі ў спасацельныя чаўны.

Адзін толькі кіно-опэратар ня здрэйфіў і нават дагадаўся круціць машыну, каб захапіць усю гэтую сцэну на кіно-ленту.

Капітанскі юнга-кітайчык прагуляў у косьці ня толькі свае грошы, але і пазычаныя патаемна з касы капітана. Беднага юнгу арыштавалі. І вось у той час, як яго вялі ў каюту з гратамі, ён, неспадзеўку, кінуўся за борт. Так вялік быў страх кары.

Вось чаму застанавіўся параход на хвілінку. Але цела беднага юнгі бултыхнула, як той камень. Больш яго ўжо ніхто ня бачыў.

На адзінаццаты дзень нас высадзілі на зямлю „Ўсходзячага Сонца".

---

Японія—краіна хрызантэм і казачных гейшаў, краіна гордых самураеў і адвержаных, з роду „Эта", краіна, якую падземныя сілы трымаюць у вечнай трывозе,—бо кожны дзень агнём сапе сьвяшчэнная гара Фудзі-Яма.

Мы ў Іокагаме. Гандлёвы порт. Поўна жыцьця. Дзесяткі молаў, лес парусаў і мачтаў, трубы параходаў, гудкі кацераў, што снуюць паміж морскімі гігантамі,—усё гэта мала чым адрозьнівае японскі порт ад любога амэрыканскага або эўропэйскага порту.

На беразе тыя-ж засаленыя або пабеленыя мукою грузчыкі, матросы. Кругом рух, жыцьцё.

І толькі як уваходзіш у горад, зразу павее на цябе азіятчынай. Першае, што кідаецца ў вочы, першы, хто цябе спатыкае,—гэта джыні-

рыкша. Хоць ты і раней чуў аб іх, ня раз чытаў пра людзей, што служаць заміж коняй, але неяк не па сабе робіцца, калі гэты конь-чалавек, запрэжаны ў аглоблі маленькае калясачкі, падбягае да цябе і прапануе праехацца.

Заглушаеш абрыдлівасьць. Садзішся—усё роўна іншых сродкаў перавозкі няма. Бяжыць рыкша—ня йдзе, а бяжыць. Вось узгорак, далей лагчына, зноў узгорак, круты спуск па сходах,—і так усе вуліцы. Рыкша перакідаецца з табою час-ад-часу паангельску.

Вуліца паўнютка народу і гукаў ад пастукваньня дравяных сандаляў. Адзеты японцы лёгка і проста. Босыя ногі ў сандалях, на плячох доўгі, але лёгкі хітон, на галаве саламяны капялюш. Жанчыну можна адрозьніць толькі ўзьбітымі высока валасамі; калі яна замужам, за плячмі прывязанае дзіця, у дзяўчыны шырокі пояс з якоюсь нібы падушачкаю, падвязанаю за сьпінаю.

Па бакох вуліцы бягуць раўчакі. О, японцы любяць ваду. Кожны мае ў доме ванну, і ў летнія гарачыя дні яны плюхаюцца ў вадзе, як тыя качкі.

Домікі маленькія, з бамбукавых палак—узяў-бы, здаецца, дый панёс. На падлозе—цыноўкі. З вуліцы часта відаць усё, што робіцца ў хаце.

Едзем па гандлёвай вуліцы. Такія-ж нізенькія і лёгкія крамы. Трэба купіць што-небудзь напамяць. Іду ў краму—ня пушчаюць. Пытаюся ў рыкшы—у чым справа?

— Трэба скінуць боты,—адказвае сьмяючыся.

Зьнімаю боты. Іх ставяць каля парога, а замест іх даюць сандалі. Падлога пакрыта чысьценькаю цыноўкаю. Купляю портсыгар з відамі Японіі.

Прыяжджаем у эўропэйскую часьціну гораду. Тут ужо шасьці-васьміпавярховыя гмахі. Канторы, гасьцініцы. Чуецца больш ангельская мова.

Побач з нашым нумарам ў гасьцініцы жыве гандляр-спэкулянт опіумам. Вечарамі ў яго брынчыць на гітары гейша. К здохламу, з гнілымі зубамі пайшла яна на ўтрыманьне.

На другі дзень увечары меў спатканьні з прадстаўнікамі японскага рэволюцыйнага руху. Найбольш популярны рух—анарха-сындыкалізм. Вядуць працу сярод рабочых порту. Ня так даўно правялі забастоўку. Прайшла солідарна, з посьпехам. Рабочы рух хавае тут вялікія магчымасьці на будучыну...

Ужо колькі дзён як сядзім у Іокагаме. Чакаем параходу на Ўладзівасток.

Карыстаем, каб абгледзець горад. Вось шпікі, ліха ім, не даюць спакою. Здаецца, што тут няма таго грамадзяніна, які ня служыў-бы ў тайнай паліцыі. У большасьці ў форме студэнтаў яны падыходзяць да цябе, распытваюцца, сачаць за кожным тваім крокам.

Напаткаем рыкшу, які загаворвае да нас парасійску.

— Хочаш, пакажу доміка, дзе наш япошка вашага цара Нікалашка па мордзе біла?

— Ну что-ж, паедзем.

Рыкша павёз нас кварталамі гейш. Простытуцыя ў Японіі ня лічыцца ганебнаю справаю. Закон толькі абмяжоўвае ўзрост дзяўчыны, годнай для простытуцыі, 11-12 гадамі. Цэлы горад домікаў з вывешанымі папяровымі фанарыкамі. Па вуліцах снуюць з лаянкаю п'яныя ангельскія, японскія і іншых нацый матросы. На вуглох вуліц карчмы—каля столікаў сядзяць на пачаканьні, з падрысованымі бровамі, з намалёванымі чырваньню губамі, гейшы.

Домік, дзе цара Мікалая спаткалі кіем па галаве,—звычайны бамбукавы домік. Ля вакна сядзіць мадама,—можа й тая самая, што спатыкала Мікалая. Праз вакно відаць—на цыноўках у розных позах ляжаць гейшы.

І вось гэтая дзяўчына, выходзячы з дому распусты, лёгка знаходзіць жаніха: быў-бы толькі пасаг добры. А яшчэ,—што больш зьяўляецца дзіўным.—няма больш вернай мужыку кабеты, як былая гейша, як толькі яна абзавядзецца сям'ёю.

Праходжу па вуліцах гораду. Вось праехала на рыкшы стройная, пекна ўбраная японка. Тонкі, прадаўгаваты, трохі згорблены нос, косыя вочы, тонкія, як тыя дужкі, бровы, матава-бледны колер твару—кажуць аб яе шляхетным пахаджэньні.

Але што гэта за песьня чуецца з другой вуліцы, нібы родная „дубінушка". Іду на гукі песьні. Гурток кабет заняты цяжкою працаю. З грубага аблічча капае пот. Яны „бабаю" ўбіваюць палі. Вось адна зацягвае песьню, другія падхапліваюць і, разам з мовамі песьні—у-у-ух, „баба" падае на палю.

Мазольныя дзябёлыя рукі, грубы скуласты твар, шырокі стан...

Поезд забірае нас і вязе пад нясупынным наглядам шпікаў у маленькіх цесных вагончыках да Кобэ. Адтуль яшчэ два дні морам да Ўладывастоку. У вакно любуюся на віды Японіі. Навакол горныя пэйзажы. Вяршыня гары нібы ўтыкана падстрыжанымі дрэвамі. Якраз, як на японскіх малюнках.

Аніводзін кусочак зямлі, годнай для апрацоўкі, ня пустуе. Тэрасамі ў горы ідуць палі рыжу. Колькі тут чалавечай працы на гэтых каменьнях.

І йдуць гэтыя палі істужкамі ўсё вышэй і вышэй. Кожная плошча рыжу заліта вадою. Чалавек здолеў ня толькі глебу ўзьнясьці на гэтыя скалы, але штучна падняць сюды і ваду.

Цесна японцам на астравох. Народ множыцца, а вузкая палоска астравоў абмяжована вадою.

Проблема расьсяленьня—адна з балючых проблем Японіі.

І не дарма яны амаль ня сілком імкнуцца на мацярык.

*(Працяг будзе).*

## „ПОЛЫМЯ“

*(Замест павіншаваньня з 5-аю гадавінаю)*

**Якуб Колас**

Я помню ноч адну ў дарозе.
Глухота, ціш.
І дол і ўзвыш
Ляжалі ў цемрадзі-імжы.
На цёмных ростанях—крыжы.
Бяроза боязна к бярозе
Тулілася ў нямой трывозе,
Лес—у затоенай пагрозе,
І зданьню куст быў на мяжы.
Мяне сачылі ўсюды страхі—
Малы я. Цьма,
І зор няма,
І хоць-бы голас дзе жывы,
Апроч тых посьвістаў савы!
Ляжаць зацята-нема гмахі.
Я чую здушаныя ахі,
І робяць нейкія замахі
Унь тыя цёмныя равы!
Іду гасьцінцам між прысады.
Ох, страшна мне
У цішыне!
І раптам—блісь агонь здалёк!
З душы апаў страхоцьця мрок,
І зьніклі чары чорнай здрады
І шэпты воражай нарады:
Мне песьню сонечнай прынады
Сьпявае ў цьме той аганёк!
Гары-ж і „Полымем“ чырвоным
Шугні, агонь,
І цемрадзь-сонь
Разьвей, згані ад краю ў край,
Іскрыся іскрамі, палай!
Нясі сьвятло і тым загонам,
Што засталіся за кардонам,
Дзе брат мой стогне пад прыгонам,
І шлях яму ты асьвятляй!

# ДВАЦЦАЦЬ

**Андрэй Александровіч**

Зусім нядаўна,
здаецца, як-бы ўчора,
бегаў басаногі, рваў штаны аб плот.
Сёньня, як зазьзялі ў ясным небе зоры,
мне, браткі, збылося—роўна дваццаць год!

Глянеш скоса,
што было заўчора,
захрушчаць-засьвішчуць сьцюжай халады.
Дый ці варта толькі ўспамінаць дакорам?
Было?..—Было! Ну, такой бяды!?

Люблю я сьвет,
і дорага пазбыцца,
як дорага пазнаць бязьмежнае жыцьцё.
Адно цяпер—ніякай навальніцай
ні абвіе мяне нялюдзкае стацьцё!

Было?..—Было!
Пашто тут сэймаваньне...
Ня любіць сэймаваць дзён нашых быстры ход.
Але сапраўды дзіўна, заўтра зраньня
спаткаю—дваццаць першы год!

## КАХАНЬНЕ

**Андрэй Александровіч**

Ой ты, стэп-раўніна,
ой ты, вецер, братка,—
я палюбіў дзяўчыну
палюбіў выпадкам.

Хто яе абразіць,
хто пакрыўдзіць словам,—
помста на Каўказе
звычай ганаровы.

Сонца косы зьвесіла
над скалой арлінаю.
І чаму так весела
на чужой краіне?

Поглядам арліным
блізка прыгарнула...
Палюбіў дзяўчыну
інгускага аула!

* * *

Сьнежная вяршына
на гары Эльбрусе.
Я-ж люблю дзяўчыну
і на Беларусі.

Знаю, добра знаю,
радасна сустрэне.
І не разгадае
сэрца шалясьценьне...

Ласкаю дзявочай,
радаснай, чаканай,
загарацца вочы
дзеванькі румянай.

Што было?.. Што стане?..
Ой ты, вецер, братка:
я-ж пазнаў каханьне
і ня рад выпадку...

Ліпень—1926
Жалезнаводзк.

# ЧОРНАЕ МОРА...

## Ясакар

* * *

Паў туман на горы, касагоры—
Сівазмрочны і бяльмісты.
Пацямнела мора і узмор'е—
Цьвет аблочны, непразрысты.

Разгарнулі гуд-вятрылы крыльлі
Ў балахонах шуры-буры;
Як ваўкі завылі ў пене-мыле,
Пайшлі стогны, пайшлі хмуры.

Загулі на моры вохі-ўздыхі,
Шумы-громы, рыкі-крыкі,
Задымілі воды срэбным пыхам,
Вал шалёны закугыкаў.

Зайкі-грайкі гралі ўблізу, ўдалі
Ў яркіх плынях з агняспышак,
І граблямі грэбні замільгалі,
Нібы плоймы шызых мышак.

І пайшлі скакаць прасторы ў моры,
З дна паднялася капэля.
Шэпт. Мяцеж. Згаворы. Адгаворы—
Ап'янелі ў сьмелым хмелю.

І шкляныя плюхаліся птухі,
Зазванілі на шмат міляў.
Разышліся рухі-завірухі,
Стала сіла супраць сілы.

Хваля хвалю абымала, грала,
Адганяла, даганяла.
Дуба ў згубу заскакала ўдала,
Бухам бухнулася ў скалы.

Нібы ў бубен забубнілі, білі
Ў гонг скалісты, адгалосны.
Адбівалі тахты хвіля ў хвілю,
Бурасьвісты былі злосны.

* * *

Гэй, рыхтуйцеся, чайкі, гагары!
Вецер востры вам крыльлі навострыць.
Вас закружаць у сівым пажары
Гучна-гнеўныя сілы Норд-Осту.

На чаўне хтосьці крыкне „госанна“!
І загубіцца крык паратунку.
І засаліцца мора, як сала,
У вільготным заглушаным стуку.

А валы, нібы маманты мора,
Здымуць плечы на многа сажэняў;
Як асілак хватае замору,
Вецер пparticularly прыткі сажме іх у жмені.

Стукне-грукне, працэдзіць праз пальцы
І разбрызьне у брызгаўкі сталі.
Сам заскача разгневаным вальцам
У пагрозным сьмяротным паўстаньні.

* * *

Сягоньня выў прыбой, бы стада дзікіх псоў,
Сьлюнявіў берагі, пляваўся сівай сьлінай.
Жар-сонца ў вышыні стаяла калясом,
Крывавіла ваду чырвонаю тканінай.

Бялявы парус млеў—распушчаны фартух.
То нутлае судно качалася праз хвалі,
Скакала, нібы конь, і кідалася ў пух,
Сьпяшылася у сінь—ці звалі, ці ня звалі.

А мора—мірг і мірг, сявала ўспышкі ў даль,
Запісвала свой шум разьлівамі калёраў.
А дзе-ні-дзе дэльфін дзіравіў сьпіны хваль:
У сховы спрытна граў на гайдаўках у моры.

І цьвёрда руль трымаў мой друг Мамэт Алі,
Ён на мяне глядзеў з таемнаю усьмешкай.
Мы з бухтавай дугі плылі, плылі, плылі
Бурштынавым пуцём, нявытаптанай сьцежкай.

# НА РАДЗІМЕ

**А. Гурло**

Далёкае мне галаву ўскружыла...
Сягоньня хочацца мне ўсё, усё абняць!
Я помню час—кіпела кроў у жылах,
Аб ім яшчэ цяпер ў душы зыкі зьвіняць.

Прайшлі годы, а з імі шмат мінула
І разам роспачных і радасных часоў,—
Астаўся-ж я яшчэ душою чулы,
Хоць і з капой сівых на цемі валасоў.

Затое стаў больш чуткім да ўспамінаў,
Што вельмі шмат забыў. Цяпер гляджу ізноў
На ўсё, на ўсё. Я рад, што на айчыне,
Я рад, што п'ю ізноў заздраўнае віно!

Ўжо тут цяпер шмат адбылося зьменаў:
Густы мой сад намнога парадзеў,
Струхлелі ўжо у хаты маёй сьцены,
Ніхто ў капліцу больш маліцца ня ідзе;

Каштан шуміць, як і даўней бывала,
Да вокан ліпа больш схіліла галаву,
А клёны й ясені красуюцца удала,
Ўгару растуць яны, пышнеюць і жывуць.

Вярба ўшыркі больш разгарнула ралы
І вабіць і заве, каб прытуліўся ў цень.
Калісь яе рука мая саджала,
Калісь яе я шчыра песьціў ноч і дзень;

А там стаяць кудравыя бярозы,
Пільнуюць хлеў стары, пільнуюць і гумно.
Здаецца, льлюць на іх руіны сьлёзы,
А мо' за даўнасьць іх сплятаюць ім вянок.

Гляджу ў акно, а лісьці мне шапочуць;
Аб многім блізкім чым гавораць мне яны.
Да іх мае няспынна прагнуць вочы,
Гляджу і бачу ў іх сваёй расквет вясны.

Я рад ўсяму і разам з тым дзіўлюся,
Што хутка так усё зьмянілі росту дні:
Адно есьць моль або цярэбіць вусень,
Другое радасьцю і песьняю зьвініць.

Мне ўсё, усё тут дарага і люба—
Руінасьці хлявоў і гмашыстасьці дрэў;
Усё зараз да сэрца прыгарнуў-бы,
Бо за яго калісь душою я хварэў.

Цяпер малым здаволен я бываю,
Што хоць і ў рэдкі час, а ўсё-ж бываю тут,
Што кожны раз я песьняй апяваю
Мой дарагі, мой блізкі сэрцу кут.

Капыль, жнівень 1926 г.

## І Ў ЗАЦІШШЫ...

**Аркадзь Моркаўка**

І ў зацішшы, кажуць, ёсьць навалы.
Хто-ж іх знае-можа!
Б'юць галінак лёгкія цымбалы,
Пасьцілае восень ложак,

Пасьцілае ложак шэптам шоўку,
Крые ветрам пенным.
Я ня змоўкну, восень, я ня змоўкну,—
Нешта сэрцу дрэнна.

Гэты ложак—можа шлюбны ложак,
Твар-жа—бель бярозы.
Хоць і хоча сэрца—ўсё-ж ня можа
Зьнішчыць кроплі-сьлёзы.

* * *

Дзеля чаго вясной рунее поле,
Дзеля чаго, скажы, бурлівіць лета?
Палаць агнём—такая наша доля,
Палаць агнём... ці-ж прыкра гэта?!

Хай будзе толькі зьвеку вінаваты
Хто нашу кроў стварыў віном яскравым;
Мы-ж смагла п'ём лядзянасьць руты-мяты,
Мы карыстаем толькі нашым правам.

На нашым полі выклятыя зімы
Галосяць гімны мукам і трывозе...
Любенькая, далёкая, калі мы
Прачнёмся йзноў на сонечнай дарозе?!

## БРАТУ

### Паўлюк Трус

Забялелі на ставах сьнягі,
пахіліся ў шэрагі клёны...
— Любы брат!..
Любы мой... Дарагі!..
Я цябе ўспамінаю штодзённа!..

Не таму,
што жыцьцё й маладосьць—
гэта казка
адвечнае ліры!..

. . . . . . . . . . . . . .

Прыяжджай да мяне—
будзеш госьць,
пагаворым пабратняму—
шчыра!..

Тыя сьцежкі,
што ў заўтра вядуць,
тыя сьцежкі
аднолькавы, мусіць?!
Зьдзейсьніць мэту,
і золата дум
падарыць на карысьць Беларусі!..

Забялелі на ставах сьнягі,
ціха журацца
ў шэрані клёны...
— Любы брат!..
Любы мой!.. Дарагі!..
Працы шмат
у жыцьцёвым прадоньні!..

# ЦЯЧЭ РЭЧКА З-ПАД ЯВАРУ...

*(З народнага)*

**Паўлюк Трус**

Цячэ рэчка з-пад явару
ярам на даліну...
Пахіліла над вадою
тонкі стан каліна...

Пад калінаю дзяўчына
чэша русу косу...
Праклінае сваё гора,
сыпле буйны сьлёзы.

Сыпле росы залатыя,
праклінае долю...
Ой ня весела сасонцы,
што расьце у полі!..

Што расьце адна і гнецца,
куды вецер хіліць!..
Цяжка, цяжка адзінокай,
Сваё гора выліць!..

Цяжка ў жыцьці адзінокай
знайсьці шчасьця сьцежку...
Хто-ж сустрэне сірацінку
ласкавай усьмешкай?...

. . . . . . . . . . .

Цячэ рэчка з-пад явару
ярам на даліну...
Ой завяла над вадою
чырвона каліна!..

# З ВАСЕНЬНЯЙ БАЙКІ

**А. Вольны**

Ах, байкі,
Мілыя,
добрыя байкі!
Як не кахаць вечны май іх?
Мілыя,
добрыя байкі.

Як кветкі ў полі,
Так вырасьлі песьні,
Вырасьлі і ня згінулі
Думкі
Залатыя і сінія,
Залатыя і сінія.

Ах, байкі,
Мілыя,
добрыя байкі!
Як не кахаць вечны май іх?
Мілыя,
добрыя байкі.

* * *

Годы выцьвелі, бадай іх,
А калісь, як гром, былі.
Так на вуснах нашых баек
Слоў пялёсткі зацьвілі.

Байка кажа... ў нейкім царстве,
Разумею з яе слоў,
Сэрцам сільны і упарты
Волат ўзьняўся і пайшоў.

І было, я з байкі бачу,
Ў тым, хто ўзьняўся і пайшоў—
Сэрца сільнае
Ды ласкавыя вочы
Сінія,

Ды бязьмежная сіла
Цудоўная
Ї гарачая.
Сумная
Кроў.

* * *

Ня прымусам цемра гіне,
Ї ня сілай сьвет расьце,
Волат гэтак словы кінуў,
Каб праз іх пачуў нас сьвет:
— Найвялікшая ў нас сіла—
Сіла думак Беларусі.
Гэтай сіле—песьняй мілай
Я кахаю, я малюся!
Іншых сіла ў іх абшарах,
Сіла іншых у карцечы,
А ў цудоўных думках-хмарах
Сіла нашая—бясспрэчна.
Найвялікшая ў нас сіла—
Сіла думак Беларусі.
Гэтай сіле—песьняй мілай
Я кахаю, я малюся!

---

Ды суседзяў моцна зайздрасьць,
Ёй загублен волат наш.
Толькі байка—наша радасьць
Так цудоўна расьцьвіла.

* * *

Дзе зьнік
Наш волат
Па шляху
Волі,
Там ветры
Ў полі
Ціха
Веюць.
Ніколі
Болей
Гэтай
Болі
Нам з нашых баек
Не разьвеяць!

* * *

Хто цярэбіў сьвету
Шлях да дзіўнай
Волі
Нячуванай сілай
Ў час ліхой
Нядолі,—
Ён маною зьнішчан
Па шляхох
У полі:
Помнікам аб гэтым
Вырасьлі таполі.
І таполі стогнуць,
Сьлёзы льлюць таполі,
Лісты на таполях—
Сьлёзы нашай долі!
. . . . . . . . . . .
Годы выцьвелі, бадай іх,
А калісь, як стогн, былі.
Так на вуснах нашых баек
Слоў пялёсткі зацьвілі.

---

Я сьмяюсь скрозь сьлёзы.
Ў марах сёньня зноў я.
Помню, помню волат
Залатыя словы:
— Іншых сіла ў іх абшарах,
Сіла іншых у карцечы,
А ў цудоўных думках-марах
Сіла нашая бясспрэчна;
Ах, я чую ў байках,
Байкі—ня схлусілі!
Прыляцеў наш волат,
Разгарнуў ён крыльлі.
Байкі ня схлусілі,
Вось і ўзьняўся зноў ён...
Сам народ наш сіні
Волат той цудоўны!

Ах, байкі,
Мілыя,
добрыя байкі!
Як не кахаць вечны май іх?
Мілыя,
добрыя байкі.

## ВЕЕ ВЕЦЕР...

**П. Глебка**

Вее вецер—лёгкі подых,
на дарозе сьнежны пыл.
Перажытага—ня шкода,—
маладым-бы толькі быць.

Зьберагчы ня ўмелі вочы
цьвет іскрысты, залаты.
Помню—тонкі стан дзявочы
і... зялёныя сады...

Помню вечар... Ах, і вечар!..
Сэрцу й сёньня не астыць:
русы косы, белы плечы,
вочы з зіркам залатым.

Вусны палкія—маліны;
што было—таго ня знаць:
сьведкі немыя, дзяўчынка,—
што-ж раскажа белы сад?!

. . . . . . . . . . . .

Дык таму я хмуру бровы,—
восень, ветры, сьнег і дождж...
Ах, лясы мае, дубровы,
Знаць і вам каханьня досьць.

І са шчок ірдзень спадае,
вяне ўсьмешка на губах...
Весялосьць дзе маладая?:.
Саду бэзавага пах?!

Менск. 14-X-25 г.

# ЛЕТНЯЯ НОЧ

Я. Івашын

Сьціх пераразвон
Жніўнай песьні вясёлай,
Змоўкла гамонка сярпоў.
Зморай ахоплены
Вёскі і сёлы,—
Час адпачынку прышоў.

Неба ўсьміхаецца
Зорным уборам.
Ночка згубіла ключы,
Цьмянаю марай
Ад соннага бору
Ціха па полі йдучы.

Вэлюмам ночы
Ахуталісь нівы;
Шэпчуць у сьне каласы.
Месяц палошчыць
У возеры кудры.
Зьзяюць каралі расы.

Вёска заснула,
Нібы пасьля бою,
Зморана жнівам, касьбой.—
Толькі загойсае
Сонца праменьнем—
Зноў вёска кінецца ў бой.

## РАЗЬВІТАНЬНЕ

**З. Бандарына**

О, Беларусь! о, краіна каханая
Казак сумотных, чаруючых сноў!
Мне пасьміхнуліся далі прасторамі —
Мчыць у СССР лёгкакрылы цягнік.

Еду я, еду, за станцыяй —
станцыя...
Ўюцца,
уюцца істужкі-шляхі...
Нібы гульліва-гарэзнымі жартамі,
Шэптам зьнікаюць тужлівыя дні.
Радасьць наземіць —
жывой пазалотаю.
У вокны сьмяецца
сваё—БССР!..
Еду я, еду, за станцыяй —
станцыя...
Ўюцца,
уюцца істужкі-шляхі...

* * *

Сьцелюцца, сьцелюцца
бельлю бяляваю,
Б'юцца да долу
сьнягі-туманы.
Бор-чараўнік
з ціхазвоннай асінаю
Шэптамі песьціць імглістых далін.

Сёньня з тобой
разьвіталася, любая,
Зьвілася сьцежка—істужка завей.

З роднай краінаю,
родпаю моваю
Я разьвіталася:
— Край мой, бывай!
Сьцелюцца, сьцелюцца
бельлю бяляваю,
Б'юцца да долу
сьнягі-туманы,
Чую я гукі чужыя-далёкія,
РСФСР прывіталі мяне.
Невель... „Вылазьце"...
Голас суворы.
Раптам ўзбудзіў
Правадыр ліхтаром.
Екнула сэрца
жывой адзінотаю...
Бліснулі межы...
— Краіна, бывай!..
Вёскі пахілыя,
далі імглістыя...
Блізіцца мара мая—
Ленінград.
Сьцелюцца, сьцелюцца,
Бельлю бяляваю,
Б'юцца да долу
сьнягі-туманы.
Чую я гукі
чужыя-далёкія,
Рэ Сэ Фэ Сэ Р прывітала мяне.

Невель. 4-IX-26 г.



Бліжэйшыя супрацоўнікі часопісі „Полымя“. Зьверху стаяць (зьлева направа) першы рад: **Аляксандар Цьвікевіч, М. Грамыка, М. Шульман, Б. Быхоўскі, Міхась Зарэцкі, П. Арэшнікаў, Алесь Гурло, І. Герчыкаў;** другі рад: **Яз. Дыла (Н. Бываеўскі), М. Байкоў, Л. Каган, А. Шлюбскі, Іван Цьвікевіч, Зьм. Бядуля (Ясакар), У. Дзяржынскі, М. Мялешка;** трэці рад (сядзяць): **Яз. Лёсік, Якуб Колас (Тарас Гушча),** проф. **Ус. Ігнатоўскі, Цішка Гартны (Зьм. Жылуновіч), Янка Купала, А. Баліцкі,** проф. **С. Вольфсон,** проф. **М. Грэдынгер;** чацьверты рад: **Паўлюк Трус, Іл. Барашка, А. Александровіч, Ан. Вольны, Ніч. Чарнушэвіч, Янка Марук.**

# ПРЫРОДАЗНАЎСТВА І МАРКСЫЗМ *)

## С. Вольфсон

У галіне грамадзкіх навук роля марксызму настолькі відавочна, што аб ёй ня прыходзіцца і гаварыць. Датыкаючыся прыродазнаўства, аб гэтай ролі яшчэ спрачаюцца.

Як у Савецкім Саюзе, так і на капіталістычным Захадзе кожны год дае дзесяткі прац, прысьвечаных абароне або крытыцы марксызму, дапасаваных да пытаньняў грамадзкіх навук.

У прыродазнаўстве мы яшчэ ня маем пакуль утоесамленага палажэньня. Але і тут узьнікае ўжо аналёгічны процэс, няўхільны паколькі марксызм прад'яўляе свае прэтэнзіі і на прырода-навуковую сфэру. І тут паўстае няўхільнасьць прымаць марксызм або абвяргаць яго, але становіцца немагчымым бесстаронна праходзіць міма яго.

Дыялектычны матэрыялізм зьяўляецца адным з тых двух асноўных сьветаглядаў, якія тысячагодзьдзямі супроцьстаяць адзін другому. Чым характарызуецца кожны з гэтых філёзофскіх сьветаглядаў?

Першы—ідэалізм—тым, што ён зацьвярджае прымат духоўнага пачатку над матэрыяльным, суб'ектыўнага над об'ектыўным, ставіць быцьцё ў залежнасьць ад сьвядомасьці і падпарадквае сусьвет тым ці іншым транстэндэнтным катэгорыям (гасподзь, абсолютны дух, сусьветны розум spiritus rector і інш.).

Што зьяўляецца характэрным для кожнай ідэалістычнай сыстэмы? Тое, што яна ў вырашэньні тых задач, якія стаяць перад ёй, адыходзіць ад нашых суб'ектыўных перажываньняў і пачуцьцяў і іх абарачвае ў падставу для ўсіх сваіх разважаньняў аб сьвеце.

Патрыярх ідэалістычнай філёзофіі Плятон абнізіў увесь сьвет, які акружае нас і пачуцьцёва намі ўспрыймаецца, на ступень „цьмянага адбітку“ адзінай сапраўднай рэальнасьці, якую ён прызнаваў, „ідэі“ Мы пазнаем сьвет ня дзякуючы практычнаму сутыканьню з ім, а дзякуючы таму, што наша душа „ўспамінае“, аднаўляе веды, атрыманыя ёю ў дасканалым, ідэальным, тагабочным, надземным сьвеце. Чалавек пазнае сьвет ня „целам“, а душой, якая замкнёна ў абалонку цела, як у цямніцу.

---

*) Аўторэфэрат дакладу, зробленага на Ўсебеларускай Прырода-навуковай Конфэрэнцыі 15 верасьня 1926 г.

Плятон супроцьпаставіў сьвету цялесных, фізычных, матэрыяльных рэчаў,—прастораваму, часоваму і пачуцьцёваму сьвету—іншы сьвет: бесьцялесных, недатычных, неадчуваных, па-запрасторавых, пазбаўленых усяго пачуцьцёвага ідэй. Сузіраючы гэтыя „сапраўдныя існасьці“ (так называе Плятон ідэі) душа і пазнае сьвет. Рэчы-ж, якія паддаюцца пачуцьцёваму ўспрыйманьню,—толькі цені „сапраўдных існасьцяй“ ідэй. Чалавек мае ідэю дасканалага, добрага, ганаровага і г. д. Толькі маючы ў сваім распараджэньні гэтыя ідэі, чалавек, у параўнаньні з імі, можа судзіць аб тых адзінкавых рэчах, з якімі ён стыкаецца ў нашым зданьнёвым, земным сьвеце. Ідэя зьяўляецца правобразам, які вызначае нашыя адносіны да знадворнага сьвету. Калі мастак стварае свой твор, ён дапасоўвае яго да сваёй ідэі дасканалага, якраз таксама, як ідэя служыць і модэльлю для сталяра, што робіць мэблю.

Буйнейшы з прадстаўнікоў ідэалізму новага часу Іаган-Готліб Фіхтэ ў аснову ўсяго пачуцьцёвага сьвету кладзе абсолютнае „я“. Ня-я існуе толькі дзякуючы дзейнасьці я. Рэчы або об'екты можна і павінна вывесьці з розуму (з я). Фіхтэ так і формулюе адносіны нашага ўнутранога сьвету (я) да надворнага (ня-я): „Я—становіць сябе вызначальнікам у ваднсінах да ня-я“.

І сьледам за Фіхтэ вялікі завяршыцель ідэалістычнай філёзофіі Гегель нявольніцка падпарадкаваў сьвет абсолютнаму духу, чыёй воляй і чыёй самаволяй трымаецца сьвет. Сьвет рухаецца сілай абсолютнай ідэі...

На працягу стагодзьдзяў ідэалізм ня раз зьмяняў сваё аблічча. Ён зьмяняўся ў выглядзе ад эпохі да эпохі, ён мяняў формулёўку сваіх поглядаў на адносіны быцьця да сьвядомасьці, але самыя гэтыя адносіны заставаліся нязьменнымі. Пачынаючы сваімі выяўна-тэолёгічнымі і канчаючы псэўда-навуковымі сыстэмамі, ідэалізм трактуе сьвет, як царства пасыўнай і інэртнай матэрыі, якая падпарадкавана духоўнаму пачатку, што кіруе ёю.

Другі з асноўных сьветаглядаў—матэрыялізм—характарызуецца тым, што выходным пунктам свайго сьветаўспрыйманьня лічыць быцьцё, зацьвярджае рэальнасьць прыроды і глядзіць на сьвет, як на нешта дзейнае, актыўнае, іманэнтнае, якое ў сваім самаразьвіцьці рухаецца па рэйках строгай законамернасьці, не дапускае ўмяшацельства ў яго лёсы па-засусьветных або надсусьветных сіл, і адзінае ў сваёй матэрыяльнасьці.

У сваіх філёзофскіх пабудовах ідэалізм—апрыорны, абстрактнасхэматычны і лёгічна-спэкулятыўны. Матэрыялізм—апостэрыорны, конкрэтна-рэальны і эмпірычна-дакладны.

Адгэтуль і выплывае палярнасьць ідэалізму і матэрыялізму ў іх адносінах да прыродазнаўчай навукі. Практыка дакладнай навукі для ідэалістага ня мае рацыі. Устанаўляючы прыорытэт мысьленьня, ён

з напышлівай пагардай можа ігнараваць быцьцё. Для яго „cogito ergo sum“. Калі так, дык азначае, зразумела, cogito. Справа ня ў фактах, над якімі крукам сядзіць прыродадасьледца, а ў тым, як іх мысьліць філёзоф. Абвяшчаючы сьвет комплексам адчуваньняў, скэптычна паглядваючы на ўсё, што ня-я (solus ipse), абарачваючы сусьвет у „іншабыцьцё“ духу, ідэалізм не патрабуе для сваіх пабудоў прырода-навуковай базы. Яго філёзофскія сыстэмы па-запрактычныя, надпрактычныя вандруюць ў мэтафізычных вышынях сваіх уласных мудраваньняў і ня зьвязаны з прыродазнаўствам.

Ня тое з матэрыялізмам. Быцьцё азначае сьвядомасьць. Калі так, дык трэба гэта быцьцё панаглядаць, прамацаць, прачуць, дасьледваць і толькі потым зрабіць заключэньне, абагульніць. Быцьцё сусьвету прамацоўваецца прыродазнаўствам і таму матэрыялістычная філёзофія ідзе сьледам за ім. Ідэалізм можа ўзьлятаць на рацыяналістычных крыльлях ў вышыню філёзофскіх мудраваньняў. Матэрыялізм эмпірычным ланцугом прыкуты да прырода-навуковага факту.

Філёзофскія прынцыпы матэрыялізму ёсьць сынтэтычны вывад з прырода-навуковых ведаў, якія набыты чалавецтвам і вось таму матэрыялізм мяняе сваё аблічча ад эпохі да эпохі, зьмяняецца ў выглядзе разам з эволюцыяй прыродазнаўства. Ад наіўных і нясьмелых спроб гілозоізму, якія рабіліся на досьвітку прыродазнаўства, да вялічных абагульненьняў Маркса-Энгельса,—матэрыялізм усмоктваў у сябе тое новае, што станавіла прыродазнаўчая навука. І кожны новы крок, які рабіла на сваім шляху прыродазнаўства, зьяўляецца пацьверджаньнем філёзофскіх прынцыпаў матэрыялізму: ад об‘екту, ад быцьця, ад прыроды існьці да суб‘екта, да сьвядомасьці, да духу...

Філёзофская канцэпцыя матэрыялізму перамагла. Напэўна можна сказаць, што яна апраўдана бесстаронным трыбуналам дакладнай навукі.

Айцец матэрыялізму Дэмокрыт дзьве з паловай тысячы год таму назад супроцьставіў першабытным сьпірытуалістычным поглядам сваіх сучасьнікаў матэрыялістычную сыстэму атомізму, якая замяняла надпрыродныя цуды законамі матэрыі. На сваёй дзяцінска-дзікунскай мове абвясьціў ён, што ня існуе нічога, апрача атомаў і парожняй прасторы.

А ў нашыя дні такі выдатны фізык, як Тэ Свэдбэрг кажа: „Мы можам цяпер зацьвярджаць, што сучаснае атомістычнае вучэньне паходзіць ад Дэмокрыта. Зразумела, яно ў шмат чым адхіляецца ад яго вучэньня. Прапанаванае Дэмокрытам узалежненьне рознасьці ва ўласьцівасьцях целаў цалкам і выключна ад формы і велічыні атомаў асноўнай субстанцыі было ў яго час у вышэйшай ступені гарэзнай думкай, да і ў нашыя дні яна застаецца яшчэ пачварным і неўгрунтаваным дапушчэньнем. Дэмокрыт уяўляў сабе злучэньне паміж атомамі, як утварэньне з іх сапраўдных ланцугоў і спляценьняў. Ён надзяляў атомы бартамі, гаплікамі, выступамі і паглыбленьнямі, асаблівымі прыладамі, аб-

кружаючымі гладкія і аднолькавай формы атомы. Пры ўсёй недакладнасьці гэтага ўзору мы маем тут перад сабою грубую мэханічную модэль сучаснага вучэньня аб валентнасьці“.

Аднаўленца матэрыялістычнай філёзофіі і вялікі барацьбіт за практычнае прыродазнаўства Францыск Бэкон Вэруламскі ў эпоху, калі толькі пачала расьсявацца ноч сярэднявякоўя, прадказаў прыход „чалавека—тлумача прыроды і яе ўладара“.

І Кл. А. Тімірязев не дарма ўспомніў аб Бэконе, калі загаварыў аб Пастэру. Стоячы на парозе XX-га стагодзьдзя, казаў Тімірязев, і ўдумваючыся ў значэньне тыповага прадстаўніка XIX стагодзьдзя, якое адзначыла сябе нябывалым разьвіцьцём навукі аб прыродзе і ў нябывалай меры павялічыла ўладу чалавека над прыродаю, мімаволі пераносішся думкаю ў другую, ня менш вялікую эпоху на рубяжы XVI і XVII ст. ст., калі толькі ўзьнік той рух, вынікі якога мы цяпер так ясна бачым. Мімаволі спыняешся на натхненных словах мысьліцеля, які амаль упіўся першымі посьпехамі дакладных вед і на парозе XVII стагодзьдзя прарочыў аб тым, што XIX стагодзьдзе ў значнай меры ўжо пасьпела ажыцьцёвіць... У трэцім афорызьме сваёй несьмяротнай кнігі Бэкон раз на заўсёды касуе пашыраную антытэзу паміж тэорыяй і практыкай,—паміж ведамі і ўладаю чалавека над прыродай.

Нарэшце, трэцяя і апошняя спраўка таго самага парадку. Калі ў навальніцы і буры Вялікай Францускай Рэволюцыі рэзка і выразна прагучэў голас ваяўнічага матэрыялізму, дык раней за ўсё гэты голас абвясьціў „L'homme-machine“. Перакінуўшы мост цераз прорву, якая аддзяляла ў Дэкарта чалавека ад ўсяго жывёльнага сьвету, пагардны і знарок грубы глашатай рэволюцыйна-матэрыялістычных ідэй Дэ-Ля-Мэтры заявіў, што „чалавек гэта машына“.

А прыродазнаўчая навука нашай эпохі вуснамі такога аўторытэтнага яе прадстаўніка, як акадэмік П. П. Лазарев, зацьвярджае, што за апошні час аналіз самых складаных зьяў у жыцьці даўаграмадныя посьпехі і даў масу довадаў, што значная частка зьявішчаў у організьме зьвязана тымі-ж законамі, якія мы наглядаем і ў няжывой прыродзе, і мы можам разглядаць організм у яго цэлым, як складана пабудаваную і складана функцыянуючую фізыка-хэмічную машыну.

Так адбываецца на нашых вачох пераклічка сучаснага прыродазнаўства з матэрыялістычнай філёзофіяй мінулага.

Марксызм уяўляе з сябе матэрыялістычную філёзофію новай эпохі. У васобе марксызму ўваскрос стары матэрыялізм, узбагачаны ўсімі дасягненьнямі прырода-навуковых дасьледзін і прырода-навуковай думкі.

Будзе таму,—думаецца мне,—дарэчы паставіць пытаньне, як выглядаюць асноўныя гносэолёгічныя палажэньні і мэтодолёгічныя прынцыпы марксызму ў сьвятле сучаснага прыродазнаўства.

Раней, аднак, чым прыступіць да гэтага, дазвольце маленькую агаворку. У нас пад марксызмам часта разумеюць пэўную соцыяльную тэорыю. Так робяць тыя, хто знаёмы з марксызмам „па чутках“ або чэрпаюць аб ім веды з падручнікаў політграматы 3-га гатунку. Сапраўды-ж марксызм зьяўляецца нічым іншым, як суцэльным і стройным сьветаглядам, які мае два накіраваньні—філёзофскае і соцыолёгічнае. Марксызм у роўнай меры ставіць перад сабой і пытаньне аб адносінах сьвядомасьці да быцьця і аб законах, якія кіруюць грамадзкім жыцьцём. Адрываць адно ад другога, значыць адмаўляць і адно і другое, значыць скажаць марксызм, значыць скажаць нашу тэорыю.

Пад матэрыяльнасьцю сьвету мы мысьлім яго здольнасьць дзейнічаць на нашы пачуцьці і выклікаць тым самым у нас тыя або іншыя адчуваньні. Згодна вядомаму азначэньню Г. В. Плеханова, матэрыяльнымі прадметамі (целамі) мы называем такія прадметы, якія існуюць незалежна ад нашай сьвядомасьці і, дзейнічаючы на нашы пачуцьці, выклікаюць у нас пэўныя адчуваньні, якія ў сваю чаргу кладуцца ў аснову нашых уяўленьняў аб знадворным сьвеце, г. зн. аб тых-жа матэрыяльных прадметах, а таксама і аб іх узаемных адносінах.

Апрача гэтага матэрыяльнага сьвету, які мы пазнаем пры дапамозе нашых пачуцьцяў, ніякага другога сьвету няма. адзін ён—рэальны.

Азначаючы матэрыю, мы прызнаем гэтае паняцьце дапасавальным да ўсяго таго, што выклікае нашыя адчуваньні, што проста або ўскосна, так ці іначай, зьяўляецца крыніцай нашых адчуваньняў.

Матэрыя—об‘ект, што выклікае нашыя адчуваньні. Гэты об‘ект існуе незалежна ад таго, ці выклікае ён у даны час гэтыя адчуваньні, ці не. Кожнае цела існуе зусім незалежна ад таго, ці ўспрыймаем мы яго ў пэўны момант часу, ці ня ўспрыймаем.

У сваёй працы „Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм“ У. І. Ленін пісаў:

„Каб паставіць пытаньне з адзіна-правільнага, г. зн. дыалектычна-матэрыялістычнага пункту гледжаньня, трэба запытацца: ці існуюць электроны, эфір і г. д. па-зачалавецкай сьвядомасьцю, як об‘ектыўная рэальнасьць, ці не. На гэтае пытаньне прыродадасьледцы таксама бяз хістаньняў павінны будуць адказаць і адказваюць заўсёды—але, як яны бяз хістаньняў прызнаюць існаваньне прыроды да чалавека і да арганічнай матэрыі. І гэтым вырашаецца пытаньне ў бок матэрыялізму, бо паняцьце матэрыі не азначае аносэолёгічна нічога іншага, апрача як: об‘ектыўная рэальнасьць, што існуе незалежна ад чалавецкай сьвядомасьці і адбіваецца ёю“.

Ці-ж прыродазнаўства па ўсёй лініі сучаснага вучэньня аб матэрыі не апраўдвае гэтых слоў і ці-ж квантовая тэорыя не зьяўляецца лепшым апраўданьнем гэтым словам?

Калі сучасная фізыка скасавала ўяўленьне аб матэрыі, як аб мэханічнай масе, ідэалістычная філёзофія памкнулася сабраць на гэтай ака-

лічнасьці капітал, абвясьціўшы, што зьнікла матэрыя, а разам з тым зьнішчаецца і матэрыялізм.

Гэта было, зразумела, замахам з нягоднымі сродкамі, бо для матэрыялізму цэнтр вагі—у існаваньні матэрыі, як об'ектыўнай рэальнасьці, і новая будова аб атоме ні ў якай меры супроць гэтага існаваньня не накіравана.

Ідэалізм гаворыць: бяз суб'екту няма об'екту. Гісторыя зямлі паказвае, што об'ект існаваў куды раней, чым зьявіўся суб'ект, г.зн. куды раней, чым зьявіліся організмы, якія валодаюць прыкметнай ступеньню сьвядомасьці. Ідэалістыя гавораць: розум дыктуе прыродзе яе законы. Гісторыя органічнага сьвету паказвае, што розум зьяўляецца толькі на высокай ступені сходаў разьвіцьця. Але таму, што гэта разьвіцьцё можа быць растлумачана толькі законамі прыроды, дык выходзіць, што прырода прадыктавала розуму яго законы. Тэорыя разьвіцьця выкрывае ісьціну матэрыялізму (Плеханов). Марксызм мысьліць усю прыроду об'ектыўна існуючай, а чалавека толькі часткай прыроды.

Суб'ект складае часьць прыроды,—ён продукт прыроды, падуладны яе агульным законам.

Яшчэ вуснамі Гэльвэцыя матэрыялізм заявіў, што чалавек ня можа вызваліцца ад законаў прыроды, што істота, якая стаіць вышэй прыроды,—мара. Чалавек—частка агульнага, сусьветнага быцьця. Матэрыялізм разбурае антропоцэнтрычную сыстэму з яе верай у чалавека, як цэнтр сусьвету, і тлумачыць чалавека, як частку прыроды, як частку сусьветнага цэлага. „Вывучаючы параўнальную фізыолёгію“, пісаў Энгельс Марксу ў лісьце ад 14-га ліпня 1858 г., „пачынаеш шчыра ганьбаваць ідэалістычным ўзьвялічэньнем чалавека над усёй іншай зьвярыною“.

Ужо ў пачатку XIX-га стагодзьдзя прыродазнаўства прызнала, што для пазнаньня сьвету яно ня мае патрэбы ў казцы аб творцы сусьвету. На недаўменнае пытаньне Наполеона, зьвернутае да Ляпляса, аб прычынах адсутнасьці ў яго сыстэме бога, вялікі фізык горда адказаў: „Мне гэта гіпотэза непатрэбна“. Сучаснае прыродазнаўства таксама пагардна адкідае гіпотэзу аб нейкай асаблівай існасьці чалавецкай псыхікі, яно недазваляе чалавеку ўзьняцца над законамі матэрыяльнага сьвету і цьвярдзіць аб сваёй боскай душы. „Толькі ідучы шляхам об'ектыўных дасьледаў,—гаворыць І. П. Павлов,—мы пастунова дойдзем да поўнага аналізу таго бязьмежнага прыстасаваньня ва ўсім яго об'ёме, якое складае жыцьцё на зямлі... Праца ў гэтым кірунку пачата ў розных паверхах жыцьця і дасканала рухаецца наперад, не спатыкаючы перашкод. Об'ектыўнае дасьледваньне жывой матэрыі, якое пачынаецца вучэньнем аб тропізмах элемэнтарных жывых істот, можа і павінна заставацца такім і тады, калі яно даходзіць да вышэйшых праяў жывёльнага організму, так званых псыхічных зьявішчаў у вышэйшых жывёл. Для натуралістага ўсё—у мэтодзе, у магчымасьцях здабыць непарушную, трывалую ісьціну, і з

гэтага толькі абавязковага для яго пункту гледжаньня, душа, як натуралістычны прынцып, ня толькі непатрэбна яму, а нават шкодна выказала-б сябе ў яго працы“...

Гэта не перашкаджае, аднак, час-ад-часу ўваскрасаць розным філёзофскім віталістычным тэорыям, якія дамагаюцца так ці іначай зьвесьці жыцьцёвае зьявішча да дзеяньня асобнай няўцямнай сілы, чужой для неарганічнага сьвету і мэтазгодна памкнёнай. Такія спробы мы маем ў некаторых найноўшых працах Эйнгорна, Гэртвіга, Франса, Бунгэ, Іксюльля і інш.

Тымчасам разьвіцьцё прыроданавуковых ведаў дазваляе з кожным днём ўсё менш гаварыць аб тым, што жыцьцём кіруе асаблівы пачатак, не падлеглы законам фізыкі і хэміі—накшталт ўваскрошанай Дрышам Арыстотэлевай энтэлехіі, або гальванізаванай Іксюльлем ў выглядзе „сыстэмы імпульсу“ Плятонавай ідэі... Усё з большай пэўнасьцю вызначае навука ў функцыях нашага організму дзеяньне фізыка-хэмічных законаў. Яна давяла ўжо, што організм паглынае знадворку энэргію,ператварае яе з адных форм у другія і што пры гэтым жыцьцёвым процэсе адбываецца поўная ўрачыстасьць непарушнага закону захаваньня энэргіі. І дыханьне, і крывязварот, і траўленьне і вышэйшая нэрвова-мазгавая дзейнасьць—усё тое, што якіх-небудзь некалькі дзесяцігодзьдзяў таму назад яшчэ было абкружана орэолем таемнага, няўцямнага, цудоўнага, навука нашага часу амаль скіравала (і яшчэ скіроўвае) да хэміка-фізычных процэсаў, якія прынцыпова нічым ня розьняцца ад таго, што адбываецца ў іншай прыродзе. Навука сучаснасьці з яснасьцю, якая не пакідае месца хістаньням, устанаўлівае адсутнасьць ў нашым організьме якіх-бы то ні было элемэнтаў, чужых для знадворнага сьвету. Гэта акалічнасьць ужо пачынае абарачвацца буйнейшымі сучаснымі вучонымі ў выходны пункт пры досьледах, якія яны робяць.

І ў гэтым факце мы маем усе падставы бачыць найвялікшы трыумф матэрыялістычнага сьветагляду.

„Усе, якія толькі ёсьць у нас, зьвесткі аб хэмічным складзе жывых істот,—гаворыць проф. П. Ю. Шмідт,—сьведчаць, што з пункту гледжаньня матэрыі жывыя істоты непадзельны ад няжывой прыроды. Яны складаюцца з такіх самых элемэнтаў, складаюцца з такіх-жа атомаў і паводле такіх самых законаў“.

З таго часу, як Жак Леб паказаў, што простая зьмена фізыка-хэмічных умоў асяродзьдзя можа выклікаць да драбленьня і далейшага разьвіцьця незаплодненыя яйкі жывёл, віталізм страціў адзін з сваіх галоўных сховаў.

„Ніхто, нават самы заўзяты, але навукова мысьлячы віталісты,—піша гэты вялікі амэрыканскі вучоны,—і не падумае разглядаць процэсы траўленьня, памен матэрый, продукцыю цела і электрычнасьці ў жывым організьме, нават сэкрэцыю або скарачэньне цягліц з якога-небудзь іншага

пункту гледжаньня, чым з чыста хэмічнага або фізыка-хэмічнага; бадай ці хто-небудзь адважыцца вытлумачыць функцыі вока або вуха, карыстаючыся іншым пунктам гледжаньня, апрача фізычнага. Але як толькі закранаецца пытаньне аб дзейнасьці організму, як цэлага, мы стыкаемся з зусім іншым палажэньнем. Той-жа самы фізыолёг, які ў вытлумачэньні асобных процэсаў прытрымліваецца фізыка-хэмічнага пункту гледжаньня і мэтоду, пачаў-бы разглядаць дзейнасьць організму, як цэлага, як выяўленьне агентаў няфізычнага парадку...

Патаемны ўплыў, які робіць цэлае на свае часткі, вельмі часта скіроўваецца да таго, што тыя спэцыфічныя або неспэцыфічныя матэрыі, якія цыркулююць у целе, прыцягваюцца ўнутры цэлага да некаторых вучасткаў, у выніку чаго яны пазбаўляюцца магчымасьці ўзьдзейнічаць на іншыя часткі організму. Калі ізоляваць гэтыя часткі, дык матэрыі ня могуць больш адцякаць ад іх, і часткі пачынаюць расьці. Такім чынам робіцца зусім лішнім надзяляць падобны організм „накіравальнай сілай“, якой прыпісваецца здольнасьць злучаць ізоляваныя часткі ў вадно цэлае. Пасьля таго,—кажа Леб,—як была даведзена дапасавальнасьць да сонечнай сыстэмы закону сусьветнага цягненьня, уяўленьне аб загадзя прадугледжаным пляне руху плянэт страціла ўвесь свой сэнс і гэты факт павінен служыць нам правадніком пры ўсіх нашых спробах вызваліць навуку ад уплыву містыцызму. Як толькі нам пашанцуе паказаць, што якое-небудзь жыцьцёвае зьявішча падлягае простаму фізычнаму закону, зьнікне ўсякая неабходнасьць дапушчэньня няфізычных агентаў“.

Леб атрымаў падобны вынік для аднэй групы жывёльных інстынктаў—тэй, якая азначае адносіны жывёл да сьвятла. Ён скіраваў іх да так званага закону Бунзэна-Роко, згодна якому фізычны эфэкт дзеяньня сьвятла ровен здабытку інтэнсыўнасьці асьвятленьня на яго працягласьць... Леб меў права сказаць, што „біолёгія будзе навуковай пастолькі, паскольки ёй пашанцуе скіраваць жыцьцёвыя зьявішчы да колькасных законаў“. І на нашых вачох яна такой робіцца. Ужо буйнейшыя прыродадасьледцы, як, напрыклад, Навашын, адзначаюць, што разьвязаньне „загадак жыцьця“ ляжыць у ультрамікроскопічных вялічынях і колёиднай хэміі. Ультрамікроскоп дае новыя і трывалыя пункты падставы матэрыялістычнай філёзофіі. Віталістычны кастыль, на які ў вапошні час прабаваў абапёрціся ідэалізм, перастаў дапамагаць яму.

У чым адметная рыса віталізму? У прызнаньні таго, што Бэрнгард Фішэр называе „самаўладнай аўтономіяй нематэрыяльнага кіраўніка ўсіх жыцьцёвых процэсаў, якую-б назву яму не давалі“.

Я напомню, што адным з цэнтральных аргумантаў віталізму ў карысьць такой „аўтономіі нематэрыяльнага фактару“, зьяўляецца славутае спасыланьне Дрыша на тое, што з мэханічна падзеленага напалам зародку ўтвараюцца дзьве новыя жывёлы. Значыцца, пацьвярджаюць віталістыя, зародак ня мае мэханізму,—апошні быў-бы разбураны пры разразаньні

а ў ім дзейнічае асаблівы жыцьцёвы пачатак, які не паддаецца мэханічнаму ўзьдзеяньню.

З прычыны гэтага дазволю сабе падаць вельмі тонкую заўвагу, зробленую Бэрнгардам Фішэрам ў яго полеміцы з Ікскюльлем, які паўтараў вышэйпаданы дрышавы довад.

„Мы можам даць параду,—гаворыць Фішэр,—Дрышу або Ікскюльлю, спрабаваць пры асноўным экспэрымэнце разбурыць хэмічную структуру зародку, хаця-б толькі зьмяніць колёідальнае становішча апошняго,—тады вынік будзе іншы. Тады можна з пэўнасьцю сказаць, што насуперач усякай энтэлегіі і сыстэме імпульсу, ня гледзячы на тое, нават, што ўся матэрыя бяз самай маленькай астачы захаваецца спаўна, ніякай лічынкі з зародку ня створыцца. А ўвесь „кіруючы пачатак“, які паводле думкі Ікскюльля, первясткова ўласьцівы зародку, які стаіць вышэй за ўсё матэрыяльнае і пануе над ім, ня можа быць ні „разрэзаны нажом“, ні разбураны ні цяплынёй, ні рэактывамі, бо ён па-за прасторай і, значыцца, павінен, як і раней, дзейнічаць у поўнай меры. Сапраўды-ж мы бачым, што гэты перавыслаўлены пачатак касуецца і зьнікае, як толькі хэмічная структура зародку падупадае самай малой зьмене“.

Адзін з довадаў нэовіталізму, які здаваўся найбольш пераканальным, страціў сваю зданьнёвую пераканальнасьць.

Паглядзім цяпер, як абстоіць справа з другім з асноўных філёзофскіх постулятаў дыялектычнага матэрыялізму.

Пры сваім пазнаньні сьвету, мы бярэм за выходны пункт практыку, г. зн. пазнаньне ўласьцівасьцяй рэчы, і выходзім, такім чынам, з пабудоў апостэрыорных.

Тут, аднак, у нас натуральна ўзьнікае пытаньне аб тым, наколькі мы маем магчымасьць пазнаць сьвет, наколькі надзейным праваднікам зьяўляецца практыка ў справе руху наперад па шляху пазнаньня сьвету.

Мы пазнаем рэч па тых уражаньнях, якія чэрпаем пры практыцы ад яе. Правільней будзе сказаць, што мы пазнаем не самую рэч, а яе пэўныя ўласьцівасьці. З практыкі я ведаю, што цукар—салодкі, што распаленае жалеза—гарачае, што гэты стол—вельмі цяжкі, што гэтая папера—белая, што гэтая катэдра—нізкая і г. д. і г. д. Ці значыць-жа гэта, што я тым самым пазнаў даныя рэчы? Не, я толькі пазнаў іх пэўныя ўласьцівасьці. Можа гэтыя ўласьцівасьці памылковы, а тое, што я называю бельлю данага аркушу паперы, зьяўляецца вынікам майго суб'ектыўнага ўспрыняцьця, тэй ці іншай фізыолёгічнай будовы маіх органаў зроку. Я ведаю, што гэты аркуш пеперы—белы, мае даўгую, чатырохкутную форму, што даўжыня яго—20 сантымэтраў і шырыня—10, што ён—шурпаваты і г. д. і г. д. Ці дазваляюць мне ўсе гэтыя, пазнаныя ў выніку практыкі, уласьцівасьці рэчаў лічыць, што гэты аркуш сам па сабе (як „рэч у сабе“, гаворачы моваю Канта) мною пазнаны, ці я павінен прызнаць, што пазнаны толькі ўласьцівасьці рэчы, што гэтыя веды

суб'ектыўныя, хісткія, што мае ўяўленьне аб аркушы паперы далёка ад таго, што ён уяўляе з сябе ў рэчаіснасьці? Калі мяне запытаюцца, што-ж гэта такое аркуш паперы, як „рэч у сабе", я павінен, такім чынам, сказаць: „Ня ведаю", і зрабіўшы адпаведны вывад з гэтага няведаньня дадаць усьлед за Дзюбуа-Рэймонам: „Ignorabimus",—„І ведаць ня будзем".

Такі вывад і робяць ідэалістычна мысьлячыя філёзофы. Калі становішча нашай сьвядомасьці, выкліканае ўзьдзеяньнем на нас знадворнага сьвету ня тожсамае з гэтым самым знадворным сьветам, значыць гэты сьвет для нас непазнавальны.

Дыялектычны матэрыялізм зусім не адракаецца ад таго, што паміж рэчаіснасьцю і нашымі ўспрыйманьнямі ёсьць розьніца, што мы можам успрыймаць прадмет зусім інакш, чым ён зьяўляецца ў рэчаіснасьці. Але гэтая акалічнасьць ня прымушае нас згадзіцца з „непазнавальнасьцю" знадворнага сьвету, „рэчаў у сабе". Наадварот, мы зацьвярджаем:—Ніякага другога веданьня прадмету, апрача веданьня яго праз пасярэдніцтва тых уражаньняў, якія ён на нас робіць, няма і быць ня можа. Дзеля гэтага, калі я прызнаю, што матэрыя нам вядома толькі праз пасярэдніцтва адчуваньняў, якія яна ў нас выклікае, дык гэта зусім ня значыць, што я абвяшчаю матэрыю нечым „невядомым" і „непазнавальным"...

„Пытаньне аб тым, ці здольна чалавецкае мысьленьне пазнаць прадметы ў тым выглядзе, як яны існуюць у рэчаіснасьці,—зусім не тэорытычнае, а практычнае пытаньне. Практыкай павінен давесьці чалавек сапраўднасьць, рэчаіснасьць, сілу і гэтабочнасьць свайго мысьленьня. Спрэчка-ж аб рэчаіснасьці або нерэчаіснасьці мысьленьня, якое ізолюецца ад практыкі, ёсьць чыста схолястычная спрэчка (Энгельс).

Тая акалічнасьць, што мы ў нашым практычным жыцьці ўмеем скарыстаць рэчы ў адпаведнасьці з тымі мэтамі, якія мы перад намі ставім, што мы ўмеем комбінаваць матэрыю такім чынам, як нам гэта патрэбна, што даныя, узятыя намі з практыкі, зьяўляюцца пры гэтай нашай практыцы досыць надзейным кіраўніком,—усё гэта даводзіць, што прырода пазнавальна. Усе тэхнічныя заваёвы чалавекам стыхіі ёсьць вынік таго, что ён вывучыў прыроду, што ён пазнаў „рэч у сабе".

Мы можам давесьці правільнасьць нашага разуменьня данага зьявішча прыроды тым, што мы самі яго выклікаем, нараджаем яго з умоў і прымушаем яго служыць нашым мэтам, такім чынам, кантаўскай „рэчы самой па сабе" прыходзіць канец...

Але калі мы зацьвярджаем, што прырода пазнавальна, ці значыць гэта, што мы лічым нашу здольнасьць пазнаваньня бязьмежнай, што мы ня ставім ёй ніякіх межаў?

Зусім не...

Дыялектычны матэрыялізм, даводзячы прынцыповую пазнавальнасьць сьвету, разумее, што чалавек пазнаў сьвет у тэй меры, у якой гэта яму

дазвалялі гістарычныя ўмовы. „Сьвет заўсёды пазнавальны, але кожны даны гістарычны момант не спаўна пазнаны... Дасканала выказаў тую самую думку Н. Г. Чарнышэўскі ў сваім артыкуле „О характере человеческого знания“:

„Нашы веды—чалавецкія веды. Пазнавальныя сілы чалавека абмяжованы, як і ўсе яго сілы. У гэтым сэнсе слова характар нашых ведаў абумоўліваецца характарам нашых пазнавальных сіл. Няхай будуць органы нашых пачуцьцяў больш успрыймальнымі і наш розум больш моцным, мы ведалі-б больш, чымся ведаем цяпер, і, разумеецца, некаторыя з цяперашніх нашых ведаў зьмяніліся-б, калі-б нашыя веды былі-б шырэйшыя за цяперашнія“...

Прогрэс навукі сягоньня абарачвае ў пазнанае тое, што мы яшчэ ўчора лічылі непазнавальным. Вынаходка новых прылад, новых інструмантаў, новых мэтодаў фізычнага дасьледваньня прыводзіць,—як кажа вядомы фізык О. Віньнер,—да пашырэньня галіны нашых пачуцьцёвых успрыйманьняў. Заваёвы навукі як-бы дадаюць чалавеку новыя органы пачуцьцяў. Мікроскоп, рэфрактомэтр, гальваномэтр, фонограф, апарат Рэнтгена, сэйсмограф—нязьлічоная колькасьць іншых інструмантаў—служаць для чалавека штучнымі органамі пачуцьцяў, якія дазваляюць нам пазнаць тое, што было няўцямным, непазнавальным для папярэдніх пакаленьняў.

Я-б хацеў яшчэ адзначыць тое характэрнае зьявішча, што з спробамі абвясьціць сьвет непазнавальным мы спатыкаемся ня толькі ў філёзофаў, але і ў прыродадасьледцаў. Бо перавыслаўленае „ignoramus ignorabimus“ сказана ня філёзофам, а прыродадасьледцам. Аб непазнавальнасьці сьвету ў свой час цьвярдзілі Галер і Гётэ, непазнавальнасьць завяла ў дрыгву рэлігіі такіх буйных вучоных, як, скажам, угрунтавальніка сучаснай ботанікі Шлейдэна, як вялікага фізыолёга Іагана Мюлера і, нарэшце, каб назваць імёны больш сучасныя,—фізыка Лоджа...

Не падлягае сумненьню, што прыхільнасьць шмат якіх прыродадасьледцаў да прызнаньня непазнавальнасьці сьвету, тлумачыцца тым, што прыродадасьледцу даводзіцца арудаваць гіпотэзамі, якія часта мяняюцца, гінуць пад ціскам практыкі і ўступаюць сваё месца новым... Адгэтуль і выплываюць скэптычныя адносіны да прынцыповай магчымасьці пазнаць сьвет.

Прыродадасьледца павінен раней за іншых зразумець усю бескарыснасьць, усю, я-б сказаў, шкоднасьць ідэі аб непазнавальнасьці рэчы ў сабе. Гэта зацьверджаньне, што мы няздольны пазнаць рэч у сабе,—гаворыць Фрыдрых Энгельс,—папершае, пераходзіць з галіны навукі ў галіну фантазіі, падругое, ані нічога не дадае да нашага навуковага пазнаньня, бо, калі мы ня здольны займацца рэчамі, дык яны ня існуюць для нас, і, патрэцяе, гэта—голая, ніколі няўжываная фраза. Абстрактна кажучы, гэта гучыць зусім уразуменна. Але няхай спрабуюць ужы-

ваць яго. Што думаць аб зоолёгу, які сказаў-бы: сабака мае, здаецца чатыры нагі, але мы ня ведаем, ці ня мае яна ў сапраўднасьці чатырох мільёнаў ног, або зусім ня мае ног. Аб матэматыку, які сьпярша азначае трыкутнік як фігуру з трыма бакамі, а потым заяўляе, што ня ведае— ці ня мае ён 25 бакоў. Дважды два раўняецца, здаецца, чатыром. Але прыродадасьледцы высьцерагаюцца ўжываць фразу аб рэчы ў сабе ў прыродазнаўстве, дазваляючы яе толькі тады, калі заглядаюць у галіну філёзофіі. Гэта лепшы довад таго, як нясур'ёзна яны да яе адносяцца... З гістарычнага пункту гледжаньня проблема гэтая можа мець пэўны сэнс: мы можам пазнаваць толькі пры даных нашай эпохі ўмовах і настолькі, наколькі гэтыя ўмовы дазваляюць.

Філёзофская ідэя „непазнавальнасьці" супярэчыць жывому пачуцьцю сапраўднага прыродадасьледцы, і апошні заяўляе, што ён у корані адкідае спасылку на „непазнавальнасьць", на „нямысьлімасьць". „Нямысьлімае" паняцьце чыста суб'ектыўнае. Нясумненна, шмат што ўяўляецца мне нямысьлімым, што зусім мысьліма для іншых розумаў, больш здольных, з больш глыбокай і дасканалай падрыхтоўкай у ваднэй якой-небудзь, або нават ва ўсіх галінах чалавецкіх ведаў. Ня ў тым існасьць у кожным асобным конкрэтным выпадку, аб чым мы можам мысьліць, але як мы павінны гэта мысьліць. Нясумненна, кожнаму філёзофу пачатку XIX ст. нічога не каштавала-б дакладнейшым чынам давесьці, што цяперашнія дасягненьні накшталт чыгункі, тэлеграфу, мноства вынаходак нашага часу, зусім „нямысьлімы". Усё, што ня існуе ў даны момант, усё зусім новае ўяўляецца нямысьлімым, пакуль ня будзе даведзена яго фактычнае існаваньне. Ніхто ня можа прадбачыць, што ўжо на працягу году зробіцца мысьлімым.

І з пачуцьцём аграмаднага здавальненьня мы, марксыстыя, можам цытаваць словы ак. Іоффэ: „Апошнія 20 год вызначыліся нязвычайнымі посьпехамі фізыкі, якія зусім зьмянілі яе асноўныя рысы. Гэтыя посьпехі давялі нас да такога глыбокага пранікненьня ў глыбіню матэрыі, у таямніцы яе будовы і жыцьця, якое яшчэ зусім нядаўна лічылася найглыбейшымі філёзофамі недаступнымі розуму чалавецкаму на векі вякоў. Мы ўразумелі ўнутраны мэханізм абкружаючых нас зьявішчаў, прыроды і сіл, якія дзейнічаюць у матэрыяльных целах, выкрыўшы, што пры ўсёй іх відочнай рознастайнасьці мы ўсюды маем справу толькі з аднымі сіламі і іменна з сіламі электрычнымі. Мы прышлі да электрычнай тэорыі, якая абхапляе і гук, і сьвятло, і цяплыню, і сілу сцапленьня паміж частачкамі цела, і ўсю галіну хэміі...

Электрычная тэорыя матэрыі ня толькі якасна тлумачыць паходжаньне молекулярных сіл у цьвёрдых, вадкіх і газавых целах, але і дазваляе з вялікай дакладнасьцю вылічыць велічыню гэтых сіл, адлеглясьць паміж атомамі, іх разьмеркаваньне, законы іх руху і ўсе нагляданыя ў прыродзе зьявішчы"...

Падагульняючы дасягненьні фізычнай навукі за два апошніх дзесяцігодзьдзі, ак. Іоффэ гаворыць, „што замест шуканьняў у поцемках невядомасьці, мы можам вывучаць дэталі таго яснага і ўсеахапляючага малюнку, які стварыла сучасная фізыка“.

Ці-ж гэтыя словы аднаго з бясспрэчных аўторытэтаў сучаснага прыродазнаўства не павінны разглядацца, як новая і рашучая перамога матэрыялістычнай філёзофіі над усякага выгляду мэтафізычным скэпсысам, пачынаючы ад выяўна-обскуранцкага і канчаючы саромліва-агностычным?..

Такую самую перамогу матэрыялізму ўяўляе сабой той факт, што на нашых вачох адбылася заваёва прыродазнаўствам псыхолёгіі...

Працы Сеченова, Паўлова і Бехтерова ў нас, Торндайка, Уотсона, Русэля ў Амэрыцы, рэфлексолёгія, з аднаго боку, бэховіорызм—з другога, скончылі назаўсёды з псыхолёгічнай мэтафізыкай.

„Ці даўно яшчэ проф. Челпанов азначаў псыхолёгію, як вучэньне аб душы, у якой адбываюцца душэўныя зьявішчы, а ня толькі аб зьявішчах, якія ажыцьцяўляюцца бяз душы, а цяпер гэта здаецца далёкім сярэднявякоўем,—казаў проф. Корнілов на заключным паседжаньні II-га Ўсерасійскага Зьезду псыхонэўролёгаў у 1924 г.,—і мы пераступілі ня толькі цераз труп гэтай умысловай псыхолёгіі, але стаім каля дамавіны яе наступніцы, так званай эмпірычнай псыхолёгіі“...

Калі псыхолёгія яшчэ нядаўна была наскрозь прасякнута мэтафізыкай, блукаючыся ў комплексе абстрактных катэгорый „душэўнай сьвядомасьці“, перажываньняў, настрояў і інш., якія яна цягнула на буксыры інтроспэкцыі, дык у цяперашні час проф. Уотсон палічыў, што ён мае права абвясьціць псыхолёгію „тою з прыродазнаўчых навук, якая вывучае фактары абыходжаньня чалавека“.

„Да апошняга часу псыхолёгія знаходзілася пад настолькі магутным уплывам традыцыйнай філёзофіі і рэлігіі, што яна ніяк не магла вызваліцца ад іх панаваньня і зрабіцца прыродазнаўчай навукай“, гэтымі словамі пачынае Уотсон сваю вышаўшую ў 1924 г. кнігу „Псыхолёгія, як навука аб абыходжаньні“. Уся выдатная кніга гэтага віднейшага ідэолёга бэховіорызму паказвае, што тое вызваленьне псыхолёгіі, аб якім гаворыць Уотсон, сучаснай навукай ажыцьцёўлена, што яно ўяўляе сабою найважнейшы факт нашай навуковай рэчаіснасьці. „Псыхолёгія,—формулюе Уотсон,—гэта той аддзел прыродазнаўства, які дасьледуе чалавецкае абыходжаньне—учынкі і словы людзей, як вывучаныя, так і ня вывучаныя. Гэта—вучэньне аб дзейнасьці чалавецкіх істот, якая пачынаецца яшчэ нават да нараджэньня і канчаецца сьмерцю“.

Я далёка ня вычарпаў паказаньняў на ўсе тыя філёзофскія прынцыпы марксызму, якія знайшлі ў нашую эпоху прырода-навуковую санкцыю. Можна было-б для гэтага зьвярнуцца і да такой проблемы, як дэтэрмінізм, і да такога моманту, як марксыцкі антытэлеолёгізм і інш.

Мы-б тады яшчэ больш пэўна пераканаліся ў тым, што прыродазнаўства сваімі эмпірычнымі дасягненьнямі апраўдвае філёзофскія зацьверджаньні марксызму. Але я думаю, што і сказанага досыць для таго, каб прызнаць, што такога роду заявы не голаслоўныя.

Мы, марксыстыя, маем дзеля гэтага ўсе падставы разглядаць прыродазнаўства сучаснасьці, як надзейную падставу нашага матэрыялістычнага сьветагляду. І ў гэтым нічога дзіўнага няма. Бо прыродазнаўства,—няхай дазволена мне будзе так сказаць,—матэрыялістычна па сваёй уласнай прыродзе. Бо прыродазнаўства,—паводле шчаснага выразу І. П. Павлова,—гэта праца чалавецкага розуму, накіраванага на прыроду і дасьледуючага яе бяз жадных тлумачэньняў і разуменьняў, запазычаных з другіх крыніц, апрача самой надворнай прыроды. І ў pendant да гэтых слоў дазвольце напомніць фразу Ф. Энгельса: „Матэрыялістычны сьветагляд азначае проста разуменьне прыроды такой, як яна ёсьць бяз жадных староньніх дадаткаў".

І таму ня прыгожым слоўцам зьяўляецца, а глыбока справядлівым зацьверджаньне У. І. Леніна, што „кожны сапраўдны прыродадасьледца—гэта стыхійны матэрыялісты".

І таму кожны прыродадасьледца—наш вольны або мімавольны саюзьнік. Саюзьнік ваяўнічых матэрыялістых у іх змаганьні з ідэалізмам.

Што такое ідэалізм? Рафінаваная, пакрытая псэўда-навуковай філёзофскай амальгамай рэлігія. А ў змаганьні з рэлігіяй прыродазнаўства—магутная і пераможная сіла. Гальвомэтр або ультрамікроскоп—далёкабойнае арудзьдзе матэрыялізму на фронце змаганьня з тэолёгіяй.

У цікавай прамове, прысьвечанай найноўшым посьпехам біолёгіі і сказанай у 1909 г., Жак Леб сказаў: „Барацьба з забабонамі—уяўляе выключную заслугу прыродазнаўства, асабліва прыкладнога. Існасьць забабонаў скіроўваецца да грубага неразуменьня прычын зьявішчаў прыроды... Лурду і Мэкцы пагражаюць не гуманітарныя навукі, а навуковая мэдыцына. Забабоны трымаюцца ўпарта толькі таму, што ў шырокіх масах прыродазнаўства мала пашырана. Забабоны зьнікнуць толькі тады, калі ўсюды і ў выстарчаючай меры будуць вывучаць асноўныя законы фізыкі, хэміі і экспэрымэнтальнай біолёгіі".

Асобныя прыродадасьледцы, зразумела, могуць да пары да часу заставацца пад уладаю рэлігіі. Прыродазнаўства-ж, паводле сваёй існасьці, антырэлігійнае, павольна, але пэўна касуе аўтары. У поўных гумару словах рысуе Ф. Энгельс малюнак гэтага касаваньня.

„У гісторыі сучаснага прыродазнаўства,—кажа ён,—абаронцы бога абыходзяцца з ім так, як абыходзіліся з Фрыдрыхам Вільгельмам III-ім у эпоху іенскай кампаніі яго генэралы і чыноўнікі. Адна армейская часьць за другой здае зброю, адна крэпасьць за другой капітулюе перад націскам навукі, пакуль, нарэшце, уся гэта бясконцая галіна прыроды ня будзе заваёвана ведамі і ў ёй не застанецца больш месца для творцы.

Ньютон пакінуў яму яшчэ „першы штыршок“ ,але забараніў усякае далейшае ўмяшацельства ў сонечную сыстэму. Айцец Сэкі гэроічна выправаджвае яго з сонечнай сыстэмы, дазваляе яму творчы акт толькі ў адносінах да першабытнай туманнасьці, і так ва ўсіх іншых галінах. У біолёгіі яго апошні вялікі Дон Кіхот Агасіс прыпісвае яму нават поўную бяссэнсіцу: „бог павінен тварыць ня толькі рэальных жывёл, але і абстрактных жывёл, рыбу, як такую... А пад канец Ціндаль забараняе яму канчаткова доступ у прыроду і адсылае яго ў сьвет эмоцый, пакідаючы яго толькі таму, што павінен-жа быць хто-небудзь, хто ведае аб усіх гэтых рэчах (прыродзе) больш, чым Д. Ціндаль. Што за дыстанцыя ад срогага бога—творцы неба і зямлі, абаронцы ўсіх рэчаў, без якога ня можа ўпасьці ніводзін волас з галавы!“..

Прыродазнаўства па сваёй істоце ў такой-жа ступені антыідэалістычна, у якой меры матэрыялізм прырода-навуковы.

Такі вывад, які напрашаецца з разьвітых мною вышэй меркаваньняў. Але гэты вывад ставіць нас тварам да твару з наступным пытаньнем, якое, мне здаецца, узьнікае ў шмат якіх прыродадасьледцаў:

Ну, добра, сучаснае прыродазнаўства апраўдвае вось такія і такія філёзофскія прынцыпы марксызму, але-ж якія гэта мае адносіны да нас, прыродадасьледцаў? Мая справа—колба, рэторта, мікроскоп, нагляданьне і дасьледваньне, а як скарыстае мае досьледы тая ці іншая філёзофская школа, мне да гэтага няма ніякага дачыненьня. Я павінен замкнуцца ў чатырох сьценах сваёй лябораторыі і там тварыць справу сваёй спэцыяльнасьці. Няхай хвалі філёзофскіх і соцыолёгічных спрэчак плёскаюць за гэтымі сьценамі. Крытыцызм, позытывізм, агностыцызм, інтуітывізм, марксызм,—„што я Гекубе і што Гекуба мне?“

Ці-ж так? Ці сапраўды,ісьцінная навука патрабуе таго, каб над прырода-навуковай лябораторыяй разьвяваўся белы сьцяг філёзофскага нэўтралізму? Ці сапраўды прыродадасьледца ў пытаньнях сьветагляду—нэўтралісты?

Раней за ўсё дазвольце зьвярнуць вашу ўвагу на наступны ўразьлівы факт. У гісторыі прыродазнаўства вельмі шматлікія выпадкі, калі якраз філёзофы давалі станоўчыя штыршкі прыродазнаўству ў бок новых шляхоў. Філёзоф кідае стагодзьдзю ідэі. Ён кажа эпосе: „Уся сабраная стагодзьдзямі чалавецкая практыка, прымушае нас дапускаць і тое і гэта. Гэтая практыка робіць імаверным вось такі прынцып: „Шукайце і знойдзеце“, гаворыць ён прыродадасьледцу. Так было з Дэкартам, які прадугадаў вынаходкі Мэйера, Дэроўля аб тым, што колькасьць руху, якая ёсьць у сьвеце, нязьменная.

Так было з Лейбніцам, матэматычныя ідэі якога былі рэалізаваны Ньютонам; так было з Кантам, чыя тэорыя пахаджэньня сьвету была формулявана яшчэ да прац Ляпляса; так было, нарэшце, з Гегелем, які за поўстагодзьдзе да Мэндэлеева, выказаў гэніяльную думку аб пабудове пэры-

одычнай сыстэмы элемэнтаў. Да гэтага ў 1812 г. ў „Навуцы лёгікі“ Гегель пісаў: „Можна было-б прапанаваць задачу ўстанавіць адносныя паказьнікі шэрагу ўдзельнай вагі, як сыстэму на падставе правіла, якое-б спэцыфавала-б гэтую чыста арытмэтычную множнасьць у шэраг гармонічных вузлоў. Такое патрабаваньне было-б на месцы і для пазнаньня вышэйпамянёных шэрагаў хэмічнай роднасьці“. І гэтае патрабаваньне Гегель прад'яўляў прыродазнаўчай навуцы,—яна гэты выклік прыняла і праз поўстагодзьдзе адказала цераз Д. І. Мэндэлеева. Дарэчы, у Мэндэлеева ёсьць дасканалы вобраз, які можа дапамагчы ў выясьненьні нашай думкі. У сваіх „Основах химии“ Мэндэлееў кажа, што навуковая творчасьць падобна да перакіданьня жалезнага мосту цераз прорву: для гэтага няма патрэбы спускацца ў прорву і мець апірышча на дне яе,—досыць вызначыць падпору на адным беразе і потым перакінуць дакладна разьлічаную арку, якая ўжо знойдзе апірышча і на тым баку. Так і навуковая думка. Яна можа абапірацца на гранітныя падставы практыкі; але абагульненьне яе, падобна да аркі мосту, аддзяляецца ад сьвету фактаў, каб затым ў другім пункце, загадзя разьлічаным, ізноў перакрыжавацца з ім.

Дык вось тыя падставы практыкі, аб якіх гаварыў наш гэніяльны хэмік,—гэтыя падставы стварае прыродадасьледца. Толькі на граніцы прыродазнавуковага факту можа абаперціся навуковая думка, інакш яе занясе ў воблакі мэтафізыкі і бескарыснай лёгічнай спэкуляцыі. Але аркі навуковага абагульненьня не перакінуць з берагу на бераг без дапамогі філёзофіі. Тут няма патрэбы спускацца ў прорву дакладнай практыкі, а патрэбен дакладна разьлічаны, магутны, сынтэтычны ўзьлёт...

Быў час, калі філёзофія зьяўлялася ўсеабдымнай навуковай дысцыплінай, калі яна заключала ў сабе элемэнты ўсіх навук. Але па меры гістарычнага разьвіцьця навук і афармленьня іх у васобныя дысцыпліны, філёзофія, як „навука навук“, выжыла сябе, стала больш непатрэбнай. Ці значыць гэта, што з разьвіцьцём stationоўчых ведаў для філёзофіі не засталося ніякага рэальнага об'екту дасьледваньня? Зразумела, не. Мы задачы філёзофіі абмяжоўваем вельмі пэўнымі рамкамі, якія не дазваляюць ёй лётаць у галіне звыш-навуковага або па-занавуковага, але ў гэтых строга азначаных рамках мы павінны прызнаць яе законныя правы. Законнае права філёзофіі—дасьледваньне формаў мысьленьня і вывучэньне шляхоў яго разьвіцьця. Філёзофія дапамагае нам рацыяналізаваць процэс нашага мысьленьня, дасягнуць таго, што Плеханов неяк назваў „інтэнсыўнай гаспадаркай у галіне думкі“. Гэтая інтэнсыўная гаспадарка можа ажыцьцяўляцца толькі тады, калі мы заўладаем законамі мысьленьня і гэтыя законы ўзгадняем з адзіным абагульняючым поглядам на прыроду і грамадзтва, поглядам сынтэзуючым усе веды чалавецтва, да якіх яго прывялі асобныя навуковыя дысцыпліны.

Амэрыканскі дасьледца Хозэ Інжэньерос вельмі добра ўцаніў значэньне філёзофіі для прадстаўніка дакладнай навукі, калі сказаў: „Эмпі-

рычнае нагляданьне, экспэрымэнтальнае нагляданьне і на практыцы ўгрунтаваныя і практыкай праверaныя гіпотэзы—вось роўна ўгрунтаваныя пункты гледжаньня, адзіна ўжыванага па ўсіх проблемах пазнаньня мэтоду. Навуковая філёзофія ідзе далей за апісальны эмпірызм тым, што прызнае неабходнасьць гіпотэз і супроцьстаіць рацыяналізму (г. зн. чыста разумоваму гледжаньню) тым, што кладзе ў сваю аснову толькі практыку і адмаўляе за розумам здольнасьць вызначаць законы незалежна ад практыкі".

Прыродадасьледца—поўнаўладны гаспадар у сваёй галіне, але яго ўлада пашыраецца толькі на тэрыторыю яго спэцыяльнасьці. Аналітычным плугам свайго досьледу ўзорвае ён гэтую тэрыторыю, але для пазнаньня сьвету, для стварэньня малюнку сьвету мала аднаго аналізу, для гэтага неабходны і сынтэз. Прыродазнаўства сваімі ўласнымі сіламі гэтага сынтэзу даць ня можа, у лепшым выпадку яно дае падрахункі аналізу, але падагульніць аналітычныя дасягненьні гэта-ж далёка ня тое, што зрабіць сынтэтычнае абагульненьне. Тут натуральна не абыйсьціся без філёзофіі.

Адзін вядомы параўнача-анатом, калі яго вучань бараніў дысэртацыю аб жэбравай шчыліне, сказаў, што дысэртант выявіў вычэрпваючыя веды па прадмету свайго дасьледваньня, але ён перасьцерагаў яго ад таго, каб глядзець на сьвет праз жэбравую шчыліну... Сьвету нельга зразумець, калі глядзець на яго праз жэбравую шчыліну, як-бы добра гэтай шчыліны ні вывучыць,—гэты факт павінны ўзяць пад увагу спэцыялістыя-прыродадасьледцы і зрабіць з яго адпаведны вывад.

Нядаўна ўбачыў сьвет шэраг нарысаў аднаго з угрунтавальнікаў нашай тэорыі. У гэтых нарысах ёсьць, паміж іншым, наступныя выдатныя словы, якія напісаны Энгельсам ужо амаль 50 год таму назад, але захавалі ўсё сваё значэньне аж да нашых дзён.

„Эмпірычнае прыродазнаўства,—пісаў Энгельс,—назьбірала такую неабдымную масу станоўчага матэрыялу, што неабходнасьць сыстэматызаваць яго ў кожнай асобнай галіне дасьледваньня і разьмеркаваць з пункту гледжаньня ўнутранай сувязі—стала няўхільным. Якраз таксама стала няўхільным прывесьці паміж сабой у правільную сувязь асобныя галіны пазнаньня. Але, заняўшыся гэтым, прыродазнаўства ўпадае ў тэорэтычную галіну, а тут мэтоды эмпірызму аказваюцца бясьсільнымі, тут можа дапамагчы толькі тэорэтычнае мысьленьне. Але тэорэтычнае мысьленьне зьяўляецца прыроджанай уласьцівасьцю ў выглядзе здольнасьці. Яна павінна быць разьвіта, удасканалена, а для падобнай распрацоўкі ня існуе дагэтуль ніякага іншага сродку, апрача вывучэньня гісторыі філёзофіі... Знаёмства з гістарычным разьвіцьцём чалавецкага мысьленьня, з панаваўшым у розныя часы разуменьнем усеагульнай сувязі знадворнага сьвету, неабходна для тэорэтычнага прыродазнаўства і таму, што яно дае маштаб для ацэнкі высуваемых гэтым прыродазнаўствам тэорый".

„Прырodадасьледцы выабражаюць, — гаворыць Энгельс у другім месцы,—што яны вызваляюцца ад філёзофіі, калі ігноруюць або лаюць яе. Але з прычыны таго, што яны бяз мысьленьня ня могуць парушыцца ані на крок, для мысьленьня-ж неабходны лёгічныя азначэньні, а гэтыя азначэньні яны неасьцярожна пазычаюць альбо з пашыранага тэорэтычнага стану так званых адукаваных людзей, над якімі пануюць рэшты даўно мінулых філёзофскіх сыстэм, або з атрусак абавязковых унівэрсытэцкіх курсаў па філёзофіі..., альбо з некрытычнага і несыстэматычнага чытаньня ўсялякіх філёзофскіх твораў,—дык урэшце яны ўсё-такі апыняюцца ў палоне ў філёзофіі, але, на жаль, часьцей за ўсё самай дрэннай; і вось людзі, якія асабліва шчыра лаюць філёзофію, робяцца нявольнікамі самых дрэнных вульгарызаваных рэштаў самых дрэнных філёзофскіх сыстэм".

Прыродадасьледца дасягае сваіх абагульняючых і сынтэтычных пабудоў не з дапамогаю мікроскопу, а з дапамогаю разважаньня над тым, што яму дае мікроскоп. Гэта значыць, што пытаньне аб правільным, найбольш рацыянальным спосабе мысьленьня, зьяўляецца пытаньнем жыцьця і сьмерці для прыродазнаўства, гэта пытаньне аб дасьледчым мэтодзе, які грае становчую ролю ва ўсёй навуковай творчасьці.

Больш, чым калі-небудзь, гэта можна сказаць у цяперашні час, калі прыродазнаўства перажывае крытычны пэрыод, калі ва ўсіх яго амаль што галінах вызначыліся і часткаю ажыцьцёвіліся ўжо рэволюцыйныя ўзрушэньні найвялікшага гістарычнага значэньня, калі прырода-навуковая думка знаходзіцца ў становішчы самага моцнага бушаваньня, калі прыродадасьледцу жыцьцёва неабходна арыадніна нітка плённага навуковага мэтоду...

Гэтым мэтодам, на наш погляд, зьяўляецца дыалектычны мэтод, мэтод матэрыялістычнай дыалектыкі.

Тут трэба адзначыць той важны факт, што дыалектычнае мысьленьне пранікла ў філёзофію новага часу пад уплывам пераломy, які характарызуе прырода-навуковую думку, што толькі з таго часу, як прыродазнаўства парушыла легенду аб нязьменнасьці прыроды—з сярэдзіны XVIII стагодзьдзя дыалектычны прынцып пачаў усё больш пэўна пракладаць сабе шлях у сьвядомасьці філёзофаў.

Дыалектычныя здагадкі стара-грэцкіх філёзофаў аформіліся і ўмацаваліся пад уплывам таго рэволюцыйнага зруху, які пазначыўся ў прыродазнаўчай навуцы з сярэдзіны XVIII стагодзьдзя.

Ідэалістычная Гегелева здагадка была гэніяльнай рацыяналістычнай схэмай, унівэрсальнай формулай лёгічнага працэсу, з яе дапамогай філёзоф прабаваў дыктаваць свае законы прыродзе „іншабыцьцю духу".

Маркс-Энгельс вызвалілі здагадку з палону апрыорнай, ідэалістычнай конструкцыі. Яны абвясьцілі, што спробны камень дыялектыкі—прырода, і сапраўдная дыалектыка об'ектыўна, як і сама прырода. „Так

званая об'ектыўная здагадка пануе ва ўсёй прыродзе, а так званая суб'ектыўная здагадка, дыялектычнае мысьленьне ёсьць толькі адбітак пануючага ва ўсёй прыродзе руху шляхам супроцьлежнасьцяй, якія і абумоўліваюць жыцьцё прыроды сваімі заўсёднымі супярэчнасьцямі і сваім канечным пераходам аднэй у другую, або ў вышэйшыя формы".

Першае і асноўнае патрабаваньне, якое ставіцца нам дыялектыкай, палягае ў разглядзе рэчаў і зьявішчаў „у іх сувязі, у іх сплаценьні, у іх руху, узьнікненьні і зьніштажэньні". Усеагульнае ўзаемадзеяньне паміж ўзьнікненьнем і зьніштажэньнем высувалася ў „Анты-Дзюрынгу" Энгельсам, як стрыжанёвы і галоўнічаючы прынцып дыялектычнага досьледу.

Мэтафізык опэруе з лёгічнымі абстракцыямі, ён мае справу толькі з застыглымі, нязьменнымі паняцьцямі; дыялектык заўсёды памятуе, што рэчаіснасьць—плыўкая, і імкнецца ўразумець яе такой, як яна ёсьць,—ва ўсёй шматвобразнасьці яе рэальнага зьместу, з усімі яе супярэчнасьцямі і адрозьненьнямі. Дыялектык бярэ факт ва ўсёй шматвобразнасьці, што яго акружае, і, лічачыся з гэтай шматвобразнасьцю, яго трактуе.

Сучаснае прыродазнаўства дасканала пацьвярджае неабходнасьць разглядаць зьявішчы ва ўзаемнай сувязі, а не ў абстрактнай ізаляванасьці. Яно разбурае адну за другой перагародкі, якімі чалавецкая думка стагодзьдзямі аддзяляла адна ад другой розныя катэгорыі і зьявішчы сусьвету і падыходзіць да іх з крытэрыем дынамічнай узаемазьвязанасьці. Яно сьцірае мяжу паміж органічнай і неорганічнай хэміяй. Яно абарачвае „жывое" і „мёртвае" ва ўмоўныя тэрміны, ужываныя пры адпаведных агаворках. Яно становіць, што „сьвядомае" і „несьвядомае" пераходзяць адно ў другое... Мэтафізыка ня можа дапамагчы прыродадасьледцу ў разуменьні і тэй усеагульнай зьвязанасьці, з якой ён стыкаецца ў прыродзе, дыялектыка гэтую зьвязанасьць філёзофіі абсэнсоўвае, кідае на яе сьвятло абагульняючага прынцыпу...

Далей. Перамога абстрактнай тожсамасьці, якая ўстанаўляецца дыялектыкай, можа і павінна быць для прыродадасьледцы вялікай мэтодолёгічнай каштоўнасьці падстаўным пунктам. Прыродадасьледца, які знаходзіцца ў палоне формальнай лёгікі, нязьменна ўтоесамлівае А з А, такі прыродадасьледца бясьсільны зразумець пануючую ва ўсёй прыродзе зьменнасьць. Прырода бесьперастанку абарачвае А ў non-А, і навуковае ўсэнсаваньне гэтаму процэсу дае дыялектыка. Той прыродадасьледца, які знаходзіцца на ніжэйшай, формальна-лёгічнай ступені мысьленьня, пры тлумачэньні гэтага процэсу ня можа выйсьці за межы ўбогай, паўзучай эмпірыкі. Толькі падымаючыся на больш высокую—дыялектычную ступень мысьленьня, ён атрымлівае магчымасьць шырокіх і прынцыповых навуковых абагульненьняў. Прырода ня ведае абстрактнай тожсамасьці. Жывёлы і расьліны, тожсамыя самі з сабою, у той-жа час бязупынна зьмяняюцца, г. зн. перастаюць быць самымі сабой, або, як гавораць

Энгельс, „розьняцца ад самых сябе, дзякуючы ўсваеньню і выдзяленьню матэрый, дзякуючы дыханьню, утварэньню і паміраньню каморак, дзякуючы процэсу цыркуляцыі,—словам, дзякуючы суме бязупынных молекулярных зьмен, якія складаюць жыцьцё, і падрахунак якіх выступае навочна ў розных фазах жыцьця—эмбрыональнага жыцьця, моладасьці, родавай сьпеласьці, процэсе размнажэньня, старасьці, сьмерці". Тое самае зьніштажэньне абстрактнай тожсамасьці яшчэ з большай сілай апраўдваецца пры разьвіцьці відаў, калі зьменнасьць выкрываецца куды больш ясна, чым у адносінах асобных індывідыумаў.

Нарэшце, выключную для прыродадасьледцы ролю заклікана адыграць дыалектыка, як рэволюцыйная тэорыя разьвіцьця, што ахапляе і прыроднае і грамадзкае жыцьцё.

Калі з аднаго боку нясумненна, што „прырода ёсьць спробны камень дыалектыкі", дык няхай дазволена будзе з другога боку зацьвярджаць, што дыалектыка ёсьць самы асноўны камень кожнай прырода-навуковай тэорыі разьвіцьця.

Прыродадасьледца лепш за каго-небудзь іншага ведае, што ў прыродзе „ўсё плыве, усё зьмяняецца", што ўся прырода ўяўляе з сябе вялічэзны процэс пэрманэнтнай зьменнасьці і зьмены адных форм на другія. У гэтых адносінах кожны сучасны прыродадасьледца—дыалектык, бо ў наш час бадай ці можна сустрэцца з вучоным, які мысьліў-бы, усьлед за Ліньнеем, віды раз назаўсёды створанымі, або, накшталт школы Жордана, уяўляў іх нязьменна існуючым і непарушнымі.

Калі я толькі што сказаў, што прыродадасьледца, які стаіць на пункце гледжаньня разьвіцьця, зьяўляецца дыалектыкам, я, зразумела, сказаў занадта сьмела, бо дыалектык толькі той, хто прызнае рэволюцыйную тэорыю разьвіцьця, побач з апошняй,—вы ведаеце,—існуе і тэорыя эволюцыі, вульгарная ўся прамудрасьць якой у славутым „Natura non tacit saltus". У гэгелеўскай „Лёгіцы" творца дыалектычнага мэтоду пісаў:

„Зацьвярджаюць, што ў прыродзе ня бывае скачкоў. Трафарэтнае ўяўленьне скіроўваецца да таго, што калі гутарка ідзе аб узьнікненьні або зьнікненьні, дык даволі, калі ўявіць сабе гэта, як паступовае разьвіцьцё або зьніштажэньне. Аднак, аказваецца, што зьмены быцьця палягаюць ня толькі ў тым, што адна колькасьць пераходзіць у другую колькасьць, але таксама і ў тым, што якасьць пераходзіць у колькасьць, і, наадварот, у перапынку паступовасьці і набыцьці зьявішчам новага віду, якасна рознага ад папярэдняга".

Думка, выказаная ў паданых словах Гегеля, ёсьць тэорэтычна пазнавальная формулёўка таго факту, з якім стыкаецца кожны наглядальнік і дасьледца прыроды.

Мы, працаўнікі ў галіне грамадзкіх наук, досыць дакладна ведаем, што „historia facit saltus". Мы ведаем, што ўсё грамадзкае разьвіцьцё плыве па рэчышчы колькаснага награмаджэньня, якое прыводзіць да ства-

рэньня новай якасьці. Мы ведаем і дакладна вывучаем, як нагрaмаджэньне супярэчнасьцяй унутры фэўдальнай францускай дзяржаўнасьці давяло да скачка 1789 г., што завецца Вялікай Францускай Рэволюцыяй. Мы ведаем, як дасьпяваньне ў нетрах імпэратарскай Расіі рэволюцыйнай рабочай клясы прывяло да скачка, які ператварыў наш край у СССР. Мы ведаем, што закон рэволюцыйнага разьвіцьця валодае ва ўсім грамадзкім жыцьці, што грамадзтва пераходзіць ад аднаго этапу свайго разьвіцьця да другога, ад аднэй соцыяльнай формацыі да другой шляхам скачкоў, прычынна абумоўленых награмаджэньнем адпаведнай колькасьці, якая ператвараецца ў новую якасьць.

Ці-ж ня тое самае адбываецца ў царстве прыроды?

Ужо элемэнтарныя зьявішчы, накшталт утварэньня вады з вадароду і тлену, даюць нам падставу задумвацца над рольлю скачкоў у прыродзе. Такіх прыкладаў можна даць аграмаднае мноства. Яны прымушаюць адных прырододасьледцаў, якія ня здольны выбрацца за межы паўзучага эмпірызму, абмяжоўвацца голым констатаваньнем факту.

Ну, так, кажуць яны, скрыжаваньне вось гэтакіх жывёл або расьлінных відаў прыводзіць да скачка. Ну, так, вось гэтак стварыліся анконскія авечкі, так вось формуюцца лішаі і так вось атрымліваюцца парафіны і г. д. Але паўзучы эмпірызм ставіць тут кропку. Ён констатаваў факт і далей „цур мяне". Прырододасьледца з шырокім навуковым кругаглядам дамагаецца падняцца вышэй—ён робіць з шэрагу нагляданьняў адпаведныя абагульненьні.

Тады ён адважваецца сказаць, прыкладна, тое, што сказаў творца квантавай тэорыі Макс Плянк. „Цяпер,—гаворыць Плянк,—палажэньне „прырода ня робіць скачкоў" увайшло ў колізію з прынцыпамі тэрмодынамікі і па ўсім відочнасьцям дні яго зьлічаны. Аказваецца, прырода робіць скачкі і вельмі дзіўнага гатунку. Ва ўсіх выпадках гіпотэза квантаў прыводзіць да ўяўленьня, што зьмены адбываюцца ў прыродзе не бязупынна, але як-бы выбухамі".

Побач з гэтымі словамі Плянка я хачу працытаваць яшчэ словы двух адметных прырододасьледцаў.

У сваёй прамове, сказанай у 1905 г. на зьездзе брытанскай асоцыяцыі прырододасьледцаў, Дж. Дарвін гаварыў: „Фізык, падобна біолёгу і гісторыку, прасочвае вынікі знадворных умоў, якія павольна мяняюцца; ён бачыць, што сталасьць або ўстойнасьць паступова памяншаецца, пакуль ня зьнікне зусім, тады надыходзіць тое, што ў політыцы называецца рэволюцыяй".

У вадным з сваіх апошніх артыкулаў ак. Іоффэ кажа: „Ні стагодзьдзя іх (традыцыйных поглядаў—С. В.) заслугі, ні закаранелыя звычкі нашага мысьленьня ня ўстоілі перад націскам цьвёрдых фактаў, перад цьвёрдымі патрабаваньнямі лёгікі. Звыклае зацьверджаньне старых на-

туралістых, што прырода ня ведае скачкоў, што ўсё ў прыродзе непарыўна і паступова, стала тварам да твару перад фактамі, якія выкрылі, што і целы складаюцца з асобных атомаў, і электрычнасьць з элемэнтаў, і сьветлавая энэргія і цяплыня атрымліваюцца і аддаюцца не паступова, а адразу цэлымі порцыямі. Сучасная тэорыя квантаў аб'яднала ўсе гэтыя факты, склаўшы фізыку перапынных зьявішчаў, дзе ўсякія зьмены адбываюцца скачком".

У цяперашні час перад прыродазнаўствам стаяць вялікія і складаныя задачы, зьвязаныя з устанаўленьнем залежнасьці, якая існуе паміж органічнай і неорганічнай прыродай, з абарачваньнем колькасьці ў якасьць, з завязваньнем прыродай „вузлоў", з пераходам ад аналізу да сынтэзу. Гэтыя задачы прыродазнаўства можа вырашыць з тым большым посьпехам, тым больш плённа, чым раней яно зробіцца дыалектычным, чым больш пэўна яно завалодае дыалектычным мэтодам досьледаў.

І таму больш важка, чым калі-небудзь, гучаць старыя словы Фр. Энгельса:

„Над хаосам нязьлічоных зьмен у прыродзе пануюць тыя самыя дыалектычныя законы руху, што і над зданьнёвай выпадковасьцю гістарычных падзей; законы, якія праходзяць чырвонай ніткай праз гісторыю разьвіцьця чалавецкай думкі і паступова пранікаюць у сьвядомасьць мысьлячых людзей; законы, якія ва ўсеабдымнай, хаця і містычнай форме, упяршыню былі разьвіты Гегелем і якія нам хацелася... вызваліць ад гэтай містычнай формы і прадставіць сьвядомасьці ва ўсёй іх простасьці і ўсеагульнасьці... Правільнасьць дыалектычнага разуменьня ўсё больш пацьвярджаецца фактамі прыродазнаўства, якіх зьбіраецца ўсё больш і больш, і гэтае разуменьне лягчэй успрыймаецца, калі з дыалектычным характарам гэтых фактаў супаставіць пазнаньне закону дыалектычнага мысьленьня. Ва ўсякім выпадку прыродазнаўства знаходзіцца цяпер на такой ступені разьвіцьця, што яно ўжо ня можа высьлізнуць з-пад дыалектычнага абхопу... Прыродадасьледцы аблегчаць гэты процэс, калі не забудуцца, што вынікі, у якіх абагульняюцца даныя практыкі, ёсьць паняцьці; мастацтва-ж опэраваць паняцьцямі ня прыраджонае, не заключаецца ў звычайным здаровым сэнсе, але патрабуе сапраўднага мысьленьня, якое ў сваю чаргу мае за сабой настолькі-ж працяглую эмпірычную гісторыю, як і практычнае прыродазнаўства".

Збліжэньне прыродазнаўства з марксызмам зьяўляецца вельмі важным яшчэ і па наступных меркаваньнях".

Для прыродадасьледцы чалавек—гэта жывёла. Тым-жа ён зьяўляецца і для кожнага марксыстага. Матэрыялізм, грунтуючыся на прыродазнаўстве, разбурае ўласьцівы ідэалістычнай філёзофіі антропоцэнтрызм, паказвае, што чалавек не складае свайго царства ў вялікай дзяржаве прыроды, што чалавек гэта такая самая, але больш складаная машына, як і кожная іншая жывёла.

Аднак, у той-жа час марксызм паўстае супроць часта ўласьцівага прыродазнаўцам імкненьня аўтоматычна пашыраць законы біолёгіі на жыцьцё чалавецкай грамады. Падобнага роду спробы заснаваны на неразуменьні таго станоўчага факту, што чалавек—жывёла sui generis, што чалавецкая суполка кіруецца сваімі асобнымі спэцыфічнымі законамі, пазнаньне якіх дае не навука аб жыцьці жывёлы, не біолёгія, а спэцыяльная навука аб жыцьці грамадзтва—соцыолёгія.

Чалавек жыве абкружаны дзьвюма сфэрамі—прыроднай і соцыяльнай. І чым вышэй падымаецца чалавецтва па ступенях культурных сходаў, тым мацнейшым робіцца ціск соцыяльнай атмосфэры, тым больш нітак соцыяльнай узаемазалежнасьці зьвязвае людзей паміж сабой. Значыцца, тым больш значнай робіцца роля соцыолёгіі ў пазнаньні жыцьця чалавецтва, тым менш дазвольным робіцца ігнараваць яе, аўтоматычна пашыраючы законы біолёгіі на грамадзкую сфэру.

Чалавек—істота біо-соцыяльная. Гэта значыць, што дасьледваць жыцьцё чалавецтва мы можам ідучы ня толькі ад біолёгіі, але і ад соцыолёгіі.

І чым далей па гістарычнаму шляху, тым больш значным робіцца ўплыў апошняй...

Мэханізм умоўных рэфлексаў чалавека па сваёй структуры той самы, што і ў сабакі. Але калі абыходжаньне сабакі ўкладваецца ў рамкі гэтых рэфлексаў і, значыцца, можа быць вычарпальна растлумачана фізыолёгіяй, дык апошняя бясьсільна вычарпальна растлумачыць абыходжаньне чалавека. Тут мы павінны ад фізыолёгіі перайсьці да соцыолёгіі. І вось гэтай апошняй акалічнасьці не бярэ пад увагу, напрыклад, гэніяльны дасьледца ўмоўных рэфлексаў І. П. Павлов, які ўскладае на адно ўсемагутнае прыродазнаўства надзеі, што яно „выведзе чалавецтва з цяперашняй цемры і ачысьціць яго ад цяперашняй ганьбы ў сфэры міжчалавецкіх адносін“.

Афярамі таго самага неразуменьня зьяўляюцца і іншыя шматлікія аўтары, якія прабуюць біолёгізаваць грамадзкае жыцьцё. Для прыкладу можна было-б назваць тут імёны Бехтерева з яго ня вытрымліваючай і слабога дотыку крытыкі „коллективной рефлексологией“, Хозэ Інжэньероса, аўтара вельмі цікавай біолёгічнай псыхолёгіі, для якога чалавецкае грамадзтва нішто іншае, як „жывёльная колёнія“, якая павінна быць дасьледвана тымі-ж спосабамі і шляхамі, як і ўсякае іншае жывёльнае аб‘яднаньне.

Нарэшце, вельмі яскравы прыклад, куды заводзяць спробы біолёгізаваць грамадзкае жыцьцё, уяўляе сабою школа так званых „соцыяльных дарвіністых“.

Чалавек—істота біо-соцыяльная. Яго абыходжаньне вызначаецца біолёгічнай конструкцыяй данай асобы і соцыяльным асяродзішчам, што яе абкружае. Але ня ведаючы і не разумеючы законаў апошняга, іншыя дасьледцы прабуюць падпарадкаваць грамадзкае жыцьцё дарвінаваму закону.

У жывёльным сьвеце адбываецца выпярэдніцтва індывідаў, прычым перамагаюць органічна найбольш прыстасаваныя. Пры экономічным становішчы ў клясавым змаганьні перамагае той, хто ўладае большымі багацьцямі, хто атрымаў большую спадчыну, перамагае не чалавек, а капітал. Змаганьне, якое вядзе жабрак з багатыром, рабочы з капіталістым,—змаганьне паміж конкурэнтамі, пастаўленымі ў зусім розныя ўмовы. Ахіл Лорна меў рацыю, заўважыўшы неяк, што гэтае змаганьне нагадвае яму барацьбу моцнага і дужага юнака з гарбатым і кульгавым старым. Іх задачай зьяўляецца прабегчы як мага хутчэй пэўную адлегласьць. Юнак бяжыць з напружаньнем усіх сіл, а кульгавага старога імчыць карэта. Ці трэба сумнявацца, хто пераможа, і ці сапраўды перамог калека таму, „што ён самы лепшы", „самы прыстасаваны" і г. д.? Члены пануючых клясаў капіталістычнага грамадзтва ў такой-жа меры і з такім-жа правам могуць прэтэндаваць на гэтыя эпітэты.

І не выпадкова ў іх асяродзішчы можна знайсьці вялізны лік паразытычных дэгенэратаў, з аднаго боку, пранырлівых круцялёў—з другога.

У жывёльным сьвеце мы маем справу з змаганьнем органічных адрозьненьняў, у чалавецкім грамадзтве—з змаганьнем экономічных сіл. Тут напагатове зьявішча зусім іншага парадку, а іменна—клясавае змаганьне. Зразумець мэханізм апошняга можна толькі знаходзячыся на вяршыні сучаснай грамадзкай навукі і валодаючы найбольш дасканалым мэтодам—дасьледваньня грамадзкага жыцьця—марксыцкім. Клясавае змаганьне не зьяўляецца адвечным спадарожнікам чалавецкай гісторыі. Яно—толькі продукт пэўнай працяглай эпохі ў разьвіцьці чалавецтва.

Гэтая акалічнасьць прымушае нас адкінуць спробу падыйсьці да клясавага змаганьня, як да аднэй з формаў змаганьня за існаваньне, якое пануе ў жывёльным сьвеце. Спробы распаўсюдзіць дарвінаў закон змаганьня за існаваньне на чалавецкае грамадзтва азначае жаданьне абвясьціць змаганьне клясаў натуральным і, значыцца, гістарычна няўхільным зьявішчам. Такія спробы магчымы, зразумела, толькі пры поўным ігнораваньні таго станоўчага факту, што чалавек жыве ў соцыяльнай атмосфэры і што ім кіруюць соцыолёгічныя законы.

Перанясеньне дарвінавага прынцыпу натуральнага адбору ў чалавецкае грамадзтва вядзе да навуковага асьвятленьня панаваньня вярхоў, да прызнаньня клясавага панаваньня законным і натуральна-неабходным фактам.

На гэта ў шмат якіх з соцыяльных дарвіністых тым больш спакусы, што калі-б іх спробы ўдаліся, дык панаваньне клясавай верхавіны капіталістычнага грамадзтва было-б асьветлена аўторытэтам навукі. Прызнаць, што дарвінаў закон валодае над чалавецкім грамадзтвам, значыць, прызнаць, што 1) тая капіталістычная конкурэнцыя, тое эконо-

мічнае выпярэдніцтва, якое бушуе ў нетрах уласьніцкага грамадзтва, якое робіць чалавека чалавеку воўкам, зьяўляецца натуральным, значыцца, зусім нормальным і няўхільным зьявішчам і 2) што пануючыя вярхі ўяўляюць сабою тое лепшае, тое найбольш устойнае, найбольш прыстасаванае, што жыцьцё выбірае з чалавецкай масы...

Так і робяць праваднікі дарвінізму ў грамадзкія сфэры. Вось, напрыклад, Эрнэст Гекель, адзін з найбольш выдатных пасьлядоўнікаў Дарвіна, „апостал дарвінізму", разглядае конкурэнцыю, пануючую ў капіталістычным грамадзтве, як трагічную няўхільнасьць. „Як такую, яе можна аплакваць. Але ні адкінуць, ні зьмяніць яе нельга. Многа кліка2ных, але мала выбраных"... Яшчэ далей ідзе ангельскі соцыолёг Гербэрт Спэнсэр, які выступаў супроць дзяржаўнага ўмяшацельства ў адносіны паміж працай і капіталам і супроць усякіх соцыяльных мерапрыемстваў, накіраваных на тое, каб дапамагчы незаможным клясам. Гэтым, на яго думку, парушаўся натуральны і няўхільны прынцып змаганьня за існаваньне. Спэнсэр заяўляў, што „паміж людзьмі і хатнімі жывёламі так часта пануе слабасьць і хвароба таму, што слабых і хворых бяруць пад асаблівую апеку. Соцыялізм, які імкнецца да зьнішчэньня змаганьня за існаваньне ў чалавечым сьвеце, зразумела, павінен таксама выклікаць агульны інтэлектуальны і фізычны заняпад".

Такім чынам, прабуюць дарвінізм скарыстаць для апраўданьня ладу эксплёатацыі чалавека чалавекам. Капіталістычная конкурэнцыя ўзводзіцца на ступень пануючага ва ўсім сусьвеце ўнівэрсальнага і няўхільнага закону, а заможныя і пануючыя абвяшчаюцца лепшымі, найбольш прыстасаванымі, нямногімі выбранымі...

Пераканальны ўзор, як прырода-навуковыя тлумачэньні ў галіне грамадзкага жыцьця вядуць да вынікаў, у роўнай меры анты-навуковых і рэакцыйных!

Я-б лічыў, што ў маім паведамленьні ёсьць вялікі прабел, калі-б ня спыніўся ў заключэньне на пытаньні аб тым, ці можна гаварыць аб клясавасьці прыродазнаўчых навук, ці можна дапасаваць коэфіцыэнт клясавасьці да прыродазнаўства, і калі можна, дык у якой меры.

У прыстасаваньні да навук грамадзкіх, гуманітарным пытаньне аб клясавасьці ў цяперашні час можа лічыцца вырашаным у такой катэгорычнай форме, што бадай ці сярод сучасных вучоных можна будзе знайсьці абаронцаў таго погляду, што гуманітарныя навукі па-за клясавыя, клясава-нэўтральныя.

У дапасаваньні да гэтага роду навук занадта відавочна, што навука не бесьцялесная красуня, якая лётае ў прыгожым паднябесьсі мэтафізычнай ісьціны, а што навука вырастае і разьвіваецца ў атмосфэры прасякнутай змаганьнем інтарэсаў, што яна формуецца, адбіваючы гэтыя самыя інтарэсы. Занадта відавочна, што такія навукі, як палітычная экономія, соцыолёгія, гісторыя, юрыс-прудэнцыя і г. д., граюць ролю ідэо-

лёгічнай зброі ў тым змаганьні соцыяльных сіл, якое складае галоўны зьмест грамадзкага процэсу. Для разуменьня гэтага ня трэба нават быць марксыстым. Прызнаньне гэтай ісьціны вы можаце знайсьці ў кожнага буржуазнага грамадазнаўцы, пачынаючы Гумпловічам або Р. Ерынгам, канчаючы Лямпрэхтам і Вэрнэрам Зомбартам.

Ня тое з навукамі прыродазнаўчымі. Іх об'ектывізм, іх па-заклясавая навуковасьць, іх абсолютны політычны нэўтралізм па-за ўсякім падозраньнем для вельмі многіх вучоных. Самая пастаноўка пытаньня аб клясавасьці прыродазнаўчых навук здаецца ім пачварнай недарэчнасьцю, якая дае повад пазласьлівіць наконт пролетарскай табліцы лёгарытмаў і буржуазнага закону інэрцыі. Але жарты, зразумела, слабы довад—у асаблівасьці, калі ім жыцьцё супроцьставіць свае жарты зусім іншага парадку.

І сапраўды, ці ня сьмешна гаварыць аб клясавай астрономіі, а вось гісторыя сьведчыць аб тым, што ў эпоху распаду фэўдалізму пануючыя клясы фэўдальнага грамадзтва шалёным супраціўленьнем спаткалі геліоцэнтрычную сыстэму ad majorem dei gloriam адпраўлялі на эшафот яе прыхільнікаў.

Прыродазнаўчая навука бясклясавая? Але на працягу стагодзьдзя адны клясы гнаілі ў вастрогах і палілі на кастрох прапаведнікаў гэратычнай думкі аб тым, што зямля круціцца наўкола сонца, а новая кляса, якая толькі выступіла на гістарычную арэну, з гэроічнай стойкасьцю бараніла сваю веру ў тое, што „а ўсё-ж такі яна круціцца“...

Перад тварам гэтага „маленькага“ гістарычнага факту ці не патрэбна ўжо некаторая асьцярожнасьць пры агалашэньні бясклясавасьці прыродазнаўчых навук?

А колькі такіх фактаў дае нам гісторыя? Чаго варта хоць-бы адно напамінаньне аб тым, што цераз 300 год пасьля вынаходкі Капэрніка ў школах Ватыкану, як і раней, выкладалі птолёмэеву мэханіку нябесных цел?

Зрэшты, навошта нам гістарычныя спраўкі, калі перад намі сучасная рэчаіснасьць.

Не далей, як 23 сакавіка 1921 г., генэральны сход Паўночна-Амэрыканскага штату Тэнэсі дэкляраваў так званы анты-эволюцыйны закон, які станавіў, што „будзе беззаконна для кожнага настаўніка ў кожным коледжы, у кожнай нормальнай або іншай грамадзкай школе штату... навучаць усякай тэорыі, якая адмаўляе апавяданьне аб боскім стварэньні чалавека, як вучыць біблія, і навучаць замест гэтага, што чалавек паходзіць аб жывёл ніжэйшага парадку“. А сьледам за Тэнэсі пайшло яшчэ 15 амэрыканскіх штатаў, якія адзін за другім абвясьцілі злачынствам выкладаньне дарвінізму і ўсякай эволюцыйнай тэорыі. А ў ліпні 1925 г. ў горадзе Дайтоне распачаўся славуты малпавы процэс, які зрабіў, паводле слоў Бэрнарда Шоу, Амэрыку сусьветным пасьмешышчам,—

процэс, які прывёў да засуджэньня проф. Скопса за пропаганду тэорыі эволюцыі. Каму даводзілася чытаць справаздачу аб гэтым процэсе, памятуе, што прадстаўнік абвінавачаньня Брайан у сваіх выступленьнях ня толькі не таіў, але ясна падкрэсьліваў, што засуджэньня тэорыі эволюцыі настойна патрабуе клясавы інтарэс пануючых клясаў, бо „ўсё, што нападае на біблію, разбурае богавыяўную рэлігію, а рэлігія—падстава дзяржавы“...

Калі, каб зьвярнуцца да другога прыкладу, у сучаснай біолёгіі змагаюцца дзьве плыні—прэформізм і эпігенэзіс,—то ў акадэмічнай навуцы Заходняй Эўропы і Амэрыкі, монополія ісьціны знаходзіцца цалкам у руках прэформістых. Эпігенэтыкі падупадаюць паўсямеснаму остракізму, і такія вучоныя, як, мы скажам, Камэрэр або Тоуэр [1]), выкідаюцца за сьцены Вышэйшай Школы.

* * *

Я далёка ня вычарпаў у належнай паўнаце таго цыклю пытаньняў, якія абхапляе сабою тэма „марксызм і прыродазнаўства“. Але я думаю, што і сказанага досыць, каб мець падставу зацьвярджаць:

Паперш ае, што марксызм у сваіх тэорэтыка-пазнавальных прынцыпах узгоднены з сучасным прыродазнаўствам.

Падругое, што сучасны прыродадасьледца, каб знаходзіцца на вышыні навуковых патрабаваньняў, павінен валодаць марксыцкім мэтодам досьледу.

Тысячагодзьдзямі згінаецца чалавецтва пад пакутным ярмом змаганьня за існаваньне. Яно змагаецца з магутнымі стыхіямі прыроды, яно пакутуе ад воўчых адносін у сваім уласным асяродзішчы.

Цесны саюз прыродазнаўства з соцыяльнымі навукамі—у іх самым высокім марксыцкім дасягненьні, будзе ня мала дапамагаць наступленьню новай дасканалай эпохі распрыгоненай і пераможнай чалавецкай працы—эпохі, у параўнаньні з якой будзе нікчэмнай прэлюдыяй усё мінулае жыцьцё чалавецтва на нашай маленькай плянэце.

[1]) Праз месяц пасьля таго, як я сказаў гэту прамову, Камэрэр зрабіўся афярай нястрыманага цкаваньня ад жрацоў акадэмічнай навукі на Захадзе.

# ТВОРЧЫ ШЛЯХ ЯКУБА КОЛАСА *)

*(Да 20-гадовага юбілею літаратурнай дзейнасьці песьняра)*

**Проф. М. Пятуховіч**

У кароткім юбілейным нарысе цяжка абхапіць багатую па зьместу і многагранную па форме творчасьць Якуба Коласа. Мажліва толькі ў самых агульных рысах намеціць творчы шлях, пройдзены песьняром, правесьці агульныя лініі яго літаратурнага разьвіцьця.

Пачынае Якуб Колас з сумных песьняў. Першы яго зборнік, які вышаў у 1910 г., называецца „Песьні жальбы“. Ужо характэрнай зьяўляецца самая назва твораў: яна добра падкрэсьлівае агульны характар зборніка, у ім сапраўды выяўляюцца хваравітыя скаргі і енк песьняра.

Вялікі нямецкі романтык Гейнэ дзесь-та заўважыў, што каб быць вялікім поэтай, трэба моцна любіць, альбо моцна пакутваць. Вялікія пакуты выпалі і на долю славутага беларускага песьняра. Царскі ўрад у самым росквіце юнацтва поэты кінуў яго за рэволюцыйную дзейнасьць у турму. Тут у мрачнай абстаноўцы няволі Якуб Колас складаў большасьць сваіх першых песьняў. Адкуль было ўзяцца бадзёрым настроям? Пясьняр сядзеў за кратамі, а там за гэтымі кратамі была адна агульная турма—турма царскай Расіі, душыўшая ўсё жывое, прыціснуўшая беларускі народ цяжарам падвойнага ўціску—нацыянальнага і соцыяльнага.

Суровая дзейснасьць давала мрачныя фарбы для поэзіі песьняра. Сам поэта зазначае ў пачатку свайго першага зборніку:

Ня пытайце, не прасіце,
Сьветлых песень у мяне,
Бо як песьню засьпяваю,
Жаль ўсю душу скалыхне.

Я-б сьмяяўся, жартаваў-бы,
Каб вас чуць разьвесяліць,
Ды на жыцьце як паглянеш,
Сэрца болей зашчыміць.

Нешчасьліва наша доля
Нам нічога не дала;
Ня шукайце кветак ў полі,
Як вясна к нам ня прышла.

---

*) Даклад, зроблены 24 лістапада 1926 г. ў Доме Прац. Асьветы на ўрачыстым ушанаваньні юбіляра.

Вобразы пакуты бачыць поэта і ў Беларусі; родная старонка прадстае перад ім у жалобнай вопратцы смутку і гора; пясьняр пераважна ўсьпявае:

Від палёў благенькіх,
Нудны воклік ў родных горах,
Вербаў рад крывенькіх;
Лесу гоман, гул нястройны,
Шум лазы ў балоце,
І нудлівы неспакойны
Шэлест у чароце.

Нішто ня радуе сэрца поэты; ён рысуе нам шэры аднастайны пэйзаж; у прыродзе заўважае сумна элегічныя вобразы, адпавядаючыя смутным настроям. Адлёт жураўлёў будзіць у яго душы нейкі жаль, ён адчувае як-бы згубу чагосьці роднага; у васеньнім дажджы чуюцца яго сьлёзы; пад шум ветра хочацца яму плакаць. Асабліва вабіць да сябе поэту ўсё забытае, адзінокае. Жытні колас, застаўлены на ніве, адзінокая кветка, прытуліўшаяся на турэмным двары, пахіліўшаяся над вадою вярбіна— абуджаюць у песьняра цэлы шэраг сумных асоцыяцый; яны асабліва вабяць да сябе поэту, можа, таму, што ў іх ён бачыў сымболі сваёй многапакутнай бацькаўшчыны, таксама забытай, таксама адзінокай на гістарычным шляху ў часы царызму.

Паралельна смутным вобразам прыроды вырастаюць у Якуба Коласа і адпаведныя смутныя сацыяльныя малюнкі. Пясьняр як-бы ўвабраў у сябе ўвесь енк і скаргі роднага народу. Вялікім сумам павявае ад яго малюнкаў вёскі:

Цесна зьбіліся нашы хаты,
Як авечкі ў летні жар;
Для агню тут корм багаты,
Як ўпадзе сюды пажар;

Хлеўчык, пограб і гуменцы
Пад адзін зьліліся плех;
Трэскі ўсаджаны ў вакенцы,
Замест шкла—радняны мех.

Многа тут гразі ў нягоду,
Многа пылу ў летні жар;
Тут дабра ня бачаць з роду
Тут марнее гаспадар...

Тут нуда жыве людзкая,
Прыпынілась гора тут;
Сьмерць дзяцей, хвароба злая,
Тут знайшлі прытульны кут.

Экономічнае разбурэньне вёскі ў часы царызму, клясавыя супярэчнасьці, разьядаўшыя яе, дзякуючы ненормальнаму соцыяльнаму ладу, эксплёатацыя, якая давіла селяніна,—усё гэта знайшло свой мастацкі адбітак у творчасьці Коласа ўжо ў раньнім пэрыодзе яе.

Але, зарысоўваючы пераважна сумныя малюнкі, якія давала песьняру само жыцьцё, Якуб Колас ніколі не даходзіць да адчаю, да роспачы; ён верыць у працоўныя масы.

Паралельна сваім вершаваным лірычным творам Якуб Колас піша мастацкія апавяданьні, дзе зарысоўвае сьветлы пачатак сялянскай псыхікі. У яго дробных апавяданьнях зрэдка зьяўляецца быт сам па сабе, у аголеным відзе. На падставе быту пісьменьнік дае нам псыхолёгічныя малюнкі. У гэтых псыхолёгічных зарысоўках выяўляецца ўсё багацьце народнай душы. Напрыклад, пісьменьнік рысуе нам, як цёмны інстынкт самазахаваньня ўступае ў сялянскай душы сьветламу пачуцьцю гонара (Малады Дубок). Ня раз пісьменьнік малюе нам і іншыя высокія парываньні простага прыцісненутага горам чалавека.

Заглядае пісьменьнік і ў душу злачынцаў, якіх асудзіла фармальная юрыдычная праўда; у цыклі „З турмы“ Колас рысуе нам арыштанцкае жыцьцё і розныя тыпы арыштантаў. Гэта тэма арыштанцкага жыцьця ня раз зачэплівалася ў сусьветнай літаратуры. Ужо францускі пісьменьнік Гюго ў сваім творы „Miserables“ рысуе нам романтычны падфарбованы вобраз злачынца; у расійскай літаратуры Дастаеўскі, Якубовіч-Мельшын адбіваюць сьвет сапраўдных злачынцаў-катаржнікаў. У Якуба Коласа ў дадзенай галіне ёсьць свая сфэра: ён рысуе нам сьвет дробных злачынцаў; ускрывае нам супярэчнасьць паміж знадворнай фармальнай праўдай і праўдай унутранай, псыхолёгічнай. У цыклі „З турмы“ выступаюць скромныя сярмяжныя гэроі, якія выпадкова трапілі за краты, але па сутнасьці гэта добрыя гаспадары, зьвязаныя з сваёй гаспадаркай і карысныя грамадзяне.

Так, ужо ў раньнім пэрыодзе сваёй творчасьці Якуб Колас выступае, як прыяцель усіх няшчасных, усіх абяздоленых жыцьцёвым лёсам.

Вера ў народныя масы ратавала Коласа сярод самай жудаснай рэакцыі царскіх часоў. На скрыдлах гэтай веры пясьняр часта падымаецца вышэй смутнай дзейснасьці; ён прадбачыць зару новага шчасьця, новага жыцьця, і тады з яго вуснаў зьлятаюць залатыя прарочыя словы, поўныя бадзёрасьці і веры ў лепшую будучыну; поэта гаворыць, напрыклад:

Не бядуй, што сьнег халодны
Скрые землю ад вачэй,—
Не загіне край твой родны
Ў цемнаце ліхіх начэй.

Будзе час і сьнег растане,
Прыдзе к нам ізноў вясна,
Ціха з неба сонца гляне,
Ачуняе старана.

Вера поэты зьдзейсьнілася. Працоўныя масы скінулі з сябе ярмо нацыянальнага і соцыяльнага ўціску, старонка ачуняла і пад уладай рабочых і сялян будуе новае жыцьцё.

З рэволюцыяй істотна зьмяняецца сыстэма сьветаадчуваньня поэты. Беларусь, родны край, прадстае перад поэтай у новым асьвятленьні. Раней пясьняр бачыў у ёй толькі благенькія палі, толькі нудны воклік— бачыў вобразы пакуты і смутку. Наадварот, цяпер ён бачыць у ёй вобразы надзвычайнага прыгоства і радасьці. Якраз, пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі, у канцы 1917 г. ў сваёй трэцяй частцы поэмы „Сымон Музыка“ пясьняр зварачаецца да сваёй айчыны з такімі радаснымі словамі:

О, край родны, край прыгожы,
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей ёсьць у сьвеце божым
Гэтых сьветлых берагоў,

Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе лясы-бары гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць?!

Гэтых гмахаў безграничных,
Балатоў тваіх, вазёр,
Дзе пад гоман хваль крынічных,
Думкі думае прастор;

Дзе увосень плачуць лозы,
Дзе вясной лугі цьвітуць,
І шляхом старым бярозы
Азначаюць гожа пуць?...

І раней, пры ўтварэньні песьняў жальбы, на Беларусі бруіліся срэбрам рэчкі, гудзелі лясы-бары, салодка пахлі мёдам грэчкі, але поэта як-бы не заўважваў усяго гэтага хараства; ён бачыў у Беларусі іншае, яго зрок быў прыкуты да сумных вобразаў. Так лішні раз пацьвярджаецца вядомая ісьціна, што жыцьцё азначае сьвядомасьць. Соцыяльная асярэдзіна і політычная дзейснасьць заўжды ўтвараюць для мастака сваеадменную прызму, у колер якой афарбоўваюцца праменьні жыцьця. Мы бачым, што новая соцыяльная асярэдзіна і рэволюцыйная дзейснасьць настройваюць музу поэты на іншы, больш бадзёры лад. Якуб Колас кідае ўжо песьні пакуты; ён гавора:

Змоўкні-жа, сьціхні, песьня пакуты,
Заварушыся, наш край!
Люд! Вызваляйся, рві свае путы,
Новыя песьні сьпявай!

Гэтыя новыя песьні чуюцца ў пасьлярэволюцыйны пэрыод творчасьці Коласа. Поэта добра разумее, што новыя ідэалы соцыяльнага будаўніцтва трэба заваяваць, што шчасьце не даецца дарма, што трэба барацьба за гэта шчасьце. Так, думаецца нам, зусім органічна Якуб Колас падыходзіць да тэмаў барацьбы ў сваіх найноўшых творах. У такіх апавяданьнях, як „Сяргей Карага“, „Крывавы вір“, „Дачакаўся“ і інш., пісьменьнік сьцісла падыходзіць да сучаснасьці, зарысоўваючы нам дра-

матычныя моманты клясавага змаганьня і грамадзянскай вайны, адбіваючы ва ўсёй велічы гэроічны характар нашай вялікай эпохі, выяўляючы розныя псыхолёгічныя зрухі нашага часу.

Такім чынам, ужо ў лірыцы і паасобных апавяданьнях мы бачым, як густыя цені мрачнага царызму зьмяняюцца яскравым сьвятлом рэволюцыйнай рэчаіснасьці. Але магутная постаць пісьменьніка ва ўсёй сваёй шырыні выяўляецца ў яго буйных жанрах: „Новая Зямля“, „Сымон Музыка“, „У Палескай глушы“.

„Новая Зямля“—гэта Одысэя беларускай літаратуры. Тут абхоплена ўсё жыцьцё беларуса ад калыскі да магілы. Суровая проза жыцьцёвай барацьбы за існаваньне зьмяняецца тут сьветлай поэзіяй жыцьця на ўлоньні прыроды. Вобразы гэтай прыроды дзівяць нас сваёй featurelessнастайнасьцю і харастовом. У асадках жанравых і прыродаапісальных малюнках тонка абрысавана псыхолёгія дзяцей, сялян, паноў і інш. Ня гледзячы на тое, што твор вынік на аўтобіографічнай падставе, у ім поэзія і праўда Dictung und Varheit зьліваюцца ў адно гармонічнае цэлае.

Калі „Новая Зямля“ зьяўляецца пераважна рэалістычнай поэмай, то „Сымон Музыка“ зьяўляецца тыповай романтычнай поэмай і па сваёй форме і па зьместу. Але крыніцы гэтай романтыкі чыста народныя. Якуб Колас абмалёўвае нацпсыхолёгію мастака-самародка з романтычнай настраёвасьцю, прычым тэма псыхолёгічная ў канчальным выніку падпарадкваецца тэме соцыяльнай. Лейт-мотыў поэмы выяўлен Коласам у такіх прачуваных словах:

Не радзіцца-б лепш дзіцяці
З такой чуткаю душой
У куточку, дзе спрадвеку
Беднасьць лютая гняце.

Цяжка жыць у цемнаце,
У зьнявазе чорнай, зьдзеку,
Дзе адбітак свой з-за хлеба
Накладае талака,

Дзе так пільна праца трэба,
Плечы, моцная рука,
Дзе рот лішні на прымеце
І так топчацца сям'ёй,—
Лепш-бы там ня жыць на сьвеце
Дзеткам з чуткаю душой!

Апавяданьне „У Палескай глушы“ ўяўляе сабой новы этап у разьвіцьці беларускай мастацкай прозы. Замест дробных мініятур тут перад намі выступаюць малюнкі на шырокім палотнішчы.

Якубам Коласам мастацкі адбіта своеасаблівая прырода Палесься, але Якуб Колас успрыймае гэту прыроду не разумова філёзофскі, як, напрыклад, Тургенев, на якога з палескага бору глядзяць вочы адвеч-

най Ізіды, а эмоцыянальна: для яго прырода Палесься—гэта нешта інтымнае і блізкае, нешта роднае, з чым зжыўся пясьняр.

Без усялякіх народніцкіх ілюзій абмалёўвае нам пісьменьнік побыт паляшукоў, з яго адвечнай цемрай і горам. У жудасных фарбах рысуе ён нам побыт так званай вясковай інтэлігенцыі, з яе пошласьцю і нікчэмнасьцю. Сьветлы промень у багне гэтай пошласьці ўяўляе сабою Лабановіч, у вобразе якога выяўлен на аўтобіографічнай падставе мастацкі тып маладой беларускай інтэлігенцыі, прасякнутай сьвядомымі ідэаламі нацыянальнага і соцыяльнага адраджэньня бацькаўшчыны. Побач з гэтым у апавяданьні выяўлена і агульна-людзкая тэма змаганьня з акаляючай пошласьцю і нікчэмнасьцю жыцьця.

На падставе зробленага беглага агляду некаторых тэм і настрояў, якія выяўлены ў творчасьці Якуба Коласа, можна зрабіць некаторыя вывады.

Гэта творчасьць, паперш ае, вызначаецца асабліва шырокім сваім дыапазонам. У вадным вершы сам пясьняр раўнае сваю поэзію з водгульлем, у якім усё адбіваецца:

Ці коска зазвоніць ў лугох раніцою,
Ці песьню дзяўча запяе,
Ці конік ў дарозе праскочыць трусцою,
Ці вецер ў палёх зазлуе;

Ці гром гучнабежны пракоціцца ў хмарах,
Ці грукне над лесам пярун,—
Усё водгук знаходзіць ў бязьмежных абшарах,
Усё іх дакранаецца струн.

Гэткім водгульлем была творчасьць беларускага песьняра: яна адгукалася на ўсе жыцьцёвыя зьявы. Зарадзіўшыся ў сялянскай хаце, выгадаваўшыся ва ўбогіх умовах сялянскіх абставін, муза поэты заставалася заўжды пэўнай роднаму люду. Сялянская стыхія знайшла сабе найбольш яскравае выяўленьне ў творчасьці Якуба Коласа; з сялянскай клясай пісьменьнік зьвязан і ідэолёгічна і эмоцыянальна.

Горкая доля беларускага селяніна ў дарэволюцыйныя часы становіць сабой падставы творчасьці Якуба Коласа. Пісьменьнік абмалёўвае вёску об'ектыўна і бесстаронна, бяз усякай ідэалізацыі і прыкрасаў; са старонак яго твораў сваімі жудаснымі вачыма глядзіць на нас сама праўда. Мастацкі пэндзаль пісьменьніка з усёй яскравасьцю выяўляе перад намі экономічны заняпад і разбурэньне былой вёскі, над якой у дарэволюцыйны пэрыод вісеў падвойны ўціск—соцыяльны і нацыянальны. Абмалёўка гэтага ўціску праходзіць праз усе творы песьняра, яна асноўны мотыў яго поэзіі і мастацкай прозы.

Соцыяльны і нацыянальны пафос—найбольш паважны бок творчасьці Якуба Коласа, але ім ня вычэрпваецца ўсё багацьце гэтай творчасьці, у якой мы знаходзім іншыя тэмы і настроі.

Перш за ўсё Якуб Колас зьяўляецца вялікім мастаком беларускай прыроды; ён вельмі тонка адчувае хараство ў гэтай прыродзе, занатоўвае яе адзнакі і водцені. Пяшчотны лірык—Якуб Колас адначасна зьяўляецца і выдатным жанрыстым. Увесь побыт беларуса з яго шэрай будзённасьцю і сьветлай поэзіяй—пераважна поэзіяй сялянскай працы—знайшоў сабе шырокі адбітак на палотнах творчасьці мастака. Адначасна, на падставе быту пісьменьнік дае нам рознастайныя псыхолёгічныя зарысоўкі. Псыхолёгія селяніна з яе бадзёрасьцю і ўпартасьцю ў жыцьцёвай барацьбе, псыхолёгія інтэлігента з яе гамлетызмам і рэфлексіяй, псыхолёгія паноў з іх надзьмутасьцю, пыхай і настроямі эксплёататараў, а асабліва псыхолёгія дзяцей—знайшлі ў асобе Коласа свайго мастака, які нажом тонкага псыхолёгічнага аналізу раскладае на часткі і трапна аформляе самыя складаныя душэўныя перажываньні.

Рознастайныя тэмы творчасьці Якуба Коласа і адначасна рознастайна іх эмоцыянальная афарбоўка. Коласу ўласьцівы мяккія і пяшчотныя перажываньні; у яго само сонца глядзіць прыветна з неба, як-бы матулька на дзяцей, і для адзінокай краскі, закінутай на турэмным двары, знаходзяцца ў яго словы ласкі і прывітаньня: пясьняр як-бы ўвабраў у сябе ўсю тую мяккасьць і пяшчотнасьць, якія разьліты ў фарбах беларускай прыроды. Але мяккасьць і пяшчотнасьць лірыка часта пераходзіць у яго ў добрадушны гумар бытаапісальніка. Кпіны бытаапісальніка зьмяняюцца ў яго злосным абурэньнем супроць ворагаў і прыгнятальнікаў беларускага народу, і тады Колас кідае гэтым ворагам свой верш, абліты горачча і помстай: ён, напрыклад, з такім пафосам выказвае абурэньне супроць вінавайцаў сусьветнай імпэрыялістычнай вайны:

За што лілася кроў людзкая?
За што гібеў і гінуў люд?
Гібеў набытак ўсяго краю,
І пакаленьняў гінуў труд?

І бег народ, як ў час паморку,
Закрыўшы вочы, ў божы сьвет,
І толькі дым ўздымаўся горкі,
І крыж адзначываў іх свлед.

А колькі сьмертак дзетак мілых
На вашай совесьці ляжыць?
Пануе ціш на іх магілах,
І край разбураны маўчыць.

У поэзіі Якуба Коласа ёсьць нешта адвечна юнацкае, адвечна маладое; у ёй ёсьць пафос барацьбы, нездавальненьня, закліку да лепшага. Вось чаму, думаецца нам, моладзь асабліва любіць Якуба Коласа; у настроях поэты ёсьць ноты, сугучныя настроям юнацтва.

Выяўляючы гэткія рознастайныя пачуцьці, Якуб Колас заражае імі свайго чытача: мы плачам яго сьлязьмі, радуемся яго радасьцямі, пакутуем яго пакутамі.

І цяпер, калі пясьняр прайшоў ужо 20-гадовы шлях сваёй літаратурнай дзейнасьці, калі ён на гэтым шляху шчодрай рукой рассыпаў пахучыя кветкі чароўнай поэзіі, уся працоўная Беларусь, вызваленая цяпер ад нацыянальнага і соцыяльнага ўціску, можа толькі пажадаць словамі поэты, каб у будучыне рэха яго творчасьці адбівала толькі радасьць, давала толькі добрыя весткі. Працоўная Беларусь можа толькі пажадаць, каб і надалей у поэзіі песьняра выяўлялася адвечна бадзёрае, адвечна юнацкае, каб струны яго ліры заўжды сьмяяліся і песьняю шчасьця гучэлі.

# ПОЭМА Я. КОЛАСА „СЫМОН МУЗЫКА“, ЯК АЎТОХАРАКТАРЫСТЫКА

*(Да дваццацілецьця літаратурнай дзейнасьці поэты)*

**Проф. І. Замоцін**

У дні, калі мы ўшаноўваем мастакоў слова, прынята большай часткай гаварыць аб пройдзеным імі літаратурна-творчым шляху і падагульняць іх поэтычныя замыслы, сюжэты і тэмы, мастацка-тэхнічныя прыёмы, ідэолёгічныя ўхілы і ідэолёгічныя сьцьверджаньні.

Але ў гэтыя-ж дні, калі перад намі ў цэлым, ва ўсю веліч, паўстае тая ці іншая поэтычная таленавітасьць, мімаволі хочацца ўсьвядоміць гэтую таленавітасьць ня толькі з боку вынікаў, але і з боку самое яе прыроды, тэй псыхолёгічнай, чалавечай яе сутнасьці, якая да сучаснага моманту ўсё яшчэ застаецца невядомым іксам ці, як любіць часта гаварыць інтуітыўная крытыка, таямніцай творчасьці.

Навука парознаму падыходзіла і падыходзіць да расчыненьня гэтай таямніцы. Калісьці імкнуліся зразумець яе мэтафізычна, як натхненьне зьверху; цяпер гавораць аб ёй, як аб біолёгічнай проблеме, прыстасоўваюць да яе мэтод псыхоаналізу, увязваюць творчы працэс з умоўнымі рэфлексамі і г. д.

Прырода творчасьці, аднак, паранейшаму застаецца тэй загадкай, каля якое безнадзейна зыходзяцца самыя рознастайныя пункты погляду і мэтоды.

Вось чаму такім каштоўным зьяўляецца ўсякі літаратурны матэрыял, які хоць крыху высьвятляе гэту проблему.

Такім матэрыялам прынята лічыць і тыя прызнаньні саміх мастакоў слова аб сваёй творчасьці, якія часткова раскіданы ў іх творах, дзеньніках, лістох і іншых продуктах іх літаратурнай дзейнасьці.

Такім матэрыялам у адносінах да творчасьці Якуба Коласа зьяўляецца і поэма „Сымон Музыка“, бо ў ёй аўтар дае цэлы шэраг показаньняў аб творчасьці поэты наогул і разам з тым, бязумоўна, і аб сваёй творчасьці.

Беларускія поэты нашаніўскае пары, з якое вышаў і Я. Колас, наогул схільны апісваць і характарызаваць сваю творчасьць. Гэта робяць у сваіх вершах і Якуб Колас, і Янка Купала, і нябожчыкі Алесь Гарун і Максім Багдановіч і інш.

Самы характар і склад гэтых іх аўтапрызнаньняў ці аўтапаказаньняў адрозьніваюцца асобнымі азнакамі іх эпохі і лёгка ўвязваюцца з тымі соцыяльна-культурнымі ўмовамі, сярод якіх разьвівалася іх літаратурная дзейнасьць.

Калі ў канцы XVIII і ў пачатку XIX ст. поэты падыходзілі да тлумачэньня свае поэтычнае таленавітасьці філёзофскім шляхам, карыстаючыся прадпасылкамі рацыяналізму ці ідэалізму, калі ў другой палове XIX ст. гэты падыход да тлумачэньня прыроды творчасьці зрабіўся больш рэальным, натуралістычным, нават пачаў апірацца на навукова-пастаўленым экспэрымэнце,—то ў пачатку XIX сталецьця, у абставінах насьпеўшага рэволюцыйнага руху і мужаўшага адраджэньня Беларусі, той-жа падыход да самавызначэньня ў беларускіх поэтаў прыняў па пераважнасьці нацыянальна-бытавы і соцыяльна-палітычны ўхіл, паколькі яны пачалі ўвязваць як пахаджэньне свае творчасьці, так і яе характар і мэты з вакольнымі абставінамі жыцьця.

Вось чаму ўсе поэты гэтай групы любяць гаварыць аб сваёй творчасьці ня толькі як аб праяве іх асабістай псыхікі, але і як аб вывадзе з соцыяльнага жыцьця, як аб чымсьці складзеным пад пэўнымі ўмовамі і зьвязаным пэўнымі задачамі грамадзкага служэньня.

У гэтых адносінах у сувязі з пастаўленаю мною тэмаю (аб прыродзе творчасьці Якуба Коласа) асабліва настойліва прыходзіць сёньня на ўспамін нябожчык М. Багдановіч, які, ня гледзячы на свой пераважаючы ўхіл да лірызму, да лірызму вельмі інтымнага, любіў якраз у вышэйпаказаным сэнсе вытлумачваць сваю творчасьць і творчасьць наогул.

Ён, як вядома, прысьвяціў пытаньню аб прыродзе поэтычнае творчасьці ня толькі шэраг вершаў, але і некалькі мастацка-прозаічных нататак у выглядзе невялікіх апавяданьняў. Гэтай тэме прысьвечаны яго „Апокрыф“, „Апавяданьне аб іконьніку і залатару“, „Шаман“, „Сон-трава“ і „Музыка“. Прыстасавальна да пастаўленае мною тэмы асабліва заслугоўваюць увагі апошнія два апавяданьні.

У першым з іх, якое знаходзіцца пакуль што ў рукапісе і напісана на расійскай мове, М. Багдановіч разгортвае перад намі сваеасабліва скомпанованую ім легенду аб нараджэньні поэтаў-казачнікаў. Гэроем гэтай легенды зьяўляецца, як і ў поэме „Сымон Музыка“, хлапчучок-пастушок.

„Лег раз—рассказывает автор—один белоголовый мальчик-подпасок в степи у ручья, поглядывая за стадом, сорвал попавшуюся под руки былинку, попробовал ее понюхать, да тут же и заснул: это сон-трава ему попалась. Печет жаркое солнце ему голову, синяя муха, жужжа, опустилась на его лицо,—но ничего не чувствует мальчик, крепко спит, и снятся ему незабываемые сны“. Он видит во сне Ивана-Царевича, скачущего за жар-птицей на сером волке; видит Саур-богатыря на перекрестке трех дорог; видит сестрицу Аленушку с братцем Иванушкой;

видит орла, который держит в когтях злого вещего ворона; видит дивную Феникс-птицу; видит и неизбывное горе-злосчастье... и много других сказочных чудес и небылиц переживает он во сне.

„Так сон за сном идет, друг дружку догоняют, и не проснуться бы мальчику-подпаску во век, если бы только не пастух. Заприметил он, что подпасок спит, а скотина тем временем разбредается, подошел и порядком таки его в сердцах тряхнул. Выпала из рук у паренька сон-трава, и пробудился он. Но не идут виденные сны у него из головы. Стал он людям их говорить, а люди над ним смеются: „Полно тебе небылицы сказывать. Ты бы лучше за стадом присмотрел“.

„Но не послушал их мальчик. Бросил он дом свой, все оставил и всю жизнь свою ходил по земле, сны свои дивные рассказывал“. Кто смеялся над ним, кто радостно слушал. А случалось и так, что послушавши его сказок, человек начинал сам жить поэтическими грезами сказочного мира и становился сам поэтом-сказочником. „Не найдет себе покоя такой человек, будет он всю жизнь свою томиться, обо всем этом людям рассказывать... И многие тысячи таких людей—заключае поэта сваю легенду—бродили и бродят по земле и рассказывают дивные сказки“.

Такая адна паралель да „Сымона Музыкі“ ў Багдановіча. Тут ёсьць і пастушок, адараны поэтычным дарам; ёсьць і суровая бытавая рэчаіснасьць, якая прымушае яго, як і Сымонку, зрабіцца тулягай, вандруючым артыстым. А галоўнае, тут ёсьць, як і ў поэме Якуба Коласа, спроба вобразна, у форме легенды, вызначыць генэзіс народнага поэты.

Возьмем другое вышэйназванае апавяданьне М. Багдановіча пад назвай „Музыка“, якое зьявілася ў друку ў 1907 годзе.

„Жыў на сьвеце музыка. Многа хадзіў ён па зямлі, ды ўсё граў на скрыпцы. І плакала ў яго руках скрыпка, і такая была ў яго граньні нуда, што аж за сэрца хапала...

„Плача скрыпка, льлюць людзі сьлёзы, а музыка стаіць і выводзіць яшчэ жаласьней, яшчэ нудней. І балела сэрца, і падступалі к вачом сьлёзы: так і ўдарыўся-б грудзьмі аб зямлю, ды ўсё слухаў-бы музыку, усё плакаў-бы па сваёй долі...

„А бывала яшчэ й так, што музыка быццам вырастаў у вачох людзей, і тады граў моцна, гучна: гудзяць струны, звоніць рымка, бас, як гром, гудзіць, і грозна будзіць ад сну і завець ён народ. І людзі падымалі апушчаныя галовы, і гневам вялікім блішчалі іх вочы.

„Тады бляднелі і трасьліся, як у ліхаманцы, і хаваліся ад страху, як тыя гадзюкі, усе крыўдзіцелі народу. Многа іх хацела купіць у музыкі скрыпку яго, але ён не прадаў яе нікому. І хадзіў ён далей між бедным людам і граньнем сваім будзіў ад цяжкага сну“.

Але злыя і моцныя людзі кінулі музыку ў вастрог, і ён там памёр. Тыя людзі, што яго загубілі, прабавалі йграць на яго скрыпцы, але нічога ня выходзіла з іх граньня, бо для іх было чужым народнае гора.

І вось разьбілася скрыпка. Але не загінулі ўспаміны аб „Музыцы“; на яго месца з асяродзішча народу зьявіліся другія, якія, як і ён, пачалі сваім граньнем прабуджаць народную сьвядомасьць.

Вось дзьве паралелі Багдановіча да поэмы „Сымон Музыка“. Па сюжэту ўсе тры творы досыць блізкія: ва ўсіх выпадках высока адараны поэта-артысты выходзіць з народу і народу аддае сваю таленавітасьць; нават бытавыя абставіны першага апавяданьня Багдановіча (пастушок-поэта, які ўцякае з бацькаўскага дому) блізкія да абставін поэмы Я. Коласа.

Я не хачу гэтым паказаць на магчымасьць якіх-небудзь пераймань-няў ці ўплываў. Не, я адзначаю толькі цікавы факт некаторай блізкасьці сюжэтаў і падабенства ў трактоўцы агульнай тэмы,—падабенства, якое тлумачыцца агульнымі ўмовамі эпохі і больш-менш блізкім, амаль аднальковым у абодвух поэтаў падыходам да пытаньня аб прыродзе поэтычнае таленавітасьці і яе задач.

Я. Колас у сваёй поэме, пачатай ім яшчэ ў 1911 годзе, разьвівае прыблізна той самы сюжэт. Хлопчык-пастушок, яшчэ ў дзіцячых гадох адчуўшы ў сабе поэтычны дар, ідзе з сваёю скрыпкаю з бацькаўскага дому, туляецца па розных мясцох—вандруе з старым жабраком, працуе ў карчме, служыць музыкам у замку багатага пана і г. д., але ва ўсіх станах ён захоўвае сваю тонкую, абаяльную прыроду артыстага і сваё высокае не-рамесьніцкае служэньне мастацтву. Гэты сюжэт разьвіты на фоне шматвобразных бытавых малюнкаў і малюнкаў прыроды, зарысаваных з звычайнай, уласьцівай Я. Коласу, мастацкай прастатою і разам з тым маляўнічасьцю і эмоцыянальнасьцю.

Але калі эпічна-спакойныя тыповыя зарысоўкі асоб, здарэньняў і малюнкаў прыроды і быту ў іншых творах Я. Коласа складаюць асноўную іх стыхію, то гэтага, мне здаецца, нельга сказаць пра поэму „Сымон Музыка“, дзе суб‘ектыўная стыхія выступае на першы плян, а об‘ектыўная, тыповая, служыць для яе толькі агульным фонам.

Гэта суб‘ектыўная стыхія ў даным творы і зводзіцца, галоўным чынам, да тых аўтарскіх паказаньняў аб прыродзе творчасьці наогул і сваё паасобку,—паказаньняў, якія раскіданы па ўсёй поэме, асабліва ў тых яе мясцох, дзе даецца гісторыя прабуджэньня, росту і росківіту поэтычнае таленавітасьці Сымонкі. Да гэтых паказаньняў мы цяпер і зьвернемся.

Адкуль, з якіх першапачатковых крыніц псыхікі выходзіць поэтычнае натхненьне Сымонкі? Гэтае пытаньне поэма вырашае на першых старонках свае поэмы. Аднэй з самых раньніх крыніц натхненьня зьяўляецца ўзьнятая, дзіцячая яшчэ, чульлівасьць і ўспрыймальнасьць. Гэтай дзіцячай успрыймальнасьці, дзіцячай ігры выабражэньня ён прысьвячае глыбока прачулыя радкі. Ён характарызуе хлопчыка—Сымонку, будучага музыку-мастака, наступнымі словамі:

У яго быў сьвет цікавы,
Свае вобразы, жыцьцё,
І ў душы яго ўсе зьявы
Сваё мелі адбіцьцё...
У яго вачох жывых
Думка нейкая бліскала...

Узьнятая ўспрыймальнасьць накіравана ў Сымонкі на ўсё наўкольнае, асабліва на прыроду. Ён аддаецца глыбокаму, удумліваму адчуваньню:

На каменьчык сядзе ў збожжы,
Ня схісьнецца і маўчыць,
Ловіць сэрцам сьпеў прыгожы,
Як жытцо загаманіць,
Як зазвоняць, заіграюць
Мушкі, конікі, жучкі,
І галоўкай заківаюць,
Засьмяюцца васількі.

Гэты раньні, прыродны дар поэтычнага сьветаадчуваньня, якім надараны, бязумоўна, і сам Я. Колас, поэта лічыць неразьвязанай таямніцай.

Ды ніхто ня знаў тых струнаў,
Патайных ніцей душы,
Што злучаюць гук пярунаў
З немым голасам цішы...

Аднак, ён уносіць некаторае разьвязаньне і ў гэту першапачатковую таямніцу прыроднага таленту. Крыніцу гэтага таленту ён бачыць часткова ў атавізьме, у спадчыннасьці, у перадачы з роду ў род поэтычнай натхнёнай натуры. Калі бацька і маці ня толькі не заахвочвалі Сымонку да поэтычных мараў, але нават і не разумелі яго, то дзед Курыла, блізкі да яго па сваёй псыхічнай організацыі, добра разумеў хлопчыка-поэту і падзяляў яго думы і настроі. І мажліва, што родны дзед ці прадзед Сымонкі таксама, як і ён, былі вельмі ўспрыймальнымі да прыроды і вакольнага жыцьця і перадалі яму ў спадчыну сваё сьветаадчуваньне. Трэба думаць, што падобная спадчыннасьць мела месца і ў адносінах да Я. Коласа.

Але якое-б ні было першапачатковае пахаджэньне поэтычнага дару—спадчынна-радавое ці выключна-індывідуальнае, зьвязанае толькі з данай псыхічнай організацыяй,—усё роўна, калі гэты талент выявіўся ўжо ў дзяцінстве, у далейшым ён нямінуча будзе адчуваць тыя ці іншыя жыцьцёвыя ўплывы, пад якімі можа або замерці або расквітнець.

Талент Сымонкі расьце. І першым уплывам, які магутна адбіўся на яго росьце, трэба лічыць той народны анімізм, зьвязаны з мітатворчасьцю і наогул з народна-поэтычнай стыхіяй, якім аддае поэзія многіх беларускіх поэтаў паказанай вышэй эпохі, таксама як і поэзія Я. Коласа. Гэты анімізм, г. зн. шырокае адухаўленьне прыроды, зьяўляецца галоўным продуктам для поэтычнага выбражэньня Сымонкі.

...І здавалася яму,
Што ён знае, як травінка
Сваю думае думу,
Што гаворыць жытні колас,
І аб чым шуміць ячмень,
І чаго сьпявае ўголас
Мушка, конік, авадзень;
Што ўгары над срэбрам жыта
Пяе жаваранак той
Так прыгожа—самавіта;
І зачым у высь блакіту
Ідзе ветрык пехатой,
У высь тую, дзе хмурынкі
Над зямлёй плятуць вянкі...

Яму здаецца, што адухоўлены ня толькі птушкі і зьвяры, але і расьліны, і „беленькія хмурынкі", і „нярухлівыя зоркі". „Мы жывём—жывуць яны",—кажа ён Ганьне. І калі Ганна пытаецца яго:

А скажы: і краскі жывы?
Ім баліць, як рвеш іх летам?—

Ён пераконана адказвае:

Ну, напэўна балець будзе.
Можа нават яны плачуць,
Толькі сьлёзак іх ня бачаць,
Ці ня хочуць знаць іх людзі.

Разам з анімізмам Сымонка з раньняга дзяцінства чарпае сваё натхненьне і з сумежнае з анімізмам крыніцы—мітатворчасьці, адкуль чарпаюць і Я. Колас і паэты яго часу. І калі, напр., М. Багдановіч даведаўся аб мітолёгіі беларускай з апавяданьняў свайго бацькі, этнографа, добра знаёмага з беларускім фольклёрам, то Я. Колас і іншыя паэты, падобна Сымонку, непасрэдна, у народным асяродзішчы, даведаліся аб поэтычным сьвеце народных забабонаў і ў вакольнай вясковай прыродзе бачылі сваімі вачыма аднаўленьне старога, яшчэ ня зжытага народам, міта. І мітатворчасьць увайшла, як складаная частка, у організм іх поэзіі. Вось чаму і Сымонка спачатку толькі аналізуе прыроду, палахліва азіраецца на яе, поўны цудоўных забабонаў і страхаў, якія засталіся ў спадчыну яму ад старых часоў, і ўсюды яму здаецца штосьці нятутэйшае.

...Штось пабегла там у лозы,
Нешта скокнула пад мост...

Але потым гэта мітатворчасьць у яго паступова паглынаецца яго сьветлым поэтычным сьветаадчуваньнем і робіцца, як і ў творчасьці Я. Коласа, толькі формай мастацкага стылю, мастацкага аформленьня яго пачуцьця прыроды. Такі якраз від атрымлівае гэта мітатворчасьць, напр., у казцы на лілею, якую расказвае Сымонка Ганьне.

Другі фактар, які стыхійна дзейнічаў на разьвіцьцё поэтычнага дару Сымонкі,—гэта наўкольнае соцыяльнае жыцьцё. Як і беларускія поэты эпохі Якуба Коласа, Сымонка ўсвойвае гэты стыхійны ўплыў ня з кніг,

не ад асобных людзей, не з сямейнага толькі жыцьця, але з шырокага народнага быту, усмоктвае яго з тэй народнай тоўшчы, у якой назьбіралася шмат спадчынных соцыяльных тэм, чакаўшых свайго адбітку і ў поэзіі. Народна-песенныя соцыяльныя мотывы прышлі да яго ў спадчыну ад прадстаўнікоў старэйшых пакаленьняў, адараных, як і ён, поэтычным сьветаадчуваньнем. Ён пачуў гэтыя мотывы спачатку ў песьнях дудароў, якія зачаравалі яго дзіцячае выбражэньне і рассунулі горызонты яго назіраньняў (...„цяпер", г. зн. пасьля іграньня дудароў, „пазнаў ён тое, чаго шчыра так шукаў"). І пасьля гэтага першага ўражаньня ад народнай песьні, насычанай соцыяльна-бытавым настроем, Сымонка пачынае жыць новымі мотывамі, якія настойліва чуюцца яму ва ўсім вакольным жыцьці:

Зыкі смутку, песьні волі
Чуў хлапчук з усіх старон.

Дзеля гэтага, як толькі перайшла ў яго рукі дудка дзеда Курылы, ён зразу найшоў сваёю ігрою дарогу да народнага гора.

На прывсльлі, сеўшы ў полі,
Смутна стане хлопчык граць;
Льлюцца, таюць зыкі болю,
Аж калоцяцца, дрыжаць...

І слухаюць яго граньне жнеі, таму што яна ім блізкая, яна родная іх набалеўшаму сэрцу:

Смутак жнеек тых апране,
Разагнуцца і стаяць,
Як Сымон на дуды стане
Жальбу сэрца выяўляць,
Так-жа грае ён прыгожа—
Серп застыне ў іх руках,
І павісьне жменька збожжа
На разогнутых плячах.

Зрабіўшыся ўладаром скрыпкі, Сымонка яшчэ больш зьвязаў сваю таленавітасьць з тэмамі народнай нядолі.

...Сымонка неахвотна
Граў „кадрылі", „кавалі".—
Біў ён больш на лад маркотны,
Дзе пакутаю зямлі
Аддаваўся сьпеў гаротны,
Сьлёзы жаласьці цяклі,
І дзе чуўся жаль, уціскі,
Крыўда, гора бедака,
Бо сьвет смутку болей блізкі
Быў для сэрца хлапчука.

Сымонку не даставала цяпер толькі жыцьцёвае практыкі, каб зрабіцца праўдзівым закончаным поэтай. Гэта быў трэці фактар у разьвіцьці яго поэтычнай таленавітасьці. І ён прайшоў гэтую суровую практыку, як прайшоў яе і Я. Колас і некаторыя другія беларускія поэты, уведаўшы ў свой час цяжкі лёс. Ён пачаў з адзінокага вандраваньня.

Я... так... хлопец... падарожны,
Праз сябе сам... Я... нічый!..

Гаворыць ён старому жабраку. З гэтым дзедам разам у двух ён пражыў паласу жабрацтва і блізка глянуў у твар вясковай рэчаіснасьці.

Шлі яны ад хаты к хаце,
З вёскі ў вёску, з краю ў край,
У сярмяжках—латка ў лаце,
З адным толькі словам—дай!
І ў прыгодзе ўсё бывала:
Цісну́ў холад іх, мароз,
Сьнегам вочы засыпала,
Вецер торбачкі іх трос,
Як шалёны выў, сьмяяўся,
Біў у твар і з ног скідаў
Ды ў лахмоцьце забіраўся,
Шапкі з іх галоў зрываў
І ганяў па сьнежным полі,
Злы, бязжаласны вар'ят.

Ен спрабаваў потым і долю парабка ў карчме Шлёмы. А таксама папаў і ў пышны замак пана, каб, убачыўшы на свае вочы драпежніцкае шчасьце нямногіх моцных і задаволеных, першы раз у жыцьці глыбока задумацца над соцыяльнымі супярэчнасьцямі вакольнага жыцьця:

Хто выводзіў тыя вежы?
Хто той замак будаваў?
Златаблескія адзежы
Хто для сьцен яго саткаў?
Чые рукі з мазалямі
Тут зьнясьлі свае дары?
Потам, кроўю і сьлязамі
Сцамантованы муры...
Ім—усё, а нам—нічога,
Адным жыць ды панаваць.
С другім—адна дарога:
Сваё жыцьцё марнаваць...

І дзеду Даніле ён паставіў цяпер другое вострае пытаньне—ужо не аб таямніцах мітатворчасьці, аб якіх ён пытаўся ў сябра свайго дзяцінства—дзеда Курылы, аб прызначаных лёсам загадках старой соцыяльнасьці, тады яшчэ не разьвязаных:

А скажы мне, дзеду любы,
Чаму так на сьвеце стала,
Што адным даецца мала,
А другому аж за губы?..

І тады-ж ён зразумеў канечную патрэбнасьць протэсту, барацьбы з злою няпраўдаю,—ён зразумеў, што (як ён гаворыць) „проціў сілы можна ставіць толькі сілу“. І калі ён зайграў на скрыпцы сярод пышных абставін замку і сярод яго гасьцей, у яго граньні адчуўся гнеў барацьбіта супроць соцыяльнай няпраўды:

Ён зайграў, і струны горка
Адклікаліся—гулі,
Аддавала іх гаворка
Гневам, крыўдаю зямлі...

У жыцьцёвай практыцы Сымонкі значнае месца займае і яго каханьне да Ганны. Гэта таксама фактар росту і мужаньне яго таленту. Але каханьне і асабістае шчасьце не паглынаюць яго асноўных настрояў і мотываў, што вельмі характэрна для прыроды творчасьці самога Я. Коласа: поэты яго пары не аддаюцца выключна лірыцы асабістага пачуцьця,—лірыка нацыянальна-соцыяльнага характару ў іх пераважвае. Таксама намалёвана і творчасьць Сымона ў часы росквіту яго каханьня. У Ганьне ён знайшоў сугучную натуру, якая адклікалася на яго лепшыя імкненьні. Дзеля гэтага каханьне яшчэ больш акрыляе яго, робіць больш моцным, больш духоўна вольным, і пры гэтым завастрае яго сьвядомасьць поэты—барацьбіта супроць зложыцьця і за новую, лепшую рэчаіснасьць. Калі ён у лесе, пад уражаньнем нядаўнага спатканьня з Ганнай, натхенна грае па просьбе пана, у яго граньні каханьне гармонічна пераблытваецца з скаргай на цяжкую нядолю і з парывамі да шырокай волі:

Ён іграў аб тым спатканьні,
Аб дзяўчынцы яснавокай,
Волі вольнай і шырокай,
Аб сваім іграў блуканьні
І аб долі адзінокай;
Ён іграў аб родным дому,
Аб жыцьці сваім бязьлетным,
Аб імкненьні тым сусьветным,
Што чуваць у буры, грому...

Карыстаючыся каханьнем Ганны, якая ўступіла з ім на агульны жыцьцёвы шлях, Сымон канчаткова вырас у сапраўднага песьняра. І поэта, праводзячы яго ў далейшае працоўнае жыцьцё народнага сьпевака, гаворыць яму ўсьлед заключныя словы сваёй поэмы:

Пайшоў Сымон сваёй пуцінай,
Бо ён прыроджаны пясьняр.
Панёс ён людзям песень дар—
Агонь душы і сэрца жар,
Панёс пясьнярскай каляінай.

Ён пайшоў тэй „пясьнярскай каляінай“, па якой сам Якуб Колас ідзе ўжо дваццаць гадоў, уступаючы ў трэцяе дзесяцілецьце свайго ганаровага служэньня беларускаму поэтычнаму мастацтву.

Але, апавядаючы аб сваім Сымоне, які шчасьліва перамог, як і сам Якуб Колас, усе перашкоды на шляху да росквіту свайго таленту, поэта не адзін раз выяўляе засмучэньне па выпадку таго, што цяжкія ўмовы жыцьця дарэволюцыйнай Беларусі не давалі магчымасьці разьвіцца многім дачасна загінуўшым талентам людзей з народу:

Эх, чаго нам ня прышлося,
Брацьця мілыя, у жыцьці.
Колькі талентаў зьвялося,
Колькі іх і дзе ляжыць
Невядомых, няпрызнаных,
Неаплаканых нікім,
Толькі ў полі адсьпяваных
Ветру посьвістам пустым...

Мы, вядома, усе далучымся да тужлівай заявы поэты. Але мы разам з тым выкажам цьвёрдую ўпэўненасьць у тым, што тыя беларускія песьняры, якія, як і Якуб Колас, ужо паўсталі ва ўсю веліч сваёй таленавітасьці і выклікалі да жыцьця другіх поэтаў, выклічуць цяпер, пры новых умовах адроджанай Беларусі, цэлы шэраг маладых талентаў.

Я вярнуся яшчэ раз да невялікага апавяданьня М. Багдановіча, якое канчаецца свайго роду прарочнымі радкамі.

Цяжкі быў вялікі ўчынак гэтага першага музыкі, які вышаў з народу і служыў народу сваім мастацтвам, самаахвярна праходзячы па свайму жыцьцёваму шляху. Але за ім пайшлі другія. „І спаміж таго народу,— канчае аўтар сваё апавяданьне,—катораму ён калісь граў, выйдуць дзесяткі новых музыкаў і граньнем сваім будуць будзіць людзей к сьвету, праўдзе, брацтву і свабодзе“.

Няхай-жа поэта Якуб Колас, сам вышаўшы з народу і прайшоўшы даўгі і славуты дваццацігадовы шлях літаратурнай работы, жыве яшчэ шмат гадоў і няхай ён сваім прыкладам выклікае да творчасьці ўсё новых і новых „музыкаў“ поэзіі на карысьць і далейшы росквіт беларускай культуры.

# ТАЯМНІЦА БРЫТАНСКАЙ ІМПЭРСКАЙ КОНФЭРЭНЦЫІ

**І. Герчыкаў**

19-га кастрычніка г. г. ў Лёндоне адчынілася чарговая Брытанская імпэрская Конфэрэнцыя. Не дарма перадавіца „Праўды" ад 19-га кастрычніка г. г. кажа аб тым, што гэта конфэрэнцыя будзе цікавейшаю за ўсе конфэрэнцыі, якія адбыліся да гэтага часу. Конфэрэнцыя працягнецца шэсьць тыдняў. На жаль, паседжаньні конфэрэнцыі будуць сакрэтныя, і грамадзкасьць усяго сьвету, якая надзвычайна цікавіцца конфэрэнцыяй, будзе даведвацца аб усім тым, што на ёй адбудзецца, з афіцыяльных паведамленьняў, якія, зразумела, будуць мець на мэце захаваць тое, што фактычна там будзе.

Конфэрэнцыя зьбіраецца ў абстаноўцы экономічнага, соцыяльнага і політычнага рэгрэсу, перажываемага Ангельшчынай, рэгрэсу, які паказвае на тое, што гэтая старая цьвярдыня буржуазнага парадку пачынае здаваць свае позыцыі і што клясавыя супярэчнасьці і залежныя ад іх рэволюцыйныя рухі ўсё больш выступаюць на пярэдні плян. Рэгрэсам Ангельшчыны тлумачыцца і ўзрост адасяродкавых сіл, што рвуць на часткі Брытанскую імпэрыю і вядуць да раскладу яе на паасобныя ад Ангельшчыны незалежныя краіны і дзяржавы. Гэта конфэрэнцыя мае сваёю мэтаю перамагчы гэтыя адасяродкавыя сілы і стварыць замест іх сілы дасяродкавыя, адхіліць распад імпэрыі і зьлітаваць яе ў адно цэлае. Нікому невядомы тыя сродкі, якімі гэта можна зрабіць. Гэта ўжо дзевятая конфэрэнцыя і, прасачыўшы ўсе конфэрэнцыі ад 1889 г., калі сабралася першая, да гэтае, то можна пераканацца толькі ў тым, што кожная з іх усё больш азначана выяўляла няўхільнасьць процэсу распаду імпэрыі. Фактар нязвычайна вялікага гістарычнага значэньня, імпэрыя, якая ахапляла адну пятую частку земнае кулі, пачынае адыходзіць у гістарычнае мінулае, пад уплывам прычын, узьдзеяньне якіх неперможна. Тут, апрача экономічных прычын, найбольш усяго ўпамінаемых у друку і, паміж іншым, выказаных і на старонках „Полымя" (№ 5 за 1925 год), уплываюць прычыны глыбокага гістарычнага парадку, зьвязаныя з агульным прогрэсам чалавецтва.

Ангельшчына панавала на морах. Панаваньне яе замацавалася яшчэ ў той час, калі палажэньне, што прасторы сухазем'я падзяляюць людзей больш, чым прасторы водныя, было ў поўнай сіле. Цяпер гэта палажэньне яшчэ захоўваецца ў нязначным памеры ў адносінах к транспорту

тавараў і зусім страчана ўсякае значэньне ў сэнсе сродкаў сужыцьця і шляхоў зносін паміж людзьмі. Чыгункі, тэлеграф, тэлефон, шосы, аўтомобіль, аэропляны—усё больш і больш зводзяць гэту формулу на нішто, і панаваньне на морах ужо не азначае панаваньня над сьветам.

Падругое, з таго часу, як стала вынікаць значэньне Ціхага акіяну, Ангельшчына ня мае тых пераваг, якія яна мела дзякуючы свайму зручнаму выспаваму палажэньню, калі ў цэнтры сусьветнае культуры знаходзіўся Атлянтычны акіян; зараз перавагі геополітычнага палажэньня цалкам перайшлі да Амэрыкі. Вось што кажа адносна гэтага ў сваёй выдатнай працы Джон Хорабін—„Очерки историко-экономической географии мира“.

„Канечне патрэбна перакроіць звычайную мэркаторскую карту сьвету, якая адсоўвае Амэрыку на левы край. Самым важным географічным фактарам мінулай гісторыі Амэрыкі было яе атлянтычнае палажэньне насупроць Эўропы; самым важным фактам, які вызначыць адменныя рысы яе будучай гісторыі, мусіць, будзе яе ціхаакіянскае палажэньне насупроць Азіі“ (цытата Хорабіна з працы semple,—„American history and its geografical conditions“).

„Але, зразумела,—кажа сам Хорабін,—больш правільна было-б сказаць, што найбольш важным з географічных фактаў, якімі азначаюцца адменныя рысы будучай гісторыі Амэрыкі, будуць абодва яе берагі—і атлянтычны, і ціхаакіянскі... Цяпер Ціхі акіян змагаецца з Атлянтычным—новаю „воднаю арэнай гісторыі“. І фактычная монополія сусьветнага гандлю, якая так доўга згуртоўвалася ў руках Ангельшчыны, зараз сустракае перакор у гандлёвай флёце тэй дзяржавы, якая валодае ня толькі портамі на абодвух вялікіх акіянах, але і бліжэйшым шляхам, што злучае іх,—Панамскім каналам“.

Усе гандлёвыя шляхі перамясьціліся і зьмяніліся так, што шмат краін выйграла параўнаўча з Ангельшчынай, але Амэрыка і Японія асабліва. Ангельшчына сваю выключную перавагу страціла.

Час, калі зручнейшым шляхам з усходняй Азіі ў Эўропу быў морскі шлях цераз Суэц, які быў і зараз знаходзіцца ў руках Ангельцаў, кончыўся ўжо к канцу 80-х гадоў. Ужо ў 1889-ым годзе прадстаўнікі расійскага купецтва на Ніжагародзкай ярмарцы, калі хадайнічалі аб пракладцы Сібірскага чыгуначнага шляху, пісалі ў сваёй дакладной запісцы на імя ўраду наступныя выдатныя словы:

„Гэты паравы шлях будзе мець вялізарнае экономічнае значэньне для Расіі і выкліча значнае ажыўленьне ў расійскай прамысловасьці. Ён злучае цераз Расію з Эўропай 400 мільёнаў кітайцаў і 35 мільёнаў японцаў. Упартыя намаганьні, якія рабіліся Германіяй, каб завалодаць рынкамі Ціхага акіяну, намаганьні, якія былі зроблены, каб пракапаць Панамскі канал, навочна паказваюць, што ў скорым часе разыграецца ў Ціхім акіяне экономічная барацьба, якая ўжо і цяпер распачалася. Ка-

надзкая чыгунка адцягнула частку грузаў (шоўк, гарбата), якія ад гэтага часу ішлі ў Эўропу цераз Суэц. Бясспрэчна, частка гэтых грузаў пойдзе цераз Расію, калі пераезд з Эўропы ва Ўладывасток да Шанхаю будзе адбывацца 18—20 дзён, замест 45-ці дзён цераз Суэц ці 35 дзён па Канадзкай чыгунцы".

На Ціхім акіяне Ангельшчыне таксама немагчыма змагацца з надзвычайна зручным геопалітычным і геостратэгічным палажэньнем Японіі.

Кажучы аб стратах Ангельшчыны ў геопалітычным палажэньні, нельга не дапамянуць аб яе стратах у геостратэгічным палажэньні. Пры разьвіцьці сучаснай вайсковай тэхнікі Ангельшчына павінна мець ня толькі моцную флёту, але і значную сухаземную армію. Гэта ўхіляе існаваўшую для яе экономію ў сродках і людзях, параўнаўча з контынэнтальнымі дзяржавамі, калі яна магла амаль што ня мець сухаземнай арміі. Але нават і пры наліччы сухаземнай арміі былога супакою, які тлумачыўся выспавым палажэньнем у сэнсе магчымасьці нападу з боку контынэнту, у Ангельшчыны ня можа быць.

Ангельская прамысловасьць разьвівалася на аснове значнага налічча каменнага вугалю і руды. У такой колькасьці і ў такім спрыяючым злучэньні, як ні ў якай іншай краіне. „Сусьветная экономічная магутнасьць Вялікабрытаніі грунтуецца на вугалі і жалезнай рудзе",—кажа буйны нямецкі экономісты Э. Шульцэ.

Але вось у сувязі з разьвіцьцём тэхнікі каменны вугаль стаў траціць сваё значэньне, пачало вырастаць значэньне нафты, якое Ангельшчына ня мае; электрычнай энэргіі, якая больш за ўсё рацыянальна павінна грунтавацца на „белым вугалі"—сіле вадзяных крыніц. „З абсолютнай канечнай патрэбнасьцю электрычная эпоха выплывае з усяго папярэдняга тэхнічнага і экономічнага разьвіцьця",—кажа І. Степанов у сваёй выдатнай працы аб электрыфікацыі РСФСР. А ў сэнсе налічча белага вугалю, які можна было-б зараз-жа скарыстаць, Ангельшчына ня толькі ўступае Злучаным Штатам, Канадзе, Бразіліі, але і Скандынаўскім краінам, Італіі і Германіі і зьяўляецца ў гэтым сэнсе аднэй з бяднейшых у Эўропе. Трэба, праўда, пакінуць пакуль што ў баку нераспрацаванае яшчэ тэхнічна пытаньне аб скарыстаньні сілы морскіх прыліваў і адліваў. Дый тэхнічна Ангельшчына адстала ў сэнсе скарыстаньня белага вугалю. У 1924 годзе Злучаныя Штаты скарысталі 33 процанты сваёй воднай энэргіі, Швайцарыя—37 проц., Італія—35 проц., Германія—50 проц., Ангельшчына-ж—усяго 22 проц.

Ангельшчына займала адно з першых месц паводле таннасьці каменнага вугалю, але не займае яго ў адносінах да электрычнай энэргіі.

Яшчэ ў адным пункце сучаснай прамысловасьці Ангельшчына займае нязручнае палажэньне.

З разьвіцьцём электропрамысловасьці поруч з жалезам, якое раней безразьдзельна панавала на рынку мэталяў і якім Ангельшчына была

надзвычайна багата, цяпер усё больш і больш набывае значэньне медзь і іншыя каляровыя мэталі.

Рэволюцыя, якую зрабіла ў гісторыіі пара, была на карысьць Ангельшчыне. Рэволюцыя, якую робіць электрычнасьць, ідзе супроць Ангельшчыны.

Вялізарнейшае значэньне мае таксама і тое, што сучасная тэхніка грунтуецца больш на хэміі, як на мэханіцы, а Ангельшчына ў гэтай галіне засталася ў параўнаньні з Германіяй ззаду. Кажучы аб тэхнічнай перав(ж)насьці Германіі над Ангельшчынай перад вайной, выдатны нямецкі эконо(м)істы Луі Брэнтоно піша: „Прычына гэтага месьцілася ў энэргічным ужываньні ў Германіі посьпехаў тэхнікі і навукі ў вытворчасьці, у той час як Ангельшчына супачывала на лаўрах сваіх даўнейшых дасягненьняў“.

„Тэхніка павярнула супроць Ангельскай імпэрыі“,—коратка, але нязвычайна трапна кажа Кароль Радэк.

З прычын агульнага экономічнага парадку ўсё больш зварачае на сябе ўвагу экономістых тое, як Ангельшчына траціць сваё мінулае фінансавае значэньне ў сьвеце наогул, а ў адносінах да Паўн. Амэр. Злучаных Штатаў у васаблівасьці.

Вялізарнейшыя сродкі, якія Францыя атрымала ад Ангельшчыны і Амэрыкі, каб весьці войны, таксама як і сродкі, сабраныя ўнутранымі пазыкамі, ня ўсе былі растрачаны вайною, значная частка засталася ў Францыі. За час вайны ў Францыі адбылася вялізарнейшая аккумуляцыя капіталу. Сама вайна патрабавала надзвычайнай індустрыялізацыі ўсіх ваюючых дзяржаў і Францыі ў асаблівасьці. Вайна індустрыялізавала Францыю. Францыя перанесла азначаную і нязвычайна важную рэволюцыю. Францускія грошы, пераважная частка якіх ляжала да вайны ў каштоўных паперах чужаземных пазык, цяпер абярнулася ў прамысловы капітал. Францыя перастала быць краінаю сельскае гаспадаркі і пазыковага капіталу, краінаю сялянства і рацье, а стала краінаю высокага індустрыяльнага разьвіцьця.

Лёндон—гэта былая сусьветная разьліковая палата, цэнтральны грашовы рынак. Выдатны гістарычны дакумант уяўляе сабой 6-ты разьдзел шырака вядомай кніжкі лёндонскага біржавіка Г. Віттгерса „Грашовы рынак“. Гэта ёсьць дыфірамб значэньню Ангельшчыны ў галіне сусьветнага грашовага звароту і хісткасьці і дасканаласьці лёндонскай банкавай і біржавой практыкі. У 1909 г., калі Віттгерс упяршыню выдаў сваю кніжку, гэта было апісаньне рэальнага становішча рэчаў, зараз—гэта толькі гістарычны дакумант, з якога мы дазволім сабе прывесьці некалькі досыць пашыраных цытат.

„Грашовы рынак зьяўляецца значна больш буйнаю і больш цікаваю справаю, як гэта можа здавацца... А сапраўды гэта самы цікавы з усіх рынкаў, бо ён зьяўляецца сусьветным у большай ступені, чым які-б то ні быў другі, за выключэньнем хіба пшанічнага“.

„Грошы ў больш шырокім сэнсе, у сэнсе банкавых крэдытаў, таксама зьяўляюцца прадметам сусьветнага ўжываньня ці, прынамсі, попыту, і толькі ў Лёндоне можна вольна атрымліваць грошы такога роду ў самым поўным сэнсе іх рэальнага азначэньня, якое ўключае права патрабаваць плацеж золатам і ўпэўненасьць атрымаць яго“.

„Ясна, што для таго, каб быць карыснымі ў міжнародным фінансавым жыцьці, яны павінны зараз-жа і бясспрэчна быць абернуты ў золата—адзіную форму плацяжу, якая прымаецца ў экономічна цівілізаваных краінах. Грошы-ж такога роду можна мець толькі ў Лёндоне“.

„Лёндон зьяўляецца адзіным грашовым цэнтрам, які заўсёды можа прыняць на сябе поўную адказнасьць міжнароднага банкіра“.

„Лёндон, будучы банкірам, а не філянтропам, з усіх замежных, як і ўсіх іншых кліентаў, заўсёды сысківаў больш за пазыкі і вучоту, як плаціў па адкрытых яму гэтым шляхам крэдытах“.

„У 1909 годзе,—расказвае Віттгерс,—у Мілвокі (Злуч. Штаты), штаце Вісконсін, адбыўся сход асоцыяцый амэрыканскіх банкіраў, на якім Стыкней зрабіў справаздачу аб сродках звароту і ролі банкаў. У гэтай справаздачы ён робіць наступныя заўвагі: „Дзякуючы найлепшай банкавай сыстэме, Ангельшчына зьяўляецца банкірам усяго сьвету і зьбірае дань з усіх народаў у сьвеце ў выглядзе процантаў не за скарыстаньне яе багацьцяў і капіталаў, а за карыстаньне яе крэдытам. Як парадоксальна гэта ні гучыць, але літаральна верна, што пры дапамозе сваёй дзіўнай банкавай організацыі, Ангельшчына зьбірае проценты на мільёны і мільёны сваёй уласнай запазычанасьці іншым народам“.

Цяпер гэта ўсё ў мінулым.

„Дзелавыя сувязі і векавая практыка Лёндону ўсё яшчэ маюць вялізарнае значэньне,—кажа проф. Н. Н. Любімов,—дзеля гэтага больш ці менш значная частка замежных укладаў Амэрыкі ідзе цераз Лёндон. Гэтая фактараўская роля брытанскіх банкаў, аднак-жа, носіць сучасны характар, і амэрыканскі грашовы рынак усё менш адчувае патрэбу ў Ангельскім фактарстве. Нядаўная пастанова Federal Reserve System—цэнтралізаваныя амэрыканскія банкі—прымаць да вучоту міжнародныя вэксалі, выпісаныя ў фунтах і франках, пазбаўляе Ангельшчыну яе векавое ролі і пераважнага значэньня, як краіны унівэрсальнага фінансаваньня сусьветнага гандлю“.

„У пераразьмеркаваньні, што адбываецца, сусьветных фінансавых сіл,—кажа Любімов,—Ангельшчына траціць адну позыцыю за другою, калі ня якасна—у сэнсе скарыстаньня звычак і мэтодаў крэдытовай працы, то колькасна—паводле разьмераў сваіх замежных эмісій. Злучаныя Штаты-ж бязумоўна заваявалі гегемонію на сусьветным рынку значных укладаў“.

„Амэрыканцы песьцяць мары пабачыць Нью-Ёрк калі-небудзь у ролі сусьветнага грашовага цэнтру“,—піша Віттгерс; але ён адмаўляе

гэтую магчымасьць, выходзячы з невыстарчаючай станоўчасьці і роўнасьці амэрыканскага характару, патрэбных для банкавай справы. Цяпер якраз характар ангельцаў абярнуўся супроць іх. „Псыхолёгічная коснасьць тыпічнага брытанскага ашчадніка,—кажа Н. Н. Любімов,—дае амэрыканцам з іх духам рызыкі, зусім відавочную перавагу“.

Тое, што буйнейшая фінансававая комбінацыя—Плян Дауэса быў выпрацаваны ў нетрах амэрыканскага банкірскага дому Моргана амэрыканцамі Юнгам, Робінсонам і Дауэсам, кажа за тое, што амэрыканцы бліскуча ўсвоілі фінансавую тэхніку, банкавую справу і сьмела пракладаюць у гэтай галіне новыя шляхі.

Створаная ў Амэрыцы ў часе вайны сыстэма „фэдэральных рэзэрвавых банкаў“ запоўніла прабоіну слабое даваеннае банкавае організацыі ў Амэрыцы. Аб гэтай сыстэме маецца ўжо вельмі значная спэцыяльная навуковая літаратура, і іншыя кніжкі нават у 1000 стар., кажа Ф. Капэлюш.

Амэрыканская тэхніка разьмяшчэньня пазык прыводзіць у зьдзіўленьне. Паводле паведамленьня Любімова, бэльгійская пазыка, выпушчаная ў сьнежні 1924 г., была абвешчана па ўсёй тэрыторыі Злучаных Штатаў цераз адну гадзіну пасьля падпісаньня дагавору. Цераз некалькі гадзін была ўжо гатова банкавая група для разьмяшчэньня пазыкі. Вось малюнак выпуску францускае (стабілізацыйнае) пазыкі ў Нью-Ёрку ў канцы 1924 году: на працягу 24-х гадзін былі выпрацаваны Морганам і прадстаўнікамі францускага ўраду падрабязнасьці пазыкі; францускі габінэт і парлямант у ночным пасяджэньні прынялі закон аб пазыцы; амэрыканскія банкіры ўтварылі сындыкат, які ахапляе краіну ўцалку, і назаўтра адбылася падпіска.

Ангельшчына была цэнтрам сусьветнага крэдыту, затым што крэдыт на лёндонскай біржы быў больш танным і лягчэй рэалізаваўся, як на біржах іншых цэнтраў. Зараз гэтага, зразумела, няма. Калі вучотны процант у Ангельшчыне стаіць ніжэй, як у злучаных Штатах, дзякуючы адліву грошай, пачынае зьніжацца вартасьць фунта, і для таго, каб спыніць зьніжэньне, прыходзіцца павысіць стаўку. У ліпні 1923 году ангельскі банк устанавіў вучотную стаўку ў 4 проценты, і такою яна заставалася да сакавіка 1925 году. У Злучаных Штатах стаўка была ў чэрвені 1924 г. 3,5 процанта, а потым зьніжана да 3-х процантаў.

„Совэрэн *) доўгавечны, зручны, каб насіць, і прымаецца ўсімі. Яго доўгае ўжываньне, як асноўнае монэты, перадавою комэрцыйнаю нацыяй дало яму становішча, якое ня мае супернікаў у цяперашні час і аналёгій у мінулым“,—пяяў Віттгерс у 1909 годзе; але да ўсяго гэтага ён забыў дадаць, што Совэрэн, апрача таго, быў самастойны, што ён стаяў на сваіх нагах. За ўвесь час вайны Ангельшчына, ня маючы магчымасьці захаваць станоўчасьць фунта, так што ўжо ў 1915 годзе ён страціў

*) Залатая монэта ў адзін фунт стэрлінгаў.

2,25 процанта сваёй каштоўнасьці, імкнулася захаваць яго незалежнасьць і змагалася за гэта да апошняга часу. Каб скараціць пазыкі на вайну, Ангельшчына значна павысіла падаткі на насяленьне; яе падаткі пасьля вайны ў 4-5 разоў перавышаюць даваенныя. За ўвесь час вайны фунт стаіць на паніжэньні ў 2,25 процанта супроць парытэту. Пэўнае зьніжэньне фунта пачалося пасьля заключэньня згоды, калі Ангельшчына засталася каля разьбітага карыта, якое ёй пакінула вайна. У 1919 годзе зьмяншэньне вартасьці фунта дасягло 9-ці процантаў, у 1920 г.—24,75 проц., у 1921 г.—25,75 проц., ў 1922 г.—8,5 проц., у 1923 г.—6 проц.; калі ў 1924 г. фунт зноў стаў падаць—зьмяншэньне яго вартасьці дасягло 9,25 проц., Ангельскі ўрад, ужыўшы вялізарныя намаганьні, падняў фунт к студзеню 1925 г. да вышыні, пры якой зьмяншэньне яго вартасьці раўнялася 1,5 проц. супроць парытэту. Але ўрад не адчуваў сябе моцным, каб самастойна ўтрымаць фунт на гэтай вышыні, каб канчаткова стабілізаваць фунт на вышыні парытэту,—Ангельшчыне прышлося ўжыць пазыку. Адносна гэтай стабілізацыі Л. Д. Троцкі зусім правільна кажа наступнае: „Ангельшчына зараз стабілізавала свой фунт стэрлінгаў. Але як яна яго стабілізавала? Яна атрымала для гэтага ў Нью-Ёрку пазыку, здаецца, у 300 мільёнаў даляраў, так што, калі ангельскі фунт пахіснуўся, то ратаваць яго павінен амэрыканскі капітал, а гэта значыць, што *ангельскі фунт стэрлінгаў становішча зараз цацкаю ў руках амэрыканскае біржы*, якая можа ў любы момант страсянуць яго“ *).

Пры ўсім гэтым стабілізацыя фунта каштуе Ангельшчыне нязвычайна дорага. Падаткі на душу насяленьня, дзякуючы гэтаму, яшчэ павялічаны. Яны складаюць у Ангельшчыне 15 фунтаў 18 шылінгаў, у Злучаных Штатах—6 фунтаў 14 шылінгаў, у Францыі—6 фунтаў 18 шылінгаў на душу насяленьня. Такія высокія падаткі кладуцца вялікім цяжарам на ангельскую прамысловасьць, зьніжаюць яе конкурэнцкую здольнасьць, затрымліваюць яе разьвіцьцё, абвастраюць беспрацоўе. „Ад канца 1920-га году да сакавіка 1922-га году, калі курс фунта падняўся з 71,7 проц. да 90 проц. свайго парытэту з долярам, паднялося таксама і беспрацоўе з 1,6 проц. да 16,39 проц.“

Пасьля вайны 1792-1815 г. г. прамысловы і фінансавы росквіт Ангельшчыны ішлі поруч; зараз фінансавы дабрабыт набываецца за рахунак прамысловасьці і ў асаблівасьці за рахунак прамысловага пролетарыяту. Сказаныя Фрыдрыхам Энгельсам у 1844 годзе словы аб тым, што для ангельскага пролетарыяту прыдзе час, калі ня толькі кончыцца яго прывілеяванае становішча, але што ён стане перад простым пытаньнем захаваньня яго існаваньня, ужо зьдзейсьнілася для значнай часткі ангельскае рабочае клясы. „Мы бачым,—кажа Л. Д. Троцкі,—у Ангельшчыне зьявішча новага парадку, а іменна: пастаяную армію беспрацоў-

*) З спрэчак па справаздачы Е. Варга 25-X-25 г. аб стабілізацыі капіталізму.

ных, якая за ўвесь пасьляваенны час ня зьніжалася ніжэй аднаго мільёну з чвэрцю, а зараз роўна 1,5 мільёна. У Ангельшчыне адбылася стабілізацыя беспрацоўя. Пролетарыят адным сваім крылом абарачаецца ў люмпэн-пролетарыят“.

Ня гледзячы на гэтыя характэрныя факты, якія паказваюць на паменшаньне экономічнага значэньня Ангельшчыны і на няўхільнасьць расподу, што выплывае з гэтага, Брытанскае імпэрыі, ня спыняюцца спрэчкі аб магчымасьці абярнуць Ангельшчыну з яе колёніямі ў адзіную ад рэшты ўсяго сьвету адмежаваную, якая ва ўсім сама сябе задаваляе, экономічную і палітычную сыстэму.

Спрэчкі зводзяцца да барацьбы паміж прыхільнікамі і супраціўнікамі протэкцыянізму. Пры гэтым прыхільнікі протэкцыянізму, аполёгеты адмежаванай імпэрыі, запэўняюць, што цэнтрам цяжару экономічнага жыцьця Ангельшчыны зьяўляюцца яе колёніі, а таму Ангельшчына і яе колёніі, якія абкружаны адзіным колцам мытнай сыстэмы, ствараюць „самадаўлеючую“ вобласьць. Супраціўнікі-ж гэтага погляду, прыхільнікі вольнага гандлю, лічаць, што цэнтр цяжару ангельскай экономікі месьціцца ў Эўропе, а не ў колёніях, а таму адгароджвацца Ангельшчыне ад Эўропы ні ў якім разе нельга.

Лібэралы з Лёйд Джорджам і Асквітам пачалі стаяць за стары ангельскі прынцып—свабода гандлю, лічаць ангельска-эўропэйскія адносіны больш важным фактарам у ангельскай экономіцы, як колёніяльныя адносіны Ангельшчыны, паказваючы на тое, што ангельскія колёніі могуць быць спажыўцамі ангельскіх фабрыкатаў і капіталаў толькі тады, калі Эўропа будзе выстарчаючым рынкам для збыту колёніямі іх сырцы нават фабрыкатаў, паколькі колёніі індустрыялізуюцца. Паколькі прыхільнікі протэкцыянізму думаюць зрабіць гэтым уплыў на скарачэньне беспрацоўя ўнутры самой Ангельшчыны, лібэральныя экономістыя паказваюць на тое, што „якраз у тых галінах прамысловасьці, у якіх імпорт адыгрывае самую значную ролю, лік беспрацоўных нязначны, параўнаўча з агульным лікам беспрацоўных“ [1]), і „што абаронныя мыты зусім не азначаюць зьмяншэньня ўвозу. Ня гледзячы на тое, што ўведзены $33^{1}/_{3}$ проц. тарыф на аўтомобілі і г. д., увоз гэтых прадметаў павялічыўся, а беспрацоўе у гэтых галінах пашырылася. Гэтак, у 1913 годзе Ангельшчына ўвозіла 6.820 аўтомобіляў, у 1922 годзе 14.300. (Злучаныя Штаты павялічылі за гэты час выраб аўтомобіляў з 190.000 да 2.652.000 у год. І гэтых посьпехаў яны дасяглі, пакуль ня быў яшчэ ўведзены абаронны тарыф Форднэя [2]).

---

[1]) М. Павлович. „Русский вопрос в английской внешней политике“.

[2]) ФордНэеўскі тарыф быў уведзены ў Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі ў верасьні 1922 году; ён устанаўляе нязвычайна цяжкія стаўкі на цэлы шэраг прадметаў амэрыканскага імпорту і, апрача таго, надае прэзыдэнту Рэспублікі права павялічаць мытныя стаўкі самому, у інтарэсах прамысловасьці Рэспублікі.

Лібэралы спасылаліся на заключэньне спэцыяльнай камісіі, якая была назначана фэдэрацыяй брытанскай прамысловасьці для выясьненьня пытаньня магчымасьці існаваньня адмежаванай унутрыімпэрскай экономічнай сыстэмы. Заключэньні гэтыя зводзіліся да наступнага *):

1) Мысьль аб тым, што экономічныя перашкоды ангельскай мэтрополіі могуць быць цалкам адхілены шпаркім разьвіцьцём гандлю з коленіямі і домініёнамі, павінна быць пакінута.

2) Ангельская вытворчасьць дапасавана для краін з белым высокакваліфікаваным насяленьнем.

3) Гандаль з колёніямі ня можа замяніць сабою гандлю з Эўропаю.

4) Да таго часу, пакуль Эўропа ня будзе адбудавана, нельга чакаць хуткага ўзросту ўнутрыімпэрскага гандлю. „Самыя цяжкія проблемы Ангельшчыны растануць, як туман ад сонца, калі Эўропа будзе прыведзена ва ўстойлівае становішча“,—сказаў уваднэй з сваіх прамоў прэзыдэнт фэдэрацыі брытанскіх прамыслоўцаў Джэдс.

Сярод консэрватараў няма адзінства па гэтых пытаньнях. Групы, зьвязаныя сваімі інтарэсамі з заморскімі колёніямі, падтрымліваюць ідэі суровага протэкцыянізму і адмежаванай імпэрыі; групы-ж, зьвязаныя з эўропэйскімі рынкамі, схіляюцца на старану лібэралаў.

Пытаньні гэтыя былі шырака пастаўлены на Брытанскай імпэрскай Конфэрэнцыі 20-га кастрычніка 1923 году, прычым прадстаўнік консэрватыўнага ангельскага ўраду, міністар гандлю і прамысловасьці Лёйд-Грымм заявіў, „што на Эўропу разьлічаць нельга, нават у тым выпадку, калі ўмовы эўропэйскіх рынкаў стануць найбольш спрыяючымі, бо адбудаваньне эўропэйскай экономікі, папершае, пойдзе ціхім тэмпам, *а падругое, індустрыяльныя магчымасьці шмат якіх эўропэйскіх краін вырасьлі настолькі, што Ангельшчыне прыдзецца лічыцца з сільнейшаю конкурэнцыяй*“.

Пункт погляду доміціёнаў па гэтаму выпадку выказаў на конфэрэнцыі прэм‘ер паўднёвай Афрыкі генэрал Смэтс, які „патрабаваў ад ангельскага габінэту сільнай і станоўчай політыкі ў справе экономічнага адбудаваньня Эўропы“.

А разам з тым унітарызацыя імпэрыі і была тэй ідэяй, якая стымулявала скліканьне першай конфэрэнцыі ў 1889 г. Конфэрэнцыя павінна была знайсьці форму для організацыі конгломэрату зямель і нацый, якія складаюць Брытанскую імпэрыю. У якім выглядзе?—Гэтага сабе ніколі выразна не ўяўляў ні адзін дзяржаўны дзеяч, не выключаючы Саліс Бэры і самаго Джо Чэмбэрлена, па ініцыятыве якога была склікана першая конфэрэнцыя. Ці то гэта будзе аб‘яднаньне за аднэй мытнай лініяй, ці то гэта будзе саюз, які мае сваёю падставаю вайсковыя інтарэсы. Удзел колёній у вайне 1914—1918 г. г. ніяк ня спрыяў знач-

*) М. Павлович. „Русский вопрос в английской внешней политике“ (1922—1924 г.).

наму згуртаваньню імпэрыі, а пасьля вайсковай конфэрэнцыі яшчэ менш магла быць якая-небудзь падстава, каб аформіць ўзаемазалежнасьць паміж часткамі імпэрыі, паколькі кожная частка ўдарала больш на сваю незалежнасьць, як на тое, каб аформіць залежнасьць; і як гэта ні здаецца дзіўным, адзіным юрыдычным выказам сувязі паміж часткамі Брытанскай імпэрыі зьяўляецца асоба ангельскага караля. Па поваду каранацыі 22-га чэрвеня 1911 году ангельскага караля Георга V буйнейшы адсучасны нямецкі гісторык Г. Эгельгаф кажа: „20-га чэрвеня 1911 г. адбывалася ўрачыстае каранаваньне Георга V, якое мела значэньне ня столькі для каралеўства Вялікабрытаніі, дзе кароль мае значэньне амаль што толькі ўпрыгожаньня дзяржавы, колькі для выражэньня панаваньня імпэрыі, якая пашыраецца на ўсе часткі сьвету, адзінства якое мае сваё выражэньне ў адзінай асобе караля“.

Ангельшчына сама ня ведае пісанае канстытуцыі, і ў той час, калі Брытанская імпэрыя ня мае аформленага і асазнанага юрыдычнага існаваньня ў пісанай канстытуцыі, унутры імпэрыі існуюць асазнаныя і аформленыя ўтварэньні, як Канада, Аўстралія, Афрыка і г. д., і гэтыя компактныя ўтварэньні адчуваюць сябе вельмі ўпэўнена пры сутычках з бясформенасьцю Брытанскай імпэрыі,—не зварачаючы ўвагі на асобу караля і не саромеючыся яе.

Прадстаўнікі доміниёнаў былі ўключаны ў вайсковы Савет Ангельшчыны ў часе вайны. Іх-жа подпісы мы бачым на вэрсальскім дагаворы аб згодзе, поруч з подпісамі прадстаўнікоў „яго вялічаства, караля Злучанага каралеўства Вялікабрытаніі і Ірляндыі“.

Калі, як мы ўжо пісалі ў „Полымі“ (№ 5 за 1925 год) „на Брытанскай імпэрскай конфэрэнцыі 1923 году міністар-прэзыдэнт Канады Мэкензі Кінг заявіў, ня ставячы точкі над і, што Канада зьяўляецца ўжо багатай прамысловай краінай, індустрыяльны вываз якое фактычна перарос ужо сельска-гаспадарчы экспорт“, то на тэй-жа конфэрэнцыі прэм'ер доміниёна Аўстраліі Брюс заявіў, што, калі Ангельшчына ня дасьць згоды на прапановы, якія ёй робяцца, то магчыма, што Аўстраліі прыдзецца зьвярнуцца да „іншай орыентацыі“,—разумеюцца Паўн. Амэр. Злуч. Штаты. Разам з тым, Аўстралія ўжо мае пасьля вайны свайго самастойнага прадстаўніка ў „Лізе Нацый“, і вяла самастойную, не заўсёды ўзгодненую з Ангельшчынай, політыку на мірнай конфэрэнцыі ў Вэрсалі (1919 г.), патрабуючы, каб Германія пакрыла ўсе ваенныя страты і далучыла да Ангельшчыны ўсе свае ціхаакіянскія валаданьні.

Калі прадстаўнік Паўднёва-Афрыканскага Саюзу генэрал Вота стаў цераз некаторы час пасьля заключэньня згоды ў Вэрсалі прэзыдэнтам у Афрыканскім Саюзе, яго запыталі, у якой залежнасьці ад Лёндонскага ўраду знаходзіцца Саюз, пасьля таго як прадстаўнік саюзу, у якасьці роўнаправнага члена, прымаў удзел у Вэрсальскай конфэрэнцыі,—і Вота адказаў, што адзінства Саюзу з Ангельшчынай выражаецца толькі ў асобе-

караля, і што ангельскі парлямант ня мае ніякага дачыненьня да Саюзу; што датычыцца пытаньня вайны і згоды, то яны будуць вырашацца, паколькі яны тычацца Саюзу, у сталіцы Саюзу, Кабштаце. Што-ж тычыцца самастойнага дыплёматычнага прадстаўніцтва, сказаў генэрал, то гэта выклікае толькі лішнія выдаткі і так абмежаваных сродкаў Саюзу і не выклікаецца патрэбаю.

Таксама адносна пытаньня, ці можа ангельскі парлямант, які зацьвердзіў констытуцыю Саюзу, зрабіць у гэтай констытуцыі зьмены паводле свайго жаданьня, буры адказалі адмаўленьнем пры маўчаньні жыхароў-ангельцаў Саюзу, таксама, як і парляманту і ўраду Ангельшчыны. Пры гэтым надзвычайна важна, каб гэтыя пытаньні ставіліся і належным чынам вырашаліся вяршыняю Саюзу—элемэнтамі, прадстаўленымі ў парляманце.

У палітычным сэнсе Паўднёва-Афрыканскі Саюз прадстаўляе з сябе олігархію дзякуючы таму, што высокі маемасны цэнз у беднай наогул краіне забясьпечвае вяршыні белага насяленьня ўладу; рэшта-ж насяленьня—белыя дробныя зямляўласьнікі, рабочыя ў капальнях і ўсё каляровае насяленьне не карыстаюцца абіральным правам. Сувязь паміж Саюзам і Ангельшчынай месьціцца ў сувязі паміж гэтай олігархічнай вяршыняй і ангельскімі капіталістымі, якія эксплёатуюць капальні. Ня гледзячы на налічча вельмі багатых залатых і дыямэнтавых вышукаў, Афрыка ня мае сваіх сродкаў, каб самой распрацоўваць вышукі, і ўсе гэтыя багацьці ляжалі-б бяз руху, калі-б не ангельскі капітал. Белыя ангельцы Саюзу заўсёды жылі на кошт эксплёатацыі гэтых вышукаў, будучы ў пастаяннай залежнасьці ад капіталістых мэтраполіі; затым яны, ўсяляк змагаліся супроць антыімпэрскага руху. Зараз, калі экономічная моц Ангельшчыны зьменшылася, калі грошы на ангельскім рынку сталі дарагімі, а на нью-ёрскім таней, калі Нью-Ёрк робіць нядвусэнсавыя намаганьні, каб замацаваць свой уплыў на поўдні Афрыкі, яны выяўляюць пыху ў адносінах да Ангельшчыны і Брытанскае імпэрыі, тым больш, што пад каронаю ангельскага караля знаходзіцца таксама і Індыя. У Паўночнай Афрыцы 200.000 індускага насяленьня, якое змагаецца з Ангельцамі ў галіне гандлю і прадпрыімнасьці. Абмяжоўваемая ў сваім гаспадарчым разьвіцьці Ангельшчынай, і Індыя выдзяляе значны лік эмігрантаў, частка якіх накіроўваецца ў Амэрыку. Як грамадзяне Брытанскай імпэрыі, гэтыя эміграанты патрабуюць доступу ў Паўднёвую Афрыку і роўнапраўнага палажэньня з тамтэйшымі Ангельцамі. Паколькі Ангельшчына, не жадаючы ствараць абвостраных адносін на гэтай глебе з Індыяй, падтрымлівае, хоць больш платонічна, як рэальна, эмігрантаў-індусаў, ангельцы Саюзу азлабляюцца супроць Ангельшчыны. Пад уплывам гэтых прычын і настрояў, яны пачынаюць разьвіваць тэорыю сваёй нацыянальнай самастойнасьці, культывуюць ідэю новай нацыі—афрыкандэраў. І сапраўды, акліматызаваўшыся ў Афрыцы, яны набылі свае асаблівыя рысы і свой асабісты характар.

Другую частку, амаль палову ўсяго белага насяленьня—800.000 чалавек—складаюць буры. Пакуль буры былі паміж імпэрыялізмам Ангельшчыны і Германіі, яны пасьля ангельска-бурскай вайны часткаю дзякуючы таму, што былі абяскроўлены, часткаю таму, што атрымалі сякіятакія ўступкі, а галоўным чынам, баючыся захопу з боку немцаў, трымаліся ангельцаў. Ангельцы-ж у сваю чаргу вялі пашыраную агітацыю супроць нямецкага імпэрыялізму. Цяпер Германія ў Афрыцы зусім страціла свой уплыў, і хоць буры, як зямляўласьнікі, ня так цягнуцца да Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў, як афрыкандэры, але і сярод іх плынь у бок найбольшай незалежнасьці ці аддзяленьня ад Ангельшчыны сустракае цяпер, дзякуючы адсутнасьці боязьні немцаў, такую ўдзячную глебу, якой ня было ніколі з часоў ангельска-бурскай вайны.

Рэшту насяленьня складаюць белыя і каляровыя рабочыя. Аб іх адносінах да ангельскага імпэрыялізму мы можам меркаваць па наступнай заўвазе буржуазнага нямецкага пісьменьніка Тэодора Зайца і з артыкулу якога „Ангельшчына і Паўднёвая Афрыка“ мы запазычаем большасьць вестак. „Барацьба за палітычнае роўнапраўе каляровых будзе памацняцца тым больш, што ня толькі белыя, але і частка каляровых рабочых у капальнях вельмі заражаны бальшавіцкімі ідэямі“.

Каляровае насяленьне дамагаецца абіральных праў і мае сьвядома пабудаваныя арганізацыі, якія кіруюць гэтым рухам.

Яшчэ адна акалічнасьць, якая прывязвала Паўднёвую Афрыку да Ангельшчыны, месьціцца ў тым, што Паўднёвая Афрыка пры нязвычайнай ураджайнасьці глебы і экстэнсыўнасьці сельскай гаспадаркі адчувае патрэбу ў прывозным харчаваньні. Ангельская флёта і дастаўляе гэтае харчаваньне з ангельскіх-жа калёній. А зараз Японія і Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты з посьпехам конкуруюць з Ангельшчынай.

У сувязі з усімі вышэйпаданымі акалічнасьцямі нязвычайна сымптоматычна тэлеграма з Лёндону ад 15-V-25 г. ў газэце „Праўда“.

„У афіцыяльным органе Паўднёва-Афрыканскай партыі нацыяналістых (буржуазная партыя, якая знаходзіцца разам з рабочай партыяй у ўлады ў Паўднёва-Афрыканскім Саюзе) абвешчаны сэнсацыйны артыкул, які заяўляе:

„З пункту погляду тысяч афрыкандэраў Вялікабрытанія была і ёсьць заваявальніцай нашай нацыянальнасьці і парушыцельніцай нашага былога сувэрэнітэту. Мы жадаем зноў дамагчыся гэтага сувэрэнітэту і ня маем у думцы захоўваць гэту нашу мэту“. Артыкул гэты,—кажа газэта,—зьвярнуў на сябе вялікую ўвагу ў Паўднёва-Афрыканскіх палітычных колах“.

За тры гады, якія мінулі з часу 8-ай конфэрэнцыі 23 году, цэлы шэраг фактаў у жыцьці калёній і ў адносінах паміж калёніямі і мэтраполіяй, таксама як і ў жыцьці самой Ангельшчыны, кажуць аб тым, што 9-ая конфэрэнцыя зьбіраецца ў значна больш цяжкіх умовах, выключных

у гісторыі Ангельшчыны за ўвесь час яе існаваньня. Усе гэтыя факты кажуць аб памоцненым адасобленьні колёній ад сваёй мэтраполіі. Барацьба Ангельшчыны з Турцыяй за нафту ў Мосуле не выклікае ніякіх сымпатый домініёнаў, і калі выбухнуў Чанацкі інцыдэнт паміж Турцыяй і Ангельшчынай, што паставіў у вельмі няпрыемнае становішча ангельскую дыплёматыю, домініёны адмовіліся дапамагаць ангельскай дыплёматыі. Адчуджанасьць домініёнаў ад ангельскай дыплёматыі выявілася на Лёзанскай конфэрэнцыі, і, урэшце, Канада і Паўднёвая Афрыка выявілі самастойную політыку ў адносінах да асноўных пытаньняў міжнароднай політыкі, што абгаворвалася на Лёкарнскай конфэрэнцыі, і адмовіліся падпісаць Лёкарнскі дагавор. Калі Аўстралія ўжо мае свайго прадстаўніка ў Лізе Нацый, то зараз і Канада і Ірляндыя сталі намагацца, каб мець сваё самастойнае прадстаўніцтва ў Лізе. Канада, сувязь якое з Злучанымі Штатамі пагражае найвялікшаю небясьпекаю яе адзінству з Ангельшчынай, падкрэсьліла сваю сувязь з Злучанымі Штатамі, прызначыўшы свайго самастойнага дыплёматычнага прадстаўніка ў Вашынгтон. Таксама і Ірляндыя дамагаецца пашырэньня свае самастойнасьці і прадстаўніцтва ў „Лізе Нацый“.

Домініёны адмаўляюцца ад падданасьці губарнатарам, якія прызначаюцца мэтраполіяй, і Аўстралія азначана паставіла пытаньне, каб прызначыць сваіх губарнатараў з сваіх-жа грамадзян. Рубам пастаўлена гэта пытаньне і ў Канадзе ў сувязі з апошнімі выбарамі ў канадзкі парлямант у верасьні гэтага году. Ангельскі губарнатар умяшаўся ў выбары, відочна падтрымліваючы партыю консэрватараў у Канадзе супроць лібэралаў, што выклікала вялікае абурэньне ў насяленьні; на выбарах прайшлі лібэралы, якія пры падтрыманьні прогрэсыстых высунулі пытаньне аб межах поўнамоцтваў ангельскага губарнатара. Па думцы „Дэйлі Геральд“ (орган ангельскай рабочай партыі), „рэзультаты канадзкіх выбараў азначаюць яшчэ адзін крок уперад у процэсе канчатковага вызваленьня домініёнаў ад політычнага контролю з боку ангельскага ўраду“.

Гостра стыкаюцца інтарэсы Ангельшчыны і домініёнаў у адносінах здарэньняў, якія адбываюцца ў Кітаі. Ангельшчына спрабуе стварыць з Японіяй імпэрыялістычны саюз супроць нацыянальна-вызваленчага руху ў Кітаі; гэтаму саюзу ўсяляк стараюцца перашкодзіць Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты, а Канада відочна і азначана падтрымлівае апошнія супроць Ангельшчыны. З другога боку, саюз Ангельшчыны з Японіяй магчымы, калі першая адмовіцца ад пабудовы Сынгапурскай базы, а Аўстралія намагаецца пабудаваць яе.

Першыя весткі, якія мы маем аб конфэрэнцыі, што ў гэты момант адбываецца, кажуць ужо аб агульным нездаволеньні, выказаным домініёнамі ў адносінах да Ангельшчыны. Колёніі, што шпарка індустрыялізуюцца, адчуваюць патрэбу ў шырокіх і танных крэдытах, а Ангельш-

чына ня мае сродкаў, каб іх задаволіць, бо сама ня мае выстарчаючых сродкаў для падтрыманьня ўнутраной прамысловасьці і наклала эмбарго (забарону) на вываз капіталаў, галоўным чынам, у колёніі, і вываз капіталаў з Ангельшчыны зьнізіўся ў 1925 годзе да 28 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў, у той час, калі Злучаныя Штаты вывезьлі 1.010 міл. даляраў. Вось чым тлумачыцца тое, што прадстаўнікі колёній так жорстка сталі крытыкаваць політыку ангельскага ўраду ў адносінах да забастоўкі вуглякопаў. Увесь сэнс гэтае крытыкі зводзіўся да таго, што ўрад, як урад буржуазіі, праявіў сваю няздольнасьць выкалачваць максымальную дадатковую вартасьць з рабочых і павялічваць нагрáмаджэньне капіталаў, частка якіх магла-б папасьці ў выглядзе крэдытаў домініёнам, а частка пайшла-б на замацаваньне вайсковай, у васаблівасьці морскай моцы Ангельшчыны, якая-б гарантавала спакой колёніям ад магчымасьці ўсякіх выступленьняў супроць іх, асабліва з боку Японіі. А разам з тым, колёніі поруч з Германіяй і іншымі рынкамі захапляюць рынкі, якіх ня можа, дзякуючы забастоўцы, задаволіць увозам Ангельшчына. Гэта рэзкае выступленьне колёній знаходзіцца ў навочнай супярэчнасьці з прыміральнай, расплыўчатай, ніякіх азначаных сродкаў не вызначаючай, прамоваю прадстаўніка Ангельшчычы—Болдуіна.

Конфэрэнцыя называецца імпэрскай, а разам з тым яна заслугоўвае гэтае назвы ў вельмі ўмоўным сэнсе, бо на ёй прадстаўлены домініёны і Індыя,—гэта, праўда, пераважная частка тэрыторыі і насяленьня ангельскіх колёній, але не прадстаўлены цэлы шэраг колёній, якія не карыстаюцца самакіраваньнем. Домініёны прадстаўлены сваімі ўрадамі, выказваючымі інтарэсы пануючых вяршынь колёніяльнага насяленьня, у пераважнасьці белага. Інтарэсы-ж масы каляровага насяленьня вельмі супроцьлеглыя інтарэсам белай вяршыні, таксама як і інтарэсы эксплёатуемага белага пролетарыяту зусім ня будуць прадстаўлены. А разам з тым у мільённых масах каляровага насяленьня ўсё больш і больш пашыраецца нацыянальна-рэволюцыйны рух, які ў значнай ступені падтрымліваецца белым пролетарыятам. Увесь гэты рух, нязвычайна ўскладняючы вышэйпаданыя супроцьлегласьці, ня знойдзе на конфэрэнцыі адбітку.

Якою-б таямніцаю ні ахіляў конфэрэнцыю ангельскі ўрад, яму не захаваць тэй дэмонстрацыі расходжаньня інтарэсаў паміж Ангельшчынай і яе домініёнамі, якая выявіцца на гэтай конфэрэнцыі, і гэтыя супярэчнасьці гучаць ужо ў тых нямногіх афіцыяльных паведамленьнях, якія мы ўжо маем аб конфэрэнцыі і якія ў скорым часе выявяцца яшчэ яскравей.

# КІТАЙ У БАРАЦЬБЕ З ІМПЭРЫЯЛІЗМАМ

*(Разьдзел з кнігі)*

**Л. Каган**

У папярэднім нарысе*) мы сьцісла прасачылі барацьбу Кітаю за сваё вызваленьне ад путаў монархіі. Але, калі кітайцы дамагліся рэспубліканскага ладу, то яны пайшлі далей па шляху барацьбы з чужаземным імпэрыялізмам. Прогрэсыўныя пласты кітайскага грамадзтва — рабочыя, сялянства, інтэлігенцыя, дробная гандлёвая і прамысловая буржуазія — усе яны пераканаліся на практыцы рэволюцыі 1911 году, што, пакуль Кітай—краіна концэсій, сэтльмэнтаў, зьмешаных судоў, ён—колёнія чужаземнага капіталу, незалежна ад таго, ці зьяўляецца краіна монархіяй ці рэспублікай.

20-ыя гады цяперашняга сталецьця—гады рашучага наступленьня кітайскага народу на чужаземны імпэрыялізм. Шамінская стачка, шанхайскія здарэньні, сялянскі рух у Хэнане, гэроічная барацьба народных армій—усё гэта асобныя этапы аднаго вялікага цэлага, якое з поўным правам трэба назваць рэволюцыяй у Кітаі.

Прасочым-жа ў кароткіх рысах успамянутыя здарэньні апошніх гадоў у быўшай „Нябеснай імпэрыі“.

**Шамін**

Шамінская стачка завіхурыла ў 1924 годзе на востраве—прадмесьці Кантону. Гэта стачка—першае адкрытае і вельмі добра арганізаванае выступленьне кітайцаў супроць эўропэйскага капіталу, прытым выступленьне пераможнае.

Шамін—цудоўны астравок, трэцяя частка якога належыць французам, а дзьве трэці ангельцам. Вось што піша адзін праважаты па Кітаі аб Шаміне: „Калі пасьля ангельска-кітайскай вайны 1861 году чужаземцы вярнуліся ў Кантон, то яны засталі там свае факторыі і рэзыдэнцыі зруйнаванымі і атрымалі замест іх Шамін. Тады гэта быў толькі пясчаны і балоцісты кавалак зямлі, цяпер-жа гэта адна з самых прыгожых і ўпарадкаваных рэзыдэнцый эўропэйцаў у Кітаі. Часта непарадкі, якія адбываюцца ў Кантоне, як і прысутнасьць тратаў у каналах дэльты, надаюць жыцьцю шамінцаў асаблівую прыемную вастрату“ (А. Івін—„Кітай і Савецкі Саюз“).

*) Гл. наш артыкул „Вялікі Сун“ у „Полымі“ № 3 за 1925 г.

Дык вось, у гэтай-то „самай прыемнай рэзыдэнцыі зваротнікавага Кітаю“ кітайцы сваёй славутнай пяцітыднёвай стачкай нарабілі шмат няпрыемнасьцяй вяльможным чужаземцам, якія складаюць выключнае насяленьне астраўка.

Трэба адзначыць, што кітайцы Кантону і наогул ўсяго поўдня краіны—найбольш рэволюцыйны прапластак нацыі ў цэлым. Тут, як ужо ўспаміналася вышэй, цэнтр сун-ят-сэнізму, тут генэральны штаб нацыянальна-вызваленчага руху ня толькі Кітаю, але і цесна з ім зьвязаных ангельска-францускіх колёній, якія заселены пераважна кітайцамі Бірмы, Інда-Кітаю, Малякі, Сынгапуру, Нідэрляндзкай Індыі, Формозы, Піліпінаў. Усе гэтыя колёніі зьвязаны і географічна і экономічна з паўднёвым Кітаем і налічваюць сярод свайго насяленьня дзесяткі тысяч членаў партыі гоміндан. У гэтым спэцыфічным характары поўдня Кітаю трэба шукаць разгадку вельмі добрай організацыі і пераможнага характару Шамінскай стачкі.

Што зьявілася прычынай забастоўкі?

Вяльможным чужаземцам Шаміна заўсёды назаляў Кантон з яго рэволюцыйным урадам, дружбай з СССР, сунізмам. Дык вось ім захацелася хоць у сябе ў прыгожых кварталах Шаміна пазбавіцца ад выгляду кітайцаў, што снуюць па вуліцах, шэрагам правіл абмежаваць правы кітайцаў—„вызначыць кітайцам іх месца“ ў Шаміне. У ангельскага і францускага консулаў загадзя выпрацоўваецца ўзгодненая абодвума „абавязковая пастанова“, згодна якой усе кітайцы як тыя, што жывуць у Шаміне, гэтак і тыя, што прыходзяць туды на працу ці па асабістай справе, павінны пільна абшуквацца, рэгістравацца ў паліцыі, мець пры сабе асаблівы пашпарт з фотографічнай карткай; гэтай самай пастановай прадугледжваліся вуліцы, па якіх кітайцу, які пранік у Шамін, можна хадзіць—на іншых вуліцах яму наогул катэгорычна забаранялася паказвацца.

Ведаючы „перакорлівы“ характар кітайцаў Поўдня, французы і ангельцы часова ўстрымаліся ад апублікаваньня гэтае пастановы і ўсё чакалі адпаведнага выпадку. Прычына знайшлася — у фэшанэбэльным шамінскім „Victoria Hotel“ здарыўся замах анамскага студэнта на віцэгубарнатара Інда-Кітаю пана Мэрліна. Назаўтра-ж пасьля замаху „абавязковая пастанова“ ўжо красавалася на сьценах шамінскіх дамоў, а яшчэ праз дзень пачалася стачка...

Усе да аднаго кітайцы пакінулі горад. Чужаземцы засталіся без кухароў, нянек, хатніх служак. Замерла гандлёвае жыцьцё гораду, зачыніліся канторы, банкі. Стачка солідарнасьці транспортнікаў ахапіла лінію Гонконг-Шамін і спыніла падвоз продуктаў у горад. Навакол Шаміна зьявіліся патрулі бастуючых з плякатамі: „Кожны кітаец, які пойдзе ў Шамін, будзе лічыцца здраднікам“. Тых, хто спрабаваў цішком прабрацца ў Шамін, бастуючыя кітайцы білі жорстка на тым месцы, дзе лавілі.

Стачка цягнулася месяц і скончылася поўнай перамогай кітайцаў. Усё, чаго дамагаліся стачачнікі, у тым ліку нават вымаганьне таго, каб на службу ў паліцыю былі прыняты кітайцы-паліцэйскія, якія служылі там да стачкі, было выканана. 19 жніўня адбылася трыумфальная дэмонстрацыя стачачнікаў навакол Шаміна, а 20 яны, гордыя сваёй перамогай, распачалі працу.

Шамінская стачка была першай сур'ёзнай навукай чужаземным імпэрыялістым, якія зарваліся ў Кітаі.

За ёй пайшлі ўжо больш грозныя для апошніх шанхайскія здарэньні.

## Шанхай

Вышэй, у разьдзеле аб капіталістычным разьвіцьці Кітаю*), мы паказвалі на значнае разьвіцьцё ўласна-кітайскага капіталізму. Аднак, камандныя прамысловыя высоты былі і знаходзяцца ў Кітаі да гэтага часу ў руках капіталістых чужаземцаў. Па сутнасьці, Кітай—колёнія. Гэты факт трэба асабліва падкрэсьліць, каб зразумець дзьве рэчы: удзелу рэволюцыйна-вызваленчым руху разам з рабочымі, сялянствам і інтэлігенцыяй таксама кітайскіх сераднякоў-капіталістых — папершае; каб зразумець шанхайскія здарэньні—буйнейшы з этапаў гэтае барацьбы—па-другое.

Такім чынам, крыху эканомікі.

Перш-на-перш—чыгункі Кітаю. Яны ў значнай сваёй большасьці належаць чужаземцам. Звыш мільярда (1.092.000.000) залатых рублёў чужаземнага капіталу кінута ў гэтую справу. Дый ня дзіва: чыгункі ў Кітаі—вельмі карысная справа, на якую чужаземныя капіталістыя не шкадуюць грошай: чыгункі даюць у сярэднім 20 проц. прыбытку гадавых. Але карысьць ад чыгуначнага будаўніцтва ня вычэрпваецца адным гэтым: па чыгунках чужаземныя тавары пранікаюць у самыя аддаленыя куткі краіны, нясучы разбурэньне тубыльцу-вытворцы і вялізарныя прыбыткі капіталістаму-эўропэйцу. І далей—чыгункі з адчужанымі кавалкамі зямлі, якая прылягае непасрэдна да іх, разрывалі Кітай, падзялялі яго на „сфэры ўплыву“ тэй ці іншай імпэрыялістычнай дзяржавы.

Вось чаму кітайцы так імкнуцца апошнія 20—25 год выкупіць свае чыгункі і новае чыгуначнае будаўніцтва разьвіваць уласнымі сіламі. Але сваіх грошай няма, прыходзіцца карыстацца чужаземнымі пазыкамі, адкупляць у чужаземцаў чыгункі на грошы тых самых чужаземцаў. Якраз адпаведны выпадак для імпэрыялістых драць з ужо абадранага кітайскага барана другую скуру. З водным транспортам становішча ня лепшае, чым з чыгункамі. У 1924 годзе тонаж морскага і рэчнага флёту ў Кітаі разьмяркоўваўся так:

| | |
|---|---|
| Ангельшчыне належала . . . | 55.715.925 тон. |
| Японіі „ . . . | 34.759.884 „ |
| Кітаю „ . . . | 33.288.363 „ |

*) Op. cit.

Заняволеньне Кітаю чужаземцамі не абмяжоўваецца аднэй толькі галіной транспорту. Над Кітаем вісіць яшчэ фінансавая няволя. Чужаземцы кінулі ў банкаўскую справу ў Кітаі суму, роўную суме, якая ўкладзена імі ў чыгуначнае будаўніцтва. Разьвіваючы свае звароты да 15 мільярдаў рублёў у год, яны лёгка дасягаюць падвышэньня на кітайскім рынку каштоўнасьці чужаземнай валюты, рассоўваюць пазыкі, з якіх атрымліваюць надзвычайна вялікія проценты, дамагаюцца панаваньня над усім наогул прамысловым жыцьцём краіны.

Вось некалькі характэрных лічбаў для заняволенага становішча Кітаю:

| | | |
|---|---|---|
| Нацыянальны доўг Кітаю . . . . | 2,5 | мд. р. |
| Сума японскага банкаўскага капіталу ў Кітаі . | 625 | мілн. „ |
| „ ангельскага „ „ „ . | 110 | „ „ |
| „ францускага „ „ „ . | 90 | „ „ |

138 уласна кіт. банкаў маюць капіталу 500 міл. руб. Далей—згрупаваньне замежнага гандлю Кітаю выключна ў руках чужаземцаў. Замежны гандаль у Кітаі і мытніцы—выключная ўласнасьць чужаземцаў. Ва ўсіх краінах з слабым разьвіцьцём капіталізму знаходзім мы протэктарскія мыты. Гэтага няма ў Кітаі, дзе навязаныя ў краіне ў розныя крытычныя моманты яе існаваньня дагаворы ўсе былі ў адзін пункт: мытныя прыбыткі чужаземцам.

Гэта акалічнасьць не дае разьвівацца ўласна-кітайскай прамысловасьці, зьніжае мытныя зборы кітайскага ўраду да трох з палавінай процантаў агульна-дзяржаўнага прыбытку, у той час як у Францыі гэтыя зборы даюць 20 проц., а ў Паўн. А. З. Ш.—30 проц. усіх дзяржаўных прыбыткаў.

Лепшыя прамысловыя прадпрыемствы ў Кітаі таксама належаць чужаземцам. Кайланьскія вугольныя капальні, якія належаць ангельцам, даюць 22 проц. усяе вугольнае продукцыі; фушуньскія капальні, якія належаць японцам, даюць 15 проц. Жалеза-рудныя прадпрыемствы Кітаю знаходзяцца ў руках японцаў, якія ў гэту галіну прамысловасьці ўклалі 120 мільёнаў іен. З 18 хэмічных прадпрыемстваў Кітаю 12 належаць чужаземцам. Чужаземны капітал пануе і ў запалкавай, цукравой, тытунёвай, папяровай і маслабойнай прамысловасьці. Чужаземцы маюць у Кітаі так званыя „адкрытыя порты“—гарады, дзе яны адчуваюць сябе поўнымі гаспадарамі: трымаюць свой флёт, армію, паліцыю, карыстаюцца правам забудоўлі. Такіх „адкрытых“ портаў у Кітаі ў сучасны момант каля 50. Урэшце—концэсіі, сэтльмэнты, мяшаны суд—і малюнак заняволенага чужаземцамі Кітаю ў асноўных рысах робіцца зразумелым*).

*) Концэсіі і сэтльмэнты—гарадзкія кварталы, дзе жывуць чужаземцы—у поўным сэнсе слова—дзяржава ў дзяржаве.

Кітаем падпісана агульным лікам каля 20 концэсыйных умоў.

Мяшаны суд—гэта суд пад контролем эўропэйцаў над кітайцамі, якія жывуць у межах занятай эўропэйцамі кітайскай тэрыторыі.

Эўропэйцы ў Кітаі карыстаюцца правам поўнай экстэрыторыяльнасьці.

Падаем у заключэньне бутаду аднаго кітайскага патрыёта, якая дае яскравы і сапраўдны малюнак мэтодаў заневаленьня Кітаю чужаземцамі: „Спачатку прыходзіць да мяне чалавек у чорным з кнігай (місыянэр) і кажа: „Любі мяне, як брата, ці я пашлю цябе на тым сьвеце пячыся ў вялізарнай печы“. Потым прыходзіць да мяне чалавек у стракатым з таварам і кажа: „Купляй гэту дрэнь, ды плаці як найдаражэй, а калі ня хочаш, дык я паскарджуся чалавеку ў белым з вялікай стрэльбай“. Прыходзіць, урэшце, і гэты чалавек у белым дый кажа: „Ты ня хочаш любіць, як брата, чалавека ў чорным, ты ня хочаш купляць на вагу золота ў чалавека ў стракатым? Ну, дык ідзі вон адгэтуль і пакінь хату і поле чалавеку ў стракатым і чалавеку ў чорным—ці я заб'ю цябе“. Але ён забівае мяне перш, чым я спраўляюся разьзявіць рот, і ўсе яны ўтраёх гаспадараць над маім трупам—адзін пырскае на мяне вадой, другі апаражняе мае кішэні, трэці кідае маё цела сабакам. А потым усе яны забіраюць маю хату, маю зямлю, маю жонку, маіх дзяцей і сьвятыя абразы маіх дзядоў“.

Такім чынам, Кітай, ня гледзячы на формальную сувэржнасьць, фактычна цалком залежыць ад імпэрыялістычных дзяржаў Эўропы.

Усе грамадзкія клясы яго, апрача буйнай гандлёвай буржуазіі—гэтага агэнта—пасярэдніка эўропэйцаў,—прамыслоўцы, інтэлігенцыя, рабочыя, сяляне перш за ўсё адчуваюць на сябе імпэрыялістычны ўціск. У гэтым асноўная прычына шырокага антыімпэрыялістычнага руху, прычына таго, што перш, чым распачаць кітайскаму пролетарыяту барацьбу з уласнаю буржуазіяй, ён разам з тым распачаў барацьбу з капіталізмам чужаземным. Тут экономічная падкладка шанхайскіх здарэньняў, тут корань антыімпэрыялістычнага нац. вызвал. руху ў Кітаі наогул.

Але, апрача прычын агульнага характару, ёсьць заўсёды прычыны непасрэдныя. Якавы гэтыя непасрэдныя прычыны шанхайскіх здарэньняў?

Іх трэба шукаць у тэкстыльнай, у паасобнасьці, баваўнянай прамысловасьці Кітаю. Што тычыцца апошняй—гэта галіна прамысловасьці, якая перажыла ў апошнія часы бурны ўзрост. Так:

| Гады | Лік фабрык | Колькасьць верацён | Лік кроснаў |
|---|---|---|---|
| 1891 | 2 | 65.000 | 2.100 |
| 1902 | 17 | 565.000 | 3.500 |
| 1916 | 42 | 1.154 000 | 7.000 |
| 1920 | 65 | 1.422.000 | „ |
| 1923 | 190 | 3.182.579 | 18.000 |

Апрача таго, баваўняная прамысловасьць у Кітаі—буйнага характару, бо ў сярэднім на кожным яе прадпрыемстве працуе 1.000 чалавек. І, самае галоўнае, баваўняная прамысловасьць адна з тых невялікіх лікам прамысловых галін, якія, дзякуючы вайне, кітайская буржуазія,

пасьля таго як перамагла вялікія труднасьці, узяла ў свае рукі: з усіх тэкстыльных прадпрыемстваў у 1916 г. ў руках у кітайцаў знаходзілася 43 проц., у 1920 г.—50 проц.

Справа ў тым, што ў часе вайны значна зьменшыўся ўвоз у Кітай тэкстыльных вырабаў і бабаўнянага прадзіва, зьменшыўся і вываз бавоўны з Кітаю. Вынікам зьявіўся некаторы крызіс, які спрыяў разьвіцьцю ўласна-кітайскай прамысловасьці.

Аднак, вайна скончылася і становішча спраў для кітайскай буржуазіі рэзка зьмянілася ў бок горшага. Зноў пачынае расьці вываз бавоўны з краіны (137.100 пікулы ў сьнежні 1923 году супроць 2.842 пік. ў чэрвені таго-ж году), што значна ўздымае цану на яе на ўнутраным кітайскім рынку. Падаражэньню бавоўны спрыялі, апрача таго, і малы ўраджай яго ў 1923 годзе, і японскае зямлятрасеньне, якое выклікала на кітайскую бавоўну вялікі запыт.

Даражэе бавоўна—і, што зусім натуральна, даражэюць і тэкстыльныя вырабы. А, між тым, хваля тэкстыльных вырабаў, якія ўвозіліся чужаземцамі, утварае страшэнную конкурэнцыю. Кітайская тэкстыльная прамысловасьць трапляе ў безнадзейны тупік.

Кітайская буржуазія пачынае шукаць выхаду з гэтага становішча. Пад кіраўніцтвам асоцыяцыі тэкстыльных фабрыкантаў Шанхаю, яна зварачаецца да ўраду з пэтыцыяй аб адтэрмінаваньні мораторыуму яшчэ на два гады, пачынаючы з 1923 году, аб гарантыі 30 міл. пазыкі, аб павялічэньні вывознай мыты на бавоўну. „Інакш—пагражаюць фабрыканты—прыдзецца зачыніць фабрыкі і выклікаць гэтым вялізарнае беспрацоўе, што ўтворыць сур'ёзную небясьпеку для міру і парадку ў краіне“.

Урад згаджаўся ўжо выканаць усё, чаго дамагаліся фабрыканты, але фактычныя гаспадары Кітаю—чужаземцы паўсталі супроць гэтага і паставілі на сваім.

Тады пачаўся заняпад кітайскай тэкстыльнай прамысловасьці; 30 проц. кітайскіх фабрык спынілі працу за адзін толькі 1924 год. Чужаземцы, пераважна японцы, пачалі скупляць тэкстыльныя фабрыкі, і скора самыя буйныя з іх апынуліся ў японскіх руках. (Напр., тэкстыльныя фабрыкі ў Цянь-Цьзіне).

Апісаныя здарэньні ўдарылі ня толькі па прамыслоўцу-кітайцу. Яшчэ больш давялося кітайцу рабочаму. Калі фабрыка зачынялася, ён трапляў у становішча беспрацоўнага, калі пераходзіла ў рукі гаспадара японца, для яго пачынаўся рэжым яшчэ горшай эксплёатацыі. Больш таго, японцы наогул пачалі практыкаваць на сваіх нядаўна набытых тэкстыльных фабрыках масавую замену мужчын-рабочых больш таннай рабочай сілай жанчын і дзяцей.

Матэрыял для рэволюцыйнага выбуху, такім чынам, назьбіраўся.

Цяпер, высьветліўшы прадпасылкі Шанхаю, пяройдзем да агляду самых здарэньняў.

Пачатковым момантам шанхайскіх здарэньняў трэба лічыць стачкі на японскіх тэкстыльпрадпрыемствах у Шанхаі ў лютым 1925 году. Пачалося са стачкі, якая выбухла на фабрыках фірмы Най-Гай-Уата-Кайма 10 лютага. Стачку падтрымалі рабочыя іншых тэкстыльных прадпрыемстваў і праз кароткі час у Шанхаі баставала ўжо 40.000 кітайскіх рабочых. Вымаганьні, якія былі высунуты рабочымі, складаліся з наступных пунктаў: скасаваньне цялеснай кары, выдача зарплаты два разы ў месяц, бескараннасьць за ўдзел у стачцы, вызваленьне арыштаваных рабочых, павялічэньне зарплаты на 10 проц. (пазьней рабочыя згадзіліся толькі на 2 проц.).

Два тыдні цягнулася стачка і скончылася амаль поўнай перамогай рабочых: толькі павялічэньне зарплаты на 2 проц. было адкінута японскімі капіталістымі.

У кітайскіх умовах гэта было вялікім дасягненьнем, але, як потым выявілася, прадпрыемцы не захацелі выконваць прынятых на сябе абавязкаў. Тады стачачная хваля ўзьнялася з новай сілай.

Трэба гэта адзначыць—момант для стачачнай барацьбы кітайскага пролетарыяту быў якраз надзвычайна зручны дзякуючы тагочасным політычным абставінам, якія зьмяніліся к лепшаму. Справа ў тым, што ўвосень 1924 году злучанымі сіламі Фын-Юй-Сяна (генэрал-прогрэсысты, правадыр народнай арміі) і Чжан-Цзо-Ліна (рэакцыйны дыктатар Манчжурыі) нанесены быў рашучы ўдар ворагу рабочага руху, фактычнаму тады дыктатару Кітаю У-Пэй-Фу. Урад Цзао-Куна, які орыентаваўся на У-Пэй-Фу, быў скінуты, і на чале ўлады стаў Дуан-Цзы-Чжуй, тож рэакцыянэр-стаўленік Чжан-Цзо-Ліна. Ён вёў падвойную політыку: з аднаго боку, ён быў рэакцыянэр (бо Фын-Юй-Сян быў тады саюзьнікам Чжана), а з другога боку, з дыплёматычных меркаваньняў, нібы-та цікавіўся нацыянальна-вызваленчым рухам і запрасіў нават у Пекін Сун-Ят-Сэна.

Урад Дуан-Цзы-Чжуя не правёў ніводнай колькі-небудзь значнай рэформы, але аднаго толькі факту запрошаньня Суна ў Пекін, узросту пропагандыцкай працы ў Паўночным Кітаі, росту там Гоміндану годзе было для таго, каб рабочая кляса, якая раней жорстка прыдушалася, пачала актыўна выступаць. Крызіс у тубыльнай тэкстыльнай прамысловасьці, якога мы вышэй ужо тычыліся, вядома, толькі спрыяў гэтаму.

У красавіку таго-ж 1925 году пачынаюць баставаць тэкстыльшчыкі Цын-Дао (то-ж на японскіх прадпрыемствах) і ў траўні будуюць нават барыкады для абароны ад паліцыі; бастуюць шоўкаматальныя прадпрыемствы Кантону; бастуюць 10 тысяч работніц у Ханькоу, якія высунулі вымаганьне адмены чужаземных дазорцаў, якія білі работніц.

А калі ў траўні месяцы (30 траўня) паліцыя японцаў у Цын-Дао і ангельцаў у Шанхаі ўчыняюць крывавую бойню рабочым, кітайцы-рабочыя адказваюць на гэта ўсеагульнай стачкай. Вымаганьні высоўваюцца

рабочымі пераважна экономічныя, як, напр.: пакараньне вінавайцаў расстрэлу дэмонстрацыі 30 траўня з адплатай страт сем'ям забітых; прызнаньне за рабочымі права ўступленьня ў профсаюзы, скасаваньне на фабрыках і заводах цялеснае кары, забарона чужаземцам служыць у якасьці поліцэйскіх.

Такім чынам, у першым сваім этапе, з лютага па травень 1925 году, барацьба кітайскага пролетарыяту носіць пераважна экономічны характар.

Вельмі скора да барацьбы рабочых далучаюцца інтэлігенцыя, дробная буржуазія, часткай буйная буржуазія (пакольки барацьба накіравана супроць ангельска-японскага капіталу). І самая барацьба набывае яскрава-выяўлены політычны характар, характар барацьбы супроць самых асноў эўропэйскага імпэрыялізму ў Кітаі.

Чаму кітайская інтэлігенцыя (пераважна студэнцтва) далучаецца да барацьбы?

У васноўным студэнты—выхадцы з дробна-буржуазных колаў, якія шмат церпяць ад конкурэнцыі і разбойніцкай політыкі чужаземнага капіталу. Вось чаму разам з рабочымі—студэнты найбольш перадавая частка кітайскага народу, які змагаецца за сваё вызваленьне.

30 траўня 1925 году шанхайскія рабочыя і студэнты організавалі дэмонстрацыю протэсту з прычыны забойства дазорцам-японцам фабрыкі Най-Гай-Уата-Кайма кітайца-рабочага Ку-Чэн-Хі, якое мела месца 15 траўня.

Ангельцы расстралялі дэмонстрацыю ў твар. У выніку—4 забітых і 24 раненых, з іх 7 сьмяртэльна. Мала гэтага—за 30 і 31 траўня ангельцы пераарыштавалі 600 чалавек бунтаўшчыкоў.

Гэтыя факты грубага гаспадараньня імпэрыялістых у чужой краіне сыгналізуюць пераход руху ў другі яго этап, этап барацьбы політычнай.

На вуліцах Шанхаю організоўваюцца масавыя мітынгі пад лёзунгамі: 1) вызваліць арыштаваных рабочых і студэнтаў, 2) задаволіць вымаганьні бастуючых на японскіх прадпрыемствах рабочых, 3) абвясьціць свабоду сходаў, саюзаў, друку, стачак, 4) скасаваць права экстэрыторыяльнасьці чужаземцаў і мяшаны суд, 5) вымагаць у кітайскага ўраду зьмены муніцыпальнай улады за здарэньні, якія адбыліся.

Мітынгі адбываюцца з надзвычайным уздымам, рэзолюцыі ў выглядзе вышэйпералічаных вымаганьняў ухвальваюцца ўсюды аднагалосна і выносяцца на іх пастановы ня толькі аб забастоўцы рабочых, але і аб патрэбнасьці стачкі гандляроў. Шмат, праўда, працы прышлося пакласьці студэнтам, каб схіліць гандляроў на гэты крок, але гэта ім, урэшце, удалося. З першага чэрвеня зачыніліся магазыны ўсіх кітайскіх гандляроў у Шанхаі, усюды зьявіліся адозвы з заклікам змагацца супроць імпэрыялістых.

Забаставалі, вядома, і рабочыя, на гэты раз у нячуваных яшчэ для Кітаю разьмерах: 1 чэрвеня—тэкстыльшчыкі, портавыя грузчыкі, частка

рабочых трамваю; 2 чэрвеня—рабочыя 15 японскіх фабрык, у Шао-Ша-Ду і Ят-Цзе-Пу, ангельскіх тэкстыльных фабрык, ліцейных заводаў і мэханічных майстэрняў, тэлефоннай станцыі, друкары кітайскіх друкарняў; 3 чэрвеня спынілі працу кітайскія банкі, кітайскія служачыя чужаземных банкаў, кітайскія служкі чужаземцаў.

Карацей кажучы, пачалася ўсеагульная стачка, якая, апрача палітычнага свайго значэньня, несла вялізарныя страты чужаземцам: адны толькі ангельскія параходныя кампаніі, дзякуючы стачцы, мелі шкоду каля мільёну доляраў кожны дзень.

На 5 чэрвеня агульны лік бастуючых дасягае 140.000 чалавек, на 11—больш поўмільёна чалавек, з іх адных толькі рабочых 222 000.

Такім чынам, стачка гэта выявіла вялізарную ступень трываласьці, солідарнасьці і сьвядомасьці паўднёва-кітайскіх рабочых.

Дзякуючы стачцы, пачынаецца хуткі рост організацыі рабочых у саюзы: за першыя дні чэрвеня ўтварылася 72 рабочых саюзы, на чале якіх стаў Шанхайскі Савет Профсаюзаў.

Ці былі і на гэты раз вымаганьні рабочых чыста экономічнага характару?

Яскравы адказ на гэтае пытаньне дае нам хоць-бы такое вось, узятае бяз выбару, месца з „Адозвы Савету Шанхайскіх рабочых Саюзаў да пролетарыяту ўсяго сьвету“: „Імпэрыялістычны друк, распаўсюджваючы самыя недарэчныя чуткі, абвінавачвае кітайскае насяленьне ў організацыі анты-чужаземнага руху, накіраванага, нібы-та, супроць чужаземцаў наогул, і тым самым уводзіць у памыленьне грамадзкую думку ўсяго сьвету. *У сапраўднасьці-ж кітайскае насяленьне паўстае зусім ня супроць усіх чужаземцаў наогул, а толькі супроць той невялікай групы эксплёататараў розных нацыянальнасьцяй, якая праводзіць у Кітаі палітыку нацыянальнага ўціску, экономічнага заняволеньня і крывавых расстрэлаў.* Мы пераконаны, што гэты рух, які зьяўляецца выяўленьнем нацыянальна-вызваленчага настрою прыгнечаных мас Кітаю, выклікае спачуцьцё з боку сусьветнага пролетарыяту, які не адмовіцца ад падтрыманьня кітайскага народу супроць імпэрыялістых, што расстрэльваюць кітайскі народ і зьяўляюцца агульным ворагам працоўных усяго сьвету“.

Чэрвень месяц быў пэрыодам найбольшай напружанасьці руху: іменна ў гэтым месяцы мы маем найбольшы яго размах, уцягненьне ў барацьбу і буржуазіі, шырокае грамадзкае матэрыяльнае падтрыманьне.

Становішча скора зьмяняецца ў бок горшага для кітайскага народу, дзякуючы перамозе Чжан-Цзо-Ліна над цэнтральным Пекінскім урадам і, часткова, народнымі арміямі.

Першы ўнутраны ўдар—гэта адыход ад руху буржуазіі: гандлёвая палата выступае сэпаратна ад Савету Профсаюзаў з сваімі вельмі сьціплымі, якія ня мелі ніякай палітычнай падкладкі, вымаганьнямі, а 22 чэрвеня, не атрымаўшы наогул ніякага адказу ад ангельцаў і японцаў, абвя-

шчае забастоўку гандляроў і кітайскіх прамыслоўцаў скончанай. Цікава тое, што кітайскія прамыслоўцы, якія самі заклікалі рабочых да стачкі солідарнасьці з рабочымі японскіх фабрык, не заплацілі нават сваім рабочым за час стачкі.

Потым ударае па руху ўласна-кітайская рэакцыя: чужаземцы, якім надакучыла самім страляць у бяззбройных дэмонстрантаў, прыцягваюць да гэтае шляхетнае справы Чжан-Сею-Ляна, „маленькага Чжана", сына „вялікага" Чжана (Чжан-Цзо-Ліна). Гэта тым больш зручна, што мітынгі і сходы кітайцы пачалі наўмысьне пераносіць за межы сэтльмэнтаў, і такім чынам рух апынуўся па-за сфэрай дасягаемасьці для чужаземных штыхоў і душыць яго трэба было зброяй саміх кітайцаў. Чжан-Сею-Лян увайшоў у Шанхай з вялікім атрадам войска 13 ліпня.

Пачынаецца жорсткая рэакцыя ў Шанхаі. Абвяшчаецца ваеннае становішча, забараняюцца розныя сходы, забараняецца насіць зброю і г. д.

Але ўсё гэта не супыняе барацьбы шанхайскіх рабочых. Яны гэроічна працягвалі баставаць.

Пад кіраўніцтвам Савету Профсаюзаў, які знаходзіўся ў Шанхаі, забастоўкі з Шанхаю пераносяцца і ў Кайлан, і ў Ханькоу, і ў Пекін.

Толькі позна восеньню (у канцы кастрычніка), дамогшыся некаторых экономічных уступак (апрача прызнаньня профсаюзаў), паступова бярэцца за працу кітайскі пролетарыят, бачачы, што аднаму яму барацьба не па сіле, а момант для рашучай аб'яднанай барацьбы ўсіх пластоў грамадзтва супроць імпэрыялізму яшчэ ня прышоў.

Вывады з шанхайскіх здарэньняў?

Перш-на-перш аб прычынах няўдачы гэтага надзвычайна бурнага руху, які ўлетку 1925 г. скалыхнуў усю краіну.

Шанхайскія здарэньні не далі перамогі над імпэрыялістымі кітайскаму народу таму, што былі выкліканы не агульным прамысловым крызісам у Кітаі, а толькі мясцовым крызісам у тубыльнай тэкстыльнай прамысловасьці,—таму і размах руху быў няшырокі, лёкальны; шанхайскі пролетарыят ня быў у выстарчаючай меры падтрыманы рэштай рабочых Кітаю: калі дзе і выбухалі стачкі солідарнасьці з Шанхаем, яны, дзякуючы слабой організаванасьці, хутка канчаліся; у баку ад здарэньняў лета 1925 году засталося сялянства; перашкаджаў руху слабы і нясталы саюз пролетарыяту і буржуазіі ў Шанхаі; барацьба была не па сіле для пролетарыяту аднаго толькі Шанхаю—змагацца і перамагчы ангельскіх і японскіх імпэрыялістых па сіле толькі кітайскаму пролетарыяту ў цэлым; урэшце—слабасьць руху залежала яшчэ ад слабой і малой па ліку пакуль як партыі гоміндан, гэтак, тым больш, і маладой яшчэ кітайскай компартыі.

Але ўсё-ж Шанхай—вялізарнае здарэньне ў распачатай вызваленчай барацьбе Кітаю. Ён быў школай масавага палітычнага выступленьня кітайскага пролетарыяту; у шанхайскія дні кітайскі пролетарыят узьняўся

да ролі кіраўніцтва рухам у цэлым, здарэньні зьявіліся штурхачом да масавай арганізацыі ў профсаюзы кітайскіх рабочых, а тым самым і да вялізарнага ўзросту і лікавасьці, і ўплыву на пролетарыят партыі гоміндан і комуністычнай партыі ў Кітаі. *Шанхайскія здарэньні былі непасрэднай прычынай узмацненьня Кантону, як базы нац. вызвал. руху ў Кітаі: да шанхайскіх здарэньняў рэволюцыйны Кантонскі ўрад знаходзіўся пад пагрозай—на яго наступалі* з усходу (генэрал Чэнь-Цзю-Мін). і з паўночнага-захаду (генэралы Ян і Лю, якіх падтрымліваў Дуан-Цзі-Чжуй з Пекіна і ангельцы з Гонконга). Карыстаючыся ўздымам нац. вызвал. руху, які быў выкліканы Шанхаем, Кантонскі ўрад ня толькі разьбіў ворагаў, але і ўтварыў армію, якая ўстанавіла парадак ва ўсім Гуандунскім краі. Аўторытэт гэтага ўраду, адзінага пакуль сапраўды рэволюцыйнага ўраду ў Кітаі, расьце і адна за другой далучаюцца да Гуандунскай провінцыі Юнальская, Гуйчжоўская і Хунаньская провінцыі.

Калі да сказанага дадаць, што шанхайскія здарэньні ўзмацнілі сувязь паміж рабочымі СССР і Кітаю, узбудзілі цікавасьць працоўных усяго сьвету да барацьбы кітайскага народу за сваё вызваленьне з путаў імпэрыялізму—нам будзе зразумела вялізарная да іх цікавасьць, будзе зразумела, чаму аб гэтых здарэньнях ужо напісана некалькі кніжак.

## Апошнія здарэньні ў Кітаі

„Кітай павінен перш зрабіцца гаспадаром у сваёй хаце, каб потым прывесьці яе ў парадак“—у гэтых некалькіх словах (яны належаць тав. Карахану) па існасьці ўся складаная сутнасьць кітайскай сучаснасьці.

Кітайскі народ, які абудзіўся для барацьбы і жыцьця, гэту ісьціну зразумеў вельмі добра: Шамін і Шанхай лепш за ўсё сьведчаць аб гэтым. І не яны адны. Да сёнешняга дня, і да таго-ж пераможна для Кантонскага ўраду, ідзе барацьба апошняга з ангельскім імпэрыялізмам у васобе самай багатай брытанскай колёніі Гонконга.

Можна сабе ўявіць абурэньне ангельцаў, калі, дзякуючы барацьбе Кантону, у іх на вачох зьніжаецца тавараварот гэтай лепшай іх колёніі: ужо цяпер тавараварот Гонконга зьменшыўся на 10 проц. і праяўляе тэндэнцыю да далейшага заняпаду. А, між тым, выхаду з гэтага становішча ў ангельцаў не прадбачыцца: звычайныя мэтоды подкупу, застрашваньні нічога не даюць у прыстасаваньні да лева-гомінданскага кантонскага ўраду. Стаць-жа на шлях адкрытай інтэрвэнцыі ў паўднёвым Кітаі ангельцы пакуль не адважыліся, хоць у самы апошні час „цьвёрдалобыя“ аб такім паходзе на Кантон пачынаюць пагаварваць сур'ёзна.

Да рэчы—аб левай плыні ў гоміндане. Як вядома, у часы Суна гоміндан трымаўся думкай аб патрэбнасьці аздараўленьня Кітаю шляхам прышчэпкі яму дэмократыі амаль амэрыканскага тыпу і наступнага прыцягненьня чужаземнага капіталу ў незалежны нацыянальна-аб'яднаны Кітай.

Здарэньні апошніх гадоў падказалі найбольш клясава-сьвядомай часткы гоміндану, што вызваленьне Кітаю на капіталістычнай аснове немагчыма — ніколі, вядома, самаахвоць імпэрыялістыя не аддадуць сваіх позыцый кітайцам—і разам з компартыяй левыя гомінданаўцы пачалі змагацца за ўтварэньне сапраўды рэволюцыйнага ўраду. І ў адносінах паўднёвага Кітаю гэта задача ўжо выканана.

Імпэрыялістыя больш усяго баяцца аб'яднаньня Кітаю. Яны ведаюць, што нават рэакцыйны ўрад, які трымае ў руках увесь Кітай, ня згодзіцца з гаспадараньнем чужаземных капіталістых у Кітаі. Вось чаму гэтак ненавісны імпэрыялістым народныя арміі, якія па сутнасьці маюць сваёй задачай толькі нацыянальнае аб'яднаньне. Вось чаму Чжан і У-Пэй-Фу знайшлі дзейнае падтрыманьне з боку ангельцаў, амэрыканцаў, японцаў у сваёй нядаўнай барацьбе з народнымі арміямі. Быў момант, калі Чжан-Цзо-Лін, разьбіты здрадзіўшым яму Го-Сун-Лінам, апынуўся на краю пагібелі і, здавалася, Кітай пяройдзе ў рукі народных армій і іх правадыра Фын-Юй-Сяна. Аднак, хітра падстроенае ўмяшаньне імпэрыялістых рэзка зьмяніла становішча спраў: Го-Сун-Ліну здрадзілі, і ён быў пакараны сьмерцю, Чжан рушыўся на Пекін, а У-Пэй-Фу, які тож змагаўся з Чжанам у саюзе з народнымі арміямі, здрадзіў апошнім і далучыўся да Чжана.

Такім чынам, улетку гэтага году для нацыянальна-вызваленчага руху ўтварыліся зусім няспрыяючыя ўмовы: народныя арміі амаль зусім былі разьбіты (жывую сілу, праўда, яны захавалі, і ў сучасны момант гэтыя арміі зноў зорганізаваліся і зьяўляюцца магутным саюзьнікам Кантону); Кантон знаходзіўся пад пагрозай аб'яднанага ўдару мукдэнцаў (Чжан-Цзо-Лін) і чжылійцаў (У-Пэй-Фу).

Але, як гэта і трэба было чакаць, блёк У-Пэй-Фу-Чжан-Цзо-Лін хутка разваліўся. Паважныя генэралы перасварыліся, і Кантон скарыстаў гэты момант для ажыцьцяўленьня вялікай паўночнай экспэдыцыі, аб якой марыў яшчэ Сун-Ят-Сэн. Вынікі гэтай экспэдыцыі аказаліся куды больш чаканых. Ужо ў першых лічбах верасьня рэволюцыйнае войска заняло Ханькоу (гал. горад провінцыі Хубэй, стаўку У-Пэй-Фу), 3-га таго-ж месяца кантонцы захапілі У-Чжан і Ханьян, прычым у баі пад Ханьянам быў ранены У-Пэй-Фу. Захоп У-Чжана—здарэньне найвялікшай важнасьці ў гісторыі кітайскай рэволюцыі. Яно абазначае пераход у рукі Кантону найбольш прамысловага раёну Кітаю з горадам (У-Чанам), які налічвае звыш ста тысяч пролетарскага насяленьня. Да таго-ж У-Чан—калыбель кітайскага рэволюцыйнага руху (вялікая рэволюцыя 1911 г. пачалася з паўстаньня ва У-Чане і потым ужо ахапіла ўсю краіну).

Становішча У-Пэй-Фу робіцца вельмі небясьпечным. 8 верасьня ён зварачаецца за дапамогай да Чжана і Сун-Чуан-Фана (тож рэакцыйнага генэрала, які ўмацаваўся з тылу ў кантонцаў—у провінцыі Цьзянь-Сі).

Адначасна пачынаюцца перагаворы паміж японцамі і ангельцамі адносна аб'яднанай інтэрвэнцыі ў Кітаі. Кантонцы, між тым, з посьпехам праводзілі сваё выдатнае наступленьне. 9-га яны падыходзяць да межаў провінцыі. Адначасна з гэтым, пад уплывам перамог кантонцаў, народная армія энэргічна бярэцца за справу і займае горад Суй-Юань (канцовы чыгуначны пункт па лініі Пекін—Калчан—Татунь—Суй-Юань) і, разьвіваючы дасягнуты посьпех, накіроўваецца насустрэчу галоўным сілам кантонцаў, каб злучыцца з імі. Гэта, мусіць, і ўдалося-б народнай арміі, каб не дапамога ангельцаў агонізуючаму У-Пэй-Фу—з аднаго боку, і ўдар Кантонскай арміі, нанесены з тылу войскамі Сун-Чуан-Фана—з другога.

Дзесятыя лічбы верасьня—пераломны момант у гісторыі „вялікай паўночнай экспэдыцыі". Інтэрвэнты і рэакцыйныя генэралы мобілізуюць усе свае сілы, каб спыніць пасуваньне кантонцаў. Вядуцца таемныя перагаворы паміж Чжанам і ангельцамі, узмацняецца рэакцыя ў Шанхаі (расстрэлы, арышты, прасьледваньне гоміндanaўскіх організацый), Сун-Чуан-Фан кідае дывізію за дывізіяй на кантонскі фронт.

Але, ня гледзячы ні на якія перашкоды, кантонцы ў сваім наступленьні пасуваюцца ўсё далей і далей на поўнач і ў той самы час наносяць Сун-Чуан-Фану ўдар за ўдарам у яго провінцыі Цьзянь-Сі (самы моцны ўдар Суну—захоп кантонцамі 14 верасьня гораду Пінсяна ў Цьзянь-Сі).

Справа тут, вядома, не ў аднэй толькі лікавай перавазе кантонцаў. Вялікае значэньне мае і ўнутраны разброд ў лягерах рэакцыйных генэралаў. Тут здрады за здрадамі ваенных начальнікаў, а, галоўнае, незадаволеньне салдатаў белых армій, непопулярнасьць сярод іх ідэі барацьбы з Кантонам. Больш таго, дзякуючы добра пастаўленай у гэтых арміях падпольнай працы гоміндану і Кіткомпартыі, у белых арміях пануе моцная плынь да пераходу наогул на бок Кантону і спыненьня грамадзянскай вайны. Вось чаму паўстае супроць Чжана ў сярэдзіне верасьня асобны корпус коньнікаў пад кіраўніцтвам Му-Чун-Ліна (гэтае паўстаньне Чжану хутка ўдалося прыдушыць), вось чаму параўнаўча лёгка ўдаецца кантонцам разьбіць і Сун-Чуан-Фана: часам яны перамагаюць у адкрытым баі, часам—да баёў і не даходзіць.

Так, напр., у барацьбе Кантону з Сун-Чуан-Фанам зарэгістраваны такія выпадкі, калі Кантону здаваліся самаахвоць ня толькі дробныя ваенныя начальнікі, але нават адзін з бліжэйшых сунаўскіх супрацоўнікаў—генэрал-губарнатар провінцыі Чжэцьзянь. Таксама самаахвоць пераходзіць на бок кантонцаў, пасьля захопу апошнімі Ся-Шуя, Пініня і Піньсяна, генэрал Лан-Шы-Гуан і аддае ворагам паўднёвую частку провінцыі Цьзяньсі з галоўным горадам Каньчжоў.

У 20 лічбах верасьня адбываюцца новыя буйныя здарэньні ў жыцьці рэволюцыйнага Кітаю: народныя арміі, якія з новай сілаю паў-

сталі на барацьбу з рэакцыяй, атрымалі яшчэ адну вялікую перамогу— занялі горад Сланьфу ў провінцыі Шэньсі і злучыліся там з інтэрнірованымі часткамі другой народнай арміі.

Адначасна атрымалі новую буйную парамогу і кантонцы, захапіўшы 24 верасьня горны перавал Ушэнь-Гуан.

Посьпехі кантонцаў, такім чынам, зрабіліся ў канцы верасьня проста дзіўнымі. Пад іх уладай апынулася палавіна Кітаю. Замоўклі ўсякія размовы аб інтэрвэнцыі: пасьля таго, як Ангельшчына аказалася ізоляванай у гэтым пытаньні—яе не падтрымалі, дзякуючы відочнай рызыкоўнасьці гэтага кроку, ні Амэрыка, ні Японія—і яна пасадзіла на караблі дэсантнае войска, яго яна была высадзіла ў Шанхаі. У друку пачалі зьяўляцца тэлеграмы аб перагаворах паміж мукдэнцамі (чжанцзолінаўцамі) і кантонцамі аб падзеле сфэр уплыву ў Кітаі.

Рэакцыя, і чужаземная і ўласна-кітайская, урэшце, зразумела, што Кантон—гэта магутны народны рух, якога сілай ня прыдушыш. Цікавая рыса—насяленьне провінцый, якія знаходзіліся ў руках Чан-Кай-Шы (кантонскі галоўкам.), вельмі радасна сустракала салдатаў рэволюцыйных армій. Калі прымем пад увагу, што насяленьне гэта ў большасьці сваёй няпісьменнае, што аб гоміндане і Кантоне яно ведае толькі па чутках, што з разуменьнем „салдат“ у яго прадстаўленьні паўстаюць рабаваньне і гвалт,—то мы зразумеем, якія глыбокія зрушшы ідуць у сьвядомасьці 420-цімільённага народу, які шмат адпакутваў.

І трэба аддаць справядлівасьць кантонцам—яны стаяць на правільным шляху ў сваёй унутранай політыцы. Гоміндан працуе ў цеснай сувязі з компартыяй. Характэрныя адзнакі іх політыкі: вельмі добра пастаўленая агітпраца сярод салдатаў, цьвёрдая лінія рэформатарскай працы ў тых краінах, якія займаюцца кантонцамі з орыентацыяй на задаваленьне патрэб і запытаў сялянства, правільная політыка ў адносінах чужаземцаў. Вось для прыкладу ўзор дакуманту, які ілюструе апошні бок дзейнасьці кантонцаў. Гэта абвешчаньне, расклеенае Чан-Кай-Шы ў занятым кантонцамі Хэнане.

„Чужаземныя імпэрыялістыя на працягу шмат год падтрымлівалі грамадзянскую вайну ў Кітаі, даючы пазыкі і пасылаючы ўзбраеньне мілітарыстым і рэакцыянэрам. Народ ведае, што чужаземны імпэрыялізм, які стаіць у баку, правацырue грамадзянскія войны.

Вынікам гэтага зьяўляецца рост варожых пачуцьцяў да чужаземных дзяржаў. Нац. рэв. армія будзе глядзець на ўсе краіны, якія спачуваюць нац. руху, як на сяброў і возьме на сябе адказнасьць за ахову жыцьця і маемасьці падданых гэтых краін. За падданых-жа варожых дзяржаў нац. рэв. армія адказнасьці на сябе не бярэ“.

Яшчэ цікавы факт. Новыя павевы так популярны ў Кітаі, што нават рэакцыйнаму пекінскаму ўраду пад ціскам грамадзкай думкі прыходзіцца адмаўляцца ад працягненьня тэрміну няроўнапраўных дагаво-

раў з эўропэйскімі дзяржавамі. З гэтае прычыны ўжо ў наяўнасьці конфлікт з Бэльгіяй, растуць конфлікты і з іншымі імпэрыялістычнымі дзяржавамі.

Пэрспэктывы?

У сучасны момант баі паміж Кантонам і рэштай сіл Суна і У ідуць з пераменным посьпехам. Ці скончыцца справа падзелам сфэр уплыву між Кантонам і мукдэнцамі, ці зацягнецца яшчэ на некаторы час вайна — вынік будзе адзін і вынік няўхільны: 420-цімільённы Кітай скіне з сябе і ярмо імпэрыялістых, а потым і ярмо ўласнага капіталізму. І адбудзецца гэта ў недалёкім будучым.